Да бою, да бою, хто сэрцам гарыць,
За справу вялікай Расеі.
Вые воўк галодны,
Вые,
Ходзіць люд пануры,
Ходзіць,
Дзе ты, сонца,
Дзе ты
Пахавала праўду,—
Долю?!.
Грукоча па рэйках нямецкі цягнік.
У глуха-забітым вагоне
Кагосьці дазволіў палітык Вільгельм
Правесьці на межы Расеі.
Вільгельм не аднойчы пра Леніна чуў,
І зараз ён проста мяркуе:
Што міну у сэрца Расеі паслаў
У гэтым маленькім вагоне.
І хітры палітык здаволен сабой,
І хітрыкай тонкай здаволен,—
Дае Фалькэнгайну вайсковы загад
Павесьці палкі на Расею.
Вые воўк галодны,
Вые,
Плача восень,
Плача,
Ходзіць пан панура,
Ходзіць.
А белы рысак на расійскіх палёх
Зламаў непакорную шыю.
Згубіў сваю шапку, згубіў і партфэль
Керэнскі на вежы сталіцы.
Кастрычнік, Саветы... і Ленінскі крок
Шляхі паказалі краіне...
У Бэрліне тонкі палітык Вільгельм
Кусае ад роспачы пальцы.
Мяняюцца пляны, зьмяняецца лёс,
Зьмяняюцца раптам падзеі...
А ўсё-ж загадаў Фалькэнгайну Вільгельм
Павесьці палкі на Расею.

III

На чорных руінах патруль і кулік
Бяздомную долю вартуюць...
Сьпявай, калі можаш скрозь сьлёзы сьпяваць,
Заплач, калі можаш заплакаць.

На дымных руінах бяздомная ціш,
І цені крывавае помсты...
А ў Менску, а ў Менску чыясьці рука
На біржы гандлюе краінай...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Задумаў штось бацька, кудыйсьці пашоў,
Пад поўнач прышоў з грамадою...
І зноўку пашоў, а зачым і куды
І вецер, напэўна, ня ведаў.
Заплакала маці ў бяздомную даль,
Заплакала неба на ростань,
Заплакалі ветры, заплакала ноч,
І скрыпкі у панскім палацы.
Увечары маці ў пасьцелю зьлягла,
Ня помню, праз дзень, а мо, болей
Твой першы дзянёк запісала зара
Пад сонцам, бядой і навалай.

IV

Мікіта Пашковіч (твой бацька, Міхась)
Быў храбрым чырвонагвардзейцам,
Яго мо' і зараз пад купалам хат
Аплаквае кожнае сэрца.
Дзе кожная жыла замрэ ад жуды,
Мікіта там першым, там першым заўжды,
Дзе штось хвалявала і храбрых байцоў,
Мікіта там быў маладзец, малайцом.
Ён ведае месца, дзе можна ступіць,
Ён ведае кожны бадай што тупік.
А ў гэту часіну, як я ўжо сказаў,
Хтось нашу краіну навек прадаваў.
У Менску Іюды палоннай зямлі
Гандлёвую справу з Вільгельмам вялі.
Ім часта спагадваў тады Фалькэнгайн,
Ды ўсё гаварыў:—пачакайце, няхай!..
Ён ведаў напэўна (хоць часта маніў),
Што выйдзе пузыр з палітычнай гульні.
У сьмешным бясьсільлі падпанак і пан
Камусь прадаваў беларускі туман.
К нямецкай кароне, як вецер траву,
Падпанак і пан нахіліў галаву.
А там, між расійскіх савецкіх раўнін
Хварэе душой беларус-селянін.
Краіну акопаў агнём і крывёй
Ён хоча і зробіць Савецкай зямлёй.

Аднойчы як цень праз выгары балот
Мікіта Пашковіч прышоў у сяло.
Ён чуў, што нямецкі салдат-селянін
Ня хоча быць зброяй крывавай гульні.
Ён чуў, што рабочы ня кіне штылет,
Пакуль не аб'весьціць вайну ды вайне.
Прышоў ён адведаць настроі салдат,
А заўтра ледзь золак вярнуцца назад.
Абгледзіў будынак, авец і кароў,
У хаце і зьмены нібыта нашоў...
Убачыў калыску, якой не чакаў,
І хворую жонку з маленькім „ку-га".
Табе тады сьніліся ціхія сны,
Ня ведаў дзіцятка крывавай гульні.
Ты ціханька штосьці ў калысцы бубніў,
І месячык ручкай за коскі лавіў.

V

Мінае дзень, другі мінае,—
Нячутна ходзіць дзень за днём,
А ўсё-ж ніяк не дачакае
Мікіту зброя і Рэўком,
Чацьвёрты дзень на небасхіле...
Ужо трывожыцца Рэўком,
Ужо у сьпісах мерцьвякоў
Сябры Мікіту залічылі.
Што ў сэрцы сьпела і жыло
Ніхто ня ведае аб гэтым...
Мікіта блудзіць за сялом
Без усялякай здэцца мэты.
Заўсёды стрымана маўчыць,
Ды сысьліць горкую махорку,
І рэгулярна уначы
Ідзе адведаць двор і жонку.
Чаму?.. Хто ведае чаму
Ён ходзіць з выглядам бандыта?!
Ад хаты ў хату па сяле
Пабеглі чуткі пра Мікіту.
Загаманіла ўсё сяло...
Ахвота-ж бабам байкі баяць.
Праз тыдзень пану на яго
Данесьлі панскія сабакі.
Прыехаў прыстаў на кані,
Прыехаў з ротаю гэрманцаў;
Злавіць Пашковіча, злавіць,—
Зьвязаць заклятага паганца...

Ці трэба мераных дарог
Пытацца зайцу у пагоды?!.
Злавеце вецер у палёх,—
Прыдбайце трасцу ў нагароду.
Ражна саколікі, ражна
Вам залучыць у сеці зайца...
За чаркай панскага віна
Паліцыянт кусае пальцы...
— Ня трэба шмат і гаварыць,—
За чаркай раіць пан Катоўскі:
— Ледзь золак роту разбудзіць
І зноўку выехаць у вёску.
Калі ім дарагі вуглы,
Калі ня хочуць панскай злосьці,—
Хай к пану зьявіцца бандыт,
І сам пятлю сабе папросіць.
А не,—хай ведае „псякрэў",
Што нам ня страшна і ня цяжка
Пусьціць на вецер ток і хлеў
І небам крытыя трухляшкі.

VI

Тры здані,
Тры бандыткі,
Тры войстрых тапары
Замерлі...
Анямелі...
І зноў кудысь пайшлі...
Спакой аледзянелы
І цемра... і туга...
Сасна з сасной гаворыць,—
З душой чыясь душа.
А там,
За шырмай лесу,
У соннай цішыні
Дакуравае ночка
Сялянскія вуглы.
І хтосьці дзіка, дзіка,
Нібы сама жуда,
У дым, у ноч, у холад
Бясьсільна зарыдаў.
Дзе пазаўчора вёска
Сваім жыцьцём жыла —
На вугальках сядзібы
Хтось ціха замярзаў...
Тры здані...

Тры бандыткі...
Тры вострых тапары
Кудысь панесьлі помсту...
— Каму?!.
— Хто ведае каму...
Ня мераны дарогі...
Вакол туман, туман...
Усіх прытуліць ночка,
На ўсё парады дасьць.
Спакой аледзянелы...
І месяц і патруль
Халодна вартавалі
Сялянскую бяду...
Тры здані...
Тры бандыткі...
Тры вострых тапары
Чуць золак у Рэўкоме
Дакладвалі аб тым,
Як загадаў Катоўскі
Спаліць паўсотні стрэх...

---

А ў гэты час у Бэрлін
Навала падышла:
Растоптана карона,
Кудысь уцёк Вільгельм.

---

*Падмазаўшы пяты* бяжыць Фалькэнгайн,
Чамусьці ня кажа:—чакайце,—няхай!..
Кудысь уцякае падпанак і пан.
Ніхто ня купіў беларускі туман.
Даволі, панове, даволі маніць,
Бо вышаў „пузыр" з палітычнай гульні.
Ачысьціце месца, абломкі вякоў,
Пара разьлічыцца за зьдзекі і кроў.
З усходу крывёй пунсавее зара,—
Ў краіну сапраўдны ідзе уладар.

## VII

Пабітая карта навалай памята.
Паны да Варшавы намазалі пяты.
Насьмешліва гнуцца бярозы і клёны,
Ад раньня скрыпяць па шляхох фургоны.
На чорных руінах бунтуецца вёска...
Барджэй свае скарбы зьбірае Катоўскі.
Хутчэй загадаў рысакоў запрагаць.
— Сягоньня-ж ад'ехаць, ня можна чакаць.

---

Чатыры нейчых здані,
Чатыры тапары...
Замерлі...
Анямелі...
Між бэзавых кустоў...
Нахмураны дзядзінец
Нібы чагось чакаў...
А ў гэты час пад пана
Падалі рысакоў.
Кароткая бандытка,
Як помсты чорны крыж,
Халодна анямела
Ў Мікітавых руках...
І раптам, раптам выстрал...
Пабег бялявы дым...
Вось гэта за пажары
Табе, вяльможны пан!..

VIII

Мікіта Пашковіч (твой бацька, Міхась)
Быў храбрым чырвонаармейцам.
Яго мо' і зараз пад купалам хат
Аплаквае кожнае сэрца.
Ён ведае заўжды, дзе можна ступіць,
І ведае кожны, бадай што, тупік.
Такіх і ня бачна цяпер малаццоў,—
Ды куля, Міхаська, забрала жыцьцё.
Было гэта, браце... даўно ўжо было,
Калі без пратэсту, бяз скаргі і слоў
Ішоў славянін на франты паміраць,
Каб лепшую долю пад сонцам прыдбаць.
Юдзеніч, Дзянікін, Пятлюра, Калчак
І шмат яшчэ іншых дзяржаўных сабак
Сьмяртэльным туманам адзелі зару,—
Хацелі карону Расеі вярнуць.
А ў панскай Варшаве падпанак і пан
Францускай рукою падпісываў плян—
Як лепш пад вяльможнай пятою паноў
Зьяднаць беларускія шыры палёў...
Вандруе па сьвеце зьбянтэжаны жах...
І Вільня і Менск у варожых руках.
У панскай Варшаве бяскрылы „арол"
Смаленскую вежу любуе даўно.
— Абы толькі дзюбай умеў уладаць,
А крыльлі ня цяжка з Парыжу прыдбаць.
Дык здолее, здолее „белы арол"

Прынесьці на крэсы турму і касьцёл.
Так штодзень, так штодзень падпанак і пан
Разгублена марыў у шызы туман...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

IX

Глуха страляюць вінтоўкі...
Цемра!.. Сьнягі!.. Пустата!..
— Алё!..
... Мікітаву жонку?!.
...Так?!
Зараз прывесьці да штабу!
Чуеце?! Зараз!.. Загад!..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Крокі палкоўніка—вецер,—
Рэха сусьветнай тугі...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

— Панку, завошта скажэце?!
Панку, панок дарагі!..
— Годзе!..
Скажы дзе Мікіта?!
— Панку, зьлітуйся, няма!..
— Знойдзем!..
Скажы лепш сама!?
— Па-анку!..
— Скажы дзе Мікіта?!.
— Ня-а-а-м-а-а!..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Клікнуў палкоўнік капраля:
— Слухай!.. Аб чым гаварыць?!
Альба да плоту прыставіць,
Альба ў турму пасадзіць!..
Зараз!..
Здаў камэнданту жанчыну,—
Здаў пад расьпіску капраль...
Імя... віна... і прычына
Цёмна, як цёмная даль...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Глуха трашчаць куляметы...
Сёньня вялікі паход...
Сеў камісар за работу:
Лапцем падвязываць бот...
... У захапленьні вялікім
Праўда і вера імжыць...

Грозны Калчак і Дзянікін
Выбіты з „белых байніц“.
Кожная дзея і справа
Здэцца вялікі зарок:
„Альба ў чырвоных Варшава,
Альба магільны пясок!“
Людзі... гарматы... і коні
Сталі магутнай сьцяной...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

— Алё!..
Прыгналі палонных?!
Два афіцэры?!
Сюдэй!..
— Зараз жаўнераў адвесьці
Ў тыл... і хутчэй, не чакаць!..
А з афіцэраў адзеньне...
... Зьняць!..
Расстраляць!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Вось што, таварыш Пашковіч,—
Цьвёрда сказаў камандзір,—
Зараз да штабу падойдзеш,
Польскі адзенеш мундзір,
Пройдзеш там польскую варту...
... Ведаеш сам што узяць...
Трэба сягоньня ці заўтра
Польскія склады ўзарваць...
Ўсё зразумела?!. Падумай!..
Так!.. А пакуль што усё...
Толькі падумай, падумай,—
Ты рызыкуеш жыцьцём!..
— Згодзен!.. За нашую справу,—
Згодзен магілу прыдбаць!..
Альба ў чырвоных Варшава,—
Альба ў зямлі спачываць!..

X

І цо-то бэндзе?! нашыя бягуць,
О, цо-то бэндзе, цо-то бэндзе?!
Бягуць!..
Дрыжыць зямля!..
Грымяць гарматы!..
Ўзарвалі склады:
Грррр... Гуррраа!..
Ля кожнай, кожнай,
Кожнай хаты

Блукае чорны,
Чорны жах...
У зале белых лятуценьняў
Даўно парваная струна
Аб тонкіх крозах лятуцела:
Мілыя, добрыя, мілыя
Белыя крозы жыцьця!..
Хто над халоднай магілаю
Будзе спакой вартаваць?!
— Хто?!
— Калі?!
Шчасьце з далёкімі марамі,
Тонкія цені і жаль
Ў гамах апошняе арыі
Зьніклі у змрочную даль...
— Дым!..
— Пустата!..
— О, цо-то бэндзе, нашыя бягуць!?
Ламае рукі жонка камэнданта...
Падбіты конь нага ды за нагу
Вязе паноў і панскія манаткі.
— Вакола сьмерць і выбухі гармат,
Хоць ты жывой у яму паваліся...
Які ты муж?! Які ты камэндант.
Калі і сам не маеш выйсьця...
А ў небе плыў халодны маладзік,—
Спакойна кратаў цьвіліну старога...
— Знайдзі мне мамку,—
Мамку мне знайдзі!..
Я не магу карміць малога!..
— Ну супакойся, мілая, ня трэ',
Ня трэба так, ня трэба хвалявацца!..
Наш абавязак помстаю гарэць,—
Змагацца!..
Чаму ты голаў вешаеш, чаму?!
Пан сьвенты бог нас грэшных не пакіне...
Вось к нам учора, здэцца, у турму
Адзін капраль прывёў жанчыну,
Яе павінны сёньня расстраляць,!
Але цяпер у голаве ня гэта
Дык мо' жаўнеру загадаць
Да нас прывесьці гэтую кабету?..
Яна напэўна лепш чым у труну
За мамку згодзіцца...
... Напэўна...

XI

Замкнула роспач дзень
І браму сьмерці адамкнула...
Вандруе цень,
Блукае цень
У дзікім гуле.

Засьні, сынок,
Засьні, каток,
Засьні!..
І мой Міхаська
Недзе там
Заснуў даўно, даўно.
Засьні, сынок,
Засьні, каток,
Засьні!..
Майго калышыць
Вецер там,
І дзед,
Нядужы дзед.
А чорны бор,
З мільёнам зор
Там гутарку вядзе.
У тым бары
Ня першы год
Блукае сьмерць і жах.
Туды панёс,
Панёс народ
І помсту за пажар,
Засьні, сынок,
Засьні, каток,
Засьні!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паволі гасьне сонная сьвяча,
А за сьцяною з тонкае фанэры
На нейкі сход сышліся афіцэры,
Сышліся штось такое вырашаць.

КАМЭНДАНТ

Панове, сядайце, панове,
Даволі спрачацца і ныць...
На сёньнішнем сходзе, панове,
Пільсуцкага ест прадстаўнік.
Ён кажа трымацца, трымацца,
Ні кроку, панове, назад....
А тут замаўчалі гарматы,—
Учора узорваны склад.

І пуць на палову адсечан,—
Ўзарвалі масты на рацэ...
Між іншым, ёсьць пэўныя весткі,
Што склад узарваў афіцэр.

ПРАДСТАЎНІК

Да плоту такіх афіцэраў,—
Няма чаго доўга глядзець...
Ці ёсьць тут яшчэ у рэзэрве
Агнёвыя базы, і дзе?

. . . . . . . . . . . . . .

Засьні, сынок,
Засьні, каток,
Засьні!..
І мой Міхаська
Недзе там
Заснуў даўно, даўно.
Засьні, сынок,
Засьні, каток,
Засьні!..
Міхаськаў бацька
Недзе там,
Дзе блудзіць сьмерць,
Дзе ходзіць сьмерць.
Засьні, сынок,
Засьні, каток,
Засьні!..

. . . . . . . . . . . . . . . .

Паволі гасьне сонная сьвяча,
А за сьцяною з тонкае фанэры
Знаёмы голас нібыта чуваць
Між галасамі польскіх афіцэраў.
Міжвольна сполах дзіка на сьцяне
Узварушыў азмрочаныя цені...
Яна з трывогай нейкай пазнае
Знаёмай гутаркі адценьне.
Балючы гэст—парыў аледзянеў,
Як нярухомы мармур над калыскай.
— Няўжо Мікіта раптам ашалеў?
Няўжо Мікіта здраднікам зрабіўся?
Няўжо Мікітаў голас за сьцяной?..
Няўжо баец зрабіўся рэнэгатам?..
Яна ідзе нячутнаю хадой,
Як судні дзень, пад дзьверы камэнданта.
— Мікіта!!. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так?!. Ты здрадзіў?!. Ты прадаў
Сьвятую справу нашынскага люду?!
Ты сьцень агіды!.. Скнара ты, удаў!..
Ты тройчы срэбранік Іюда! . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Трымай, трымай! . . . .
. . . . . Трымай прадстаўніка!..
Хтось аглушыў азмрочаную залю.
І раптам куля меткага стралка
Назаўсягды Мікіту затрымала...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

XII

Мікіта Пашковіч (твой бацька, Міхась)
Быў храбрым чырвонаармейцам,
Яго мо' і зараз пад купалам хат
Аплаквае кожнае сэрца.
Такіх і ня бачна цяпер малаццоў,
Ды куля, Міхаська, забрала жыцьцё.
І вырас маленькі курганчык зямлі
На дальняй чужыне між брацкіх магіл.
Як нейкую тайну былое імя
Ў халодных пясках пахавала зямля.
Ні дрэва, ні камень, ні чорны курган
Ня скажа, ня скажа, дзе сьпіць вэтэран.
Далёкіх змаганьняў жывую любоў,
І мёртвыя косьці адважных байцоў
Ня кіне зара вартаваць і зарэць,
Ім помнікам будзе імя БССР.

. . . .

Калісьці даўно генэрал Мураўёў
На тонкай сасьне беларускіх гаёў,
Пад нейчыя стогны, пад дальняе плі,
Павесіў душу Беларускай зямлі.
Аж з гэтага часу, падумай, Міхась,
Мужыцкую праўду таптали у гразь.
Аж з гэнага часу мужык-селянін
Шукаў сваю долю ў чужацкай зямлі.
Умеў небаскробы людзям будаваць,
Умеў і пад плотам чужым паміраць.
Заўсёды прытулкам мужыцкім былі
Сусьветныя краты, лясы і палі.
І вось на абрыве апошніх гадоў
Убачыў, я тое, аб чым не гадаў.
У нашай краіне, пад нашай зарой,

Дзе гора з бядою блудзілі,
Мужыцкую праўду мячом і крывёй
З адвечнай маной раскумілі.
Дзе мёртвыя цені адвечнай жуды
На чорных руінах паснулі,
Там горда, магутна рука маладых
Вялікае нешта будуе.
А што да чаго там, ня мне адказаць...
За дзеда адкажуць унукі.
З мuроў гэтых тысячы ў сьвет панясуць
Змаганьне, жыцьцё і навуку.
Я скора, Міхаська, як бачна, памру,
А жыць-бы хацелася болей...
Там знойдзе, там знойдзе мужык-беларус
Сваю незнаходную долю.

2-XII—28 г.
Менск.

Лукаш Калюга

# Ні госьць, ні гаспадар

*Аповесьць*

## XII

Корабач у Закапіцкіх пажыў нядоўга: усяго два дні. Старшыня, седзячы ў сельсавеце, апытаў праз людзей, што ў Цяўлоўскага ёсьць слабодная хата. Так што на трэйці дзень пашлі яны ўдвох к гаспадару цаны пытацца. Прызналі, што лепшага месца на чытальню й не знайсьці. Жыве Цяўлоўскі на самай сярэдзіне вёскі. Хата прасторная. Адно толькі кепска, што вокна ў сад і на двор, а не на вуліцу: вывескі ня будзе як пачапіць, што тут чытальня.

Сам Цяўлоўскі нізенькі з расьсечанаю ісподняю губаю й бяз двух зубоў наперадзе чалавек. Перш быў задаражыўся. Прасіў у месяц:

— Дзесяць рублёў, няйначай.

Сталі тарокацца. Стаў гаспадар спушчаць па рублю, па саракоўцы, па залатоўцы. Сышліся за шэсьць рублёў з паловаю ў месяц і восем мэтраў дроў сельсавет дарэмных каб запісаў на апал сваей хаты і чытальні. Толькі гаспадару высеч і перавезьці. Даглядаць чытальні падрадзіўся таксама гаспадар. Пасьля гэтага кантракту ‘шчэ Корабач сам ад сябе згадзіўся з гаспадаром, каб быць на яго сталаваньні. Умовіўся колькі плаціць і калі. Закапіцкі за сьведку быў пры гэтым.

Ад таго разу ізбач і астаўся ў нанятай чытальні. Там і стары ложак у кутку стаяў нават. Цяўлоўскі прынёс у яго паўкуля саломы. Закапіцкая посьцелкаю заслала, дала коўдру падшываную й падушку. Зрабілі ўсё, як мае быць. Пераносіць на новую кватэру ў Корабача ня было чаго. Прыехаў ён сюды як стаіць.

Гаспадар папаўся гаворкі чалавек. Першы ўвесь дзень да самага вечара сядзеў у сваей хаце ад садка, ладэдзіў з Корабачам. (Якраз тады работы ў полі ня было). Ён быў у нямецкую вайну ў войску. Стаяў у Ельні. Аўстрыякаў палонных пілнаваў, каб не паўцякалі. На фронт яго не адаслалі—стар быў. Прывёз адтуль, як за Кярэнскім пусьцілі дамоў, цэлы тузін лімінявых пярсьцёнкаў. Аўстрыякі мэты іх выліваць. Імянныя літары з старога дзявочага грэбеня прыставіць умелі. Калі хочаш, дык і сэрца вырабяць пасярэдзіне іх.

— У Ельні аднаго разу...

— У нас тутака—дрэнь. А вот калі дзе згоняць людзей з усіх бакоў...

— Вой! чаго там у Ельні ні датваралі...

Такі пачатак у яго апавяданьнях.

Але аднэю Ельняю не абмяжоўвалася Цяўлоўскага знаёмства з сьветам і людзьмі. Трэба сказаць, што ён страхар і нават добры. Чым хочаш накрые: саломаю, гонтамі, дахоўкамі... Шляхта на засьценках маюць яго за пярвушчага майстра, к сабе бяруць на работу. Як паны былі, дык і ў тых ён крыў аборы, стайні, такі скарбовыя, пакоі аконаму. Многа людзей бачыў на свае вочы. Як хто з іх дома жыве запамячаў.

Наслухаўся Корабач ад свайго гаспадара ўсякіх-розных прыгод з старымі шляхтамі, рызыкоўнымі шляхцюкамі, залёцістымі шляхцянкамі. Пра івянецкіх муляроў яму многа чаго дзіўнага стала вядома.

Чаго ні ўбачыш, чаго ні наслухаешся, ні дадумаешся салгаць з стрыхоўкаю круга сьвету абыходзячы, назіраючы жыцьцё розных станаў з вышыні стрэх?

Расказаў Цяўлоўскі й сваю прыгоду з расьсечанаю ісподняю губаю. Гэта-ж аднаго разу прыехаў ён з работы. Ад'яжджаючы добра такі падчубэрыўся ў таго гаспадара, дзе крыў: аж язык за зубы чапляўся. Ды 'шчэ, як на тое ліха, на дарозе каля самага дому залавіў дождж. Рубца сухога на ём не асталося й на том чалавеку, што падвозіў. Хуць і дарога не вялікая аставалася, але добра такі прабудзеў. 'Шчэ й захаладала пасьля дажджу. Прышоў у хату, дык зуб зуба кліча. Зараз жонка зьмяніцца дала. Адправіў дамоў чалавека. Тым часам пастух ужо з поля й каровы пусьціў. Не пашоў жа Цяўлоўскі бычкапярэзімка пераймаць—здэцца й жаба, а за кароваю ў дзесятае сяло зьбяжыць, дамоў ніколі сам ня зойдзе—здаўся на нявестку, а сам палез на печ крыху плечы пагрэць. Падаіўшы каровы, працадзіўшы малако, звала жонка вячэраць—не пашоў. Узяў і заснуў на печы. Ніхто яго ня будзіў. Павячэраўшы, усе спаць паляглі. Позна ўночы прахапіўся Цяўлоўскі. Добра ні раскурстаўся 'шчэ—ня знайдзе кудэю зьлесьці далоў. Заблудзіў на печы—што ты скажаш! Поўзаў-поўзаў... Мацаў-мацаў... Дзе ні памацае—сьцяна альбо комін. Злосьць чалавека ўзяла.

— Што за насланьнё? Каб ты згарэла! каб ты...

Храпуць на ложках і ня знайся. Хацеў крычаць ратунку, ды покуль змаліўся, дык і не пара... Калі кіне яго вопрамяць з печы на прымурак плячыма. Супэнду усхапіўся ды ў кант печы добра такі барадою памацаваўся. Тут і губа расхінулася на дзьве палавінкі. У роце двух зубоў не далічыўся. Завойкаў, заенчыў Цяўлоўскі ад болю. Хатнія паўсхватаваліся. Кінуліся ратаваць. Набраліся яны пуду, пакуль разгледзіліся, што здарылася. Запалілі агонь. Пабеглі к хвэльчару. Ёсьць такі ў Хатніках чалавек, што, за сваю бытнасьць у маскалёх, санітарам служыў, а цяпер парашкі дае людзям і ў вaптэку рацэпты піша.

Ну й сьмяяліся-ж потым з Цяўлоўскага дома й на вёсцы.

Успамінае ён і цяпер гэту прыгоду. Гаворыць і сьмяецца. Ды патом Корабача перасьцерагае:

— Ты ня сьмейся. І на печы можа блуд узяць.

Так было першы дзень.

Другія дні людзі сухія крыжыкі вазілі ў такі. Дармо, што абвесткі выклееены на дзьвярох у сельсавеце, у капяраціве й паштовым агэнстве, што чытальня ў Хатніках ёсьць, у Цяўлоўскага хаце знаходзіцца—ніхто к Корабачу ні йдзе: часу людзям няма. Чаму яны ў Корабача яго не пазычаць? У таго часу—залішняе.

З раніцы схадзіў у сельсавет. Праседзіў там да паўдня. Ды збрыдала. Закапіцкі толькі з сакратаром там савінымі ачыма на паперы пазіраюць. Нешта пішуць на ўдоўж і ўпоперак разьлінееных аркушох. Што за цікавасьць з імі сядзець у гэтакую гарачыню? Дармо, што вокна паадчыняны ў канцыляры, у кашулях каўняры й каўнерчыкі парасхрыставаны—парнасьць, як перад навальніцаю. Няма людзям ахвоты навін пачуць і самым, што ведаюць, расказаць. Хіне к сну, у халадок хочацца дзе каб зайсьці. Памаленьку, спацырам пацягнуўся Корабач адтуль на сваю кватэру. Тут гэтак сама... Сядзі адзін, як той воўк. Хацеў зайсьці ў хату ад уліцы з гаспадаром пагаварыць. Ужо і ў сенцы вышаў. Там убачыў, што на дзьвярах гаспадаровай хаты зашчапка замком замкнена. Уздумаў, што добра-б было пакупацца схадзіць, як гэта дома бывала. Тутака-ж недзе поблізу рэчка павінна быць. А сёньня й дзень пагодны, парнасьць страшэнная—вада цёплая, мусіць. Ды так і асталося яго намярэньне. Бяда, што таварыства Яську няма. Іці аднаму, уходаў ня ведаючы ў чужым баку,—баязно: гатоў дзе галавою ў вір папасьці.

Месца сабе Корабач не дабярэ.

Вышаў на двор з чытальні. Мутнымі вачыма стаў мяйсцовасьць разглядаць. У Цяўлоўскага траціна зямлі, але забудаваўся на адным баку на ўсёй чвэртцы, а брату ўзамен з другога боку свой пастаўнік аддаў. Так што на дварэ слабодна разьмінуцца льга. Нават сякі такі й садок у іх ёсьць. Пнёў з восем ігруш і яблын у ём расьце, а паміж іх грады зроблены. Тут вішань за садовае дрэва ня лічаць, бо іх ніхто ня садзіць: самі растуць, 'шчэ каб ні выкатавалі, дык ступіць бы за імі ня было дзе. Старыя вішня-гаротніцы стаяць пры самым частаколе ад аднэй мяжы й да другой. Пазірае Корабач на ўсё гэта, як бы першы раз бачыць. Запамеціў, што ў таку ражкі фортак відаць у прагаліне паміж страхою і стрэшкаю над перадточ'ем.

„Нехта-ж там ёсьць. Зайду пагляджу".

Мінуў садок, у ток пашоў. Тамака воз аўса на адзін бок абернен. З другога боку на старане Цяўлоўскі складае авёс у адведзенай яму меншай чвэртцы. Другая чвэртка ў гэтай старане заложана жытам і зімкаю-пшаніцаю аж пад самы шчыт. У другой старане гэтак сама поўна рознай збор-дружыны. Там і сена, і ячмень, канюшына, віка. Адзін гарох-самотнік чакае цэпа ў калашні апрыч зложаны. Няма гуляшчага месца ў гэтым таку: ведама, адзін ён і ёсьць на гаспадарцы, трэба-ж стоўпіць усё, што на полі ўрадзіла.

У таку Корабач усяго дваіх застаў—гаспадара з гаспадыняю. Цяўлоўская гадоў на пяць старэйшая за свайго мужыка. Тэўсьць тая, тэўсьць! Што калода асінавая, збуцьвеўшая ў пні. Толькі па адным

усяго й пара мужыку, што гэткая самая прысадзістая, як і ён. Кепска старой цягаць снапы. Калі тры, а калі дык і чатыры валачэ. Сапе— няздышыцца. Потная, усёроўна як толькі што з рэчкі вылезла. Ня так цяжка Цяўлоўскай, як горача.

Корабач гэта бачыць. Бярэ па два снапы пад пахі й па два ў рукі Нясе к застаронку. Ён і прынясе болей і дакіне далей, чым старая.

— Памажы. Памажы нам старым,—ласкавая стала гаспадыня.

Ёй на добры лад і рабіць ня было ўжо чаго. Корабач і адзін даў чорт які вялікі запас. Цяўлоўскаму толькі ўпраўляцца складаць астаецца.

— Пасядзеце, цётка. Я й адзін,—кажа йзбач на Цяўлоўскую.

Дзе там сядзець! Рупясьці гаспадыні не бярэ ніякая ўтома. Хоць ня так сьпяшаючыся, але патом швырляе й яна, колькі паўздужае.

— Дзе ты бачыў! Хоць троха ды памагу.

Запамеціў Корабач, што блізка снапы кладуцца ад старой, у куток Цяўлоўскаму пад рукі яна не дакіне. Корабачу здэцца, што сам на даўжкі 'шчэ адну гэтакую старану перакінуў-бы—гэтакія лёгкія аўсяныя снапы.

— Давайце, цётка, я за вас буду падкідаць. Вы толькі падцягуйце к застаронку.

— Падкідай сабе. Дзе мне старой. Ужо лыжка гоцкаецца ў руках, як сядзеш есьці, а ня то каб сноп дакінуць.

Так віда-віда воз на старане апыніўся. Прыбралі з току. Цяўлоўская села адсапнуць на застаронку, прыперлася плячыма к пахучаму мурагу. Усё 'шчэ ніяк ня здышыцца. Ходзяць яе поўныя грудзі пад клецістым паркалёвым капотам то ўверх, то ўніз... Корабач гэтак сама прысеў трохі водалей. Заглядзіўся на свае дзіравыя чаравікі. Канечна трэба яму шаўца апытаць ды занесьці, каб паправіў.

Цяўлоўскі доўга на старане кешкаецца, 'шчэ снапоў не злажыў усіх.

— А што маладому,—кажа Цяўлоўская,—надаесьць гульма гуляючы. Вот каб мне гэтак хто пэнсію даваў, ото-б выгада была. Спала-б найбольш. Смачна-б зьела. Вышла-б на прызбу пад сонца пасядзець.

Тым часам Цяўлоўскі злажыў увесь воз. Сеў на снапох пад бáлькаю. Сына з поля чакае.

... Забарабанілі даўно падмазаныя колы па калдобінах на сьценцы з навозаў. Стала чуваць, як конь ступае капытамі па сцаглянелай сьцежцы штораз мацней—бліжай.

— Едзе ужо,—аказаўся Цяўлоўскі на старане. Спусьціўся далоў на ток па прыгалавічы. Усе ўтраіх вышлі на гумно воз сустракаць.

На возе едзе жанаты сын Цяўлоўскіх. Гадоў пад трыццаць бярэцца мужыку. Гэткі самы куртач, як і бацькі.

У рад малады вішэньнік ад мяжы ля сьценкі пусьцілі расьці. Шаруецца яго гальлё аб воз. Самымі кончыкамі ловіць хурманка па твары сьцебануць. Адсовуе ён іх—задзіраў: ня лезьце, назолы! Калі няма небясьпекі выпараць вочы, тады асмаргне рукою сьпелых вішань: „жучкоў". Костачкамі на бакі плёваецца. Раджайны на іх гэты год.

Шаснастак пяць вазіў з старым у мястэчка аднаго разу. Толькі там гэтага дабра, што гразі. Даюць, як на сьмех, па дванаццаць злотых пуд. Хацеў адразачку варочацца дамоў з усім таварам, але ўважыўся... Пастаяў да вечара. Сяк-так паўтары шаснасткі сьвяжэйшых разьмераў гарцам амаль не задарам. Рэшту дамоў прывёз. З раніцы купілі, каму трэ' было, а пад вечар каб хто хацяа на сьмех папытаў! Дома пасыпалі на пасьцелцы па таку, каб ня так борзда грэліся. Елі ўволю, хто толькі хацеў. Малыя па прыпалу цягалі, кармілі людзкіх дзяцей. Ды патом ня скончылі ўсіх. Завяліся белыя чэрві. Давялося высыпаць у завулак.

*Хто* іх будзе больш абіраць,—тады сказалі Цяўлоўскія. Лепш хай на пні высыхаюць ці птушкі пажывяцца.

Пацягнуў Сальвэсь (гэтак малады Цяўлоўскі завецца) за ляйчыну. Пакіраваў проста ў ток у варота. Застукалі па выбітай гліне мацней кабыліны капыты. Сам як можна ніжай прыгнуўся—на перадточа ўзьехаў, а тады і ў ток. Цямней у будыніне стала. Жвава Сальвэсь саскочыў з воза. Гаспадарны бацька, каб барджэй было, распусьціў вужышча, сабраў. Сальвэсь зьняў пярэдню, сьцягнуў жэрдку, сам зайшоў на бок.

— Уцякайце там,—ня моцна гукнуў, хуць на тым баку, куды воз куляць думалі, і ня было нікога.

Палез Сальвэсь задам к возу. За йсподнюю білу рукамі ўпыліўся. Заўчасьне бацька падскочыў—збоку папхнуў.

Гопнуў воз на бок. Потарч снапы паляцелі. Кабыле крыху аглаблёю па кумпяку залавіла. Дрыгнула яна скураю й асталася стаяць, як была.

Адкідалі снапы з-пад кол. Закінулі на воз вужышча, пярэдню, палажылі жэрдку. Стары Цяўлоўскі зайшоў наперад, узяў кабылу за вобраць.

— Назад, коська!.. назад!..

Спрытная кабыла каб зарваць чым пажывіцца, схапіла з кучы сноп у зубы. Цяўлоўскі адабраў. Толькі пасма аўса ў зубах асталася. Пасунулася памаленьку назад, джоргаючы капытамі, жуючы, захватам узядзены авёс.

Сын зад у драбінцы адкідае, кіруе, каб не ўчапіцца нідзе.

Выехалі з току. Выкіраваўся Сальвэсь на сьценку. Ускочыў у драбінку. Сеў на біле. Смаргануў лейцамі кабылу. Паехаў па другі воз.

Гэты раз ужо абое Цяўлоўскія палезьлі на старану. Корабач ім падкідае снапы—адзін упраўляецца.

Так прайшоў другі дзень як ён астаўся ў Цяўлоўскіх на кватэры.

Потым рабочая пара прайшла. Стала больш часу ў людзей. Няма-няма ды й забяжыць хто з блізкіх у чытальню ўзядзеную кніжку адмяніць, газэт паглядзець ці так сабе пасядзець у ізбача—аднак ён хлапец не ганарысты й работаю не заняты. Бывае, што й з далёкіх прыдзе каторы хлопец у капэратыў узяць цукру з паўкіла якога ці бацьку пачкаў са тры тытуну расстарацца й тонкай паперы. Бывае,

што мае сваю залатоўку ў кішэні, дык і сабе „Пушку“ альбо „Бокс
к сьвяту прызапасіць. Калі-ж яшчэ трохі багацейшы на грошы—
канавы хадзіў ці з Лесбелам узімку меў сякія-такія гішэфты ды папа
лася квіткі адмяніць,—дык і пачак „Сафо“ ні туды, купіць гато
Дзьверы адчыняючы, як будзе дадому адыходзіць, нізаводня пра
чытае абвестку „Усім грамадзянам Хатніцкага сельсавету можна кніжк
з хаты-чытальні браць. Чытальня знаходзіцца ў Тараса Цяўлоўскага“
Падумае:

„Схаджу туды. Сягоньня, аднак, жыта не калоцім“.

Цяўлоўскага хаты ў людзей папытаецца.

— Гэта табе чытальня трэба?

— Але.

Дык раскажуць і пакажуць—адразу патрапіш.

Сходзіць хлопец і возьме, што знойдзе пад свой густ або шт
Корабач нараіць.

---

У Жыздрыцы за гэты час камсамольцаў прыбыло. Шчэ запісаўс
Арсей Анцішэўчык.

Колькі раз да гэтага Бладзік яму дзэўб, каб падаваў заяву. Д
Арсей усё адказаваўся. Такі дзівак! То тое ў яго не выпадае. То гэт
ня выходзіць. Ды ці мала можна прычын знайці, пашукаўшы. Та
і так усё было. Тут Арсей гонар свой нейкі паказаваў. Вяршэнства н
даваў зьняць над сабою. Бладзік перш упіша, а потым будзе хваліцц
што ўгаварыў яго.

Таго разу, як быў сход маладзяжу ў Жыздрыцы, па душы нага
варыўся з Корабачам Арсей. Ранейшая хэньць, паднятая Бладзіка
вымі апавяданьнямі пра мноства выгад ад камсамолу, зьявілася зно
Таго разу й сказаў сам сабе:

„Нізаводня трэба будзе заяву накрэмзаць. Цяпер хуць хлопц
ў ячэйцы сталі разьбітныя. Паслухаць ёсьць каго“.

Ды можа-б і забыўся пра сваю даклярацыю, каб ня трэ‘ был
ў каапэратыве быць. Ато зайшоў, купіў чаго хацеў ды да дому йі
завярнууся. Вось тут абвестка на дзьвярах і напамянула Корабача
запрашэньне ў хату-чытальню прыці.

Дома работа не ўцячэ. На полі нічога ня мокне. Тэрміну назначыц
яму таксама ня мае ніхто права—сам сабе гаспадар. Бацька ня ду
ніто каб рабіць, але й загадаваць нават. Калі з кіем на двор выс
нецца, дык і то дыхавіцу нагоніць. Дзе яму за кім наглядаць.

Цяўлоўскага хату Арсей ведаў. Патрапіў к яму ня пытаючыс
Корабач ужо ўправіўся сякіх-такіх плякатаў у районе расстарацц
Трохі чаго з сельсавету прыдабыў, каб сьцены убраць. Арсей усё гэт
абгледзіў. Пахваліў, што добра. Потым у кніжках папароўся. Запіса
на сябе „Маладняк“ № 2-3 за 1925 год. З ізбачом разгаварыўся. Уж
яны зналі адзін аднаго. Пра хатніцкую ячэйку ў іх мова зайшла. Зга
ніў яе Корабач наўнэт. Перад Арсеем ні тоіцца, ні хваліцца, быцца
і камсамолец ён.

— З самага пачатку,—кажа,—трэба за ўсё брацца. Працу толькі што наладжаваць даводзіцца.

Арсей гэтак сама думае. Хлопец ён асьцярожны. Ня ўсё, што сьліна к губе прынясе, ад яго пачуеш. А цяпер собіла такі прагаварыцца.

— А й сам думаў заяву падаць, як бачу: працы няма, не камсамол, а нямаведама што.

Так то бо ён нешта знаецца ў камсамоле. А гэтакі неміласэрны судзьдзя. Што Бладзік утлумачыў, толькі тое й ведае пра ячэйку й розныя партыйныя справы. Мусіць, не падумаўшы спусьціў з языка гэту ацэнку тутэйшага камсамолу.

Арсеява слова Корабачу прычапка. Ня з разу ўгаварue ён, каб пісаў заяву. Перш-на-перш у тое, што будзе, вядзе Анцішэўчыка самаю прыгажэйшаю сьцежкаю.

— Толькі-б хлапцоў добрых,—бядуе ізбач.—Эх! і пашла-б праца. Толькі дзяржыся. Райком бы тады дзівіўся.

Цяпер у Арсея круты паварот. Яно, калі добра разгледзіцца, дык толькі за гэтым, а ні за чым другім і прышоў ён у чытальню. Прышоў і дагэтуль ня ведаў, што яму цяпер сама патрэбней. Што ў галаве, тое гэты раз і на языку:

— Але. Я даўно думаю, каб гэта заяву падаць.

Корабачу наруку гэты пасьпех Арсеяў.

— Пішы, браце. Чаго там пазіраць?

Зараз выцягнуў у стале шуфляду. Даў паперы, карандаш. Асадкі з эвангелі цяпер адменены „справаю". Яе Корабач у Закапіцкага выменьціў. Там знашлася запасная чыстая анкета.

Той дзень добра йшлося. І ў чытальні апрыч іх двух толькі сьцены маўклівыя былі. Хуць у камсамол запісацца й ня тое, што згаварыцца красьці пайці, але-ж прыкра, калі сочаць за табою ды, вышаўшы на вуліцы, пахваляцца:

— Анцішэўчык з Жыздрыцы ў камсамол запісаўся.

Хай сабе й ведаюць, але не ад першага-ж дня.

Так што цяпер пашло, як падмазанае...

У сераду было бюро. Там пастанавілі „членам прыняць". Сход у нядзелю падцьвердзіў. Назаўтрае, у панядзелак, Корабач схадзіў к паштару. Усе паперы, якія трэба, адаслаў у Райком. Не сягоньня— заўтра Арсею прышлюць камсамольскі білет.

Ён цяпер—уся надзея хатніцкай ячэйкі. Хлопец сам сабе гаспадар. Чаго болей хацець?

Бацька ў лік ня йдзе. Крукам соваецца Цыпрук па хаце з кійком сваім арэхавым. Ног не падыме: джоргае па падлозе вялізнымі ботамі, шытымі, мусіць, не на капыл, а на цэгліну, каб прастарнейшыя былі, каб лягчэй было абувацца.

Усяго й сям'і ў Анцішэўскіх: Цыпрук, Арсей і Ганька.

Стары больш усяго глядзіць запечка. Туды яго гоніць холад і ўпятроўку. Часта бывае, што Ганька або й Арсей паказуюць яму сваё

заслужонае месца. Што там трэба нядэшламу чалавеку: пад'еў, калі даюць, ды ў запечак тэпай. Толькі Цыпрук не з тае мукі сьпечан, каб так рабіць, як маладым думаецца. Лас ён у чужую мову сваё слова прыкінуць. Паправіць мае адвагу, калі хто ўвалжэцца. Дзе што робіцца хоча пачуць. Ці вайна сяголетка будзе—на дзень па два разы дапытуецца ў чужых людзей. Ад сваіх ніяк гэтага ня дойдзе стары.

Толькі пачуе Цыпрук чужы голас у хаце, натапырыцца. Далей—болей пойдзе гамонка ў хаце—не датрывае. Злазіць з прымурка, за ложак бяручыся. Абмацае сваю арэшыну. Выйдзе на хату к маладзейшым.

— ...вось як, дзеці, трэба,—наўчыць іх толкам на сьвеце жыць.

Спаньня з яго хватае. У Анцішэўскіх у хаце ад печы да сьцяны ад 'уліцы ложкі посьцелкамі палосістымі завешаны, 'шчэ й прагала як аднаму прайці пушчан. За гэтымі павілёнамі старога кватэра. Ніхто тутака не замінае. Чужым цікавым ачам ня зручно наглядаць дзе ён паварачаецца. Ляжыць сабе Цыпрук на баку і дрэмле, як нікога ў хаце няма. Забаліць адзін бок—на другі перавернецца. Забаліць другі—на сьпіну ляжа, ногі выпрастае. Збрыдае лежачы—устане сядзе пасядзіць, на печ узьлезе. З падаконьніка возьме мяшэчак з тытуном. Хоць і скачуць пальцы, але папяросу скруціць яшчэ гладкую. Дымам адгоніць драмоту ад ачэй. Балазе й тытун у запасе вядзецца. Калі-б ня быў Арсей у Хатніках,—зойдзе ў каапэратыў і купіць пачкаў пяць.

У канцы лета цёпла бывае на дварэ, хораша. Хінецца сонца к вечару. Ня грэюцца хмары каля яго, не назаляюць, не нахмуруюць яго вясёлага твару, ціхай злосьці яму не паддаюць. Ластаўка—працавітая птушка—высока ўгары за мошкамі гойсае. Шчабеча шпак на клёне цераз 'уліцу. Ветру або саўсім няма, або чуць-чуць вее ў кляновым лістох. Возьме тады Цыпрук сваю арэшыну—службу верную—высунецца на двор, сядзе на прызьбе пад сонца. Выходзіў вочы прахаладаць, быў спакой на сэрцы.

А тут сядзе, войкне... Вокам рупкага гаспадара агледзіць усё, што толькі льга, з месца ня сыходзячы. Непарадкі ўсюды відаць. На дрывотні валяюцца параскіданыя дрова. Дзе калолі, там і кінулі. Там і мокнуць на дажджы. Забаўка там вялікая была ў касьцёр іх зла жыць?! Ля хлява тое самае... саломы леташняй натрэсена на двары а ў стаpане недастача. Рыкае цялё ў загародзе. Нікога дома няма Сышлі недзе, пакруціліся...

— Гаспадары!—з гораччу ўпікае бацька свае дзеці.

Соліць яго вочы сьляза скупая, буйная. Сонца ласкавае сушыць і Хай бы каціліся, падла, дык-не, ня хоча слухаць.

Цыпрук варочаецца ў хату ўстрывожаны.

Прыдуць увечара маладыя з работы.

Сядуць вячэраць. Зойме стары сваё адвечнае месца старэйшага гаспадара каля булкі хлеба. Лае дзяцей:

— Гаспадары! Ці было за мною так? Дрова мокнуць. Салому вецер разносіць па дварэ.

Многа—многа-б ён нагаварыў, ды горла ссыхаецца, лішняе слова гразьне ў камлі языка. Каб гэта на маладзейшага Цыпрука! Ото-б даў дыхту! ото-б злаяў збэсьціў!

Мінулася тая пара, калі ў Цыпрука вісеў бізун над дзьвярыма.

— Ах ты сукін кот!—скажа бывала. Сярдзіты бацька быў. Доўга з ім не апраўдайся, ато пападзеш... яшчэ й як пападзеш!

Арсею збрыдала бацькава навука. Натура ў хлапца паганая: другі бацячка, бы ў вадзін модэлак выліваны абудва. Дзе трэ' было-б змоўчыць старэйшаму, а ў яго тады злосьць—перакорная зьяўляецца. Ніхто ня возьме над ім вяршэнства ні сілаю, ні ласачкаю.

— А пашоў ты, стары! Узяў бы сам ды паскладаў, калі рупясьць узяла,—гэта Арсей кажа на бацьбу гэтак.

— Ой, гад! Дзе гад быў! Каб я мог...—доўга ён цягне гэта слова, успаміны пішчом ціснуцца ў галаву.—Адрабіў я сваё.

Больш пагубляў Цыпрук свае словы. Голас хрыпне. Вочы моргаюць. Хаця-б яму цяпер на гады чатыры памаладзець. З кулакамі-б яшчэ мог парывацца. Што трымаў, дык і папусьціў бы ў прокляць. А цяпер... Джоргае вялікімі ботамі, бяручыся бліжай к палосістым посьцелкам.

Ня ў вялікай пашаноце бацька і ў Ганькі. Бывае што заманецца яму памуштраваць дзяўчыну. Даўнейшае ўсё Цыпрук паганяе.

Тая мяшае сьвіньням. Выйдзе стары з-за пасьцелак. Бачыць: ня так робіцца ў дачкі, як маці рабіла.

— Ты-б рукамі крошкі ў цесьце падушыла, а ні мешалкаю. Жаба ты! Ня ўмееш на сьвеце жыць.

Ого! Цыпрук умеў жыць з толкам на сьвеце. Да вайны 'шчэ меў трыста рублёў. Дочкам пасаг зьбіраў. А ў вайну дык і тры тысячы прайшлі праз яго рукі ў пакляж. За палякамі вымяняў усе свае тысячы на новыя кацярынкі ды на пяцісоткі, схаваў у вобразік, на каторым богава маці з бажанём малым намалёвана, а круга яе анёлы. У тым самым абразіку „касяя“ Анцішэўшскіх знаходзіцца, з каторым у пажар круга вёскі абыходзяць. Кажуць, як абыйдзеш ды ў каторы бок сам пойдзеш, туды й пажар кінецца (мяркуй, значыць, у чыстае поле). Каб гэта калі спраўдзіла—ня ведаю. Быў аднаго разу пажар у Жыздрыцы. Восець занялася гарэць. Толькі не здагадўся ніхто абразікам яе абнесьці. Прыскочыла з Хатнікаў пажарная. Скінулі страху (пакуль яны змаліліся прыехаць, дык адны латы ды крукі асталіся). Расьцянулі ўсю як ёсьць будыніну жалезнымі крукамі па бервяну. На водшыбе стаяла дык і пагасла хутка. Ды й мусіла пагаснуць, бо ваду пампавалі не шкадуючы.

Спрактыкаваўся Цыпрук за свае восьмдзесят год як жыць на сьвеце. Нават багатыром-бы вялікім стаў, каб цяпер думскія ды царскія грошы йзноў сталі хадзіць. Толькі дачка не бярэ ўвагі на бацькаў стаж.

— Ідзі йдзі,—кажа,—ня першы раз чую гэту навуку.

Папераздзі адчыніць Ганька сабе дзьверы з хаты й з сянец. Тады ўткне мешалку ў цеста, возьме ў вадну руку гэта вядро, з памыямі—у другую й панесла. Толькі возьмецца яна за зашчапку, каб дзьверцы ў хлеўчык адчыніць, як у сярэдзіне зарохкаюць, завухкаюць, на варота лезуць.

Сьвіньня патом сьвіньнёю. Не ўгаворыш ёй, хоць будзе сабе й самы лепшы вяцінар—агітатар. Гігіены не глядзіць. З чаго есьць у том і ногі ставіць. Нацягаюць яны гною ў карыта.

— Ух, ваўч'ё!—пакрычыць на іх Ганька за гэтакую работу. Возьме мешалку. Выкапае гной. Каб стары бачыў, і за гэта-б сварыўся: маці рукамі выбірала. Ганьцы ўсё каб барждж**э**й, каб рук не застраміць.

Выскрабе, выкіне гразь з карыт. Кормным цеста ўкіне. Уліе надворным памый з промешкаю або цестам абмешаных.

Любіць яна пазіраць, як рабая даўгалычая сьвіньня цеста апетуе. Толькі шкода дзяўчыне, што гэту зіму перад Калядамі калоць яе думаюць. А сыць тая, сыць! Увесь дзень сядзіць, як добрая пані. Укіне ёй Ганька цеста. Яна не сьпяшаецца, як другія, што з-пад рук ірвуць—мешалкаю не абаронісься. Рабая памалу на ногі ўстае. Спаважна, спацырам падыходзіць к карыту.

— Цап, цап, цап!—як-бы смакуючы, тры разы запар хваціць яна цеста ў ляпу. Пачакае, пакуль ня глыне. Тады зноў:

— Цап, цап, цап!

Узапрэцца Ганька на чорныя гразкія варотца. Стане й пазірае. Пацешная сьвіньня!

Некалі й Цыпрук Анцішэўскі быў нечага варт. Гэта толькі за нашаю памяцьцю гэтак ён асунуўся. Братчыкам быў даўней у Хатніцкай капліцы, дзе імша правіцца ўсяго тры разы ў год. Поп меў яго за самага лепшага чалавека ў прыходзе (яго й Ігналю). Калі зьбіраецца па калядзе ці павалагонкаму хаты абыйці, дык перш-на-перш заедзе к Анцішэўскім. Жонка старога была дбалая кабета. (Толькі ўсяго што доўгага веку ня мела, бедная). Любіла яна госьця добра пачаставаць. І наварыць і насмажыць, а чаго ня стане, дык на трыножцы на прыпяку сьпячэ, з лучыны агонь пад ёю разлажыўшы. За сталом госьця прымусіць ня было над яе здатнейшай кабеты ва ўсёй акулічнасьці. Каб не гаркала, дык ня было-б з кім прыямней пагаварыць, як з ёю. Так што поп падкрапіцца ў Анцішэўскіх, прапусьцяць па чарцы. Тады з братчыкам ідуць па хатах.

Цяпер ня так даўно пацякла ганцяная страха ў паповай хаце над самым сталом. Няма як жыць. Абы дождж—у хаце лужы. Думаў-думаў поп які-б паратунак даць, людзям скардзіўся сваею бядою. Людзі параілі па гонтах саломаю пакрыць. Памеркаваўся ён. Добрая людзкая рада. Гонтаў хто іх дакупіцца. А кулёў за дзякуй сабраць можна з прыходу.

Пазычыў ён у царкоўнага старасты каня з калясьмі й жэрдкаю. Сеў іпаехаў у аб'езд. Пакуль да Жыздрыцы даехаў, мнагавата сабраў.

Не заехаў-жа перш-на-перш к Анцішэўскім. Кепска яны жывуць гэтыя гады. Двух сынкоў часьць узялі. Прышла гаспадарка к заняпаду. Перад падзелам расьцягалі сыны што толькі льга было. У добрых суседзяў знашлі перахоўку сабе. Потым, як падзелы прайшлі, хто аддаў, да часу схаваныя, а хто й капыткамі накрыўся, адказаўся, што:

— Я нічога ня ведаю, ня бачыў... Ну цябе...

Праз людзей дачуўся поп, што нядуж стары Анцішэўскі, у сваёй гаспадарцы ня волен, сыньськае права над ім. Перайшоў па хатах адзін. Далей ехаць гэты дзень ён нікуды ня думаў. Вечарэла ўжо ды й воз быў ніштаваты, як маладому каню павезьці. Захацелася папу свайго старога дружаку паглядзець. Прама на двор к Анцішэўскім закіраваўся.

Арсей на той час быў у хаце. Пачуў, як высокая брама з вузенькіх доўгіх шчакет заскрыпела. Зірнуў у вакно. Поп узьяжджае на двор з акалотам. Не спадабалася гэта Арсею. Каб прымеў, парваў-бы ён цяпер яго на кавалкі.

Сустрэцца не хацелася. Каб хаця быў не камсамолец, дык хоць ні сьця-любя, але слова якое прагаварыў-бы да яго. А так свае хлопцы сьмяяцца будуць. Пойдуць на сход у Хатнікі і там разбрэшуць, што з папом Арсей гішэфты мае. Не. Ня ў гэта ён пусьціўся. Ды, мала таго, гатовы на від паставіць, у пратакол яго віну запісаць. Тады хоць ты сам з ячэйкі выпісуйся. Гэта раз... Другое: поп-жа нізаводня скардзіцца будзе, вот і бяда, што Арсей ніяк ня ўмее бедаваць памагчы другому чалавеку.

Не знашоў ён лепшага выхаду, як з хаты ўцячы куды, схавацца. Пакуль поп на дварэ з канём кешкаўся, Арсей ціхенька прабег на дыбачках цераз сенцы ў камору. Дзьверы за сабою зачыніў памаленьку, каб ня скрыпелі. Сьцішыўся й слухае. Чуваць толькі, што б'ецца сэрца ў грудзях моцна, як у неспрактыкованага злодзея.

Потым скрыпнулі дзьверы з двара ў сенцы. Ім памаглі дзьверы ў хату з сянец, гэтыя чуваць што поп зачыніў за сабою.

Арсей думае „пашоў ужо“. Ды патом вушам сваім ня верыць. А можа так хто. Можа Ганьцы чаго ў хату трэ' было. На дыбачках падыходзіць ён к маленечкаму акенцу. Туляючыся пацікаваў на двор. Ня відаць нікога каля воза. Цяпер толькі ўпэўніўся, што поп у хаце.

Зноў баючыся адчыніў дзьверы з каморы ў сенцы. Падкраўся, стаў пад дзьвярыма. Паслухаў.

„Тут“ яшчэ раз пераканаўся.

Добра, што поп пакінуў сенцы адчыненыя. Усё ня трэба скрыпу лішні раз асьцерагацца. Вышаў на ганак. Пад капяжом хаты пашоў у вагарод. „Каб хаця ня вышаў гэны чорт зякраты каня глядзець“— аднаго толькі і боязна. Пасьмялеў тады, як схаваўся за ток. Пашоў па загародзьдзі на вёску гуляць. Дармо, што будны дзень... Знайдзі сабе дома якую работу—гатовы зглездзіць, у хату пазваць.

— Кепска, бацюшка! кепска,—скардзіцца папу Цыпрук. Сам сядзіць у рагу стала з аднаго боку. Поп на гэтакім самым месцы прысеў з другога канца.

Поп Пацякін сярэдняга росту прысадзісты чалавек. Нехта пусьціў дзейкі аб ём, што вельмі дужы. Калі пад п'яную руку,—а гэта ў яго ні наўда,—дык і праўда, што барукацца на мужчын нарываецца. Толькі ахвотнікаў сабе ніяк не падбярэ. Кавалём бы яму быць. А то марнее чалавек у папоўстве. На яго месцы й пядэшламу добра-б было.

Многа чаго скардзіцца Цыпрук. Пацякіну аж слухаць збрыдала. Разважае старога, як малога, ласкавым слоўцам.

— Сьмерці ў гоєпада-бога трэба прасіць.

Папаў поп якраз на тое перакананьне, якім старыя людзі перад другімі хваляцца.

— Толькі-ж гэта, бацюшка!

Такія словы ёсьць заўсёды ў запасе на языку. На ўме тым часам саўсім другое круціцца:

„Каб хаця гадок пабыць".

Хворы бывае чалавек. Ляжыць пры сьмерці. Трэба ўжо яму й сьвечкі старацца. Тады стогне чалавек і ўслых у свайго бога енчыць:

— Каб хаця з месячык! Каб хаця з тыднік на сьвеце пабыць.

Вось калі язык праўду гаворыць, калі лгаць забываюцца—тады, калі ім цяжка ўжо зварухнуць.

А так—маняць старыя!

Жаданьне ведаць, што далей будзе, чым скончыцца ўсё—моцны магнэс. Яму ў помачы надзея, што, можа, лепей жыцца будзе.

Зьбіліся яны з гаворкі поп з Цыпруком.

Пацякін бачыць: ня рана, сонца нізка ўжо. Трэба яму бліжай к дому брацца. Памаўчаў—памаўчаў ды й пытаецца:

— А дзе-ж сыны?

Цыпрук кажа, што на пасёлак адзін выбраўся, сабе частку судом узяўшы. Другога хату паказуе праз 'уліцу. А трэйці, меншы—кажа—недзе зябліць пашоў. Толькі з незамужняю дачкою й жыве Цыпрук пры ём.

— Гады!.. нядавяркі!—ня ўмее ён бяз лаянкі паскардзіцца.

Скардзіцца й Пацякін.

— Хата цячэ. Жабрую .. Хто куль дасьць, хто два, хто сноп акалоту, а дзе й нічога не пападзеш. Ашчадныя людзі сталі. Сяк-так сабраў паўвоза пакрысе.

Цыпрук бярэцца за сваю арэшыну.

— Пайдзем, бацюшка. Можа і ў мяне што знайдзем.

Памалу тэпкаецца стары. Мацае кіем сьцежку, дармо што не сьляпы. Поп ззаду за ім стрымлюе свае борздыя ногі.

Колюць вочы старому параскіданыя па дрывоткі дрова. Гаспадарская рупясьць бярэ.

„Параскрадаюць суседзі. Трасцу, гэтак робячы, будзеш мець".

Пад страхою зложана каля току коп дзьве сяголетняга акалоту.

Патом сабе Цыпрук прыяе, а не папу. Ня хоча так адмыкаць. Бядуе, што сын зьнёс на поле ключ з сабою, хоць і ведае, дзе ён спрадвечку хаваецца, хоць і бачыць, што з-пад паплеціны канчур вяроўкі

тарчыць, за якую ён прывязаны. У ток Пацякіна ўпусьціўшы, гатоў убачыць у старане сяголета вытрасеныя кулі. 'Шчэ прычэпіцца, каб даў. Хто яго тады адкажацца. Хай бярэ лепш акалот. Кулі й сабе патрэбны. На іх і работы больш—вытрасьці трэба.

Бярэце бацюшка снапкоў пяць. Колькі маю. Тут усё, як бачыце.

Пацякін адлічуе, колькі яму ахвярована. З Анцішэўскага беднасьці толькі галавою ківае.

„Сышоў на пшык чалавек".

Выяжджаючы з двара згледзіў поп Ігналю. Дагэтуль і ня бачыў яго. Жонка толькі дома ў іх была. Дала куль Пацякіну.

— Здрастуйця!—той кажа здалёк, толькі згледзіў, што поп на яго пазірае. Падымае шапку над галавою—гэтакі гонараднаму папу цяпер робіцца і то не ад усякага.

— Тпрррy! хадзі, Чвардоўскі, сюды.

— Чаго, бацюшка?

Чуе Ігналя нейкую няпрыемнасьць.

Пацякін пачынае хваліць радню.

— І бацька твой быў добры чалавек. І гы ня кепскі.

Ужо відаць з гэтага, што--бацькоў пахваліўшы—дзяцьмі будзе ўпікаць. І праўда: ганіць поп цяперашні сьвет і людзей.

— Ото сьвет пашоў, ото людзі... Ідзе твой сын па вуліцы. Еду я. У другі бок і галаву нават адвярнуў, на двары пазірае.

Сярдзіта зварухнуліся Ігналявы ноздры. Будзе, ой будзе Хвядосу горача ў вочы, як вернецца бацька дамоў. Ня хочаш быць як чалавек, дык сышоў бы хоць з дарогі, ня сунуўся-б, як сьвіньня.

Перад папом Ігналя ціхі, добры. Патакуе:

— Праўда, бацюшка,—распуста ў людзях.

— Вучыўся твой сын і навучыўся.

— А маўчэце вы! Мне вочы гарaць ад людзей гэта слухаць.

На сяле Арсею кажуць:

— К вам поп прыехаў.

— Чорт яго бяры з папом. Мне што за інтэрас?

## XIII.

Жыздрыцкія камсамольцы высока сябе несьці пачалі. Яны ні абы што—актыў ячэйкі. Хвядос—тэхнічны сакратар. Бладзіка прадстаўніком у сельсавет Корабач параіў выбраць, а сход узяў ды й паслухаў свайго новага сакратара. Арсей гэтак сама „чына" зарабіў: эканамічна-прававы працаўнік ён цяпер. Як сягоньня яго выбралі, а на заўтра ўжо й работу сваю паказаў. Аднак прысьвятак надарыўся, што з коньмі людзі не рабілі. Тры вёскі абышоў да павудня. Сем працоўных умоў гаспадароў з дзеўкамі ды парабкамі зрабіў.

Корабач быў не палуднаваўшы, калі перад ім Арсей сваею работаю хваліўся. Каўтануў лішнюю сьліну з рота. Пахваліў:

— А ты разьбіраць умееш?

— А як-жа?! Складаць цяжэй ды й то—дрэнь. Трэба толькі на цэлым добра рагледзіцца што да чаго прыпадае, дык і зложыш. Усяго, першы раз як складаў, з спрунжынаю доўга цацкаўся, ня ведаў дзе яе падаткнуць А цяпер дык у мамэнт—толькі давай.

— А ты дазвол дастаў?

— А як-жа?!

— А вот я й ня бачыў, якія яны цяпер даюцца: гэткія, як уперад ці накшыя. Пакаж калі дзе блізка ляжыць.

Тут Арсей перш пык-мык, а далей гладка салгаў:

— Яго ў мяне на руках няма. Гэта-ж вот як было: На Траецкую гару былі мы з вішнямі прыехалі аднаго разу. Мне тады пашанцавала: на дарозе нейкая хлюндра як прысьляпілася—рады ня было. Прадай ды прадай. Нарэсьце сышліся на цану. І хоць кружно было к ёй на двор весьці, але завёз. А адтуль каню па хвасьце ды па хвасьце— борзда прыскочыў на Траецкую. Знашоў сваіх людзей. Свой воз пры іх паставіў. Пасадзіў дзяўчыну. „Глядзі,—кажу,—ды надта не разяўляй рота, бо Менскія басякі й ня ўгледзіш калі з-пад рук браварку сьцібяць". Яна кажа: „Добра". „Глядзі-ж,—кажу,—каб было добра", а сам пашоў дазвол даставаць. Думаў, што толькі туды зайшоў дык і дадуць. Ажно-ж—не. Забавіўся. Трымалі яны мяне, трымалі ды потым і кажуць: „Прыдзі ў тры гадзіны з павудня". „Каб-жа вас халерая"—сабе думаю. Ды бягом пабег на Траецкую. Там нашы ўжо ўсё папрадалі і купілі што трэба—зьбіраюцца дамоў. Лаюць мяне, што забавіўся. А я—няма дуру—кажу на дзяўчыну: „Ты едзь сабе за хурманкамі, а я свае справы спраўлю ды па машыне прыеду." Дык дзе-ж там! Тая—ні блізка. „Масты,—кажа,—дзіравыя, дарога ня спраўная. Чорт яго паедзе, адна па пацёмку, 'шчэ дзе галаву падвярну." Так я й не дачакаўся дазволу—сеў ды паехаў дамоў. А ўсяго заставалася на ём нейкаму старшому расьпісацца ды пячатку падбіць. Сам нават бачыў як маё імя й прозьвішча пісалі; пыталіся адкуль. І за такім глупствам скруцілі мне дзень. І дазволу не дастаў і ня ўправіўся нічога купіць. А цяпер от усё часу не дабяру. Ды потым каторага дня трэ' будзе ўвесь час кінуць ды хуць па машыне паехаць сыскаць.

Гладка сышло Арсеява лганства. Усё роўна як яно й было гэтак. І заметна па пагранічніку, што веры даў. Арсей 'шчэ, каб болей паверкі было, паказаў білет, з каторага ён году камсамолец, пахваліўся што ўжо другі месяц пашоў як яго ў бюро выбралі: Ды, патом, уляцеў ні ў сваё. Цяпер ня выкруцішся ціха. Вот ад тых дат усё й папытуецца ў Хвядоса як лепш зрабіць: браць дазвол ці—не.

— Бяры—браце,—раіць Хвядос.—Гэтак сьмялей будзе.

— Да ўжо-ж—трэба.

Хвядос з Арсеем лепш, як з яго бацькам, таварышкуе. Гэта крыху й праўда, але ня зусім. Толькі прыклёп, што Хвядос ходзіць к яму. Ганька, больш як хто, прынадзіла хлапца сюды, у іх хату. К ёй ён і ходзіць.

Нешта нейкае зрабілася дзяўчыне. Гэту восень саўсім урэдкую ходзіць яна з кудзеляю. Многа здагадак у Хвядоса чаму гэта так. У сваю руку хіне ён прычыны. Ганька найбольш дома смычыць сабе нітку з барады. Жвавыя зубы ў вілачках падхопяць, скруцяць як ні ў сукараткі, узаўюць на шпулю. Гудзе і гудзе калаўрот. За ім і ў хаце гаварыць моцна трэба, усё роўна як на брук узьехаўшы, да торгу едучы. У коле здэцца й сьпіц няма, а тоненькая дошчачка замест іх устаўлена.

Рука, наложаная да работы, спрытна доіць кудзелю. Час-часом Ганька нагнецца каб нітку насьлініць ці камячок ня добра выпачасованага кужалю каб расьцягнуць. Паглядзіць з-пад нізу—хто на хаце ёсьць. І аздобна гэта ў яе выходзіць.

Хвядос з Арсеем гаворыць, а ў той бок, дзе калаўрот гудзе, адным вокам заглядае. Часам і абудвымі да таго загледзіцца, што Арсеевага пытаньня ня ўчуе. А той усё даходзіць:

— Ну, як патвойму?

Хвядос прачнецца толькі тады, як разоў пяць Арсей пытаецца. Бо так у яго ўсё добра выходзіла, што проста—бяда. Каб-жа тое ды праўдаю стала! Аж надта-б было.

— Што?—супэнду пытаецца Хвядос.

Тады Арсей давай ізноў расказаваць з пачатку.

Хвядос мусіць слухаць, мусіць не заглядацца ў другі бок. Арсею памагае яго бяду бядаваць.

Гэта самае й з Цыпруком. Ня так дзеля цікавасьці, як з павіннасьці ходзіць Хвядос за палосістыя посьцілкі. Дзіўна і незразумела чаму ў гэтай хаце такога цярплівага характару робіцца Чвардоўчык. Саўсім адменюецца паводле дому. Дома ён накшы. Стаў-бы хто такое глупства пявузгаць яму дзень у дзень, як часам Цыпрук, ды 'шчэ слухаць прымушаў—ускіпеў-бы Хвядос. Што ні слова, то ўсё на перакор казаў-бы й рабіў гэтакаму чалавеку. Плюнуў-бы супэнду, як згадзіць. З хаты-б уцёк і дзьвярэй не зачыніў за сабою.

Ого! Часам і Чвардоўчык бывае чортам падшыт.

Гэта тут толькі ён лепшы, спакайнейшы, паслушнейшы. Сам з старым у гаворку заходзіць. Але, як сябе ня было, а стараецца каб барзьдзей з-за посьцілак у чытальню драпянуць.

Многа весялейшым Хвядос у іх хаце робіцца. Больш слоў усякіх розных знаходзіцца ў яго на языку. Да гаворкі спрытнейшы і сам паваратнейшы. На жарты яго ў такія часіны здало. Гатоў штуку якую на людзкі вясёлы сьмех урэзаць.

Сьмешна з ім было ў Анцішэўскіх аднаго разу.

Усе жыздрыцкія камсамольцы прыстаўляць любяць. Адзін Пётрацюхцяй. Ніякай паваротнасьці ў ём няма. Адзін раз на ўсе дванаццаць гэндрыкаў выпрабавалі яго. Было цікава дазнацца на што ён здолен, якія штукі найлепш сумодае даказаваць, дык вышла што толькі—няспрытныя і не тады, калі трэба, а пастаянна.

Дык так і прыкладку яму далі таго вечара:

— Цяльпук (і квіта!).

Дадуць яму кніжку ў рукі:

— Падказуй.

Гэта ў яго добра выходзіць. Чытае ня надта моцна й ня зусім памалу—толькі слухай ды ўсьлед перагаварываць упраўляйся. А не дачуеш—прапаў, не спадзявайся, каб Пётра ўчас памог. Вечар пройдзе, пакуль ён патрэбнае месца знойдзе, адкуль памагаць пачынаць.

Адно дрэнна жыздрыцкім хлопцам, што цягайся за блізкі сьвет аж у Хатнікі на рапэтыцыі. Вось яны аднаго разу пагаварылі з беспартыйнымі таварышамі сваімі ды й наважылі каб адным у сваёй вёсцы рапэтыцыі рабіць і сьпяктаклі ставіць. І нікога з чужых вёсак у свой гурток ня прымаць—зрабілі пастанову.

Знашлі старыя „сцэнічныя творы“ ды й сабраліся к Анцішэўскім. Тут ніхто замінаць ня будзе, кплівымі ачыма збоку глядзець.

Да таго гаворкі тады Хвядос зрабіўся, што ўсе дзівіліся адкуль у яго й бралася мова. Лаганіў-шалахтаў без перасьціханку. Прачытае радкоў пяць ды давай растлумачваць. Крадкам зірне на Ганьку ды ‘шчэ лепей паправіцца.

Трохі пачакаўшы, заўнялася яна прасьці. У нітцы тальку дала, дык на зубох парвалася ды ‘шчэ зарвалася на шпулі—ледзьві шпылькаю выдлубала, усю пражу пакасмаціла. Знашоўшы, зацягнула ў вілачкі, на зуб палажыла. Прасьці ні прадзе. Узаперлася аберуч на пярэдні пляскаты дзядок. Бараду на руках пачапіла. Заслухалася. На хлапцоўскае прыстаўленьне загледзілася. Вельмі-ж яна дагэтуль завіхалася, каб спаць ня легчы, шпулі не напраўшы ці то й больш таго. Ня відаць па ёй, каб утамілася—толькі разгарэлася, у твары паружавела.

Калі вышлі хлопцы на хату, каб зрабіць усё тое, што прачыталі, дык Хвядос ніводнага слова ня даў нікому пасвойму сказаць—кожнае паправіў. Сам чытаў, сам рукамі што трэба паказаваў, вылупляваўся, калі трэ‘ было дзівіцца чаго, плячыма паказаваў, што нічога ня ведае. Здавалася, збоку гледзячы, што начай і здумаць нельга, каб лепш вышла іх п‘еса.

Хлопцам гаварыць няма чаго. Пазіраюць толькі. Шырокія вочы ў іх парабіліся. Нічога не напамкі ім.

Аж упацеў Хвядос, пакуль скончылі.

Тады яго Бладзік сморг за рукаў.

-- Чаго ты?

Той узяўся за стрыфлі ў яго куртатым, зашмальцованым кажушку, нахінуў к сабе бліжай.

— Што табе сёньня? Ці цьвярозы ты з дому прышоў?

— Чаму?

Балазей блізка хлапцоў ня было, Хвядоса ня бачылі. Сам па сабе пачуваецца ён, што прыкрае цяпло пацякло па твары, хлынула к ачам. І што далей, то горай... Немаведама чаго стала брыдка Хвядосу. Аж уцячы куды тады падумалася.

— Першы раз,—кажа Бладзік,—я цябе гэтакага бачу.

— Ат! Што табе здалося?!

Так нехаця Бладзік абсек яму вушы.

## XV

Ня раз сварыўся Цыпрук на сваю дачку, каб масла перад чужымі ня біла: колькі яго ня бі—не саб'ецца, калі благія вочы паглядзяць. А гэты раз Ганька ўзяла ды й паслухала. Ад самага паўдня села за бойку. Біла яна, біла... І ноч яе агарнула над тым нягодным маслам. Шумою яно ўзялося, усё прыбывае ў бойцы. аж у вечку з дзіркі выступае. Тры разы апалонікам надбірала яго з бойкі ў цёрла. І ніхто таго дня к ім і сьледу не палажыў, як сумыслу.

Увечары ўжо ня тая работа. Тады за чытачамі ў Анцішэўскіх павярнуцца цесна, а ня то каб рабіць што. Толькі ў Ганькі няма дуру. Наважыла масла зьбіць за гэты дзень, хоць сабе да поўначы плюхаць давядзецца. Сказала чытачом каб ня заставалі, каб адхінуліся ад агню. Сама ўзяла ад Цыпрука нізенькі зэдлік, што, як кашаль усходзіцца, яго сабе пад ногі падстаўляе і сам садзіцца на ложку. Прымасьцілася сёрад хаты—б'е. І такое наравістае масла: увесь дзень ня білася, а ўвечары й ня доўга Ганька з ім забавілася. Усё роўна як і яно хацела Цыпруку спрацівіць. А цяпер Ганька зьбіла тое, што ў бойцы было ды падліла, што ў цёрла надбірала—і гэта паўздужала.

Хоць і не такое добрае, на погляд не харошае: ні жоўтае, але белае, дык затое—многа. Масьлёнка, хто яе ведае, дзе яна й дзелася—саўсім крышку Ганька нацадзіла. На раз яе не стане каб таўчаную кашу прагнаць. Ат! Гэта на продаж не панясецца. Сабе чым болей, дык лепш. Арсею ды 'шчэ й як гэта да густу: надта-ж ён любіць такім маслам бліны мазаць. На гарачым бліне ад яго толькі шума белая становіцца й дзе-нідзе жаўтаватыя скалкі. Трошкі гарэніць, але гэта як хто любіць.

Перамыла Ганька яго, пасаліла, выбрала на два йсподкі. Аплясскала хорашанька. Лыжкаю зьверху цацак нарабіла. Схавала ў пасьценны шкапчык, што пры парозе. Бойку ў сенцы вынесла. Сама на хвілінку ўзьлезла пагрэцца на печ. Ажнак бацька вышаў на хату. Любіць і ён час-часам з кійком пасядзець у канцы лавы, паглядзець. Ану можа й пачуе што.

Хвядос дацікаваў, дзе Ганька дзелася. Назір за ёю, крыху пачакаўшы, пашоў і ён туды.

— Гэта ты тут?—пытаецца.

— А ты думаў—хто?

— Я й ведаў, што ты.

Чвардоўчык—лапцяваты хлапец. Ніяк сам-на-сам цікавай гаворкі пачаць на ўмее. Хоць ты памагачага за сабою вадзі. Сам ён ніяк патрэбнага слова не дабярэ. Хоча, бывае, нешта рэкнуць ды роту расчыніць не адважыцца—маўчыць, злуе на сваю няспрытнасьць. А ўсё затым, што ніяк не адважыцца языку даць такой волі, каб чым найболей шалахціў на вецер рознай-рознасьці, ні складу, ні ладу ня гледзячы, што толькі сьліна к губе прынясе. Ужо ён прабаваў разоў колькі гэтакім чалавекам зрабіцца ды ў самым гарце свайго краса-

моўства раздумаецца бывае, што дрэнь сказаў і язык больш на такое глупства не паварушыцца. Добра 'шчэ як памагáчыя ёсьць (як Платон з ім), а як няма—тады зарэз. Уцячы толькі хіба. Ды й уцячы ня можа Хвядос бяз дай прычыны, от так сабе—тут быў, а зараз завярнуўся ды пашоў, з рызыкаю, нават. Яму, дзе ня ступіў, трэба ўсё каб нейкае апраўданьне было.

От і цяпер гэтак сама. Каб у чытальню адгэтуль уцячы, трэ' было-б нешта сказаць чаго заходзіў, альбо там з хлопцамі сябе вельмі патрэбным чалавекам паказаць. І ніяк не надумаецца Хвядос, каб гэтак зрабіць і каб гладка, добра сышло. Нехаця падыходзіць к Ганьцы.

Пачынае з таго, чаму яны (дзяўчата) пазаўчора, як Ганька была ў скудзельніцах і ён (Хвядос) там быў, чаму яны тады рана разышліся. Ну саўсім-жа глупства! Лепш-бы ён памаўчаў, як з такою моваю разьнімацца. Бо й разышліся тады ня рана. Можа-б і даўжэй сядзелі, каб не гарлатыя пявуны сталі крычаць іх таварыству, што ўжо—поўнач, ды мо' й на той бок начы зьвярнула, а спаць ужо даўно з пары сышло. Добрыя людзі ўстаюць ад пявуноў, а яны да пявуноў заседзіліся.

Лапцявата й той раз Хвядос зрабіў—горш як цяпер.

Толькі згледзіў ён, што дзяўчата заварушыліся браць прасьніцы ды калаўроты, іці дамоў сталі зьбірацца,—маланкаю шмыгнуў за дзьверы. Забег ім наперад. Стаў на вуліцы і чакае. Сабе думае: „І так іці кепска, гразка, а з кудзеляю ды з калаўротам—пагатоў. Хоць да іх двара паднясу я Ганьцы калаўрот. Усё роўна-ж у вадну дарогу йці".

З хаты, дзе была зборня, адчыніліся дзьверы. Загаманілі скудзельніцы. Дробны пасыпаўся сьмех. Пярэднія ўжо й на вуліцу выходзяць.

Тут Хвядосу і вусьцішна зрабілася. Ну як ён падыйдзе, як бяз дай-прычыны скажа:

— Дай мне калаўрот. Я паднясу табе.

Сьмех толькі з яго справяць. Заўгадзей ён ведае, што лапцявата ў яго выйдзе гэта прапанова. У другога-б і добра вышла, а ў Хвядоса будзе людзям на сьмех.

А каб так папрабаваць. Падыйсьці ды гаркнуць:

— Табе, мусіць, цяжка? Дай я паднясу.

Добра каб ад першага слова:

— Паднясі,—сказала.

Тады ўзяў-бы пад паху таго лопатня ды й пасунуўся-б сьціхатою. Хто-б яго тады сьцежкі глядзеў! На гразь ані-б ня браў увагі. Ды ці выйдзе-ж так?

Нічога Хвядос ня мог здумаць, як-бы абыйсьціся пры такім здарэньні. Заўгадзей сышоў ён дзяўчатам з дарогі. Паўсаджаваў у гразь халявы ў ботах. Перайшоў на другі бок вуліцы. Ня знай, ня ведай чаго загледзіўся ў Адасяў рэдкі сад. Неяк ня так, як усе людзі, сабе плячукі паставіў: адзін уперад, а другі назад, галаву на бок завярнуў. Варта сьмех было з яго справіць, каб ноч была віднейшая ды хто туды ўглядаўся, дзе Хвядос стаяў.

Так прастоіў аж пакуль скудзельніцы ганей са трое не адышліся ўперад. Тады й ён нага за нагу пасунуўся ўсьлед за імі. Толькі сам сябе злаяў:

— Раскепа!

Ззаду йшлі хлопцы яго таварыства й гукалі:

Выправўляла мяне маці
Зялёнае жыта жаці..

Хвядос і ўчора ўвечары быў у Анцішэўскіх, але з Ганькаю сам-насам быць не давялося, і пра заўчарашняе ён нічога не ўспамінаў.

Але сяк-так яны разгаварыліся. Хвядос больш слухае, а Ганька сваё сірочае жыцьцё бяз мацяры прыпамінае. Няма ценю на печы ад посьцелак. Там відно-віднюсенька. Ганька на бок прылягла, узаперлася на правы локаць ды дуду-дуду... Дзе Хвядос на прымурку, там чорны цень, як сажа. І ані ня відаць, што Хвядос углядаецца вельмі на Ганьку—вокам ня міргне. Ды й ня надта чуе, што там Ганька кажа. Яму ўспамінаецца адзін сход у Хатніках. Болей жартаў было на тым сходзе, як сур'ёзнасьці. Фацэтны быў сход.

Жыздрыцкія камсамольцы дармо што сваю маюць, а ў хатніцкай чытальні штотыдня тры разы павінны быць. У ячэйцы плян гэтакі зроблен: у панядзелак—палітычны гурток, у сераду—бюро і ў пятніцу—драматычны гурток. Хоць урэдкаю, але бывае так, што чакаюць-чакаюць ды ніхто з непартыйных і ня прыдзе—адны толькі камсамольцы зьбяруцца. Тады Корабач памаўчыць—падумае ды й скажа:

— Хлопцы, давай сёньня свой зачынены сход зробім.

Актыў згодзен.

— Давай!

— Рабі.

— Як сабе хочаш.

Што-ж у іх за арганізацыя будзе, калі сваіх, ад усіх апрычных інтарэсаў ня мець. Патрэбен патаемны сход. Без яго не абыйціся.

— Прымкні толькі дзьверы,—кажуць.

Корабачу гэтага й загадваць ня трэ' была—сам ведае. Ідзе к дзьвярам і крук у прабой закладае.

Аднаго такога панядзелка ўвесь вечар праседзілі саймікуючыся пра дзяўчат. Трэ' было дадумацца як-бы іх хоць на завод у ячэйку ўпісаць са дзьвёх. Тады хоць перад райкомам было-б чым пахваліцца. Корабач жываты хлапцом пападрываў сваею прапановаю. Гэта-ж трэ' было да чаго дадумацца:

— Даць кожнаму камсамольцу заданьне, каб за месяц сумодаў падкаціцца хоць к аднэй каторай. Ды ні абы толькі каб падкаціцца, а з мэтаю: у камсамол хінуць.

Сьмеху варт яго мова! І так гэта сур'ёзна гаворыць, што проста бяда.

— А сам, мусіць, к дзьвём думаеш?—на сьмех, але сур'ёзна пытаецца ў дакладчыка Андрэй.

— Хто здолен, хай сабе і к дзесяцём, а к аднэй, дык павінен. Лопні, а падкаціся.

Дзе тая сур'ёзнасьць будзе на гэтакім сходзе!

— Дык ты так і ў пратакол запішы, што сяголета—падкаціцца, а налета—ячайковыя ясьлі адкрыць,—усё не перасьціхаў Андрэй.— Толькі-ж каго мы калыхаць прыставім. Ось гэта трэба сёньня вырашыць ды й абабраць такога чалавека—хай загадзе ад баб „ката“ пець завучуецца.

Бладзік не датрываў. Пераняў Андрэю мову.

— Па чарзе,—кажа,—будзем хадзіць калыхаць, а цябе загадчыкам тых ясьляў прыставім.

Арсей слухаў-слухаў ды й кажа:

— Сьмяяцца тутака няма з чаго. Таварыш Корабач нам, ня трэба лепш, сказаў. Давай папрабуем. Ану можа й выйдзе што. Будзем бачыць. Толькі на чорта ты, Хвядос, пратакол пішаш. Сьмяяцца будуць у райкоме, прачытаўшы.

Гэта й Бладзік падцьвердзіў:

— Да й праўда! На чорта той пратакол.

Тады Корабач узяў ад Хвядоса паўаркуша сьпісанай паперы й падраў яго на дробныя цуры.

'Шчэ помніць Хвядос, што таго вечара, разыходзячыся, некаторым садавіны зажадалася. Толькі ўспомнілі пра гэта, Бладзік адчыніў акно над Корабачавым ложкам.

— За мною хто хоча!

А сам на Корабача глядзіць—што ён скажа. Бачыць што той ня проці гэтакай штукі ды баіцца, каб гаспадар іх не ўвабраў, каб сарама не надаў усяму хатніцкаму камсамолу ды 'шчэ й з сваей хаты каб чытальні гэтак сама ня выкінуў.

Тады Бладзік цішэй загаварыў:

— От,—кажа,—сядзі сьціхатою й маўчы. Усё добра будзе.

Сам тымчасам з двума хатніцкімі палез праз акно.

Ужо лісьця многа насыпалася далоў. Мокрае яно, прыстае да хлапцоўскіх ног. Даўнейшая, што сушэйшае, шастае, як ідзеш. Асеньняя ноч таго разу была відная й шапятлівая—ветрык веяў. Белыя антоны, чарнабокія цыганы відаць пад месячны бляск. Няма цяпер толькі гальля, каб схаваць іх ад дасьціпнога вока, што шукае поначы.

Хлопцы ў чытальню па прыпалу прывалаклі антонаў.

Корабач паразае ножыкам ды чучарыць, моршчыцца—крывіцца ад кісі, хваліць хлапцоў, што вышла за ўдачу і сварыцца на іх:

— Вы-ж агрызкаў на падлогу не накідайце, а кладзеце ў кучу ды з сабою забярыцё, каб заўтра, хату мятучы, гаспадыня чаго ня споздрыла.

Тады Хвядос гэны сход за жарты меў. Пасьмяяліся, сабе думаў, ды й толькі таго. Ужо быў забыўся пра яго, а вось гэты раз ізноў ён прышоў на памяць.

„А што каб папробаваць?“ падумаў сабе.

Ганька сама больш і ахватней гаворыць пра сваю нябожчыцу мацяру. Яе Хвядос знаў саўсім мала. Помніць толькі што высокая была кабета, хустку не пад барадою завязавала, але абкручвала наўкола шыі ды ззаду рабіла вузельчык. Даўно ўжо як яна—нябожчыца. Пакінула Ганьку саўсім малою. Двух сыноў тады стала сіротамі і яна адна. Крута тады прыперлася дзяўчыне. Мусіла гаспадыняю быць, пакуль большы брат ня ўзяў жонкі. А тады Ганька ні курчаці, ні сьвінчаці ня ўмела дагледзіць. Ні разу каровы 'шчэ не даіла. У печы толькі і ўмела засланку адчыніць ды сабе скварку ўзяць з скаварады. Як з гаршкамі парадкавацца, ніхто не далажыў. Ды 'шчэ й ня сіла была. Цяпер пра сваё гаспадыньства так кажа:

— Ведама—малая: адны гулі тады былі ў мяне на ўме.

Пакуль у хаце дамавіна стаяла, Ганька па волі хадзіла, ні за якую работу ня бралася. Ціхенька, схаваўшыся ад людзей, плакала. Вочы чырвоныя парабіліся, панапухалі—панацірала яна іх. Хто ні зірне на малую, жаль яго возьме—пашкадуе. Хто спагадным слоўцам адзавецца. Другі так сабе бяз ніякай зайздрасьці паглядзіць, памаўчыць. Усе Ганьку сіратою завуць, аж ёй слухаць абрыдала.

Разэлі шкода стала малой дзяўчыны. Такі-ж яна Ганьцы сякая-такая цётка прыходзіцца. Дома ў іх сям'і стае. Хатнюю работу й без Разэлі ўпыняць. А ў Анцішэўскіх работы многа, а рабіць няма каму. Вось Разэля ўзяла раздабрылася. Прышла к ім на гаспадарку. Цыпрук з гора й дзякаваць ня ведае як.

— Глядзі-ж ты яе, дакладай,—кажа строні Ганькі.

Разэлі гэта й пад нораў. Дакладаць як рабіць яна добра ўмее. Рухавая 'шчэ баба. Усяго й кепска, што ходзіць яна ў дзьве пагібелі сагнуўшыся—старыя гады цяжкою вагою ўспалі на плечы, гнуць к зямлі. Але гэта—дармо. Ніколі Разэля ня йдзе ступою, а ўсё по́дбегам, усё трухаецца. Так яна змалку налажылася. Гаворыць борзьдзенька з задышкаю.

'Шчэ паншчыну помніць яна. Тады й ладная цыцоха была, а ўсё ў аднэй кашулі хадзіла. Спадніц тады маладыя дзяўчата як чорта баяліся. Пан такі звычай быў увёў: як толькі дзяўчына спадніцу адзене—каб назаўтрае-ж ішла паншчыну рабіць. Дык спадніцы толькі тады надзявалі, калі назаўтрае меліся сваты быць. Хто-ж яго ведае ці праўда гэта ці не, але Разэля кажа, што так за паншчынаю было—а яна паншчыну помніць.

Цяпер Разэля саўсім апусьцілася, нязграбная стала.

Барада ад самай губы і ўніз, як рубанкам спушчаная—роўная. Вочы за лішнюю, мяккую скуру схаваліся й ані ня блішчаць. Ды й на ўсём твары скура так паморшчаная, як рукаў у тонкай кашулі на самым гібяжы, як руку сагнеш. А з натуры Разэля хуць трохі злосная, але добрая і рупясьлівая: чужога й то шкадуе ў паблуд пусьціць.

Як асталася на гаспадарцы, дык усё ходзіць, глядзіць дзе што паложана, дзе пастаўлена і ўсё бубніць сама сабе пад нос. На ўнэт зганіла Ганьчыну мацяру з усяго: з работы й з розуму. Дзе ні павер-

ніцца—непарадкі знойдзе. Усё ня прыбрана, усё не на сваём месцы. Усё гіне, гніе, псуецца.

— Як тут жылі? Як тут хлеб мелі?

Дзіва Разэлі!

Кажуць людзі: ня можна нябошчыка благім словам успамінаць—грэх будзе. Гэта некаму грэх будзе, а Разэлі ня будзе граху. Яна ведае што трэба зрабіць, каб яго ня было—за кожным словам прыгаворыць:

— Даруй, божа, цяжкі грэх!

Нябось! Ня можа быць каб на гэтыя словы ніякай увагі ня было.

Разэля на Ганьку па добрасьці сварыцца. Шкадуе дзяўчыны, бо не яе віна, а мацярына: гадавалася, як дубец у лесе. У вочы Ганьцы кажа што ні дачога яна ня варта: ні каля печы павярнуцца, ні ў вагародзе каб спрытнасьць была; ні ў хаце чыста зрабіць.

— Ой, будзе, цяжка—цяжка, пакуль уцягнешся, наложышся.

І Ганькі шкода. І сапсованай работы шкода. Ня ведае Разэля каго больш трэба шкадаваць.

— Ой,—кажа,—напсуе работы, пакуль злаўчыцца. Наглуміць...

Ганька ўсё чысьценька чуе. Малая была, але хітрая. Думае:

„Хай сабе. Некалі нечага накшага прычакаем".

Кажа вось як яна тады рабіла:

— Каб ты так бабка ўдушылася, сабе думаю, ды маўчу. Усё сабе пару тую дабіраю, калі-б пытлю маей „мачасе" даць. Ужо так унадзілася к нам хадзіць, за мною прасьледжваць—рады няма. Што ні зраблю—усё ня добра. Дзе ні ступлю—усё ня так. Нарэшце адважылася. „Пашла ты,—кажу,—баба к чорту. І які цябе чорт надта просіць цягацца да нас?!" От тады яна й адсела крыху.

Разэля на Ганьку й ня вельмі пакрыўдзілася. Ведама:

— Малая, дурная 'шчэ. Хай адна пабудзе, хай паглядзіць як смачна бяз сталейшага чалавека быць. Яшчэ ні дзе дзенецца—прыдзе сама папросіцца, каб што як рабіць паказала.

Выйдзе Разэля на прызбу з кабетамі пасядзець—бядуе:

— Прападзе Анцішэўчынка за суку. За гардасьць сваю прападзе. Нічога з яе ня будзе. Гультай—гультаём.

Шкода Разэлі й грунту іх:

— Дзе гэта відана! Размахлёраць гаспадарку. Праўду такі кажуць: плача печ бяз гаспадычі.

Цяпер сьмяецца Ганька:

— І жывём патом аж вось да каторага часу. І кадук нас ня ўзяў. Ды й не размахлёрылі-б нічога, каб ня гэты падзел.

Тымчасам суняла Ганька сваю мову. Зірнула на Хвядоса ды пытаецца:

— Чаму твае так вочы блішчаць?

— Так сабе.

Зараз і ў чытальні на нешта хлапцом стаў патрэбаю Хвядос. Думалі, што дзе ў іх гурце ён. Клічуць з-за стала:

— Хадзі сюды!

Ен ужо й памкнуўся быў каб аказацца, але Ганька раіць:

— Маўчы.

Яе і паслухаў.

Хлопцы кажуць:

Дамоў уцёк.

— Ну й чорт яго бяры. Тады другім разам. .

Якраз у гэты мамэнт Мікалаю цікнула: чаму гэта доўга Ганькі на хаце няма. Адхінуў посьцелку. Яе на печы добра ўгледзіў і нешта 'шчэ чорнае падалося яму, што заварушылася на прымурку.

— Ганька!

— Чаго?

— Ці ня прыспала ты вячорніка?

— А дрэмле крыху.

Ня выпадае Хвядосу больш хавацца. Злазіць з прымурка і йдзе к хлопцам у чытальню.

— Хай вас чорт! За вамі не заснеш.

*Канец першай часьці.*

**Язэп Пушча**

## Грахі мае душы

I

Нікога з блізкіх і знаёмых,—
Сьцяны панурыя чатыры.
Успамінаюцца імёны
І доктар з бутляй нашатыру.

Яму здалося падазроным
Маё здароўе, няіначай,—
Расьпісваў я на смутку чорным
Грымасы дзён крывёй гарачай.

Няма й яго у гэтых сьценах,—
Усе за небасхілам зябкім.
Якое ў встрах апусьценьне!
А ў мёрзлых паясьніцах схваткі.

Суставы цёплых дзён азглелі
І галаледзіцай зьліліся.
Ў палёх суботняе маленьне,
І сіверапьне ў сініх высях.

Калені, неяк, вельмі ломіць,—
Хачу устаць і боль адштырыць.
Нікога з блізкіх і знаёмых,—
Сьцяны панурыя чатыры.

II

Ты зноў прышла на мой парог
І ў хату просішся пагрэцца;
Асыпала ўсяго да ног
Лістамі сваёй жоўтай сьмерці.

Ты сыплеш іх ка мне на стол,—
Мне трохі боязна і страшна;
Асыпала ўсе сьцены й столь
І клічаш дзень мой учарашні.

Ня веру я сваім вачам,
Што ты маёй сягоньня госьцяй.
Я не магу ў душы маўчаць,
Мне плакаць хочацца чагосьці.

Застанься ты на ноч са мной,
Хачу з табою быць шчасьлівым.
Тваё асеньняе віно
Іскрыстым палыскуе сьліўнем.

Напіцца мне ты ўсё-ж дасі,—
Няхай нутро яно апаліць.
Развага выбілася з сіл,
Другою стала й мая памяць.

III

У садох асеньнія настроі,
У садох маёй краіны любай.
За кожнай згорбленай вярстою
Лісты зьбіраюцца да шлюбу.

Хачу пабыць на іх вясельлі,—
У шуме й віхры папырсклівым.
У даліне скошаных аселіц
Асеньні дзень убёр раскінуў.

Яго ніхто не разглядае,
Узоры дзіўныя ўсе топчуць.
Мае засмучаныя далі,
Да вас прыду я гэтай ноччу.

Сям'ю маю к сабе паклічце,
Яе хачу я вельмі бачыць,
Хачу зірнуць ёй у вабліччa—
Поэтам хоць і стаў сабачым.

Як сьмешна і балюча слову!
А я-ж такі й на самай рэчы.
Мяне сягоньня вецер зловіць
І раны выветрыць, залечыць.

На сьвет яшчэ раз нараджуся,—
Ня ведаю вясной ці летам,
І ўсё-ж для роднай Беларусі
Хачу застацца я поэтам.

Нікому ліры не расстроіць,
Хоць сівер музыку й расхлюпаў
Ў садох асеньнія настроі,
У садох маёй краіны любай.

## Новыя лісты

I

Мой родны, як здароўе, сілы?
Якія радасьці ў сям'і?
Ці старасьць ног не падкасіла,
Ці з рук ня выпусьціў сяўні?

Хто ў ночы блудзіць ля ваколіц,
Хто моліцца перад Хрыстом?
Мяне ўсё гэта непакоіць,—
Такі асеньні ўжо настрой.

Татуля мой, паклон ад сына,
Паклон суседзям і радні.
Хацеў-бы быць я селянінам
У нашы ўзьюджаныя дні,

Ды што-ж, калі жыцьцё судзіла
Інакшы лёс ад роду мне.
Я закідаю рук вудзілны
На шыю песеннай вясьне.

Тулюся целам няпрытомным
Да палкіх форм яе грудзей.
Яна трымае песень томы
І церні радасных надзей.

Таму й пакінуў я палетак,
З курамі сонную павець.
Ня ведаю—ці ўцямна гэта,
Ці ў сіле сына зразумець?

Татуля мой, ты няпісьменны,
Жывеш 'шчэ першабытным днём,
Заўсёды вечарам асеньнім
Ідзеш у хлеў з сьвятым агнём.

Усё там авеяна таемным,—
Загадкай вечнай чорны цень.
Ідзеш бачком—хадою кемнай
І моўчкі тулішся да сьцен.

Я вобраз гэты сёньня бачу
І сам падобен да яго.
Мае удачы і няўдачы
Разьвейце, ветры, па лагох!

На йгрышчы гэтым я ня буду,
А ты, татуля, ўсё-ж схадзі.

Пайду я заўтра чорным грудам
У даль маўкліваю адзін.

Сяброў сваіх я там ня стрэну,
Іх сьцежкі ўлукаткі пайшлі.
З свайго дастану сэрца стрэмку
І уваткну ў душу зямлі.

Няхай адчуе боль цярпеньняў,
Якія ў песьнях я нясу.
Зара мне зваліцца на цем'я,
Рассыпле йскрыстую расу.

Падстаўлю ёй гадоў прыгоршчы
І чэрап памінальных дзён.
Над смуткам, гольле распасьцёршы,
Заплача прыдарожны клён.

Лісты дарогаю гусінай
У вырай будуць адлятаць.
Татуля мой, прыдзі да сына,
Не дачакаўшыся й ліста.

Ты да магілы знойдзеш сьцежку,—
Чытаць я вершы буду там.
Сваю апошнюю усьмешку
Табе з паклонам перадам.

II

Халат вякоў віхры ўзматнулі,
У гадох застукаў дзень крыві.
Мая цярплівая матуля,
Паклон сыноўскі мой прымі.

Якія-ж дні цябе сустрэлі
Каля расхрыстаных лагчын?
Пісалі мне, што пастарэла,
Што твар на пісягох маршчын?

Чало пакрыў бялявы смутак,
Вачэй блакіт паласкавеў.
Тваёй тугі вячэрні згустак
У чары лье асеньні зглей.

Зара над хатай пазяхае;
Ідзеш адна ты цераз двор...
Вярба схілілася сухая
Каля засмучаных вазёр.

Такія вобразы і зданьні
Перад вачмі маіх трывог.
Твае сялянскія паданьні
У душы сваёй я не зьбярог.

Калісьці, праўда, быў аратым,
А сёньня іншае пасяг.
З сваім малодшым братам
Нясу скрываўлены твой сьцяг.

Няхай сабе растрэпле сівер,
Няхай парве і кіне ў дол.
Мая матуля, ‘шчэ ня вымер
У душы сыноўскай сум і боль.

Хацеў-бы я, каб паміж днямі
Прабег пудлівай масьці лось...
Ня ведаю, ці ўспамінаеш
Мяне ты за вячэрай сьлёз?

Калі вялікі ўсходзіць месяц,
Гляджу заўсёды ў даль дарог:
Якія рыцары гразь месяць
І хто зьяжджаецца на торг.

Шуміць бярозавы гасьцінец,
Гальлё сланяючы ў бакі.
Мая матуля, срэбны іней
Губляе месяц ля ракі.

Лавіць яго ў зялёных марах
Дазволена глаўлітам мне.
Я вельмі рад—жыву нямарна,—
Вянок паложаць на труне.

Пісаць ня маю больш нічога,
Пяро скрабе далоні рук.
Мая пясьнярская дарога
Не давядзе мяне к дабру.

Усе, усе й мае навіны,
Ня маю ўцешыць болей чым.
Вітаньне шчырае ад сына...
Душы ніяк не залячыць.

**Сяргей Дарожны**

## Рыбакі

Вецер стамлёна прылёг на траве,
Месяц блішчыць над ракою.
Мрок задумённа на бераг плыве
Ў цьмяных адценях спакою.

У соннай вадзе задрамалі чаўны,
Вербы схіліліся ў ценях.
Срэбныя сеці раскінулі сны
Між трысьнікоў і каменьняў.

Сьпяць берагі у начной цішыні,
Завадзі ў месячным вецьці...
Там рыбакі з ледзяной глыбіні
Цягнуць стамлёныя сеці.

Там устрывожаная хваляй вада
Б'ецца ў нахмураны бераг,
І адплываючы ў цьмяную даль
Сполахам крыецца шэрым.

Ціха і моўчкі ідуць рыбакі,
Месяц люстэркаю сьвеціць:
Што прынясуць на ўзьбярэжжы ракі—
З завадзей цяжкія сеці.

Думкі, як хвалі у звыклай хадзе.
Повень дакурвае люльку
І туманы нібы дым на вадзе
Чэзнуць ў далёкім затулку.

Ноч. У надзеях нацяты канат
К берагу бліжыць удачу:
    Сьвежая рыба на жоўты пакат
    Срэбрам зіяючы скача.

Дальнія хвалі вітаюць пачын.
Раніца сеці зьбірае.
Недзе ў досьвітку певень крычыць,
Месяц блішчыць за гарамі.

Човен яго ля сінеючых вод
Дзесьці бярэцца на прывязь.
Днее. І ноч пакідае усход
У ценях на чорным абрыве.

І як заўсёды, пад звон асакі
Дзень усьміхнецца на рэчцы—
Ў чорных чаўнох адплывуць рыбакі
К дальнім кастром
Абагрэцца.

Менск, 1928 г.

**Кузьма Чорны**

# Перад другім дзесяцігодзьдзем

*Некалькі думак пра будаўніцтва культуры*

Дзесяцігодзьдзе БССР ёсьць завяршэньне пэўнага этапу ў разьвіцьці беларускае культуры. За гэты час мы маем вялікія дасягненьні ў нашай гаспадарчай, культурнай працы. За гэты час вырасла шмат новых, маладых сіл, патрэбных для разьвіцьця культуры і гаспадаркі. За гэты кароткі час Беларусь, тая краіна, якая доугія вякі цярпела падвойную няволю—і соцыяльную і нацыянальную, якая ня мела нават права звацца сваім імем—Беларусі—цяпер гэтая краіна стварыла сваю Акадэмію Навук. Беларуская культура вырасла гэтак, што ў процэсе свайго далейшага разьвіцьця падыйшла да вышэйшага афармленьня. Гэта—вышэйшыя формы культуры.

Гэтае разуменьне—вышэйшыя формы—не павінна звужацца да пэўных голькі літаратурных жанраў. Бо і гэтыя жанры, якіх-бы яны высокіх композыцыйных і іншых якасьцяй не дасягалі, залежаць ад агульнага афармленьня культуры. Вышэйшая форма—гэта узвышэньне да культуры і нават, у нашых умовах, шмат дае, да культурнасьці творчае продукцыі і спосабаў творчасьці. А тут пачынаюцца ўжо межы вышэйшых літаратурных жанраў і композіцый. Галоўнае ўва ўсім гэтым процэсе—змаганьне за беларускія формы беларускае культуры (літаратура, тэатр, музыка, жывапісь...).

На першы плян тут становіцца культура мовы. Гэта ня ёсьць толькі корэктыва асобных слоў і выразаў, тут больш важнае—гэта беларускасьць моўнага кірунку, чыстата і культура моўнага афармленьня зьяваў культуры ці то літаратурных твораў, ці то тэатральных паказаў, ці наагул мова ўсіх беларускіх кніг—літаратурных, навуковых, практычных, палітычных...

Тое-ж самае і ў вобразах музыкі, жывапісі. І тут павінна быць змаганьне за беларускасьць вобразаў. А гэта вырашае пытаньне стыляў. І гэта-ж усё вырашае пытаньне нацыянальнае формы культуры. Далейшае крышталяваньне і культура нацыянальных форм, пры пролетарскім зьмесьце—вось аснова тых вышэйшых форм.

Мінулае дзесяцігодзьдзе пакінула найбагацейшую спадчыну—і творчую практыку, і выразныя, рэчаісныя дасягненьні культуры. І на грунце гэтае спадчыны, будаўніцтва беларускае культуры на другое дзесяцігодзьдзе яе будаваньня, набывае яшчэ шырэйшы і адказьнейшы размах.

Вывучэньне вобразаў народнае творчасьці, скарыстаньне іх у справе стварэньня нацыянальных форм культуры—вось патрабаваньне нашае культуры да культурных працаўнікоў і інстытуцый, якое ня зьменшылася, а павялічылася.

Мінулае дзесяцігодзьдзе стварыла музычную і мастацкую школы (тэхнікумы). І гэтыя школы павінны даць ня толькі пісьменных у сваей галіне людзей—патрэбных працаўнікоў. Задача яшчэ гэтых школ—і самая важная задача—выхаваць такіх працаўнікоў, якія-б давялі беларускую музыку да яе вышэйшых формаў, якія-б стварылі беларускую жывапісь (жывапісь разумеецца ў шырокім сэнсе). Каб гэтыя мастацтвы мелі сваю нацыянальную, беларускую форму. А гэта ўскладае на гэтыя школы зусім адмысловыя задачы. Гэтыя школы павінны мець гэтакі кірунак свае працы, каб стварыць усе ўмовы дзеля таго, каб стаць з цягам часу вышэйшымі беларускімі школамі музыкі і малярства. Задачы популярызацыі беларускае песьні павінны саступіць першае мейсца стварэньню вышэйшага беларускага музычнага мастацтва, якое павінна быць аснована на гэтай-жа песьні, на гэтым створаным і ўдасканаленым народам матар'яле дзеля вышэйшых форм музычнае культуры. Вывучэньне ў мастацкім тэхнікуме сучасных мастацкіх дасягненьняў, падрыхтоўка патрэбных працаўнікоў-мастакоў, павінна гэтак сама ісьці пад кірункам стварэньня беларускага малярскага мастацтва і ўзвышэньня яго да вышэйшых формаў.

Галоўная задача тэатру — стварэньне беларускага тэатральнага мастацтва. Гэтая задача цесна зьвязана з задачамі нашае літаратуры. Пытаньне беларускага стылю, а значыцца і беларускае нацыянальнае формы—тут на першым мейсцы.

Галоўныя мэты і тэатру і літаратуры—сыходзяцца. Гэта тое што ў шырокім сэнсе можна назваць разуменьнем—жыцьцёбудаўніцтва. І гэта робіць і літаратуру і тэатр найадказьнейшымі галінамі нашае культуры.

Разуменьне задачы літаратуры як „жыцьцёбудаўніцтва", ёсьць разуменьне вялікае зьявы, прэгрэсыўнае, дзейнае. Бо наш сёньнешні дзень мае за сабою сваё мінулае і выразна ставіць задачы заўтрашняга. Таму і літаратура, і тэатр не павінны „адбіваць эпоху" („адбіваць"— разумеюць — „адлюстроўваць"), або „ставіць проблемы", а тварыць эпоху і вырашаць проблемы. Толькі гэтакім чынам літаратура будзе сапраўды „жыцьцёбудаўніцтвам", а не пазадкамі жыцьця, будзе сапраўды зброяю ў руках пролетарыяту.

Мінулае дзесяцігодзьдзе організавала новую беларускую пасьлякастрычнікавую літаратуру, пралажыла цьвёрдыя шляхі для яе далейшага разьвіцьця; наша савецкая рэчаіснасьць дала ёй найвялікшыя магчымасьці. І наша літаратура за гэты час мае вялікія дасягненьні. І з кожным годам пралетарская літаратура, пралетарская культура робіцца і будзе рабіцца наймагутнейшаю зьяваю жыцьця краіны, адным з сродкаў творчасьці гэтага жыцьця.

У выхаваньні новага чалавека, чалавека соцыялістычнай грамады, літаратура адыграе вялікую ролю і гэтакую літаратуру праз сваіх прадстаўнікоў—літаратараў творыць тая частка грамады, якая цярпела соцыяльнае прыгнечаньне, а ў нас на Беларусі і нацыянальнае. Гэта-рабочая кляса і беднае сялянства. І галоўны гэрой нашае літаратуры—павінен быць рабочы, селянін. Зьявы жыцьця што прайходзяць у сьвятле літаратуры, разглядаюцца з пункту гледжаньня гэтага гэроя. І гэта адна з перадумоў стварэньня пролетарскай літаратуры.

Што да формы, дык выразныя, бліжэйшыя задачы, у творчым процэсе літаратуры, і шырэй—культуры, павінны зводзіцца да стварэньня беларускіх нацыянальных стыляў (формы). Пытаньне мовы павінна тут набыць першарадную значнасьць, яно павінна быць пастаўлена адпаведнымі інстытуцыямі шырэй і іначай, як яно ставілася дагэтуль.

Нацыянальныя формы літаратуры, тэатру, музыкі, жывапісі—будуць толькі ўзвышаць яе, спрыяць яе разьвіцьцю. Наша літаратура ўсё больш будзе рабіцца магутным сродкам будаўніцтва жыцьця і магутным фактам абуджэньня да новага жыцьця беларускіх сялян і рабочых. Тварыць гэтыя нацыянальныя формы — наша найадказьнейшая задача.

Мінулае дзесяцігодзьдзе організавала сілы, вызначыла творчыя шляхі і палажыла пачатак новай беларускай літаратуры, літаратуры пролетарскай, літаратуры высока-мастацкай.

Перамагаючы ўсе цяжкасьці, беларуская пралетарская культура будзеісьці шляхам свайго далейшага, магутнага разьвіцьця.

**А. Бабарэка**

# Беларуская літаратура да X гадавіны БССР

*Стэзаваны агляд*

У дні народных урачыстасьцяй—ёсьць такі звычай у працоўных—кожны пролетарскі атрад падсумоўвае свае перамогі і паражэньні за пражыты час, аглядае свае сілы, высьвятляе задачы, што ставіць перад ім жыцьцё.

Урачыстасьці, што спраўляюцца ў X гадавіну агалашэньня БССР, носяць асаблівы характар, вызначаны асаблівасьцю самой гадавіны. І сапраўды, гэта-ж гадавіна беларускай пролетарскай дзяржаўнасьці, утворанай магутным выбухам сіл рабочых і сялян на руінах буржуазнай. Гэта гадавіна тэй дзяржаўнасьці, якая стала на чале новай соцыялістычнай сыстэмы ў гаспадарчым і культурным разьвіцьці нашае краіны. Гэта гадавіна тэй дзяржаўнасьці, якая як ніводная ў сьвеце, што існавала або існуе за межамі СССР, шырока адчыніла дзьверы для разьвіцьця новых фарм грамадзкага жыцьця і выяўленьня рабочасялянскага творчага генія. Нарэшце, гэта гадавіна тэй дзяржаўнасьці ва ўмовах якой забясьпечаны ўсебаковы развой мастацкага ўсьведамленьня поўнага героічнага змаганьня і творчасьці мас жыцьця.

Усё гэта вымагае ад нас у такія дні спыніць сваю ўвагу на адным з рэволюцыйных чыньнікаў і ўдзельнікаў дзесяцёхгадавой творчасьці—гэта беларускай мастацкай літаратуры. Яна—гэты орган рабочай і сялянскай мастацкае сьвядомасьці—ідучы ў галаве магутнага пролетарскага поступу жыла яго—прыгожым у сваёй магутнай велічы—жыцьцём. Яго перамогі былі яе радасьцямі, яго паражэньні—яе смуткамі.

За час гэтага першага дзесяцёхгадовага поступу мастацкая літаратура перажыла шмат яскравых момантаў, якія цяпер становяць сабой тычкі яе гісторыі, адначасна паказваючы т. ск. грамадзкую тэмпэратуру ў кожны асобны момант рэволюцыйнага разьвіцьця. Пры ўсіх труднасьцях, якія, праўда, былі і яшчэ ёсьць ня толькі ўдзелам літаратуры, яна—у адны моманты больш у другія менш таленавіта,—але здолела даць люстры на мастацкае ўсьведамленьне нашага быцьця. Яна сама найлепшая люстра на тыя процэсы, што адбываліся і адбываюцца ў нашай савецкай грамадзе. Яна найлепшы іх баромэтр.

За гэты час жыцьця ва ўмовах пролетарскай дзяржаўнасьці беларуская літаратура дала шмат падстаў сваёю творчаю практыкаю на тое, каб карэнным чынам зьмяніць паняцьце аб сабе. І калі мы гаворым цяпер беларуская літаратура, то гэта ўжо не літаратура ў старым

яе разуменьні, прынамсі зусім ня ў тым, якое было ўласьціва ёй за „Нашаю Нівою“. Гэта паняцьце ўжо з новым зьмесьтам, створаным творчаю практыкай за час рэволюцыйнага дзесяцёхгодзьдзя. І вызначаецца яно тым, што яно пачынаецца як раз там, дзе пачынаецца і гісторыя беларускай пролетарскай дзяржаўнасьці. Мала таго, у сваім разьвіцьці гэта новае паняцьце аб беларускай літаратуры шчыльна зьвязана з гісторыяй беларускай пролетарскай дзяржаўнасьці. Вось чаму і сьвята гэтай апошняй ёсьць адначасна і сьвятам нашай мастацкай літаратуры.

---

Беларуская літаратура разьвіваецца ў своеасаблівых умовах. З двух бакоў атачаюць яе моцныя, дзедзічныя літаратуры суседніх народаў. На творах і культуры гэтых літаратур выхоўваюцца беларускія пісьменьнікі, як і чытачы іх. Больш таго, сама беларуская літаратура нарадзілася на ўлоньні краёвай польскай літаратуры. Праз яе яна ўпяршыню выйшла ў сьвет, пад яе апякунскім крылом яна разьвівалася амаль ні ўсё 19 стагодзьдзе. У XX стагодзьдзі да гэтай лініі далучаецца яшчэ адна плынь, што йдзе ўжо з калыскі расійскай культуры. Ня дарма ў гэты час у друку з аднолькавым правам ужываюцца дзьве азбукі: лацінка (польская) і грамадзянка (расійская). Пасьля Кастрычніка беларуская літаратура Савецкай Беларусі цалком парывае стасункі з польскаю літаратураю і разьвіваецца пад блізкім і непасрэдным узьдзеяньнем расійскай, часткова украінскай ды іншых усходніх літаратур. Уплывы заходняй літаратуры ў гэты кругабег часу ідуць не непасрэдна, а праз рукі расійскай літаратурнай культуры. Беларуская літаратура прымае гэта ўзьдзеяньне пад знакам пролетарскага выкарыстоўваньня дасьведчаньня і дасягненьняў братніх літаратурных культур. Гэта выражаецца ў форме перакладаў вузкага разуменьня, як і шырокага; перайманьня форм і мэтадаў творчасьці. У апошні час гэта узьдзеяньне знайшло сабе выражэньне ў організацыйных формах (самарэарганізаваньне „Маладняка“ ў „Белапп“) грамадзка—літаратурнага жыцьця. Поруч з гэтым беларуская літаратура, карэньнямі сваімі выходзячы з глыбінь народнае творчасьці, а праз культуры суседніх народаў праходзячы т. ск. сваім юнацкім, калі не сказаць дзіцячым, сьцяблом, пробуе выйсьці з калыскавага кругабегу, каб стаць на ўласныя ногі студ'яваньня навукі творчага мастацтва. У зьвязку з гэтым моцна пачынае ўзьнімацца голас пра літаратурную школу соцыялістычнай культуры беларускай літаратуры (Узвышэнскія чацьвяргі). Гэта тое, да чаго беларуская літаратура падышла ў выніку творчае практыкі, як да канечна патрэбнага. Без літаратурнае школы соцыялістычнае культуры разьвіцьцё беларускай літаратуры далей ня можа мысьліцца.

У разьвіцьці літаратур суседніх народаў у свой час адыгралі вялікую ролю клясы, што панавалі. У беларускай літаратуры гісторыя гэтага ня ведае. І гэта другая асаблівасьць умоў разьвіцьця беларускай літаратуры. Праўда, спалячаная беларуская шляхта пробавала

нешта рабіць у галіне стварэньня беларускай літаратуры, але ёй не ўдалося, дый не магла яна зрабіць таго, што зрабіла, скажам, расійскае дваранства для расійскай літаратуры. Калі што і здолела зрабіць гэта шляхта, дык гэта тое, што сваею літаратурнаю практыкаю стварыла разуменьне аб беларускай літаратуры, як аб такой рэчы, якая можа прычыніцца ў клясавых патрэбах, як сродак узьдзеяньня на сьвядомасьць мужыка ў патрэбным кірунку. Яна стварыла паняцьце утылітарнасьці беларускага літаратурнага слова. Дзеля гэтага беларуская шляхта ня здолела стварыць нічога выдатнага ўбеларускай літаратуры. Бо яна, зрэшты, і не тварыла, а выкарыстоўвала створанае ў іншых культурах. Тварэньне гэтага выдатнага выпала на долю іншых соцыяльных станаў, і ў першую голаў на долю сялянства (у асобе яго выхадцаў), а таксама і мяшчанства (таксама ў асобе яго выхадцаў), ды іншых соцыяльных груповак. Асабліва шырокія магчымасьці на гэтакую творчасьць адкрыліся за беларускай рабоча-сялянскай дзяржаўнасьцю. А гэта, канечна, не магло не адбіцца на характары твораў літаратуры, як на самой ёй наогул, ды на тых кірунках, у якіх яна разьвівалася дагэтуль. Творца літаратуры прышоў з нізоў і ён прынёс у літаратуру ўсё тое, што ўласьціва гэтым нізам, калі яны імкнуцца ў верх і да гэтых вярхоў даходзяць. Ён прыносіць з сабою тое, што увабрана ім ад народнай культуры з-замаладу і тое што прыдбана ім (як тымі сынамі у Ян. Лучыны) на старане ў часе іхняга выходзтва, ды часам нават выціснула першае або яго перарабіла па свойму. Гэтакі творца—галоўны чыньнік літаратурнага разьвіцьця рэволюцыйнага дзесяцьцёхгодзьдзя. Але ён зьменлівы, як і чытач ягоных беларускіх твораў. Ён апошнімі часамі выяўляе тэндэнцыю зьмены ў бок спролетарызаванага творцы, хоць-бы гэта быў як і раней выхадзец з сялянства або іншай якой соцыяльнай клясавай групы.

Гэта стаіць у шчыльнай сувязі з трэцяй асаблівасьцяй умоў разьвіцьця беларускай літаратуры—чытачом. Ён складаецца з некалькіх груп. Ёсьць чытач выгадаваны на суседніх культурах і толькі беларусізаваны. Гэты падыходзіць да беларускай літаратуры з меркай тэй літаратурнай культуры, на якой ён выгадаваўся і вырас. Далей ёсьць чытачы, якія толькі цяпер робяцца чытачамі, учора яшчэ нябыўшы ніякамі. Гэтыя прыходзяць да беларускай літаратуры непасрэдна ад народнай моўнай культуры і праз беларускую літаратуру ідуць да культуры літаратурнай,—такі іх кірунак. Ён як раз адваротны таму, якім часта-густа ішоў пісьменьнік. Гэты нярэдка ішоў праз міжнародную (у асобе суседніх народаў) культуру да беларускай літаратуры. І таму зразумела, чаму беларуская літаратура амаль да самага Кастрычніка зьяўляецца толькі правадніком суседняй культуры ў „цёмную хату беларуса", а не правадыром гэтага беларуса да сьветавай культуры (у літаратурным яе разрэзе). І гэты чытач, што з кожным днём павялічваецца, вымагае і ад літаратуры такога-ж шляху, якім ён ідзе сам, г. зн. праз нацыянальнае да інтэрнацыянальнага, а не наадварот. А гэта значыць, што ён патрабуе такой нацыянальнай літаратуры,

якая-б была па сваёй існасьці („зьмесьце“) роўнацэнна інтарнацыянальнай, яшчэ кажучы, каб нацыянальная літаратура значыла ня толькі для беларуса, але і кожнаму пролетару іншай нацыянальнасьці гаварыла-б важнае і патрэбнае. Гэты чытач вымагае ад літаратуры не пераказу таго, што ўжо сказана ў суседніх літаратурах, пра гэта ён прачытае ў перакладзе або ў аўтэнту, а новага слова, свайго уласнага, а такога, каб яно гаварыла нешта новае і суседнім культурам. І гэты чытач ідзе адтуль-жа, адкуль і пісьменьнік. Расьце ён разам з ім. Яны т. ск. родныя браты. А гэта абавязвае літаратуру. У такіх вось умовах разьвіваецца і дзейнічае беларуская літаратура.

---

У непасрэдным дачыненьні беларуская літаратура робіць досыць рознастайнае ўражаньне. Гэта ўражаньне залежыць так ад самой літаратуры, як і ад соцыяльнасьці, калі льга так сказаць, чытача. Адны захапляюцца яе прастатою, т. ск. экзотыкай яе, наіўнасьцю, непасрэднасьцю, паўнатою пачуцьця; другія цэняць яе, як мясцовую літаратуру краёвага—і ні больш значэньня; на іх думку з Назарэту ня можа быць нічога добрага, апрача хіба толькі сырцу для сталічных літаратур, трэція бачаць у літаратуры зьдзейсьненьне сваіх ідэалаў або выражэньне сваіх жаданьняў, дум і надзей і таму і цэняць яе як сваё роднае; чацьвертыя любуюцца яе ростам, процэсам узмужаньня; яшчэ іначай глядзяць пятыя і дзясятыя. Усё гэта аб адным толькі сьведчыць, гэта аб тым, што ёсьць ужо, як факт, об'ект, які называецца беларускай літаратурай і які адчуваецца, як нешта новае. Гэты об'ект узглядна старой літаратуры адчуваецца як буйна ўзрослы і лікам, і якасьцю, і рознастайнасьцю ў сваіх відах і формах. Разам з гэтым адчуваецца, што гэты об'ект становіць сабою паўторны курс кірункаў расійскай пасьлярэволюцыйнай літаратуры, поруч выяўляючы і тое, што ўжо ёсьць уласьцівасьцю толькі яе, што з разьвіцьцём сваім стане годнасьцю рабоча-сялянскай Беларусі і яе гордасьцю. Наогул-жа ўсе ўражаньні, якія ствараюцца беларускай літаратурай пры азначаных вышэй умовах носяць або негатыўны, або позытыўны характар, гледзячы яшчэ на соцыяльнасьць чытача. Ня рэдка ўражаньні негатыўнага парадку мотывуюцца тым, што беларуская літаратура дасюль не дала яшчэ нічога такога, што набыло-б шырокае значэньне, зрабіўшыся годнасьцю рабочых і сялян (у асобе найлепшых іх прадстаўнікоў) усяго сьвету, што беларуская літаратура шмат пераказвае суседнія літаратуры, што яна надзвычай пераймальная... Уражаньні-ж позытыўныя зазвычай групуюцца на ўзглядных дачыненьнях літаратуры, скажам, пасьля рэволюцыйнай да перадрэволюцыйнай або аднае плыні яе—да другое ў сучаснай, якія гавораць перад усім пра жывое жыцьцё гэтай літаратуры, пра яе дзейнасьць. Усё гэта гаворыць пра тое, што яна выконвае сваю роль, якая даручана ёй самым жыцьцём, поўным хараства, змаганьня і творчасьці працоўных мас. А выконваньне гэтай ролі вызначае беларускай літаратуры пэўнае месца ў грамадзка-культурнай сыстэме нашага жыцьця.

---

Месца, якое займае цяпер беларуская літаратура ў грамадзкім жыцьці, далёка яшчэ ад таго, якое яна павінна заняць, як мастацтва пралетарскае. Яна яшчэ не дайшла таго, каб быць законадаўцаю літаратурнай культуры і форматарам моўнай культуры наогул. Яшчэ адчуваецца яе падпарадкаванасьць моўнай стыхіі газэтнай, перакладніцкай. Але ўсё-ж калі параўнаваць з літаратурай дарэволюцыйнай месца яе ў грамадзкай сыстэме зусім зьмянілася. Беларуская літаратура пары скажам Марцынкевіча займала месца пасрэдніка між панам-магнатам і мужыком. Ня дарма яна і гаварыла на дзьвёх мовах: „панскай“ (польскай), калі зьвярталася да пана і „мужыцкім нажэчы“ (беларускай), калі мела на ўвазе за чытача або слухача—мужыка. У часе Багушэвіча беларуская літаратура адкідае гэту роль пасрэдніка і становіцца ў позу падбухторшчыка і крытыка пануючага стана і ладу рэчаў. Яна выконвае ролю ўсьведаміцеля сялянства. Нашаніўская літаратура гэту роль паглыбляе і бярэ на сябе новыя абавязкі: гэта прадстаўнічаць у сьвеце ад беларускага чуцьця і мысьлі, прадстаўляць мастацкую сьвядомасьць ды выражаць эстэтычныя дачыненьні Беларусі да сьвета. Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі беларуская літаратура знаходзіць сваё сапраўднае прызваньне, яна становіцца на службу пролетарскай рэволюцыі. Яна, падзяліўшыся на паасобныя атрады, выконвае досыць рознастайную работу, пачынаючы ад прыкладнога літаратурнага мастацтва ці майстэрства, што служыць надзенным патрэбам, і канчаючы мастацкай творчасьцю, што формуе літаратурную і моўную культуру. Стан сучаснай беларускай літаратуры можна было-б параўнаць з станам якой-небудзь вытворчасьці, дзе ёсьць рознай кваліфікацыі работнікі, якія выконваюць і рознага роду работу, што ў агульным і складае вытворчы процэс, вынікам якога ёсьць творы розных відаў і рознай якасьці, пачынаючы ад аґіткі і канчаючы мастацкім творам. У гэтым процэсе адны выконваюць такую-ж роль, якую нясуць у вытворчасьці інжынэры-вынаходцы; яны працуюць над удасканаленьнем літаратурных формаў, над утварэньнем стылю эпохі. Другія-ж бяруць гатовыя формы ды прыстасоўваюць іх да агітацыі і пропаганды ідэй пролетарскае рэволюцыі (публіцыстычная поэзія і проза). Трэція-ж проста пакуль што ўсё выказваюцца, як умеюць. Так акрэсьліваюцца месцы беларускай літаратуры да 10 гадавіны БССР у радзе грамадзкім.

Некалькі іншае акрэсьленьне яна мае ў другім радзе, а менавіта ў сыстэме літаратурных паняцьцяў. Калі шляхоцкая літаратура стварыла вершаваную аповесьць, калі адраджэнская распрацоўвала пераважна так зв. малыя жанры, зрабіўшыся па словах М. Багдановіча кароткім паўторным курсам эўропэйскай поэзіі, то пасьлякастрычнікавая літаратура дала шмат матар'ялаў для папаўненьня сыстэмы літаратурных паняцьцяў. Яна дала экспэрымэнты рознага роду і кірункаў лірыкі, яна пробавала нават стварыць свае ўласныя кірункі ў ёй. У эпіцы беларуская літаратура дала матар'ялы для паняцьцяў аб аповесьцях, романах, поэмах, створаных за гэта дзесяцьцёхгодзьдзе. Ёсьць спробы і ў драме. Не вялікая бяда, што гэтыя экспэрымэнты кажуць пакуль

што аб тым, што беларуская літаратура перажывае якраз юнацкі ўзрост і таму ў ёй надзвычай шмат пераймальнага. Гэта ў пэўнай меры адлюстроўвае юнацкі т. ск. кругабег і ў разьвіцьці рэволюцыі. Аднак, і тое, што ўжо ёсьць у беларускай літаратуры, дае падставу для вызначэньня пэўнага месца і ў радзе філёзофскіх паняцьцяў. Беларуская літаратура ў гэтым дачыненьні ёсьць пачатак філёзофскіх шуканьняў і дасьведчаньняў. Гісторыя гэтых апошніх ня можа абыйсьці літаратуры, бо сваімі карэньнямі выходзіць з яе. Так акрэсьліваецца месца беларускай літаратуры звонку. Нутром сваім яна таксама мае сваё акрэсьленьне, вызначанае пэўнымі вобразамі.

---

Беларуская літаратура дарэволюцыйнага часу будавалася ў пераважнасьці па вобразу шляхоцкага быту (літаратура Марцынкевічавага кругабегу) або ў пазьнейшыя часы па вобразу сялянскага быту, яго клопат і турбот, яго жыцьцёвага рытму. Гэты побыт быў узорам ня толькі ў літаратурным жыцьці, але ён быў кшталтам будовы і літаратурна-мастацкіх твораў. Формы вакольнага быцьця былі формамі і літаратуры. Пасьля рэволюцыі робіцца зрух і ў літаратуры. У першае пяцёхгодзьдзе узорам будовы літаратуры ёсьць формы палітычнага жыцьця. Яны цалком пераносяцца ў літаратуру і прасякаюць яе наскрозь, пачынаючы ад літаратурнага жыцьця (адзіная арганізацыя) і канчаючы літаратурнай творчасьцю (вершаваныя адозвы, дэклярацыі, маніфэсты і да т. п.). У другім пяцьцёхгодзьдзі пад уплывам пераходу да сацыялістычнага будаўніцтва адбываецца пералом і ў літаратуры. Яна пачынае перабудоўвацца і за ўзоры ўжо бярэ вытворчыя адзнакі. Утвараюцца літаратурныя мастацкія ячэйкі (узвышанскі кругабег). Сама творчасьць мастацкая таксама мяняе свае узоры. Ад адозваў, клічаў, дэклярацый, вітаньняў і падобнага яна пераходзіць на больш сталыя узоры, як мастацкі плякат, карціна, малюнак, мэлёдыя і да т. п. Узорамі становяцца конструкцыйныя рэчы або рэчы творчасьці, у якім-бы абсягу яны ня былі. У гэтым выяўляецца пераход літаратуры пасьлякастрычнікаўскага часу ў творча-конструкцыйны кругабег, у кругабег творчых экспэрымэнтаў і дасьведчаньняў. Такім чынам па сваёй структуры беларуская літаратура за гэты час зрабіла надзвычайна вялікага значэньня пераход. Перабудоўваючыся па ўзорах вытворчых адзінак, яна тым самым адлюстроўвае вялікі пераход рэволюцыі да социялістычнага будаўніцтва і прадстаўляе сабою пачатак новай літаратурнай культуры, абавязанай сваею наяўнасьцю пролетарскай рэволюцыі.

---

За час свае гісторыі беларуская літаратура перажыла некалькі культур ці, сьцісьлей кажучы, кірункаў. Яна прайшла некалькі школ, што разьмясьціліся ў яе гісторыі на падоўжнай лініі, зьмяняючы адна другую. Ёй вядома асьветызм другой трацiны XIX ст., шляхоцкі адра-

джанізм трэцяй яго трацiны; народніцкі адраджанізм першых дзесяцьцёх-годзьдзяў XX ст. з яго некалькімі плынямі. Сучасная беларуская літаратура прадстаўлае сабою літаратурную культуру ў асноўным трох кірункаў: 1) перакладніцкі і пераймальны (маладняцкізм пролетарскай літаратуры), 2) творча-конструкцыйны (узвышэнства яе) і 3) натураграфічны, як адна з адмен у першых дзьвёх культурах. Першы цалкам сваімі карэньнямі выходзіць з суседняй літаратурна-стылёвай культуры; яе формы ён перасаджвае на беларускую глебу нават аж да моўных фразеолёгічных формаў. Другі выходзячы з культуры народнай творчасьці, не пазбаўлен узьдзеяньня культур суседніх брацкіх літаратур. Розьніца ад першага тая, што гэта плынь бярэ не гатовыя формы і механічна іх перасаджвае, а ўменьне, культуру, мэтады творчасьці і не перакладае, а творыць пры дапамозе ўсяго гэтага беларускія формы пролетарскай зьместам (гэта значыць па тэй ідэолёгіі выражальнікам і носьбітам якой яна зьяўляецца) літаратуры. Пры гэтым асноваю творчасьці ў гэтым кірунку ёсьць беларускія моўныя матар'ялы. У гэтым кірунку творацца і літаратурныя ўзоры, якімі потым карыстаецца і рэшта кірункаў. Трэці кірунак, як адмена ад першых двух—натураграфічны—выражаецца ў тым, што прадстаўнікі яго ня столькі творацъ, колькі выказваюцца, часта надзвычай з узьнята-патэтычнай акрасаю стылёвага афармленьня гэтага выказваньня, потым робяць фотолірычныя здымкі з натуры нашага быцьця, часам летапісуюць і тым самым выконваюць вельмі важную работу, як падрыхтоўчую для творчасьці. Гэта гаворыць пра тое, што сучасная літаратура прадстаўляе сабою ўжо некалькі ступеней літаратурна-мастацкай культуры. Такім узростам яна абавязана зноў-жа тым творчым магчымасьцям, якія адкрыліся для яе ў умовах пролетарскай дзяржаўнасьці, дзякуючы таму, што гэтыя ўмовы ўзрушылі новыя пласты грамадзтва ды пачалі складаць новыя формы соцыяльнага быцьця, адпаведныя патрэбам і інтарэсам новых творчых сіл. Гэтыя ўмовы далі магчымасьць выявіцца і новым талентам.

---

Гісторыя беларускай літаратуры ня ведае геніяў, за тое ёй вядомы вялікія таленты, якія прабіваліся на сьвет яшчэ ў дарэволюцыйны час. Аднак сучасная літаратура ў гэтым дачыньні настолькі абагацілася, што прадстаўляе сабою некалькі псыхалёгічных катэгорый, як чыньнікаў творчасьці. За час свайго разьвіцьця ва ўмовах пролетарскай дзяржаўнасьці яна дала шмат матар'ялаў для ўтварэньня паняцьцяў аб яе аўтары ў яго псыхолёгічным разрэзе. Па моцы творчых здольнясьцяў сучасная беларуская літаратура прадстаўляе ў асноўным тры катэгорыі аўтараў. Гэта: таленавітыя, здольныя і пасрэдныя. Кожная з гэтых катэгорый беларускай літаратурай прадстаўлена ў некалькіх відах і адменах паводле свайго характару, кваліфікацыі і тэмпу разьвіцьця. Пераважным-жа па ліку тыпам зьяўляецца тып сярэдняга здольніка. Па тыпах-жа творчасьці гэтая лінія аўтарства

беларускай літаратуры прадстаўлена досыць багата і рознастайна. У гэтым дачыненьні беларуская літаратура фактамі сваіх твораў дае шмат матар'ялаў для суджэньня аб гэтых творчых тыпах, для і пачатку навукі творча-мастацкай тыпалёгіі. Так, ёсьць таленты, прырода якіх зьмяшчаецца ў тым, што яны твораць тады, калі да краёў сваёй істоты захоплены пэўнай ідэяй. Гэта таленты, якіх і вядзе ідэя, часам нават больш таго, гэта ідэя робіць іх і талентамі. Аднімаецца ў іх ідэя і яны перастаюць быць талентамі і творцамі. Ёсьць таленты такой моцы, што яны самі кіруюць ідэямі і твораць таму, што не тварыць ня могуць, што творчасьць—гэта іх істотная патрэба. Ёсьць таленты, што твораць па вобразу сваіх уласных перажываньняў і ёсьць таленты, узорам для творчасьці якіх зьяўляецца вакольнае быцьцё. У асноўным-жа беларуская літаратура, багата прадстаўляючы творцаў у іх псыхолёгічных адменах, дае матар'ялы для паняцьцяў аб двух катагорыях: гэта аб талентах станаўленьня і талентах адмаўленьня. За апошнія часы ў ёй прабіваюцца іскры новага таленту, які ў дачыненьні да папярэдніх дзьвюх катэгорый прадстаўляе як-бы сынтэзаванае уцелаўленьне таленту, мысьлі і дзейнасьці, і якому бясспрэчна належыць будучыня беларускай літаратуры. Сучасная літаратура—гэта сыгнал прыходу новага чалавека, чалавека социялістычнае грамады.

Як і кожны ў асобку твор зьяўляецца носьбітам тэй ці іншай ідэі, так і ўсякая літаратура ў пэўным яе адзінсьцьве прадстаўляе сабою пэўную ідэолёгічную сыстэму. І таму робячы агульны агляд беларускай літаратуры за час першага дзесяцёхгодзьдзя самастойнай пролетарскай дзяржаўнасьці мы маем права запытаць, а якіх ідэолёгічных сыстэм зьяўляецца носьбітам гэта літаратура. Гісторыя беларускай літаратуры ведае ўжо некалькі, праўда не заўсёды цалком закончаных і разьвітых сыстэм, што прадстаўлены пэўнымі яе адзінствамі. За часы Марцынкевічавы беларуская літаратура прадстаўляла ідэалістычную сыстэму нават, містычнага кірунку. Гэтую сыстэму далей зьмяніў практычны, ідэалізм Багушэвіча. У час „Нашай Нівы“ прышоў адраджаніцкі дуалістычны ідэалізм, што прымаў сьвет у двух пачатках. Водгаласы іх, часам, нават вельмі моцна прадстаўлены і ў сучаснай літаратуры. Некаторыя, як адраджаніцкі дуалізм, у гэту пору робіць сваё лёгічнае завяршэньне, саступаючы месца новай ідэалёгічнай сыстэме, якая ў першую голаў вызначаецца сваім моністычным разуменьнем жыцьця і сьвету. Гэта сыстэма, якая знаходзіцца яшчэ ў процэсе свайго мастацкага формаваньня, ёсьць сыстэма дыалектычнага матар'ялізму—гэтай філёзофіі пролетар'ята. Яна знаходзячы сабе выяўленьне ў розных формах мастацкага ўсьведамленьня быцьця, зьяўляе сабою тую сыстэму, вонку якое ня можа мысьліцца разьвіцьцё беларускай літаратуры далей. Беларуская літаратура ў сёньнешнім яе стане прадстаўляе сабою гэты сьветагляд у яго прыяцьці, у процэсе яго мастацкага станаўленьня. Аднак, яшчэ нельга сказаць, што гэты сьветагляд праявіўся ўжо зусім

выразна і заняў належнае яму месца. Сучасная літаратура найбольш характэрна тым, што яна сабою прадстаўляе змаганьне дзьвёх у асноўным ідэалёгічных сыстэм, як яно выяўляецца ў мастацкім усьведамленьні жыцьця. Найбольш поўна беларуская літаратура прадстаўляе практычны ідэалізм і спажывецкі унівэрсалізм апролетарызованага мяшчанства з яго інтэлігенцыяй і романтычны матар'ялізм апролетарызаванага сялянства.

Ні псыхолёгія, ні ідэолёгія ня ёсьць апошні аўтар літаратурнай культуры. Аўтарам, які вызначае сабою літаратуру з яе псыхолёгіяй і ідэолёгіяй, ёсьць соцыяльнае быцьцё. Яго формы вызначаюць сабою і формы сьвядомасьці, аднэй з якіх і ёсьць літаратура. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, трэба паставіць апошняе пытаньне з абсягу пытаньняў пра аўтарства беларускай літаратуры, гэта пытаньне наконт таго, што Плеханаў называў соцыялёгічным эквівалентам літаратуры.

Папярэднія заўвагі зьяўляюцца падставай таго меркаваньня, што беларуская літаратура пасьлякастрычнікаўскага кругабегу мае за свайго соцыяльнага аўтара досыць складаныя фактары соцыяльнага быцьця. Асноўнаю групаю, якая вызначыла пераважны характар пасьлякастрычнікавай беларускай літаратуры, ёсьць тая сялянская моладзь, якая вышла з вёскі ў часе рэволюцыі і якая свой лёс цалкам зьвязала з лёсам галоўнага гэроя нашай эпохі, гэта—пролетар'ятам. Гэта тая група, якая цалком аддала сябе на службу пролетарскай рэволюцыі. Розныя адмены ў разуменьні гэтага служэньня робяць гэту групу досыць match-разнастайнай па яе творчай практыцы. Апроч гэтай групы значную ролю ў беларускай літаратуры гэтага дзесяцёхгодзьдзя адыгрывала тая група, што вышла з мяшчанства і ўзяла на сябе ролю рэпрэзэнтацыі пролетар'яту ў літаратуры. Пролетарскай літаратуры з гэтага, канечне, ня вышла; беларуская літаратура абагацілася толькі яшчэ на адзін экспэрымент, а менавіта на спробу мяшчанства ў асобе сваіх выхадцаў сваею творчасьцю падмяніць пролетарскую літаратуру.

Пролетар'ят у вузкім разуменьні гэтага слова яшчэ не сказаў свайго слова ў беларускай літаратуры. Яго імем твораць іншыя, што апролетарызаваліся, соцыяльныя групы, што прынялі яго сьветагляд. На яго сторану стала і тая група, што вядома пад імем нашаніўскіх адраджэнцаў, не зьмяніўшыся, канечне, ад гэтага сваім творчым нутром, менавіта тым, што зламылася, як ім уласьцівае, у іншых ад нашых сучасных умовах разьвіцьця. Сучасная літаратура ў гэтых адносінах толькі падрыхтаваньне шляху для прыходу пролетарскай літаратуры ня толькі па сваёй імкненнасьці, але і па сваёй істоце.

Па чытацкай орыентацыі беларуская літаратура становіць сабою некалькі кірункаў. Калі ў XIX сталецьці літаратура, галоўным чынам прызначалася для шляхты і выхадцаў з яе і толькі ўжо праз яе пасрэдзтва для „простага люду“, калі далей у першых дзесяцёхгодзьдзях XX сталецьця гэта літаратура ўжо некалькі падзяляецца па орыентацыі

на чытача, становячыся ўсё-ж тварам, галоўным чынам, ня столькі да сялянства, сколькі да пазавясковых соцыяльных груп, то пасьля кастрычніка малюнак зьмяняецца. Асноўная плынь літаратуры зварочваецца ўнутро Беларусі, орыентуючыся т. ч. на масавага сялянскага і работніцкага чытача і творачы літаратуру для яго. Аднак, гэтым ня вычэрпываюцца ўсе кірункі чытацкай орыентацыі. Значная літаратура прызначана для выбранага чытача з рабочых і сялян. У некаторых літаратараў гэтым выбраным чытачам ёсьць партыец ці камсамолец выключна. Нарэшце, досыць значная плынь сучаснай літаратуры зьвернута тварам да чытача-аматара і спэца літаратуры. У асноўным-жа за апошнія часы заўважваецца ў гэтым дачыненьні цікавая зьява, гэта зварот беларускай літаратуры ў сваё нутро, з якога яна і паходзіць і другое—яе зварот вонку Беларусі. Усё гэта як галоўныя кірункі чытацкай орыентацыі сучаснай літаратуры. У наступным перад літаратурай стаіць задача знайсьці такі кірунак гэтай орыентацыі, у якім сыстэзаваліся-б абудва зазначаныя звароты. Па орыентацыі-ж на выкананьне сучасная літаратура досыць багата на розныя адменьнікі. Так, у ёй ёсьць творы, што прызначаны для дэклямацыйнага публічнага выкананьня; ёсьць творы, што, наадварот, прызначаны для чытаньня сам на сам, творы інтымнага кірунку; ёсьць творы, што прызначаны для гурткавога чытаньня і ў такіх умовах зьяўляюць усю сваю мастацкую каштоўнасьць.

— - —

Апошнюю старану ў аглядзе літаратуры становіць тое, што выходзіць з палажэньня: літаратура ёсьць база для крытыкі, хоць абедзьве яны па творчасьці родныя сёстры, нават, і тады, калі між імі бывае прабягае чорная кошка варожасьці і заўзятага змаганьня. З гэтага боку беларуская літаратура становіць сабою багаты матар'ял для разьвіцьця ў асноўным трох кірункаў крытычнага суджэньня: гэта публіцыстычнага, філёзофічнага і эстэтычнага, канечне, на адзінай аснове дыалектычна-матар'ялістычнага сьветагляду. У пачатковых сваіх праявах гэта дзесяцёхгодзьдзе дало магчымасьць для іх выяўленьня. Аднак, гэтыя плыні не пасьпелі яшчэ сказаць свайго слова аб беларускай літаратуры ў цэлым, як і ў яе асобных частках і падзелах. Па тых-жа меркаваньнях, якія знайшлі сабе выражэньне ў друку, першая з гэтых плыняй вызнае беларускую літаратуру за адбітак рэчаіснасьці, другі за выражэньне пэўных сьветаглядаў, для трэцяй-жа беларуская літаратура перадусім ёсьць тварэньне, прызначанае перш за усё для эстэтычнага перажываньня, а праз яго для служэньня мэтам і задачам выхаваўчага (у шырокім сэнсе) парадку. Але ўсё-ж таго, што ёсьць у гэтай галіне, далёка ня досыць для поўнага ўяўленьня дзейнасьці беларускай літаратуры. Наступнае дзесяцёхгодзьдзе мусіць у гэтых адносінах прынесьці шырокі развой крытычнага прыяцьця літаратуры першага дзесяцёхгодзьдзя. Гэта патрэбна ў інтарэсах далейшага поступу нашай літаратурнай творчасьці і наогул разьвіцьця літаратурнай куль-

туры, што была-б стылем нашай эпохі, адпаведнай характару яе галоунага гэроя. Гэта патрэбна ў інтарэсах конструяваньня літаратуры социялістычнай культуры.

У такіх агульных рысах паўстае перад намі беларуская літаратура. Аб чым яна сьведчыць у такім сваім выглядзе, дык гэта аб адным, а менавіта аб тым, што ніколі яна яшчэ ня жыла такім жыцьцем, багатым і рознастайным у сваім выяўленьні, якім пражыла яна першае дзесяцёхгодзьдзе існаваньня БССР. Гаворыць яна і яшчэ аб адным, гэта аб тым, што літаратура—гэта зброя клясавага змаганьня толькі ва ўмовах пролетарскай дзяржаўнасьці знаходзіць годнае свайму назначэньню забясьпечаньне свайго разьвіцьця. У гэтых умовах яна становіцца сапраўды адным з пролетарскіх атрадаў вялікай арміі працоўных і жыве адзіным з гэтай арміяй жыцьцём, поўным вялікіх імкненьняў і дзей, барацьбы і творчасьці, мысьлі і хараства. Ідучы ў ногу з пролетар'ятам, беларуская літаратура ўзыдзе па тое ўзвышша людзкай культуры, якое было лятункам лепшых прадстаўнікоў усяго чалавецтва.

# „Узвышша“ перад новым годам БССР

„Узвышша“—гэта адзін з атрадаў беларускай пролетарскай літаратуры. Утварылася гэта згуртаваньне ў 1926 годзе 26 травеня ў складзе беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў пасьлякастрычнікаўскага літаратурнага пакаленьня. У яго ўвайшлі: З. Бядуля, А. Бабарэка, П. Глебка, Ул. Дубоўка, С. Дарожны, Крапіва, М. Лужанін, Я. Пушча, Кузьма Чорны, В. Шашалевіч, а праз год далучыліся Ан. Адамовіч і Т. Кляшторны.

Само ўтварэньне новага літаратурна-мастацкага згуртаваньня азначала сабою пачатак новага этапу ў разьвіцьці беларускай пасьлякастрычнікавай літаратуры. Яно азначала пераход беларускай пролетарскай літаратуры на вышэйшую ступень свайго разьвіцьця, пераход ад агульных дэкляраций, агітак, адозваў, выступленьняў і падобнага ў паласу творча-конструкцыйную. Пад знакам гэтага пераходу „Узвышша“ і працавала ад дня свайго заснаваньня аж да сёньнешняга дня. Гэтая праца справаджалася рознага роду зрухамі ў іншых атрадах беларускай літаратуры, як утварэньне новых аб'яднаньняў і распад некаторых з іх, гуртаваньне літаратурнай моладзі вакол пэўных літаратурных асяродкаў, якімі зазвычай ёсьць часопісі.

Вынікі свае творчае працы „Узвышша“ рэалізавала праз сваю часопісь тае-ж назвы, а таксама выданьнем зборнікаў творчасьці паасобных сяброў сваіх сваімі сіламі, так і праз іншыя выдавецтвы. Так выданы зборнікі: З. Бядулі—„Танзілія“, П. Глебкі—„Шыпшына“ (выданьні „Узвышша“); Ул. Дубоўкі—„Наля“ (выд. –„Центриздата—Масква); М. Лужаніна— „Крокі“, Я. Пушчы—„Дні вясны“, Крапівы—„Байкі“ і „Людзі-суседзі“, К. Чорнага — „Хвоі гавораць“ і „Зямля“— роман, Т. Кляшторнага „Сьветацені“ (выд. Бел. Дзярж. Выдавецтва).

„Цяпер „Узвышша“ на пярэдадні ўступленьня ў новую паласу свайго разьвіцьця. Гэта дае магчымасьць разглядаць яго працу, як некаторае закончанае адзінства, якое заняло пэўнае ўжо месца ў гісторыі беларускай літаратуры. Той хто, зацікаўлен лёсам беларускай літаратуры, той ведае, што часопісі „Узвышша“ да сёньнешняга дню вышла 12 кніг па 12—13 аркушаў, кожная вялікага формату. Чытацкае грамадзтва ведае таксама, што ў гэтых кнігах выдрукавана і якія пытаньні тэорэтычнага парадку пастаўлены ды разьвязаны творчаю практыкаю[1]). Вось гэтыя матар'ялы даюць падставу для вызначэньня ролі і значэньня творчае працы „Узвышша“ і ўтварэньня аб ім пэўнага паняцьця.

---

[1]) У канцы гэтае кнігі дадзены пералік усяго, што выдрукавана ва „Узвышшы“ за два гады яго выданьня.

І сапраўды якое месца займае „Узвышша“ ў сучаснай беларускай літаратуры, якую яно адыгрывае ролю ў ёй, якія прынцыпы яго будовы, якую плынь літаратурнай культуры яно сабою прадстаўляе, якіх сьветаглядаў яно зьяўляецца носьбітам—вось тыя пытаньні, якія кожны, хто цікавіцца літаратурным разьвіцьцём рабоча-сялянскай Беларусі і каму дорага разьвіцьцё літаратурнай культуры нацыянальнай у формах сваіх і пролетарскай у зьмесьце, павінен паставіць перад сабою і іх разьвязаць на падставе зазначных творчых матар'ялаў. Гэта дзеля таго, каб вызначыць да гэтай літаратуры свае адносіны ды ўзяць удзел па меры сваіх сіл і магчымасьцяй у яе тварэньні.

Кожны чытач павінен памятаць, што справа літаратуры—гэта справа грамадзкая. Яе посьпех і дасягненьні—гэта посьпех і дасягненьні тэй грамады, у якой яна разьвіваецца. Літаратура—гэта найлепшы паказчык культурнага стану грамады. Гэта, так сказаць, баромэтр. З другога боку—гэта магутная зброя ў клясавым змаганьні, калі яна на вышыні свайго палажэньня і адпавядае свайму прызначэньню, а менавіта ў нашых умовах—калі яна служыць пролетарыяту ў яго барацьбе за перабудову грамадзтва на соцыялістычных пачатках, калі яна разам з ім пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі змагаецца і творыць сродкамі літаратурнага мастацтва новае жыцьцё, удасканальваючы і разьвіваючы само мастацтва.

Творчая праца „Узвышша“ ў гэтым кірунку вызначае пэўнае яму месца ў беларускай літаратуры пасьлякастрычнікаўскага кругабегу. Гэта—месца літаратурнага рэволюцыянэра, што выкліканы самім жыцьцём паўстаць супроць адмаўленства ў літаратуры, якое выражаецца ў тым, што некаторыя групы беларускіх літаратараў фактамі сваіх твораў адмаўлялі і цяпер яшчэ адмаўляюць патрэбу творчага мастацтва для пролетарыяту, а лічаць магчымым абысьціся толькі прыкладным літаратурным рамесьніцтвам.

„Узвышша“ паўстала таксама супроць адмаўленьня патрэбы утварэньня новых літаратурна-мастацкіх формаў, што склалі-б у сваім адзінстве стыль нашае эпохі, галоўным героем якое ёсьць пролетар'ят. „Узвышша“ паўстала супроць „старой песьні на новы лад“, яно паўстала за ўтварэньне стылю, што адпавядаў-бы існасьці гэроя нашай эпохі і быў-бы ў яго руках зброяй выкананьня тэй ролі, да якое ён пакліканы ходам грамадзкае гісторыі. За час свае творчае працы „Узвышша“ ў змаганьні супроць гэтага адмаўленства зрабіла некалькі экспэрымэнтаў у абсягу утварэньня новых літаратурна-мастацкіх формаў. Ня ўсе, канечне, яны далі станоўчыя вынікі, але яны выявілі „Узвышша“ здольным выканаць ролю творчага рэвалюцыянэра ў беларускай літаратуры. Разам з тым творчая праца „Узвышша“ паказала, што яно ня толькі рэволюцыянэр-паўстанец супроць адмаўленства, але яно і рэволюцыйны будаўнік ў беларускай літаратуры, што яно дойлід новых яе формаў і носьбіт новай плыні ў яе культуры.

Да паглыбленага выкананьня гэтай конструкцыйнай ролі ў беларускай пролетарскай літаратуры „Узвышша“ цяпер пераходзіць зусім

сьвядома. Гэта выражаецца і ў тым, што часопісь, якую яно выдае, „Узвышша“ реарганізуе і ператварае яе баявы орган пролетарскага ўзвышэнства ў мастацтве. Зьніжэньнем-жа цаны і павялічэньнем ліку кніг на год, згуртаваньне робіць часопісь даступным шырокім чытацкім колам працоўнага грамадзтва.

Гэта роль і значэньне „Узвышша“ адбіваецца і на яго будове, як і на структуры тых твораў, якія яно выдае пад сьцягам творчасьці літаратуры нацыянальнай у форме і пролетарскай у сваей імкненнасьці. „Узвышша“ пабудована на ўзор вытворчай ячэйкі з вольным падзелам (дыфэрэнцыяцыяй) творчае працы між сваімі сябрамі і прыхільнікамі. Адны з іх пераважна працуюць у галіне лірычнай або ліра-эпічнай поэзіі (Ул. Дубоўка, Я. Пушча, Т. Кляшторны, П. Глебка, С. Дарожны). Другія ў галіне эпічнай поэзіі (С. Бядуля, К. Чорны, М. Лужанін, Л. Калюга). Трэція ў абсягу сатырычнай поэзіі (Крапіва, А. Мрый). Чацьвертыя ў драматычнай творчасьці (В. Шашалевіч). Пятыя—у галіне крытычнай творчасьці (Ант. Адамовіч, А. Бабарэка). За ўзоры ў будове сваіх твораў узвышанцы бяруць перад усім формы творчага быцьця, у якой-бы галіне яно не выяўлялася: ці ў літаратуры, ці ў мастацтве, ці ў вытворчасьці.

І ўжо гэтым самым „Узвышша“ зьяўляецца прадстаўніком новае літаратурна-мастацкае культуры. Гэта культура пролетарскай творчасьці ў процэсе свайго ўзвышэньня і ўтварэньня новых формаў мастацтва і поэзіі, сугучных нашай эпосе. Гэта культура таго ажыцьцяўленьня, праз якое гаварылася яшчэ ў „тэзах да ўтварэньня „Узвышша“ [1]), як пра ажыўленьне энэргіі працоўнага люду на творчасьць вялікага і прыгожага жыцьця. Гэта культура конструкцыйнага аквітызму.

З боку ідэолёгічнага „Узвышша“ зьяўляецца выражэньнем матар'ялістычнага сьветагляду будаўнікоў новае культуры, што выйшлі з працоўнага сялянства і свой лёс цалком злучылі з лёсам пролетарыяту. Яно выражае сьветагляд пропагандыстых ідэй соцыялістычнага будаўніцтва і культурнай рэволюцыі, якія гэту ролю выконваюць фактамі свае творчае працы. Яно выражае гэты сьветагляд у мастацкім аформаваньні сьветаадчуваньня галоўнага чыньніка нашай эпохі, новага дзейнага чалавека.

Так вось уяўляецца „Узвышша“ на падставе тых матар'ялаў, якія яно выдала часопісьсю. Канечне, яно мае яшчэ недахопы, яшчэ ня ўсе задачы, якія пастаўлены перад ім жыцьцём, выкананы. Але тая праца, якую яно зрабіла ўжо, гаворыць аб тым, што „Узвышша“ пры чынным удзеле ў справе ўтварэньня пролетарскай літаратуры з боку чытацкага грамадзтва выканае іх з посьпехам. Толькі супольнымі сіламі пісьменьнікаў і чытачоў утворыцца тое ўзвышша пролетарскай літаратуры, якое ўгледзяць вякі і народы і якое стане гордасьцю нашае рабоча-сялянскае Беларусі. З новым годам да новай творчай працы!

---

[1]) „Узвышша“ № 1 за 1927 г.

**Фэлікс Купцэвіч**

# Аб моністычным разуменьні творчасьці Цішкі Гартнага

„Под знаменем пролетарской литературы выступают иногда писатели, которых пролетарскими можно назвать лишь плотно закрыв глаза“ (Вяч. Полонский. „Октябрь и художествен. литература“, „Известия ЦИК СССР“, № 260).

„Бывает так. что проповедниками мещанства, его наиболее „красивыми“ представителями являются именно те люди, которые считают себя самыми злыми его врагами“ (Плеханов, т. XIV, бал. 267).

У канцы 1908 году ў „Нашай Ніве“ пачалі зьяўляцца вершы невядомага ў той час, толькі ўсплываючага на паверхню беларускага літаратурнага жыцьця пісьменьніка — Цішкі Гартнага. Вялікая сваёй гістарычнай значнасьцю дзейнасьць нашаніўцаў ускалыхнула асноўныя пласты беларускага грамадзтва, прабудзіла ў ім нацыянальныя пачуцьці і спрыяла выяўленьню паасобных адзінак, што так ці іначай прынялі ўдзел у першую пару нацыянальнага самавызначэньня народу, які толькі абуджаўся і які з вялікімі цяжкасьцямі, пры нясупынным уціску царскага самаўладзтва клаў цаглінку за цаглінкаю ў падмурак дзяржаўнага і культурна-нацыянальнага гмаху, што вырас ва ўсёй сваёй пекнаце толькі пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі.

Дзейнасьць „адраджэнцаў“ была настолькі пажытная, а ўплыў на грамадзтва настолькі вялікі, што нават паасобныя адзінкі з беларусаў, якія выхаваны на чужаземнай культуры і якія прыймалі ўдзел у яе стварэньні, пранікаліся замілаваньнем да ідэі адраджэньня беларускага народу і паводле сваіх сіл і здольнасьцяй дапамагалі яму. Найлепшым прыкладам пасьпяховасьці ўплыву і дзейнасьці нашаніўцаў можа служыць зьяўленьне ў беларускай літаратуры Цішкі Гартнага, які пачаў сваю літаратурную кар'еру, як расійскі пісьменьнік.

У сваёй аўтобіяграфіі, зьмешчанай у зборніку „Песьні“, выданым у 1913 г. ў Ленінградзе, Цішка Гартны апісвае гэты факт наступным чынам: „У канцы 1908 г. пазнаўся з беларускім рухам і пранікнуўся ім усёю душою. Пісаць меў нахільнасьць з маладых год і шмат напісаў вершаў і апавяданьняў парасейску“ [1]).

[1]) „Песьні“, Пецярбург, 1913 г., стар. 2.

Трэба сабе толькі на хвіліну ўявіць тагочасны стан на Беларусі, калі русіфікатарская палітыка царскай Расіі, распачатая з „лёгкай рукі“ генэрала-вешальніка Мураўёва, перайшла ў найвышэйшую фазу і калі яна пачала даваць найбольш ганебныя вынікі—калі сталі душыць праявы нацыянальнай самасьвядомасьці народу рукамі „сыноў“ таго-ж народу. Колькі такіх „сыноў“ беспаваротна згублена для справы адраджэньня, колькі з іх стала найгоршымі ворагамі маладое нацыі, якая адраджаецца? Толькі паасобныя адзінкі пад уплывам, напоўненыя гэраізмам і самаахвярнасьцю дзейнасьці нашаніўцаў сьвядома сталі на бок нацыі, што іх нарадзіла.

Аднак, перайшоўшы ў шэрагі беларускіх пісьменьнікаў, Цішка Гартны ня здолеў цалкам зьдіцца з пануючымі ў коле нашаніўцаў настроямі, ня мог парваць сувязяй з тым соцыяльным асяродзьдзем, якое яго выгадавала і песьняром якога ён заставаўся доўгі час сваёй літаратурнай чыннасьці. Сын капыльскіх мяшчан, выгадаваны ва ўмовах мяшчанскага акружэньня, дзе панаваў культ працы дзеля працы, культ недатыкальнасьці прыватнай уласнасьці і дзе найвышэйшым грамадзкім учынкам было „схадзіць у Кіеў“ [1]).

Цішка Гартны ня мог не перайсьці ўсіх ступеняў, уласьцівых гэтаму асяродзьдзю. Гэта яно абумовіла і яго раньнія гады, праведзеныя ў цяжкой працы местачковага пастуха, гэта яно выправіла яго „у Кіеў“, гэта яно прышчапіла яму псыхолёгію бязьмежнага індывідуалістага [2]), гэта яно навучыла глядзець яго на чалавека працоўнага сваімі вачыма, бачачы ў ім толькі раба, гэта яно ўрэшце сформулявала яго фэтышызаваны погляд на працу чалавека, які ім выяўлен у тым, што „чалавек, калі не працуе, ня можа быць праўдзівым чалавекам, як пэўны насьледнік будучага лепшага жыцьця“ [3]). Цішка Гартны на першых часах сваёй літаратурнай працы застаўся ў старане ад тых прасякнутых патосам змаганьня настрояў нашаніўцаў, разьдзьмухваючы якія Якуб Колас папаў у турму, як раз у той момант, калі Цішка Гартны толькі ступіў свой першы літаратурны крок.

Але прайшло дваццаць год і на кніжнай паліцы вырас салідны стос кніжок, што вышлі з-пад пяра Цішкі Гартнага. Іх жанравая рознавіднасьць, тэматычная разнастайнасьць, імкненьне абхапіць пэўныя

---

[1]) Пад уплывам рэлігіі ў праваслаўных быў адзін час вельмі распаўсюджаны спосаб ахвяры богу, які зьмяшчаўся ў тым, што ахвяруючы, пачынаючы якую-б там ні было важную для яго справу, дакляраваў схадзіць у Кіеў, у кіева-пячэрскую лаўру пакланіцца „мошчам“.

Гэты звычай найбольш распаўсюджваўся сярод мяшчан і хутка перакінуўся на вёску. У аўтабіяграфіі Цішкі Гартнага мы знаходзім такое месца: „Не захацеўшы гатовіцца ў сэмінарыю, *я схаджу у Кіеў*, скуль калі вярнуўся... і г. д.“, („Песьні“, 1913 г. Пецярбург, стар. 1), што выразна гаворыць аб мэтах яго „хожденія“.

Звычайна, калі вандравалі, шукаючы працы, то карысталіся чыгункай, водным, шляхамі і тэрміналёгія „схадзіу“ ў такім разе замянялася на „быў“, „зьезьдзіў“.

[2]) Просім ня зьмешваць з ідэялегіяй, якая фармуецца. як продукт думаньня, г. зн. розуму, той час, як псыхолёгія грунтуецца на працэсе зараджэньня і афармленьня пачуцьцяў.

[3]) „Песьні“, Пецярбург, 1913, стар 1.

галіны нашага жыцьця даюць зусім акрэсьлены характар творчасьці, ствараючы мажлівасьць яе грунтоўнага вывучэньня. Нельга сказаць, каб наша крытыка замоўчвала той ці іншы твор пісьменьніка. Наадварот, можа як ні ў кога болей, творы Цішкі Гартнага падпадалі пад вока як „штатных алалоўнікаў", так і сумленных крытыкаў.

Аднак, ня гледзячы на такую ўвагу, сёньня яшчэ ня можна сказаць, што задача крытыкі датычна творчасьці Цішкі Гартнага выканана. Нам здаецца, што менавіта цяпер настала пара, адкінуўшы ўсе забабоны, асабістыя сымпатыі і антыпатыі, якія спадарожнічалі зьяўленьню амаль кожнага крытычнага артыкулу, даць сапраўды навукова-об'ектыўную ацэнку творчасьці. Трэба адкінуць мэтод, які наглядаецца да гэтай пары гэтак званай „рэальнай крытыкі", калі крытык, разважаючы, вельмі проста падыходзіць да літаратурнага твору, знаёміцца, аб чым там ідзе гутарка, як яна асьвятляецца пісьменьнікам і прымаецца, таксама гаворыць аб тым-жа самым, дапаўняючы і папраўляючы выказаныя ў поэтычным творы палажэньні, сваім дасьведчаньнем сапраўднасьці.

Падыходзячы-ж да крытычнага разгляду мастацкай творчасьці, пісьменьніка, трэба перш за ўсё памятаць, што ў грунце, „у аснове мастацкага твору ляжыць ня ідэя, а быцьцё" і што „сапраўднасьць аб якой гаворыцца ў творы, якая зьяўляецца об'ектам мастацкага выяўленьня і об'ектам вывучэньня з боку рэальнай крытыкі ня мае нічога супольнага з тым быцьцём, якім акрэсьліваецца мастацкі твор, якое організуе яго і ў дасьледваньні якога марксысты шукае ключа да тлумачэньня поэтычнага факту" [1]).

„Быцьцё,—піша далей проф. Перэверзеў,—якое організуе мастацкі твор—гэта актыўнае быцьцё, якое зьяўляецца ў адносінах да паэтычнага твору і об'ектам і суб'ектам. Быцьцё таму і організуе мастацкі твор, што зьяўляецца ня толькі выяўляным об'ектам, але і выяўляючым суб'ектам". Такім чынам, наша справа абмяжоўваецца тым, каб прааналізаваць і знайсьці ў мастацкім творы такое палажэньне, такі пункт, у якім об'ектыўнае выяўленьне пераходзіць у суб'ектыўнага выяўіцеля, інакш кажучы, у суб'ект, або дзе тое, што вызначаецца і той, хто вызначае складаюць адно організуючае адзінства. А адгэтуль зусім ясная і відавочная задача марксысцкага дасьледваньня поэтычнага твору, якая зьмяшчаецца ў тым, каб у об'екце поэтычнага выяўленьня знайсьці яго суб'ект ў выяўляным, знайсьці выявіцеля" [2]).

Зусім зразумела, што толькі гэтым не павінна і ня можа абмежаваца навукова-марксысцкая крытыка. Гэта зьяўляецца толькі адпраўным пунктам, асноваю, паводле якой паступова высьвятляюцца социяльна-псыхолёгічныя вобразы твору, як аўтогенныя, і гэтэрогэнныя, паступова разгортваюцца перадумовы для дасьледваньня стылю мастац-

[1]) Переверзев. Необходимые предпосылки марксистского литературоведения. Литературоведение, зборнік, стар. 11—14.

[2]) Там-жа, стар. 15.

кага твору, яго соцыяльнай вартасьці. Падыходзячы такім чынам да разгляду творчасьці пісьменьніка, мы маем найбольшыя гарантыі захаваць навукова-об'ектыўную бесстароннасьць і карыстаючыся дыялектычным гісторыка-матэрыялістычным мэтодам правільна вызначыць як соцыяльнае значэньне і твар поэтычнай творчасьці, так і выявіць яе клясавую належнасьць і характар.

Як мы ўжо вышэй казалі, Цішка Гартны, увайшоўшы ў беларускую літаратуру, стаў у баку ад асноўнай плыні нашаніўскае літаратуры. Гэта выявілася ў першую чаргу ў тэматыцы яго твораў, сярод якіх амаль зусім адсутнічалі мотывы нацыянальнага парадку. Яго „Песьні гарбара", „Песьні каваля", „Песьні жняі", „Гарбар на вандроўцы", Песьні грабара", „Ткачыха" і г. д. далі некаторым недалёкім крытыкам, спакушаным „пролетарскімі" назвамі вершаў залічыць Цішку Гартнага ў лік пролетарскіх поэтаў дакастрычнікавае эпохі.

Аднак, такая павярхоўная атэстацыя ня вытрымлівае абсолютна ніякай крытыкі пры бліжэйшым аналізаваньні зьместу твораў як перадрэвалюцыйнай пары, так і пасьлярэвалюцыйнай. Яшчэ і ў сучасны момант пролетарская літаратура толькі складваецца, перажываючы шэраг найбалючых крызісаў творчага і організацыйнага парадку. Яшчэ і цяпер канчаткова не разьвязана спрэчнае пытаньне аб мажлівасьці наогул пролетарскай літаратуры, як літаратуры пераходнага пэрыяду. Пакідаючы ў баку гэтыя спрэчкі, як такія, што ня маюць простага дачыненьня да нашай тэмы, аднак, лічым неабходным падкрэсьліць, што ні тэматыка твораў, ні апісаньне працоўных процэсаў, ні соцыяльнае паходжаньне пісьменьніка не зьяўляюцца дастатковымі перадумовамі, каб залічыць таго, ці іншага пісьменьніка ў разрад пролетарскіх, а яго творчасьці прычапіць шыльду „пролетарская".

Пролетарскай літаратурай можа называцца толькі такая літаратура, якая ў незалежнасьці ад тэмы твору, праўдзівей кажучы, якая ў кожную тэму зможа ўкласьці пролетарскую ідэялёгію, якая пад кутом гледжаньня гэтай ідэалёгіі будзе трактаваць зьявішча і рэчы, што сустракаюцца па ходу дзеі мастацкага твору.

Асноўнай рысай, што характарызуе пролетарыят, як клясу, зьяўляецца, як усім вядома, пачуцьцё колектывізму, імкненьне да змаганьня, цьвярозая ацэнка існуючага стану—як раз тое, чаго бракуе цішкавым грабаром, гарбаром, ткачыхам і інш. Гарбар, усьпеты Цішкам Гартным, далёкі ад усіх пералічаных якасьцяй. Ён, праўда, жыве дрэнна, шмат і цяжка працуе, гаруе бяз працы ў часы беспрацоўя—аднак, гэты самы гарбар заяўляе:

> Не, жыцьця я свайго
> За другіх не аддам
> („Песьні", стар. 4).

У гэтым, як нельга лепей, адлюстроўваецца ўся сутнасьць местачковага рамесьніцтва, па сутнасьці, мяшчанства, для якога індывідуалізм, пытаньне свайго кута—гэта кардынальнейшае пытаньне. З гэтага пласту

могуць выходзіць асобныя гаспадары, выходзяць пролетары, таксама, як могуць і ў большай ступені выходзілі, люмпэны і наогул дэклясаваны элемэнт. Але пакуль яны знаходзяцца ў рамесьніцкім стане, іх ідэал недалёкі, ён акрэсьліваецца вельмі коратка:

Я—гарбар, працаўнік,
Я жыву, каб рабіць
(„Песьні", стар. 4),

а рабіць толькі таму:

Што запрацованы хлеб
Люблю мець за сталом.

Мала таго, гэта псыхолёгічна апраўданая іх социяльным быцьцём неабходнасьць працы, каб зарабіць кавалак хлеба, пад уплывам вакольнага асяродзьдзя „гаспадарчыкаў", падтрыманая і пасьпяхова прапаведваная клерыкальнымі элемэнтамі, якія ўвялі культ працы ў свае рэлігійныя догматы, ператвараецца ў такі погляд, паводле якого працоўнаму і шукаць выйсьця немагчыма.

„Тут твая сходзіць дарога",—гаворыцца ў III-м разьдзеле „Песьняй гарбара" пасьля таго, як прашоўшы да пераканаць ня ў бязвыхаднасьці становішча, гарбар гатоў апусьціць рукі, аддаўшыся на волю лёсу. І далей ён кажа:

Дня хоць ня бачыш і ночы,
Плечы хай корчыць, шчыміць,
Пот залівае хай вочы,
Трэба рабіць і рабіць.
(„Песьні працы і змаг.", 10).

Ніхто бязумоўна ня будзе пярэчыць тэй організацыйнай моцы, якая захована ў працоўнага чалавека менавіта таму, што ён працоўны. Аднак, трэба разьбірацца, бо ёсьць праца і праца. Ёсьць праца, якая зьяўляецца ня толькі крыніцаю для адшуканьня сродкаў харчаваньня і наогул існаваньня, а ёсьць яшчэ праца, якая выгадоўвае змагарскія характары, і якая будучы таксама неабходнаю ў капіталістычнай грамадзе, як і ў социялістычнай, аднак, у першым выпадку організуе барацьбітоў, у другім—будаўнікоў.

Ні таго, ні другога ў працы гарбар ня бачыць. Для яго яна—выключна крыніца жыцьцёвых сокаў. Без яе яму „ля сьвету нечым прыгадзіцца" („П. пр. і зм., 21)", а „ў ёй зоў мой, мая мэта—у ёй спадзеў і вера" („П. пр. і зм.", 21). Ня трэба даводзіць, што і хто зьяўляецца ўласьнікам такога погляду, як ня трэба шмат гаварыць і аб тым, што такая філёзофія ня выгадуе з яе пасьлядоўцаў, хоць якіх ворагаў капіталістычнага ладу.

Як далейшы і зусім лёгічны вынік, адгэтуль, зьяўляецца фэтышызацыя рамесьнікам яго працы адно, а другое—прыкланеньне перад чужой уласнасьцю. Ён выхаваны касьцёлам, царквою, сваім гаспадаром, ізоляваны ад грамады, часам з горкасьцю ды зайздрасьцю кажа:

Дый што ў гэтым я варт,
Што магу працаваць.
Не гатовае браць?
(„Песьні", 4).

Гарбар працуе цяжка, умовы яго працы пякельныя, ён абсолютна не організаваны, а заўсёды падначальваецца, што акружае яго затхлай, рутынай атмасфэры і таму дыапазон яго сьветапогляду празьмерна абмежаваны. Ён бачыць часамі са страхам, як чатыры сьцяны гарбарні апанавалі, цалком прыдушылі і яго волю і нават

У сабе завалілі яны
Усю крыўду, жаданьні і боль
(„Песьні". 5).

Лёгічным выхадам у падобным комплексе сьветаадчуваньняў, абумоўленых быцьцём, будзе імкненьне да анархічнага бунту,—зноў такі толькі ў актах індывідуалістычнага парадку тып гэроя зможа знайсьці *часовую ўцеху.* Прычым „шчасьцем" для такога індывідуалістага будуць вельмі маленькія запатрабаваньні: ён здаволіцца, калі самаасобна будзе аддавацца замілаваньню прыродаю, кінуўшы для гэтай мэты „ўсё і ўсіх". Варта паслухаць, як лятуціць аб сваім „шчасьці" гэрой:

Вось і вечар... хаця я на міг
На адзін сабе шчасьце найду.
Кіну, рыну ўсё і ўсіх
Ды ў поле за лес я пайду.
(„Песьні", 5).

Так, мы падкрэсьліваем, часовую ўцеху гэрой наш знайшоў. Магутнасьць і веліч прыроды, як бясконцая сіла акрыляла яму дух... Але яна не знайшла ў ім адпаведнай глебы, яна не знайшла об'екту, які-б мог, пачуўшы ўсю прыгожасьць магутнасьці прыроды праверыць свае сілы і накіраваць іх на ўчынак, варты пролетара--на барацьбу, на змаганьне. Не, ён куды сьціплей—ён толькі „як сілы жывіцелькі той набярэцца даволі ў палёх", дык толькі і скажа:

Мне лягчэй стане ў працы цяжкой
У майстэрні сьцянах чатырох
(„Песьні", 5).

Фэтышызуючы працу сваю, становячыся нявольнікам *свайго* варштату, рамесьнік, бязумоўна, ня маючы мажлівасьці зрабіцца гаспадаром, бо ў гаспадары выбіваюцца толькі адзінкі, у той час, як усёй іх масе суджана паступовае выцісканьне з рынку працы, ня бачыць выйсьця. І таму бязьмежны пэсімізм робіцца яго законным спадарожнікам. „Нам не пазбыцца нядолі, што ты сабе не рабі" [1]), вось заключэньне, да якога прыходзіць ён. Найболей яскравым узорам гэткага бязвыходнага пэсімізму можа служыць верш „Гарбар на вандроўцы", дзе нявер'е ў лепшую будучыну („Дзе-ж скончэньне мукі яго, невядома", „Песьні", 7) мяжуецца і зусім лёгічна зоолёгічнай злосьцю на людзей, да ўсяго ваколічнага. І ня дзіўна. Рамесьнік, абмежаваны вельмі вузкім колам сваіх інтарэсаў індывідуальнага парадку, абмежаваны ад грамады наогул і ад кола сваіх таварышоў, як конкурэнт на рынку працы, у самыя крытычныя хвіліны свайго жыцьця ня шукае

[1]) „Песьні працы і змаганьня". Бэрлін, 1922 г стар. 9.

паратунку ў грамадзе, яе потэнцыяльнай сіле, а наадварот, кідае ёй у вочы зусім незаслужаны паклёп:

Але што-ж—н я  ч у ю ц ь
Л ю д з і  і  н я  б а ч у ц ь,
Я к  б р а т ы  г а р у ю ц ь
І  ў  н я д о л і  п л а ч у ц ь.
А на крык: „работы"!
— „У нас няма"!—гукаюць.
З  д з і к а ю  а х в о т а ю
Д а л е й  а д с ы л а ю ц ь.
(„Песьні", 8).

Яго соцыяльныя прыгоды, мейсца ў грамадзе і ўзаемаадносіны з ёю, адмоўна ўплываюць як на яго характар, так і робяць адмоўны ўплыў на яго адносіны да ўсёй грамады, у якой ён бачыць людзей перш за ўсё сытых, а таму, выходзячы з прыслоўя, што „сыты галоднаму не спагадае" і яму варожымі. Наогул, „на людзей ён злосны, злосны і на сьцюжу" („Песьні", 9). Аднак, даць сабе справаздачу ў сытуацыі, разабрацца ва ўсёй сутнасьці грамадзкіх узаемаадносін ён ня мог і пахіляючы галаву, знаходзіў выхад у жальбе на долю:

Доля бач, такая—
Ею ён пракляты...
(„Песьні", 9).

Сугучным па настрою з вышэйпаданым мотывам зьяўляецца і верш „Песьня грабара", які ня ўносячы амаль нічога новага, аднак робіць чарговы крок у сьветапоглядзе гэрояў мастацкіх вобразаў раньняй творчасьці Цішкі Гартнага. Гэты крок выяўляецца ва ўвядзеньньні элемэнтаў фаталістычнасьці, якая, ахопліваючы ўсю істоту выведзеных ім тыпаў, загадзя прыгнятае іх сваёй цяжкасьцю, а таму робіць справу змаганьня за новыя лепшыя формы побыту і жыцьця, як-бы непатрэбнай. Беспадстаўнае пракланеньне перад лёсам [1]), бязухільнае падначальваньне яму выклікае настроі, падобныя выказаным у наступных радкох:

А дарога жыцьця ухарошыла ў мрок,
Каб я шоў, як сьляпы, каб бяз конца ішоў
Зямлю вечна капаў і дабра не знайшоў.
(„Песьні" 11).

Мы наўмысьля аддалі шмат увагі аналізу, праўда, няпоўнаму (у далейшым нашым выкладзе мы яго папоўнім) раньняй творчасьці поэты і то толькі таму, каб паказаць, што ідэёвае ўбоства гэрояў, выяўленых поэтаю ў мастацкіх вобразах сваіх першых твораў з бегам часу не адмерла, а наадварот, зьявілася і ў далейшых творах спадарожнікам выведзеных тыпаў. А дасягнуўшы свайго кульмінацыйнага пункту ў рамане „Сокі цаліны" ў вобразе Рыгора Нязвычнага ў тых ці іншых варыянтах ідэёвае ўбоства знайшло сабе прыпынак нават у

[1]) А есьць такія крытыкі, якія у падобным сьветапоглядзе знаходзяць і пробуюць угрунтаваць элемэнты „здаровага дэтэрмінізму" (?!)

апошніх творах. Ды яно і зразумела. Паглядзім, адкуль вышлі гэроі паказаныя ў творах Цішкі Гартнага. Што абумовіла іх чыннасьць, гадоўляй якіх соцыяльных пластоў яны аказаліся, якім соцыяльна-псыхолёгічным катэгорыям падначалена іх думаньне?

Вобраз Рыгора Нязвычнага беспамылкова можа быць намі аднесены да тыпу аўтогенных вобразаў *усей* творчасьці пісьменьніка. Гэта менавіта яго вачыма мы бачым сьвет, скрозь прызму яго сьветапогляду глядзім на падзеі, што разгортваюцца на яго жыцьцёвым шляху праз яго ўчынкі і дзеяньні мы можам ацаніць ролю і значэньне клясы, што яго выгадавала, праз яго філёзофскія погляды мы знаёмімся з думаньнем тэй часткі грамады, прадстаўніком якой ён зьяўляецца— адным чынам „у выяўляным бачым выявіцеля“.

І не бяда, што Рыгор Нязвычны, паказаны ў „Соках цаліны“ даецца нам пад другімі імёнамі ў іншым акрэсьленьні ў вобразах Агапы з апавяданьня „Спатканьне“, Антося Ступы („Вялікодная каробка“), Андрэя Кеплі („Сымонка—інжынэр“), Андрэя („Штрэйкбрэхер“), чырвонаармійца Панкеля („Чырвонаармеец Панкель—Ліпа“) і г. д. і г. д. Гэта ўсё адзін і той-жа самы вобраз, пададзены ў радзе варыянтаў, але найшчыльнейшым чынам псыхолёгічна паміж сабою зьвязаных. Як і абсолютная большасьць выведзеных пісьменьнікам у сваёй творчасьці гэрояў, якія зьяўляюцца тыпамі местачковага, а часткаю і гарадзкога мяшчанства, акутанага цэлаю сыстэмаю сваеасаблівых узаемаадносін, як між сабою, так і іншымі клясамі грамадзтва, Рыгор Нязвычны— Сілкаўскі мешчанін, выехаўшы ў горад, дзе паступіў на завод рабочым, уяўляе сваёй асобаю тую катэгорыю местачковага жыхарства, для якой „Песьні“ Цішкі Гартнага—сугучная сымфонія іх псыхолёгічнага ладу. Паглядзім, ці гэта так. Вось характарыстыка Рыгора, дадзеная яму Зосей: „...Рыгор!.. Рыгор!.. Які не рашучы ён, які асьцярожны і ціхі!.. Я-ж ішла яму насустрэч, я адчыняла перад ім скарбы свае душы, дапускала яго к ім, а ён... адхіліў усё гэта ад сябе... Чаму? Баяўся? Ня верыў мне, ці асьцярагаў іх? Хто яго ведае—то яго таямніца“... (С. Ц. I, ст. 4). Так, Зося простая дзяўчына, мешчаначка, неспакушаная ў чалавечых хітрыках не змагла даць станоўчага адказу, але сваймі дагадкамі яна папала ў самае істотнае, што ўласьціва Рыгору, а ў яго асобе і таму колу грамадзтва, якое ён выяўляе. Яго нерашучасьць, яго асьцярожнасьць зусім лёгічна законны і законны таму, што Рыгор сам ня верыць у свае сілы. Болей таго, ён ня ведае нават, у чым яго сілы і дзе іх шукаць. Ён толькі лятуціць: „Эх, здаецца, каб меў сілу і волю, я-б абышоўся бяз усякіх староньніх падмог, а сам, уласнаю рукою, не адкладаючы ні на квадранец надалей, усё перарабіў-бы на свой манер. І ніхто не скардзіўся-б на мяне, ніхто і словам не заікнуўся, што я кепска зрабіў гэта... бо я вельмі маю шырокую і добратворчую душу, поўную любоўі і сапагадай сэрца. Але што-ж, чалавеку дано, ды яшчэ гэткаму малому, простаму, нячэмнаму працаўніку як я, Рыгор? Зусім нічога, зусім нічога... А ня маючы нічога—нічога і ня зробіш“ (С. Ц. I, ст. 82).

Вось толькі аднэй гэтай выімкі нам, здаецца, хопіць, каб прызнаць „песьні“ зусім аналёгічнымі разважаньням Рыгора. Аналёгічнасьць іх бясспрэчная, а ўяўляюць яны сабою такі бязьмежны індывідуалізм, такі ідэёвы хлам, такое калецтва думкі, якое толькі мажліва ў грамадзе, што стаіць у баку ад вытворчых процэсаў.

У соцыяльна-гістарычным сэнсе такі тып не ўяўляе сабою нічога новага. Гэта ўсё тыпы аднаго і таго-ж асяродзьдзя—тупога мяшчанства, якое выгадавана на прынцыпах непарушнай індывідуалістычнасьці, але якое аднак, падпадае пад усёразбураючы молат капіталістычнага панаваньня. Два гады працы на фабрыцы не перарабілі псыхікі Рыгора Нязвычнага. Нават у ацэнцы „чалавека“ ён ні на крок не адыйшоў ад тае зоолёгічнае варожасьці, да якой ён прыйшоў падчас беспрацоўя—яна цяпер толькі крыху згладзілася, паабцёрлася завостранасьць, выкліканая голадам, затое набылася сытая сэнтымэнтальнасьць.

„Чаму гэта чалавек такі бязвольны—пытаецца Рыгор—такі нікчэмны, што ня можа сказаць і зрабіць: „будзь па мойму“. А здаецца, „чалавек“—так горда і голасна зычыць[1]! Чалавек, які думае, пляиуе, будуе. Супярэчнасьць, перакорнасьць валодаюць ім упарта, недапускаюць яго падняцца вышэй за сябе, стаць гаспадаром свае самотнасьці. Пакуль чалавек—трэска на хвалях і ня ў сіле сказаць: „я дайшоў. Я ступіў на цьвёрды грунт валадарства прыродаю якога не падмыць вадзе, нарушыць ветру, не падтачыць часу. Тут мая прыстань, гэта мая фартэцыя, з вышыні каторых я магу непадатна сачыць на мора, якое бушуе пада мною. Я цар, я валадар усім жыцьцём і сам сабою. Ва мне ўсё і ўсё маё. Як вока акіне—галы, як думка асягне—прасторы. Захачу—і калясо жыцьця паверціцца па маёй указцы“. (С. Ц. II. ст. 28).

Гэтыя „гарадзкія“ разважаньні Рыгора глыбока карэньнямі ўваходзяць у яго гарбарскае мінулае, калі ён марачы аб лепшай долі кідаўся ў бакі, настойліва абходзячы адзіна правільны шлях. Гэта ён сам бязвольны што-небудзь зрабіць, зварочваўся да другіх, запрашаючы, каб яны шукалі яму долю:

І шукай усюды
За мяне ты долю.
(„Песьні“, 20)

У гэтым і выяўлялася яго нерашучасьць, боязь ашукацца, хоць, уласна кажучы і губляць яму няма чаго было. Аднак, усё-ж ён лічыць за лепшае прыглядзіцца да таго, што зробіцца другімі, каб толькі пасьля таго выкарыстаць сабе патрэбнае. А калі прыдзецца, тады

[1]) „Человек—это звучит гордо“ - кажа Сацін у „Дне“ М. Горкага. Гэта аналёгічнасьць думаньня Горкаўскага басяка і Цішкавага пролетара таксама шмат гаворыць за тое, што іх абодвых злучае адно меркаваньне—выбітых з жыцьцёвай каляіны людзей. Але Сацін дайшоў да сваеі іроніяй прасякнутаі думкі, менавіта „на дне“ і тут ён праўдзівы. А Рыгор са сваёй сэнтымэнтальнасьцю сытага мешчаніна ў бясплённых шуканьнях „шляхоў“ не выклікае ніякага спачуваньня, а філёзофія яго —філістэрства.

„перад тваёй мочай (!? *Ф. К.*) нізка пакланіцца“ („Песьні“, 21). Ніхто, аднак, ня змог ахвяраваць свае працы, каб вывесьці з бездані, што яго апанавала, і з горкасьцю прымушан быў констатаваць мешчанін, што:

З боку мяне праляцелі
Краскі шчасьлівых гадоў
(„Песьні“, 22).

А адгэтуль і такі сум на душы, такая непрыстасаванасьць у грамадзкім жыцьці. Верш „Дзе вы гады маладыя“ [1]) найлепш аб гэтым даводзіць. Гэта неўсталёванасьць, якая напаўняе гэрояў поэтычных твораў Ц. Ґартнага сьмяротную нудою, бязвольнымі стогнамі над нядоляй, аднак, зьяўляецца ў той-жа час і прычынай ілюзорнай жыцьцёрадасьці, калі асуджаны на адміраньне пласт цягнецца да жыцьця і ў конвульсіях агоніі часам лятуціць аб быццам-бы шчасьлівых і лепшых часох. Мы чытаем і адчуваем усю марнасьць лятуценьняў гэроя вершу „Думкі прэч“ [2]), калі ён з роспаччу, адкінуўшы думкі аб сьмерці, крычыць:

Годзе душу маю
Вам атрутай паіць
(„Песьні“, 24).

А замест таго, каб накіраваць свае думкі ў здаровае ўлоньне, крычыць наогул: „прэч думкі скарэй з маей сьцежкі-пуцi“, таму, што „я яшчэ малады і бесклапотны увесь“, таму што „чую, бачу ўсё, весялюся, жыву“. Але ўсё гэта толькі самасуцяшаньне, самаабман, імкненьне хоць у беспадстаўных марах суцяшаць свае пачуцьці. А як толькі пройдуць гэтыя мары, калі разьвеюцца навеўныя, чароўныя сны, тады, калі ачуняе ад самаадурэньня чалавек, тады сапраўды чалавечым голасам. голасам з праразьлівым лямантам, з падвойнаю сілаю загучыць з яго вуснаў:

Дык хоць адну кроплю
Волі яму дайце,
Выляцець гуляці
Эх, не перашкаджайце
(„Песьні“, 25).

Ня цяжка даведацца, аб якой волі марыць зьбянтэжаны гэрой. Гэта ён сам у хвіліны сталых разважаньняў аналізуючы самога сябе, параўноўваючы імкненьні з рэчаіснасьцю і мажлівасьцямі, прыходзіць да вываду, што „Я—нішто“ [3])—вываду, які будучы ўзяты сам па сабе аддае такою пакораю, якая толькі і ўласьціва клясе грамадзтва, што ня мае жаднае пэрспэктывы росту і здае адна за другою свае жыцьцёвыя пазыцыі. Гэта ён гаворыць, як

Часта ў нутры маем закіпае агонь
Нестрыманых жаданьняў і смаг,
І я страшным раблюся, як распуджаны конь, (!)
Не магу устаяць на нагах.
(„Песьні“, 30).

[1]) „Песьні“, Ленінград. стар. 21.
[2]) Там-жа, стар. 24.
[3]) „Песьні“, стар. 30.

Аднак, не надоўга хапае яму гэткага „пэнду“. Суровая рэчаіснасьць прымушае яго глянуць цьвяроза навакол сябе, а глянуўшы і ўбачыўшы ўсю складанасьць форм узаемаадносін і ня маючы сілы стаць на пэўны шлях, прымушаны ўсім ходам жыцьця цягнуцца ў яго хвасьце, ён лераконваецца:

Але сілы стыхіі ў прыродзе кругом,
Як зьяуляю я празрыста ў вачох,
Ды зраўню іхню моц з бурлячым агнем
Сваіх дробных жаданьняў і смаг,—
Я нявольна тады засьмяюся душою,
Затушыўшы агонь нутраны,
Ды спытаю сябе, нібы сам ня свой,
Ля чаго і нашто я гадны?

(„Песьні“ 30).

Вось куды ўпіраецца Рыгор Нязвычны ў сваім філёзофскім разуменьні „чалавека“. Зробім разам з поэтаю наступны крок, абумоўлены лёгічным думаньнем. Калі чалавек, „які так горда гучыць“ нішто, калі гэты чалавек аказаўся ў разуменьні поэты вырваным з свайго соцыяльнага асяродзьдзя—дык дзе-ж яго шляхі? Куды яны вядуць? Шлях адзін і адшукаць яго ня цяжка. Мы раскрылі ў аўтогенным вобразе Рыгора Нязвычнага яго соцыяльную прыроду—прыроду мяшчанчука дый наогул дробнай буржуазіі, прасачылі, як складаліся і чым абумоўліваліся яго погляды. Паглядзім, куды яны вядуць.

Разбурыўшы веру ў чалавецтва, вытруціўшы з сьвядомасьці веру ў грамаду, ня даўшы зусім клясавага разуменьня соцыяльнага ладу яе, Цішка Гартны павёў сваіх гэрояў другім шляхам—ён накіраваў іх простым шляхам у... містыцызм, кінуў у тэолёгічную прорву. Паставіўшы *свайго гэроя ў рэлігійным экстазе перад вобразам Хрыстапа*сіцеля:

Перад вобразам, Спасе, Тваім
З непакрытай стаю галавою
І малюся я сэрцам, душою
Тваім мукам вялікім, сьвятым.
Вось з малітваю гэтай пабоч
На убіўцаў Тваіх—варагоў
Многа так выліваецца слоў
Злосьці дзікай і цёмнай, як ноч.
Я пытаю бязсэнсна сябе:
І зачым-жа мой бог іх прашчаў,
І глуміцца з сябе дапушчаў,
Уступіўшы свой меч у барацьбе.

(„Песьні“, 40).

Цішка Гартны гэтым самым даў лёгічна закончаны вобраз мешчаніна, гэтым самым акрэсьліў свой літаратурны стыль, вызначыў сваё месца ў беларускай літаратуры увайшоўшы ў яе, як аполёгет чацьвертага стану.

Давёўшы гэтае зусім лёгічна ўгрунтаванае палажэньне, я ўжо бачу вашае зьдзіўленьне, чую непакойнае запытаньне: „Як-жа так?“ Асноўны

організуючы тып усей творчасьці—Рыгор Нязвычны зусім ня містык... Ён нават рэволюцыянэр! Хадзіў на дэмонстрацыі, падымаў забастоўку! Ён нават... соцыял-дэмократ!

— „Так, усё гэта так!"—пасьпешна адказваю я вам і толькі дадам што гэта ён, Рыгор, сам сябе называе соцыял-дэмократам.

Нам-жа не да твару верыць на слова—нават і гэрою эпічнага роману. Мы лепей прааналізуем яго ўчынкі, разьбярэмся ў яго філёзофскіх меркаваньнях і тады павінны будзем сказаць: „Так Рыгор Нязвычны абмінуў Хрыста, але ён з гэтага моманту папаў у такое фальшывае становішча, у якім пры ўсім жаданьні аўтара надаць яму пэўную годнасьць, адпаведную яго партбілету, ён ня можа ўжо іграць праўдзівай ролі, ён сам сябе адчувае ніякавата і гэта фальшывасьць непрыкрыта кідаецца ў вочы пры аналізе роману. А ўрэшце, бачучы, што няма ратунку, ён імкнецца выкарыстаць тое, што „лёс яму паслаў".

Мы ўжо раней мімаходам успаміналі аб мажлівых шляхох для местачковага рамесьніцтва. Частка з іх, вельмі нязначная, прабівалася ў „гаспадары і гаспадырчыкі", некаторыя пролетарызаваліся ідучы ў горад на фабрыкі, заводы, капальні, частка басякавала.

Капіталістычны горад з боем, з вялікімі ахвярамі, але нясупынна наступаў на рамесьніцкае мястэчка, падначальваючы яго жыцьцё сваім жорсткім законам. Усё, што неслася ад гораду, усё гэта было настолькі нязвычайным, настолькі грозным для ціхага, патрыярхальнага ладу нашага мястэчка, што. бязумоўна, наводзіла жах на прывыклага да спакою абываталя. Сваімі таннымі таварамі заваёўваючы вясковы рынак, ён выбіваў з рук рамесьніка адзіную крыніцу для існаваньня і таму, зразумела, што гул машыны ня цешыў зацягнутае балотнаю плявою вуха рамесьніка рытмам організаванае працы. Ён быў пудзілам, страшыдлам, якім палохалі дзяцей яшчэ ад калыскі.

> Гора_сілаю загоніць
> У цемны горад. на завод,
> Дзе машына енчыць, стогнець.
> Нутро разьядае смурод.
> Там цябе прывяжа сіла
> Да машынаў, да сталоў,
> Дзе ты будзеш да магілы
> Стаяць зьвязаным. бяз слоў.
> Ты разлучышся са сьветам.
> Як у вастрозе будзеш жыць...

чытаем мы ў „Калыснай песьні" [1]).

Я, бязумоўна, далёкі ад таго, каб ідэалізаваць пастаноўку працы на капіталістычнай фабрыцы, або ўмаляць яе ўплыў на стан здароўя рабочых. Капіталістычная фабрыка ёсьць перш за ўсё капіталістычная фабрыка. Але гэта фабрыка выгадавала той пласт грамадзтва, які аўладаў капіталістычнай сыстэмаю і пасьпяхова будуе соцыялістычны, парадак. Значыць, не стаяў рабочы „зьвязаным бяз слоў" да магілы

[1]) „Песьні працы і змаганьня". Бэрлін. 1922 г., стар. 22.

значыць, „не разлучыўся ён са сьветам“ і ня была для яго фабрыка тым, дзе у якой ён як-бы „ў вастрозе сядзеў“.

Але мешчанін ня бачыў усяго гэтага. Фабрыка, завод адбірала ад яго варштат і ён крычаў у „нема глосы“: Каравул! Адсюль і такія калысныя песьні, пад якія і вырас Рыгор Нязвычны.

Ці зрабілі яны на яго ўплыў? Так, зрабілі. Вось яго першае ўражаньне аб заводах.

— „А за-а-аво-о-ды, за-воды!!—з асобным прыціскам зацягнуў ён:— каб вы толькі пабачылі: аграмадныя такія дамішчы, даўжынёю, напрыклад, як ад рэчкі да цэрквы; у тры, чатыры, а то і пяць атажоў. А пры боку трубы высачэрныя-высачэрныя—к самаму небу цягнуцца і бяссьціханьня сапуць чорнаю сопухаю. Страшна нават паглядзець з боку. А калі ўвойдзеш у такі завод — колькі там народу-у-у-у! Як мурашак, як на пажары і кішаць, бегаюць, лётаюць. Машыны гудуць, калёсы верцяцца, шум, стук, грукат, сьвіст... І я на адным з такіх працую“. (С. Ц. І. 39). Завод яго прыціснуў сваёй веліччу, сваёй грандыёзнасьцю даў пачуць усю мізэрнасьць яго мяшчанскага індывідуалізму з яго маленькім мірком запатрабаваньняў, з яго духовым жабрацтвам. Цьвёрда трымаўся Рыгор Нязвычны за свае прышчэпленыя змалку забабоны. Туга ён паддаваўся колектыву. Ён адпрацаваўшы два гады на заводзе душою заставаўся ў Сілцох. Не здарма-ж яму здавалася, як: „Цэлымі дзянькамі карпеючы ў хвабрыцы й чуючы бяссьціхонны шум і грукат машын, мне здаецца—разважае Рыгор у дарозе з Ліцку ў Сілцы—што гэта трашчаць і грукочуць не страшэнныя хвабрычныя машыны, а калёсы мужыцкіх драбін да пана—радаў, хутка коцячыся з гор па камяністым, каляістым сьцежкам родных палеткаў“ (С. Ц. І, стар. 6).

Вывад аб тым гасьцяваньні Рыгора на заводзе пацьвярждаецца самім творам, у якім паміж іншымі аўтарскімі рэмаркамі мы знаходзім такога зьместу разважаньні: „Пасьля двух год разлукі з гэтым усім, калі Рыгор вымушан быў ня бачыць усяго гэтага (гутарка ідзе аб Сілцоўскім кругавіду і жыцьці *Ф.К.*), жывучы ў чужых краёх, дзе і поле, і лясы, і людзі—усё-усё другое, інакшае, чужое ля яго—знаёмыя мясьціны ў родным краю паказаліся яму такімі блізкімі яго сэрцу, такімі роднымі і дарагімі, што ён зусім не прыкмячаў ва успамінках тае мяжы, якая двухгадовай прагалінай ляжала ў яго жыцьці. Там, у глыбіні яго душы, якая ні на хвіліну не пакідала дрэнчыць па родным краю, па сваіх людзях—цяпер, калі ўсё паказалася яго вачом, раптам забурліла кіпучая хваля любові і нейкага неаказнага натхненьня“ (С. Ц. І, ст. 35).

Такім чынам, аналізуючы характар Рыгора Нязвычнага ня можна абыйсьці моўчкі факту абмежаванасьці яго духовага кругавіду, які па сутнасьці вельмі дробны, скромны і як у зьвязку з гэтым абмяжоўваецца яго задача ў жыцьці. Ня можа скрасьці гэтага факту і тое, што Рыгор займаўся чытаньнем і тое, што ў яго „побач з міскаю ляжала кніжка, у якую ён глядзеў, падносячы лыжку к губе наўгад“

(С. Ц. І, 132). Гэтая кніжка не зьявілася нечым, што магло-б выштурхнуць яго з таго стаячага балота, сталым выгадавальнікам якога ён зьяўляўся. Яго кніжка ўспрыймаецца блізкімі яму людзьмі, як дзівацтва (132), а яго самога ўсё-роўна не выцягвае на прастор. „Толькі спаць, або ў забыцьці ляжаць, каб ня бачыць і ня чуць жыцьцёвых праяў, хацелася Рыгору“ (С. Ц. І, 122).

Такія пачуцьці не навіна, іх мы знойдзем у Обломава, які прадстаўляе ў расійскай літаратуры дваранства, што выраджаецца. Можна іх знайсьці ў літаратуры сярэдніх вякоў, дзе яны характарызуюць упадніцтва арыстакратаў, але яны ўласьцівымі пролетарыяту, які змагаецца за лепшую долю, ніколі ня былі, а іх носьбіты не павінны прэтэндаваць на пролетарскую годнасьць і тым больш на годнасьць яго авангарду—найбольш палітычна сьвядомай часткі. У гэтым наяўна фальшывасьць імкненьня ідэалізаваць Нязвычнага, як соцыял-дэмократа.

Дый ня мог ён, застаючыся вечна чужым у горадзе, не дайшоўшы і ня зьліўшыся з рабочай клясай псыхолёгічна стаць на яе чале. Ён, „жывучы ў вялікім і шумным чужым горадзе, толькі й чуў, што грукат і шум, стук і бразг, толькі й бачыў, што сухіх чорствых людзей, чужыя ня толькі чужому, а адзін другому, незьясьнёных, зацягнутых клейкай сілай у свае ўласныя будзённыя клопаты, няпрыветлівых, беспагадных, з якімі нельга, боязна перакінуцца словам-другім, ня толькі каб падзяліцца сваймі думкамі, жаданьнем, парадавацца, парадавацца, ці пасумаваць разам Халодныя-бы каменьні бруку“. (С. Ц. І, 62).

Гэта адзін бок справы, а з другога боку ўсім сваім выхаваньнем ён абавязан таму, што ня мог зьліцца ў адно цэлае з рабочай клясай. Ён выкарыстаў гарадзкую культуру, нахапаўся верхаў яе толькі для таго, каб зрабіцца „нібы тым панам альбо хвальбаркаўцам якім: чысьценькім, беленькім у пекным гарнітурчыку, у чорным дарагім капялюшы, у манішцы. Прычэсаны, прыгладжаны, паністы, гасьцінны, далікатны“ (С. Ц. І, 40). Такім ён прадстаў у вачох сваёй маткі Стэпы і выклікаў поўнае шчырасьці захапленьне сваім улюбёнцам і правільную зусім трапную з яе боку ацэнку: „Такім разумным, такім *хітрым* удаўся яе сын“ (С. Ц. І, 41). Менавіта хітрым. Мы гэта падкрэсьліваем, зазначаючы на гэту рысу, як уласьцівасьць Рыгора, выкарыстоўваючы якую ён імкнецца стаць нават... рабочым правадыром. Але аб гэтым пасьля.

Заглянем на хвіліну ва ўнутраное жыцьцё Нязвычнага. Прааналізуем яго адносіны да жанчыны. Разьбярэмся ў мотывах каханьня, якія займаюць ня мала месца ў творчасьці Ц. Гартнага. Вернемся крышачку назад, менавіта к таму пэрыяду, калі Нязвычны быў яшчэ бязыменным гэроем тыпажу творчасьці Ц. Гартнага. Мотывы каханьня таксама як іншыя элемэнты лірычных жанраў можна і трэба разглядаць у соцыяльным аспэкце з тым, каб на падставе матэрыялістычнага аналізу даць зусім праўдзівае разуменьне мастацкага твору, выявіць яго соцыяльныя карэньні, дакладна акрэсьліць яго ідэялёгічны кірунак,

Мы, напрыклад, з навуковай дакладнасьцю на прыкладзе Дантаўскай „Боскай камэдыі“, якая прасякнута бязьмежным каханьнем Дантэ к Бэатрычэ, маем мажлівасьць беспамылкова выявіць і клясыфікаваць ідэёвы стан таго асяродзьдзя, сынам якога быў Дантэ, заднаго боку, а з другога, яна дае клясычны па сваёй высока-мастацкай вартасьці малюнак тэй барацьбы, якая адбывалася паміж сьвецкай і духоўнай часткай сярэднявечнага грамадзтва. „Демон“ Лермантава прасякнуты элемэнтамі каханьня Дэмона да Тамары дае найяскравейшы малюнак заняпаду расійскай арыстократыі 30-х гадоў, увасабляючы яе ў сваей асобе аўтогенным вобразам. На вобразах каханьня Пушкінскай Тацяны відавочна высьвятляецца аналёгічнае ў адносінах да дробнапамеснага расійскага дваранства. А Гётэўскі Вэртэр? Ці не яскравы прыклад таго, як па мотывах каханьня можна знайсьці сынтэз грамадзкіх настрояў пэўнага соцыяльнага ладу ў пэўным політычным асьвятленьні.

Аднак, вернемея да тэмы. Паглядзім на афармленьне гэтага жанру поэтаю. Яго першыя вершы на гэту тэму, зьмешчаныя ў зборніку „Песьні“ пад цыклем „Песьні каханьня“ (ст. 12—19) зьдзіўляюць сваім формальным спрашчэнствам, даведзеным да такой ступені, калі эмоцыяльная зарадка чытача пасьля іх прачытаньня роўна нулю, а таму і мастацкая вартасьць іх роўназначна гэтай-жа ацэнцы. Зьяўляючыся пераважна напоўненымі мотывамі асабістых перажываньняў, яны зьдзіўляюць таксама і сваім ідэёвым убоствам.

Тып мешчаніна аўтогэнізаваны ў вобразе Нязвычнага Рыгора нам з папярэдняга аналізу ўжо вядомы, як тып бязвольны, бесхарактарны індывідуалістычны ў пытаньнях соцыяльнага парадку. Ці мог ён быць іншым у сваіх выключна асабістых пытаньнях? Бязумоўна не, бо тады мы павінны былі-б прызнаць абасобленасьць індывідыуму ад грамады, чаго, бясспрэчна, сказаць ня можам. І таму аналізуючы творы з тэматыкаю каханьня мы перш за ўсё спатыкаемся з настроямі выкліканымі няўдачамі наогул і таксама ў каханьні, што ў сваю чаргу выклікае нявер'е ў самога сябе і свае сілы.

Я так пэўна не зьясьнею
Той красы вялікай,
Што лецца сьвету сонцам
У яго дзіўным бліку[1]).

(„Песьні“, 11).

Гэта няпэуненасьць не зьяўляецца зьявішчам выпадковым у сьветапоглядзе гэроя, яно, як цень бацькі Гамлета вечна спадарожнічае яму і выклікае вечна актуальнае для яго запытаньне

Ці захочаш мяне мілым меці,
В е ч н а сэрца пытае падчас [1])

(„Песьні“, 15).

[1]) Пакідаем у старане грамагычную няпісьменнасьць. Калі „вечна“, дык ня можа быць „падчас“. Відавочна слова „падчас“ ужыта для захаваньня рытму, ня лічачыся з з тым, што ў концэпцыі з „вечна“ яно ўносіць бязглузьдзіцу.

Гэрой сам імкнецца часам адшукаць прычыны сваёй няўдаласьці і як гэта не парадоксальна, знаходзіць іх у адмоўнай ацэнцы сваіх асабістых якасьцяй. Прыходзячы да вываду, што „усё-ж я нудны, нездаровы“ („Песьні“, 14) ён і ў трактоўцы каханьня прыводзіць да нейкіх аморфных, адцягненых ідэялістычных тэорый. Ён кажа:

І каханьне душа
Можа праўду казаць
Усю сьвятасьць душа
Яе можа спазнаць („Песьні“, 16) (?)

Конкрэтнае-ж яго мэтаімкненьне вельмі і вельмі недалёкае. Яно не сягае далей „ціхага сямейнага кута“, у якім можна было-б жыць, „быццам птушкі, у дваіх так шчасьліва“ („Песьні“, 18). Гэтым ідэалам двухспальнага ложка жыў і жыве мешчанін усіх часоў і народаў і вакол гэтага пытаньня, як начныя матылі вакол запаленай лямпы, кружацца яго лятуценьні:

Ці-ж надыйдзе той міг, што дваіх
Нас злучае...
(„Песьні“, 18).

пытае гэрой, акутаны вэлюмам індывідуалізму і зачараваны пэрспэктывамі маленькага „шчасьця“.

Аднак, Рыгор Нязвычны сам ведае, што „горад старанна шліфуе людзей на свой лад, перамяняе іх настрой, склад душы“ (С. Ц. II, 96) і гэтага шліфаваньня не абмінуў і наш гэрой. Пастараемся прасачыць пад якія плыні „гарадзкога“ ўплыву падпаў Рыгор Нязвычны і як у зьвязку з гэтым зьмяніўся яго сьветапогляд і яго адносіны да жанчыны. Возьмем перш за ўсё яго адносіны да Зосі. У лісьце, прысланым ёй з Рыгі, мы чытаем: „Каханая Зоська! Паўсьвету правандраваў, мільёны дзяўчат бачыў, але ніводнае ня змог падмеціць, каб хоць каліва на цябе паходзіла. І ня толькі мільёнаў, а цэлага сьвету на цябе не праменяю... Ведай гэта—я ня хлушу“ (С. Ц. I, 6). Прымем на веру гэта „асьвядчэньне“ і паглядзім, да якіх скуткаў яно прывяло.

Зося—дачка заможных гаспадароў, у быце якіх моцна ўкараніліся старасьвецкія звычаі, супроць якіх паўстае Зося. Яна адчайна і рашуча змагаецца за сваю свабоду, за права свабоднага выбару чалавека, з якім магла-б зьвязаць сваё жыцьцё. Такім чалавекам для яе зьяўляецца Рыгор. Яго лісты, яго абяцаньні, яго быццам-бы палкае каханьне, яго „дэмократызм“, змагарская практыка даюць ёй надзею на яго падтрыманьне. Яна, ня гледзячы на свой дабрабыт, скардзіцца Рыгору: „Эх! Чаму ўжо мне было радзіцца на сьвет...—уздыхнуўшы праказала Зося.

— Чаму,—*пужліва*, каб ня ўразіць болей яе душы запытаў Рыгор.

— Так, вельмі цяжка мне жыць!...

— Перамяні сваё жыцьцё.

— Як. Ці-ж можна.

Рыгор убачыў, што гутарка ізноў выходзіць на балючую тэму і пастараўся павярнуць яе ў іншы бок“ (С. Ц. I, 92). Чаго-ж хацела

Зося? Якімі былі яе мары? Яна спадзявалася, што Рыгор яе возьме з сабою, што ён дапаможа ёй парваць усе ніці, што зьвязваюць яе з домам. Аднак, яна памылілася. Рыгор бачыў у гэтым „балючую“ тэму, „стараўся яе абмінаць“. Няздольны да грамадзкага, меней таго, чалавецкага ўчынку, ён, аднак, у адносінах да Зосі, як і да пазьнейшых сваіх об'ектаў, застаўся зоолёгічным зьверам-самцом, непераборлівым у сродках, каб толькі дасягнуць свае мэты. Сёньня згвалціўшы Зосю, ён ўжо назаўтра забывае аб ёй, сустрэўшы у Ліцку на чыгуначнай станцыі Ганну, зусім невядомую яму дзяўчыну, але якая „выклікала рэзвыя жаданьні“ (С. Ц. II, 69).

Яшчэ не забыліся пацалункі, якімі ён абсыпаў Зосю, яшчэ не заглохлі яго абяцаньні, як Рыгор „ня супярэчыў таму, што яна (г. зн. Ганна) рашуча выціснула з яго нутра Зосю“ (С. Ц. II., 69). І заспакойваючы свае сумленьне тым, „што Зосі на раду напісана адно, а яму другое“(С. Ц. II., 69), накіроўвае ўсе свае здольнасьці на „обработку“ Ганны. А ў гэты час Зося яшчэ не губляе веры ў „свайго“ Рыгора, толькі і чакае, што дапамогі ад яго. „Мне трэба падмога—трэба, бо я... тану—гаворыць Зося Сёмку, які адвозіў Рыгора на станцыю і быў сьведкам захапленьня яго Ганнаю.—На мяне напала моцная варожая сіла, якая або задушыць мяне, або прывядзе да роспачы, да няпрытомнасьці і тады толькі...“ (С. Ц. II. 115).

Колькі трагічнасьці ў гэтых простых сказах, простай дзяўчыны якая, яшчэ не загубіла веры ў тое, што яна зможа выратавацца, вылезьці з балота. Аднак, пакінутая і заведзеная сваім каханкам, з гэроічнай мужнасьцю пераносячы зьдзекі, пабоі—пакутуючы за гвалт, учынены над ёю Нязвычным, яна варта пашаны. Яна ня шукае мотываў, каб абвінаваціць Рыгора, наадварот, прынёсшы ахвяру свайму першаму каханьню свае лепшыя пачуцьці, яна ў мінулым знаходзіць сьветлыя хвіліны, якімі ўпрыгожвае свой лёс. Яе соцыяльнае пахаджэньне можа даць некаторым ня ў меру дасьціпным „марксыцкім крытыкам“ повад на гэтым пабудаваць клясавае пачуцьцё „тварыша“ Нязвычнага, вывесьці ў гэтым тэорыю змаганьня з клясавым ворагам. Дык няхай. Мы пакажам толькі гэтым „спэцам з профэсуры“ сапраўдны твар Нязвычнага, які таксама падобнымі мотывамі шукае сабе „філёзофію апраўданьня“. Дык паслухайце, што ён кажа: „Калі я кахаў Зосю—я шанаваў цнотнасьць яе, як сьвятыню, бо я ведаў з чым зьвязана яе згуба. Толькі злосьць, помста да Берагоў таўханула мяне на Лужкі... А з Ганнаю як? І яна дзерзка ды нагальна прабралася ў маё сэрца, зруйнавала ў ім усё ранейшае, і я адказаў ёй тым-жа. Тут ужо пераступлен парог—што ззаду—на агонь. Сваё, праўда, але прыходзіцца нішчыць, бо таксама дзеля свайго і можа даражэйшага яшчэ. Хто-ж папікне за гэта? Ды няхай упікаюць. Абяцаўся Зосі, завяраў яе ў сваей шчырасьці—ласьне я здрадзіў сабе і ёй? Наадварот, я павінен зласаць за насьмяяньне з мяне“ (С. Ц. II, 97).

Такім філістэрскім апраўданьнем самога сябе, такім яўным ашуканствам хоча абяліць самога сябе, свае ганебнейшыя паводзіны псэў-

да соцыял-дэмократ Рыгор Нязвычны. Некаторыя „профэсары“ яму ў гэтым памагаюць. Згодзімся ўмоўна на адну толькі хвіліну і прызнаем за даведзеныя „соцыялёгічныя“ апраўданьні Нязвычнага.

Прызнаем разам з другімі „крытыкамі“, што гвалт і ашуканства Зосі—барацьба з кулацкай ідэялёгіяй, што Ганна заслугоўвае таго, каб над ёю зьдзекавацца таму, што яна—мяшчанка. Пацікуем-жа за далейшым жыцьцём Рыгора. Мы бачым, як неўзабаве (праз 3—4 дні) ня сходзе рабочых дэлегатаў ён сустракаецца з Натальляй—дэлегаткай ад работніц заводу. Гучаць прамовы, абмяркоўваецца найважнейшае для рабочае справы пытаньне, а Рыгор „і ня ведаў, як супакоіць узьнятае ёю (г. зн. Натальляй) пачуцьцё. З нейкай патайнай думкаю паглядзеў на прысутных, каб праверыць ці яго аднаго так цікавіць гэта дзяўчына-таварыш, ці захоплены ёю ўсе прысутныя. Пяцёра чалавек, наўзапой курачы, былі напэўна заняты іншым, бліжэй усяго думкамі аб пытаньні, якое сашліся вырашыць; яны перакідаліся адрыўнымі сказамі, некаторыя заводзілі рэвалюцыйныя мэлёдыі, мянялі раз у раз позы ды пазіралі на гадзіньнікі“ (С. Ц. II, 191). Адным словам, сабраліся да таго, каб разьвязаць тое пытаньне, для якога паслалі іх сюды рабочыя.

У горадзе забастоўка хлебапёкаў, насоўваецца агульная забастоўка, ад якой залежыць лёс рабочае клясы. І каму дарагія інтарэсы гэтай клясы,—бязумоўна будзе думаць не аб „стройнасьці целаскладу“ якойбы там ні было жанчыны, а будзе клапаціцца аб стройнасьці і ўзгодненасьці рабочых выступленьняў. Хто-ж папаў на гэты сход выпадкова, хто ня зьвязан кроўна з агульнай рабочай справай, таму няма чаго асабліва клапаціцца і мы бачым, як „Рыгор паглядзеў на дзяўчыну і захапіўся яе стройнасьцю, здаровым целаскладам, прыгожай постацьцю“ (С. Ц. II, 191), або іншымі словамі кажучы, угледзіў новы об'ект „рэзвых жаданьняў“ для сваіх любоўных экспэрымэнтаў.

Мы можам прайсьці далей і паказаць, як Рыгор Нязвычны трапна выкарыстоўвае сваё знаёмства з палітычнай літаратурай. Просім паглядзець, як ён далікатна і палітычна ўжо „убеждает“ Наталю: „Вы сараматніца вялікая, як я бачу. Не чакаў, прызнацца, у вашым палітычным званьні“ (С. Ц. II, 199).

Тут ужо—новыя людзі, знайшліся і новыя „убеждающие“ перакананьні. Нават і „палітычнае званьне“ можна выкарыстаць, абы зьбіць з глузду добрую работніцу, каб гэтым самым задаволіць свае імкненьні ня зусім этычнага парадку. У пытаньнях каханьня, як нельга лепей, адлюстроўваецца вышыня і чыстата ў сьвядомасьці годнасьці чалавека.

Мы цяпер зварачаемся да паважаных „соцыялёгаў“, якія апраўдалі Нязвычнага ў яго антыэтычных, па сутнасьці ганебных, учынках клясавае барацьбы. Што, і ў вобразе Натальлі Нязвычны бачыў клясавага ворага? што, ненавісьць да капіталістых штурхнула яго на згвалчэньне Натальлі? Папрабуйце гэта давесьці. Гэтым вы ў большай меры толькі і даведзяце аўтобіяграфічнасьць вашага ўласнага погляду. Глядзець на рэчы вачыма Нязвычнага, не крытычна да іх адносіцца, значыць давесьці

толькі моральную вышыню і клясавую належнасьць свайго уласнага сьветапогляду. Гэта ваша справа асабістая, дык не прыкрывайце-ж яе „социялёгіяй". Не паверым, не зважаючы ні на якія аўторытэты, якойбы годнасьці яны не насілі.

Характар чалавечых, г. зн. культурных адносін да чалавека, як асобы, гаворыць таксама і аб культурнасьці чалавека, які адносіцца да другога. Погляд на каханьне гаворыць аб агульных грамадзкіх поглядах наагул і акрэсьлівае ідэялёгічнае становішча кожнага паасобку. Як-жа нам кваліфікаваць Нязвычнага, які сам прышоў да перакананьня, што ён толькі, „як мужчына, як кавалер, якому жыўцом натыкаецца дабыча" (С. Ц. II, 198). Роля „жыўца" можа і не залежыць асабіста ад таго, хто гэту ролю за сабой прызнае. Але самае неабумоўленае прызнаньне ўжо гаворыць як аб комплексе сьветапоглядаў, так і аб месцы ў грамадзе таго, каму такая роля прыстала. Аднак, справа ня ў тым, што Рыгор стаў „жыўцом", на які натыкаюцца жанчыны, робячы яго такім чынам элемэнтам пасыўнага парадку. У гэтым тлумачэньні праглядвае такі-ж самы філістэрскі душок, аб якім мы ўжо вышэй зазначылі. Справа-ж у тым, што Нязвычны зьяўляецца элемэнтам вельмі і вельмі актыўнага парадку. Ён, прызнаючы ў сабе „жыўца", гэтым хоча адхіліць, паралізаваць думку аб сапраўднай яго ролі „лаўца". Але-ж што можна схаваць у адным месцы, тое зараз-жа вылезе на сьвет у другім. І сапраўды пацікавімся разважаньнямі Рыгора на гэту тэму.

„Як яно ўсё хутка, адно за другім? Здаецца, учора ехаў з дому з Ганнай, а зараз, вось, еду з Наталяю. Так лёгка зьмяняецца. Тая чакала нечага ад мяне і гэта, напэўна, ня ў іншым настроі. Як-жа мне цяперака трымацца? Добра-ж было-б, каб Ганна зазлавала на мяне і больш ня прышла. Хай-бы яна зьмяніла мяне на іншага. Думаў так, *а падсьвядома меркаваў не парываць ні з воднаю*" (С. Ц. II, 212). Вось у гэтым і выявілася, што псэўдопасыўнай рольлю ён імкнуўся прыкрыць сваю актыўнасьць у бязладных адносінах да жанчыны, свой нахіл да бытавога анархізму.

Нам здаецца, што гэтым мы з выстарчальнай яскравасьцю давялі няправільнасьць „социялёгічнага" апраўданьня ўчынкаў Нязвычнага ў галіне яго адносін да жанчыны. Нам толькі застаецца абагуліць жыцьцёвую прозу Нязвычных, адшукаць яе сапраўдных уласьнікаў.

Возьмем Гапку (апав. „Байструк" [1]) і паглядзім у чым у яе выяўляецца сэнс адносін да Кар'ёна. Гапка—звычайная мяшчаначка, укладае гару проэктаў, плянаў, каб прывабіць да сябе хлапца, у якім яна наперад за ўсё бачыць сакавітага самца. У гэтай пагоні яна ня спыняецца ні перад якімі ўчынкамі, каб толькі зацягнуць яго ў свае сілцы. Нават паклёп на таварышку, які прыніжае яе годнасьць, як чалавека ня спыняе яе—яна ідзе і на гэта. Вузкасьць кругавіду, абмежаванасьць—адзіная адзнака, як для Гапкі, так і Рыгора.

[1]) „Трэскі на хвалях", бал. 23

А прасачэце адносіны Васіля Крычы да Любы („Чапіла душы“) [1]), ці ня знойдзеце знаёмых рысак, якія давялі Любу да простытуцыі і выклікалі спозьненае раскаяньне. Усе гэта выхадцы аднаго пласту грамадзтва—усе яны жывуць аднымі думкамі, аднымі ідэямі кіруюцца ў жыцьці. І розьніца паміж імі, гэта розьніца адцягненая, а па сутнасьць гэта ягадкі аднаго дрэва—мяшчанства.

Бязвольнасьць, няўпэўненасьць у сваіх сілах, ідэялёгічнае безладзьдзе гэрояў у „Песьнях каханьня“ пад уплывам розных акалічнасьцяй пераходзіць у анархічную неабузданасьць у праявах звыш індывідуалізму, у зацямненьні сапраўднага стану рэчаў, у імкненьні прыкрыць высокімі матэрыямі сваю духовую пустату. Мяшчанства—моцнае сваімі традыцыямі асяродзьдзе. Яно, штурхаючы аднэю рукою ў прорву асобныя адзінкі, другою падымае алярм, крычачы аб распусьце („Распусьніца“, зб. „Трэскі на хвал.“, 33—36). Яно, прымаючы ўдзел у агульнаграмадзкіх справах, зараз-жа забывае іх, як толькі ўсплываюць іх дробныя асабістыя крыўды, якія ўзносяцца імі на вышыню свайго існаваньня („Помста“, зб, „Тр. на хвал.“ 102—114).

Рыгор Нязвычны—клясычны прадстаўнік гэтае гарадзкое групы. У ім мы наглядаем найбольш яскрава выяўленыя рыскі, уласьцівыя мяшчанству, на яго жыцьцёвай кар‘еры мы можам прасачыць яго здольнасьць да прыстасаваньня ў розных умовах і пры розных акалічнасьцях, вывучаючы іх, мы навучымся біць па іх, калі яны трапяцца на нашым шляху. Гэта патрэбна тым болей таму, што пададзеныя ў мастацкай творчасьці Цішкі Гартнага малюнкі мяшчанскага жыцьця, побыту і ідэялёгіі імкнуцца не да крытычных адносін, не да выкрыцьця іх шкоднасьці ў наш час, а пададзеныя ў замаскаваным выглядзе набываць пропагандысцкае значэньне, выдаюцца, як уласьцівыя сучаснаму пролетарскаму грамадзтву.

Аднак, прыведзенага да гэтай пары яшчэ ня досыць, каб мець усебаковае ўяўленьне аб соцыяльна-псыхолёгічных асаблівасьцях гэрояў тыпажу творчасьці Ц. Гартнага. Яго пісьменьніцкая дзейнасьць разгарнулася як раз у тую пару, калі ў грамадзтве адбыўся вялікі сваёй гістарычнай значнасьцю зрух. Адбылося перасоўваньне цэлых грамадзкіх пластоў на ступенях грамадзкай драбіны. Гэты зрух, маючы на сваіх канцавосьсях зусім асобныя клясы, якія прыйшлі ў крывавую сутычку паміж сабою, уцягнуўшы так ці інакш у свой кругазварот усё насельніцтва, усе пласты грамады. Вывучаючы творчасьць пісьменьніка гэтай эпохі, нельга абмінуць і гэтага грамадзкага факту, а аналізуючы характары паасобных вобразаў і тыпаў мастацкага твору, нельга ня ўгледзіць тых рысак, якія ўласьцівы адпаведным колам грамады.

Мы ўжо раней выразна сказалі і грунтоўна давялі, што тое грамадзкае асяродзьдзе, якое было ўсьпета Ц. Гартным, мела нахіл да анархічнага бунтарства, абумоўленага псыхолёгічным складам думаньня (індывідуалізм), цяжкімі ўмовамі працы (соцыяльныя катэгорыі). Аднак, гэта

[1]) „Прысады“ 72—90

бунтарства, калі і магло быць, дык толькі, як стыхійная зьява, бескарысная па сваіх выніках і зусім незалежная ад організацыйных форм, якія стала і сыстэматычна падрыхтоўвалі той грамадзкі зрух, што і адбыўся, калі дзьве сілы—пролетарыят і буржуазія—зышліся ў сьмяротнай бойцы.

Адначасна няправільна было-б, калі-б мы зусім пакінулі ў баку і прамежныя пласты грамадзтва, не прызнаючы за імі аніякай ролі. Кожная грамадзкая група так ці інакш мае дачыненьне да соцыяльных пераваротаў, якія адбываюцца, так ці інакш кожная соцыяльная група павінна выявіць сваё „credo". Калі цяпер зьвернемся да нашага местачковага рамесьніка і паглядзім, як ён аднёсься да рэволюцыйных хваль, дык убачым, што перш за ўсё яны яго прыдушылі сваёй грандыёзнасьцю якая далёка сягала за яго вузенькі, уласны „мірок": Памер яе быў для яго неспадзяваны, а сам факт яе надыходу раптоўны:

> І толькі ўшчалася гульня іх разьвівая,
> Як раптам сапнула вятрыска бурлівае
> (П. пр. і зм. 61)

Гэта раптоўнасьць у першыя часы як-бы прыцішыла поступ яго думкі, паралiжуючым чынам узьдзейнічаючы на яго псыхіку, але гэта толькі на час. У далейшым рэволюцыйная хваля, нясучы ў сабе элемэнт разбурэньня, вабіла яго да сябе і нават выклікала яго замілаваньне:

> Я люблю гэты час. Без канца
> Я хацеў-бы, каб ён не мінаўся.
> (П. пр. і зм., 62)

Рэволюцыя адчыніла перад ім неспадзяваныя кругавіды, дала надзею на зьдзейсьненьне нечаканых мажлівасьцяй. Цэлая нізка вершаў „Я хацеў-бы пяяць" (63), „Я хацеў-бы" (65), „Звон" (67) „Годзе" (67), „Работнічая і Сялянская Рэвалюцыя" (69) і цэлы шэраг іншых гавораць аб тых надзеях, якія ўсплылі пад сьвятлом шырачэзных пэрспэктыў, адчыненых фактам рэволюцыі. У думках мешчаніна зарадзілася нават надзея, што

> З нас кожны, хто й ня быў
> Працоўны, стане веліканам.
> (П. пр. і зм., 90)

Гэта агульная ацэнка ролі мяшчанства ў рэвалюцыі, падкрэсьленая ў творчасьці Ц. Гартнага, у паасобных яго творах знаходзіць сабе пацьверджаньне пры дэфэрэнцыяльным падыходзе да паасобных гэрояў.

На прыкладзе Сілцоўскіх мяшчан, нам лягчэй за ўсё выявіць, як мяшчанства наогул ставілася да соцыяльнай барацьбы. Рыгор Нязвычны намі ўжо абмалёван досыць выразна, як тып, які ўвасобіў у сабе ўсе асаблівасьці мяшчанства. Мы ня зробім памылкі, калі і ў далейшым нашым дасьледваньні будзем грунтавацца ў сваіх вывадах на асаблівасьцях характару Рыгора Нязвычнага. Мы спатыкаем Нязвычнага ў асяродку клясавай барацьбы Рыскіх рабочых, сярод якіх ён імкнецца заняць домінуючае значэньне і сам сябе разглядае, як іх пра-

вадыр. Аднак, ня гледзячы на гэта, ідэялёгія яго носіць вузка-жыцьцёвы, больш асабіста-практычны, або інакш кажучы, свой хатні—сілцоўскі характар. Ён сваеасабліва разабраўся ў пытаньнях асабістага парадку, з „хітрэцой“ апраўдваючы гэтай „ідэялёгіяй“ свае асабістыя ўчынкі і паводзіны.

Аднак, намерваючыся падыйсьці з такой-жа меркаю да агульна-грамадзкіх, складаных і глыбокіх пытаньняў, ён губляецца, адрываецца ад колектыву і ў самыя крытычныя, надзвычайна важныя моманты грамадзкага жыцьця, застаецца адзін з сваімі разважаньнямі аб ролі асобы, індывідууму, аб значэньні Духа-Розума і г. д.

Яно і ня дзіўна. Філёзофія Нязвычнага—ідэялістычная. Матэрыялістычныя разуменьні яму чужыя і таму ўсе пытаньні перабудовы жыцьця ён асьвятляе з пункту гледжаньня „Духа“, а не матэрыі. „Ці-ж вас забірае сумленьне ў тым, што творачы дух .усяго сьвету вядзець жыцьцё к той чытцы, к таму сходку, за чым ужо—гасьціньне дабра, красы і праўды?“ (С. Ц. I, 36)—пытаецца Рыгор і перакананы ў неперdesignможнасьці духа, заклікае: „... Дык пойце-ж усе хвалёныя літаньні жыватворчаму жыцьцю, пойце іх валадыру усясьветнаму—Духу-Розуму... Пойце-ж!“ (С. Ц. I, 36).

У гэтым мы перш за ўсё павінны констатаваць узгодненасьць, пэўную гармонію яго ідэялёгіі з быцьцём, што пры спрыяльных умовах і надае яму сілу і непарушную ўпэўненасьць у сваёй праваце. Але гэтая ідэялёгія ўжо даўно засуджана гісторыяй рабочага руху. Яшчэ бацька яе—Гегель, казаў: „Думаньне, як нешта суб‘ектыўнае, толькі наглядае разьвіцьцё ідэі, як уласную дзейнасьць яе розуму, нічога ня прыносячы з свайго боку. Разглядаць разумна якую-небудзь рэч азначае не прынясеньне розуму ў гэту рэч звонку і апрацоўку яе такім чынам; гэта азначае, што рэч сама па сабе разумная... справа навукі толькі ў тым, каб усьвядоміць гэту самастойную працу розуму рэчы“ [1]).

Аднак, гегельянства, падпаўшы пад агонь жорсткай крытыкі матэрыялістых, не пасьпела прапусьціць свае карані ў рабочыя масы. Ідэялізм Гегеля знайшоў сабе глебу ў інтэлігенцкіх колах буржуазіі, стаўшы яе штандарам. Адкуль-жа і як Нязвычны мог стаць спозьненым пасьлядоўцам нямецкага філёзофскага ідэялізму і адначасова соцыял-дэмократам у XX-м веку? Прасачэце гутаркі яго з сапраўднымі пролетарамі Міхасём Каролем, Комарам ды іншымі і вы адразу пачуеце, якім дысонансам гучаць яго палкія прамовы ў агульнай гармоніі кляса-зьнітаваных сапраўдных пролетараў.

Ідэялёгічныя вопраткі, якія імкнецца апрануць на яго аўтар, яму „не па плячу“, і ў іх яму прыходзіцца надзвычайна туга, цесна, а самі вопраткі трашчаць, развальваюцца па ўсіх швах і скрозь прарэхі выпаўзае ва ўсёй сваёй няпрыгляднай красе твар Сілцоўскага абываталя, які „чуе голас зямлі і ўмее на яго адзывацца“ (Ц. С. II, 99). І таму

[1]) Hegel. Grundlinien der Philosophie des Rechts. Leipzig. 1911 § 3—цытуецца па зборніку А. Дэборына „Философия и Марксизм“, стар. 254.

ня дзіўна, што сапраўдны пролетар—токар Міхась Комар так абыякавата аднёсься да рэвалюцыйнага запалу Рыгора. Нутром сваім адчуваючы толькі „папутчыка“ ён не пакладаў вялікай надзеі на яго. Але чаго болей. Нават Сёмка—адзін з актыўных Сілцоўскіх рэволюцыянэраў, выгадаваны Нязвычным, які і для яго быў непарушным аўторытэтам і той лічыў у ім, перш за ўсё, гаспадарчага чалавека. Ён, пацяшаючы матку Рыгора, кажа: „Вось пражывеце паўгода якога адны, адаля Рыгор забярэ вас да сябе, ажэніцца там, возьме многа пасагу, адчыніць сваё дзела і ўсё паверне на свой шлях“ (С. Ц. II, 104).

Так, менавіта, „сваё дзела“ і засталося штандарам Нязвычнага. Ён і сам не зракаецца такога сьветапогляду, яно ў яго моцна сядзіць у нутры і стала ўласьцівасьцю яго думаньня, яго ідэялёгіі. „Памойму,—кажа Рыгор,—лепей араць сваё, чымсь глядзець на чужое“ (С. Ц. I, 148).

Не запярэчыць гэтага тэзісу і той факт, што ён сядзеў у турме „за рэволюцыю“, што прымаў у ёй удзел. Факты ў сваім статычным выглядзе яшчэ мала чаго гавораць. Толькі разглядаючы іх у дынаміцы, у руху, мы можам даць правільную ацэнку. Яшчэ зусім не паказальны той факт, што Рыгор—рэволюцыянэр, бо на пэўнай ступені, пры пэўных умовах кляса, што яго выгадавала, як мы вышэй адзначалі, можа стаць на баку пролетарыяту ў яго барацьбе. Але будзе паказальна тое, як ён ставіўся да рэволюцыі, якія сілы штурхалі яго да актыўнасьці ў ёй. І тут мы спатыкаемся з характэрнай рысай Рыгора—гэта з яго абасобленнасьцю ад грамады і неабмежаваным імкненьнем да ролі правадыра.

Стаць лідэрам,—як-бы там ні было,—вось стымул, які штурхае яго нават на рызыкоўныя ўчынкі. „Рыгору ўспала павабнае хаценьне, нявыразнае ў сваёй форме і цяганіне, але чула выпуклае ў настойнасьці—гэта хаценьне—думка стаць на чале забастовачнай арміі“ (С. Ц. II, 179).

„У сваіх задзёрыстых сяганьнях Рыгор прапусьціў між вушэй шмат цікавых навін. Таварышы сьмяяліся, дзівіліся, строілі дагадкі і адгадкі, разьвіталіся падаючы рукі яму таксама; у пакоі цішэла, а ён марыў і лунаў у высях, у будучыне, горды, недасяжны, апалены прагнымі, яскравымі лятуценьнямі“ (С. Ц. II, 197).

Вось гэта асноўнае, што потэнцыянальна штурхала яго ў агонь рэволюцыі. Загасьцяваўшыся на фабрыцы, ён не прасякся клясавым духам, ён ня думаў аб мэтазгоднасьці для ўсёй клясы таго ці іншага ўчынку. Таму ён наперакор партыйнай пастанове павёў непадрыхтаваных рабочых на вуліцу, тым самым падставіўшы іх грудзі пад кулі і бізуны паліцэйскіх. Усё жыцьцё Рыгора прайшло з боку ад пролетарыяту, змаганьне якога абудзіла ў ім кар‘ерысцкія імкненьні, адкрыла ў ім досіць прывабныя пэрспэктывы.

Выклікаючы рабочых на дэмонстрацыю, ён не паклапаціўся даць сабе справаздачу, „увошта выльлецца дэманстрацыя, куды накіруе свой протэст распаленая грамада. Ён забыўся нават пра тое, што ў гэткія

вось менавіта адпаведныя моманты і трэба знайсьці ў сабе такую сілу волі, умеласьць, кемнасьць, якія-б пасабілі ўлавіць агульны намер, зразумець яго сутнасьць“ (С. Ц. II, 226). Але ня мог зразумець гэтай „сутнасьці і агульнага намеру“ рабочага руху Рыгор.

Ён, жывучы ўвесь час у баку ад рабочага жыцьця, нават у момант напруджанай яго барацьбы, ня ведаў дарогі ў рабочыя кварталы.

Затое, мы яго бачым альбо ў Вэрманскім парку, альбо на ўзмор'і, альбо ў дачным рэсторане [1]) за паводзінамі толькі тым і адметнымі ад паводзін буржуа, што сума грошай, якія мог выдаткаваць ён на свае задаваленьні, была далёка меншай. Ва ўсім-жа іншым мы бачым рабскае капіяваньне сытага крамара, кола запатрабаваньняў якога— ідэял Нязвычнага.

Вось толькі таму і можна растлумачыць такія лёгкаважныя адносіны да рабочай справы, якія ўласьцівы Рыгору. „Тое, што дэмонстрацыя скончылася разгонам, што адкрытае паўстаньне, аб якім марыў і якім пад'юшваў Міхася, асталося далёка ад выкананьня, што наступнае разьвіцьцё здарэньняў цяжка было прадугледзіць—ня вельмі непакоіла Рыгора“ (С. Ц. II, 228). Вось у такім абліччы перад намі паўстае „соцыял-дэмократ“ Рыгор Нязвычны.

Вышаўшы з Сілцоў з поглядам, што „чалавек мае сваю ўласную волю, сваё асобнае жыцьцё, сваё „я“ над чым не павінна быць нічые волі, ні сілы „(С. Ц. I, 117), ён, не мяняючы яго ні на каліва, прайшоў свой жыцьцёвы шлях. І дарэмныя яго ўрачыстыя зраканьні ад мяшчанства, якія пры кожным лепшым выпадку мы чуем з вуснаў Рыгора.

Словам верыць цяжка, а ўчынкі гавораць за тое, што Рыгор Нязвычны нават на завод прынёс свае сілцоўскія асаблівасьці і пад іх уплывам, пад іх яскравай афарбоўкай далучыўся да рабочай масы, ніколі з ёю не зьліваючыся ў адзін маноліт.

„Ты—мешчанін і ў мяшчанстве застанешся, хоць-бы душа твая была поўна самай палкай ненавісьці да мяшчанства“.—Так казала, гаворыць і будзе гаварыць французскае, нямецкае, італьянскае, расійскае, баўгарскае, румынскае (і г. д., і г. д.) грамадзкае жыцьцё ўсім тым шляхэтным лятуценьнікам, усім тым інтэлігентам, якія, застаючыся па-за клясавай і па-за станавай групай, ня ўмеюць, альбо ня маюць мажлівасьці зьліцца з передавою клясаю свайго часу, ня ўмеюць стаць ідэолёгамі і абаперціся ў сваёй працы для лепшай будучыні на жалезны вагар клясавае барацьбы“ (Плеханаў, т. XIV, ст. 266. „Идеология мещанина“).

Гэтая думка з поўнай відавочнасьцю падкрэсьліваецца аналізам характару Рыгора Нязвычнага—мастацкага вобразу ў творчасьці Цішкі Гартнага, які мы ўмовіліся лічыць аўтогенным.

Ці не зрабілі мы ў выбары вобраза і наданьня яму тытулу аўтагеннага, памылкі і тады ці не разваліцца ўся наша сыстэма?

[1]) Усе пералічаныя месцы—фэшэнэбэльныя прытулкі Рыскай дробнай буржуазіі.

Бязумоўна, не. Літаратурны вобраз гэта-ж социяльна-псыхолёгічны комплекс, які так ці іначай замацаваны ў мастацкім слове і ўключае ў сябе клясавую псыхолёгію ў адзінстве думкі і пачуцьця. Аўтогенным-жа вобразам прынята называць „всякий образ, имеющий в себе соответствие социально-психологического и изобразительного планов,— единство суб'екта и об'екта" [1]).

Вобраз Рыгора Нязвычнага зьяўляецца організуючым вобразам, у якім социяльна-псыхолёгічны комплекс і пабудаваная на ім сыстэма структурных плянаў адзіны, маюць адно паходжаньне—што бязумоўна і дае нам мажлівасьць беспамылкова лічыць яго вобразам аўтогенным.

Зьяўляючыся мастацкім цэнтрам твору, ён да таго-ж надзвычайна лёгка ўспрыймаецца чытачом пры непасрэдным працэсе чытаньня. Вакол яго групуецца яшчэ шэраг аўтогенных вобразаў, прыкладам Сёмка, але яны, ня маючы організуючае ролі для дасьледваньня не падыходзяць, хаця і на іх з посьпехам можна давесьці тыя-ж самыя палажэньні, што і пры карыстаньні вобразам Нязвычнага.

Мы спыніліся на гэтым вобразе яшчэ і таму, што ён да гэтага часу крытыкай ня вывучан, яго псыхолёгічна-социяльнае нутро не дасьледавана. А характар яго, як мешчаніна, бязумоўна ўяўляе сабою надзвычайную цікавасьць, як характар, уласьцівы большай частцы вобразаў творчасьці Ц. Гартнага, які здолеў даць найлепшае апісаньне мяшчанскага быту, псыхолёгіі і ідэялёгіі, што аднак, зьяўляецца адмоўным фактам таму, што спробы популярызацыі іх відавочны. Адсутнасьць-жа крытычных адносін робіць іх социяльна-шкоднымі.

Нас не павінна абыходзіць тое, што ва ўсёй творчасьці Цішкі Гартнага мешчанін нідзе не называецца сваім уласным імем, ён падаецца то як рабочы-пролетар, то як рэволюцыянэр, то савецкі працаўнік, або прымае шэраг іншых номінацый.

Гэтая социялёгічная блытаніна, трэба дапушчаць, зьяўляецца поэтычнай вольнасьцю, уласьцівай кожнаму пісьменьніку. Але яна, прыкрываючы па сутнасьці шкодныя ідэі мяшчанства шыльдамі пролетарскасьці, робіцца зьявай адмоўнага парадку, пропагандуючы самім ходам жыцьця асуджаную на адміраньне ідэялёгію мяшчанскага балота.

Поэтычная вольнасьць—бясспрэчнае права пісьменьніка; тэрмінолёгічная дакладнасьць, дасьледваньне сапраўднасьці, адлюстраванай у творы—бясспрэчны абавязак крытыкі. З гэтай задачай у данным артыкуле, нам здаецца, мы справіліся.

---

[1]) Поспелов. К методике историко-литературного исследования. Зб. Литературоведения, стар. 85.

**Мікола Равенскі**

# Пра зборнік песень, які выдрукаваны на Беларусі для дзяцей дашкольнага ўзросту

1

Самая цяжкая справа пісаць для дзяцей. Гэта адносіцца так да музыкі, як і да літаратуры. Мы ведаем, што толькі апошнім часам на Беларусі выдрукаваны шэраг літаратурных твораў гэтага кірунку, не аднолькавае мастацкай якасьці. Ня будзем высьвятляць прычыны, адзначым самы факт. Да гэтага-ж часу ня было выдрукавана для беларускіх дзяцей дашкольнага ўзросту музычных твораў. Мала такіх твораў ёсьць і ў сусьветнай музычнай літаратуры. Найбольш каштоўныя творы даў вялікі нямецкі музыка Шуман. Творы аб'яднаны ў цыклі „Kinder-scenen“, вызначаюцца гэніяльнаю непасрэднасьцю, спакоем, чыстатой пачуцьця. Вось дасканальны ўзор для твораў гэтага кірунку.

Ствараючы мастацкія творы для дзяцей, ні ў якім разе нельга ігнараваць выдатнай думкі заснавальнікаў пэдагогікі: „ад блізкага да далёкага“. Гэтыя словы кожны композытар, кожны мастак наогул, які прысьвячае сваю творчую энэргію дзецям, павінен заўсёды мець перад сваімі вачыма. Значыцца, у выбары мэлёдый трэба адыходзіць ад блізкага і знаёмага для дзяцей пэўнае краіны. Конкрэтна: для дзяцей беларускіх адыходзіць ад беларускіх народных мэлёдый, якія дзеці чулі ад сваіх матак, ад навакольных. А яшчэ лепш, калі гэты цыкль пачнецца самымі сапраўднымі песьнямі дзіцячага ўзросту, вельмі пашыранымі на Беларусі.

Якія кароткія, ясныя і простыя ўмовы! Але як забываюцца пра іх, як неахайна ставяцца да іх у практыцы, у жыцьці! Складаючы зборнікі, забываюцца пра народную песьню, забываюцца пра неацэнныя скарбы.

Беларуская народная песьня асабліва цікава паводле сваёй музычнай глыбіні і зьместу, маючы вялікія характэрныя асаблівасьці ў мэлёдыйных і рытмовых адносінах. У народзе яна выконваецца пераважна ў унісон ці октаву, часам падзяляючыся на два галасы і ўжываючы пры гэтым квінту, кварту, а часам і тэрцыю. Шматгалоснасьці, г. зн. падзяленьня сьпевакоў на 3 ці 4 самастойныя галасы, з ужываньнем гармонічных злучэньняў, пра якую сьведчаць некаторыя запісы расійскіх народных песень, беларуская народная песьня ня ведае. Я сумняваюся, каб народная песьня наогул ведала такія злучэньні.

Гэта акалічнасьць дае багата прастору для выбару прасьцейшых мэлёдый, якія могуць быць прыстасаваны для дзяцей малодшага ўзросту.

Як правіла, песьня, якую мы прапануем дзіцяці, павінна адказваць на асабістыя попыты дзяцей дадзенага ўзросту. Яна павінна быць прыгожай, лёгкай, простай і рухавай! Для апошняга патрабуецца яскрава выяўленая тональнасьць і самая простая двухчастковая песенная форма, зьмяшчаючы ў сабе ня больш васьмёх тактаў. Гэтыя-ж правілы пашыраюцца і на акомпанімэнт.

2

На Беларусі сёлета выдрукаваны зборнік для дзяцей дашкольнага ўзросту, складзены Ўл. Луцэвіч і А. Савёнак[1]). Як ужо зазначалася да гэтага часу падобных зборнікаў ня было. Такім чынам, зборнік выклікае да сябе самую вялікую ўвагу. Глянем-жа, наколькі зборнік адказвае на асноўныя запатрабаваньні.

Зразумела, што ў кароткім артыкуле мы будзем мець магчымасьць разглядзець частку ўсяго матар'ялу. Для эканоміі месца будзем разглядаць толькі мэлёдыі. Акомпанімэнт фортэп'янны кранём толькі ў агульных рысах у канцы гэтага артыкулу.

Пад № 1 ідзе інтэрнацыянал, пад № 2—„Ад веку мы спалі". Музыка як № 1, так і другога—вядомыя. № 3 *Агарод.* Музыка М. Т. М. Мэлёдыя *запазычана* з расійскіх песень, а пераважае тут мотыў „Травка зеленеет, солнышко блестит"... Якая музыка належыць М. Т. М?

№ 4 *З буйных ліп і бяроз.* Муз. М. Т. М. Мэлёдыйная пабудова неўпарадкавана, ня мае формы. Надзвычайна монотонна і настырліва гучыць *мі*, праходзячы цераз усю песьню і выклікаючы сабою нуду, безнадзейнасьць, якісьці заняпад... Дзякуючы формальнай расплыўчасьці, цяжка ўваходзіць у памяць і няцікава. Апрача ўсяго, правільная тональнасьць мэлёдыі *a=moll*, а не *e=moll*, з якой прычыны песьня гучыць дзівосна неяк.

№ 5. *Восень.* Муз. М. Т. М. Характарызуе сабою нявыразную тональнасьць. Мэлёдыя напісана ў тональнасьці *c=moll*, тымчасам як нахіл органічны мае да *C=dur*. У другім такце ходы малой сэкунды і паменшанай кварты,—сі-бэкар—до і ля-бэмоль—мі-бэкар,—маемасьць танных романсаў, адкуль мабыць і запазычаны самы мотыў, які ня мае нічога агульнага са зьместам вершу. Мэлёдыя характару „чувственно-пошлого", а словы да яе—вызначаюцца дзіцячаю беспасярэднасьцю і наіўнасьцю...

№ 6 і 7—на мотыў безмотыўя першая і на мотыў народнай другая.

№ 8. *Гультаям ня трэба есьці.* Муз. Клячко („Чырвоныя песенькі"). Адсутнасьць формы, мэлёдыйны хаос, нечаканыя рэзкія пераходы, нічым неўгрунтаваныя і не апраўданыя модуляцыі—усё гэта выяўляе няпісьменнасьць і дылетанцтва аўтара музыкі, зьяўляючыся балястам у зборніку, які і без таго перагружаны саматужніцкім матар'ялам.

[1]) Ул. Луцэвіч і А. Савенак. Дашкольны сьпеўнік для дзіцячых садоў і малодшых груп пачатковых школ. Музыка пад рэдакцыяй М. Мацісона. Менск. 1928. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.+67 ш. 1/8. Усіх музычных нумароў 57. Цана 1 р. 45 к.

№ 9 і № 10 больш падыходзяць для дзяцей старэйшага ўзросту з прычыны сваёй складанасьці. Дзеля гэтага—пра мастацкую якасьць нічога не кажу.

№ 11—*Маладняк* (расійская „Молодая Гвардия"). Мотыў вядомы.
№ 12—*Кавалі*—так-жа.

№ 13—*Наперад.* Мэлёд. Ўл. Тэраўскага. Гэтая мэлёдыя зьяўляецца ўступнымі тактамі аднаго з вайсковых маршаў дарэволюцыйнага часу.

№ 14. *Холадна зрабілася.* Муз. М. Т. М. Такты 5 і 6, а таксама першая восьмая 7 тактаў заключаюць у сябе цалкам гаму Д=*dur* у спадаючым парадку, далей—у адваротным да 7 квінты *ля* уключна. Падобны ход магчымы ў вялікіх творах, напр., у сымфоніях і да т. п. Наяўнасьць яго ў песенцы, якая ўмяшчаецца ў 10—12 тактах—незразумелая. Апрача таго, паварот на м. сэптыму мі-рэ у апошняй чвэрці 4 такту і ў першай восьмай 5—гавораць пра рознасьць гэтых двух першых чатырох тактаў. Сапраўды, яны чужыя і сваім характарам. А пасьля ўсяго—пераход на м. сэптыму цяжкі для голасу, тым больш для голасу дашкольніка. Наконт цэльнасьці характару мэлёды і яе сэнсу гаварыць недаводзіцца, бо гэта латачкі з розных опэр.

№ 15. *Зіма ў лесе.* Муз. М. Т. М. Песьняй назваць гэту рэч ніяк нельга. Хутчэй за ўсё гэта рэч падобна на модуляцыйны прэлюд не ўмацованага ў модуляцыях вучня, які вывучае гармонію. Тональнасьць B—dur заблытаная. Ад першых-жа тактаў яна траціць сваю сілу. Ля-бэмоль у другім такце лявіцы ўводзіць у тональнасьць E—dur, але ніяк ня ў B—dur. Трэці гук *Д* на складох і ляг-лаж вельмі супярэчыць слыху і музычнай лёгіцы. Калі ўжо дадзены сэптакорд у другім такце тональнасьці Es—dur, дык і варта было-б яго вырашыць, а не затрымоўваць на тым-жа акордзе, ня выявіўшы ні той ні другой тональнасьці. Такое зьявішча пасуе да малапісьменнага вучня, ня больш. Тое-ж самае адбываецца ў тактах 13, 14 і 15, дзе гармоніі гучаць вельмі нязгладна і ўжыты ня добра. Урэшце, пасьля таго, як сэквэнцыйныя модуляцыі ў хроматычным парадку задаволілі вынаходца, нечакана выявілася на сьвет і сапраўдная тональнасьць, толькі так баязьліва і непераканаўча, што прыходзіцца дзівіцца.—Каму патрэбны такія „вынаходкі"? Гармонійная надзіманасьць у даным зборніку не на месцы.

Веды і майстэрства зьмяшчаюцца не ў безрахубнасьці створанага а ў усьведамленьні, яснасьці. Розная-ж надзіманасьць няцікава ўжо затым, што яна ня мае жаднага зьместу.

№ 16. *Зіма.* Муз. М. Т. М. Першы нумар, пра які можна сказаць, што ён цалкам—продукт свайго аўтара. Ён-жа паказвае нам творча-вынаходніцкае аблічча гэтага аўтара.

Цяжка памыліцца, але трэба думаць, што для адшуканьня гэтае мэлёды М. Т. М. патраціў багата часу. Пасьля таго, калі ў яго, паводле аўтобіографіі аднаго гора-мастака, „пот цурком па твары перайшоў поэты, сьціх ён і засопся, стварыўшы гэта"—вышла вось што.

М. Т. М. узяў два акорды—першы мажорны, другі мінорны, г. зн.— D—dur і h—moll. Гэтыя акорды ён разьбіў па парадку гучаньняў мёледыйна, г. зн. паступова, пагадзіўшы рытм з словамі і на гэтым—„квіта". Я не хачу сказаць, што гэты прыём трафарэтны для „вынаходак" мэлёдый, але сумняваюся, каб яго практыкаваў які-небудзь вучань нават.

№ 17. *Сьняжыначкі.* Муз. М. Т. М. Адзін з банальных мотываў сэквэнцыйнападобнай пабудовы.

№ 18. *Ледзяная гара.* Муз. М. Т. М. Мотыў запазычаны. Такты 7, 8 і 9 на слова „уздымаецца" адыходзяць ад *„тебе господи"*. Ці не прычынілася тут яшчэ пагаворка: „на табе, божа, што нам нягожа"? Ці ня варта задумацца над падобнымі падарункамі?

3

Я ў кароткіх рысах пазнаёміў чытача з „мастацкаю" якасьцю многіх песень, зьмешчаных у зборніку. Браў я гэтыя песьні адну за аднэй, каб мяне не зьвінавацілі ў падтасоўцы. На гэтым можна было-б і спыніцца, даць вывады. Але, каб дапоўніць уражаньне, я вазьму яшчэ некалькі песень праз другую частку зборніка. Каб з'эканоміць месца, вазьму іх на выбарку.

№ 26. *Мая мама на заводзе.* Муз. М. Т. М. Аджылы банальны вальс-романс. Пры ўсім маім жаданьні адшукаць хоць што-небудзь агульнае між музыкаю і тэкстам—я не знайшоў. Што агульнае можа быць між мэлёдыяй, насычанай „томностью и сладострастием", з аднаго боку, і заводам—з другога? Якая бяссэнсіца, якая страшэнная бяссэнсіца!

№ 27. *Прачка.* Муз. М. Т. М. Мэлёдыя запазычана і сапсавана першым гукам *Д*, дзякуючы чаму яна набыла грубы і даволі банальны характар. Якая мэлёдыя?—„Цыпленок жареный, цыпленок вареный пошел по улице гулять"...—да слоў „чухі-чухі". Нашто сапсавана?—Дам наўкосны адказ. У адным з анэкдотаў расказваюць пра нешта зялёнае, што вісіць на сьцяне і пішчыць. Выясьняецца, што гэта селядзец. Чаго-ж ён пішчыць?—Каб не адгадалі...

Штучная затрымка восьмай=фа ў канцы 4 такту пры дапамозе фэрмант слаба ўплывае на імпэт мэлёдыі.

Мэлёдыя сама па сабе патрабуе затакта. У зьвязку з гэтым таксама адбываецца і ў другой палове песьні ў канцы, з прычыны чаго песьня прымае куртаты характар.

№ 29. *Праменьні і сьняжынкі.* З нямецкай мэлёдыі. Выбар вельмі няўдалы. Перш за ўсё, сама песьня складаецца з двох зусім розных характарам частак. Апрача таго, першая частка вельмі блізкая да хоралу царкоўнага, няжыцьцёвая, монотонная, маркотная і няцікавая. Прыходзіцца толькі дзівіцца, як гэта ўкладальнікі зборніку ўхітрыліся выбраць такую мэлёдыю ў так багатай нямецкай музыцы.

№ 32. *Вясной.* Муз. М. Т. М. Песьня ня скончана, не хапае другое часткі. Адзін мотыў выконвае ролю дзьвюх частак. Праз гэта адно ён ня можа даць закончанае думкі. Да канца слоў трымацца на такім слабенькім мотыўчыку ня цікава і маркотна, зважаючы яшчэ і на тое, што сам па сабе мотыў трафарэтны.

№ 35. *Першамайская.* Мэл. Чэрнякоўскага. Такты 17—26 хутчэй могуць быць прыназначаны для аднаго з духавых музычных інструмэнтаў, але голасу даручаць падобны адменьнік ня варта, бо ён дрэнна гучыць. Песьня характарам прэтэндуе на марш, але слаба выяўленая намёкамі форма не дапушчае да маршу.

№ 37. *Звоніць поле.* Мэлёд. народная, украінская.—А сапраўды, ці не расійская гэта мэлёдыя на словы „белолица, круглолица“ і г. д.“.

№ 40. *Дожджык.* Муз. М. Т. М. беларуская, народная, але сапсавана гукам *мі* замест *соль*, і тональнасьць нават пры гэтай псоце ні ў якім разе ня *e=moll*, а *a=moll*. Падобныя памылкі недапушчальны. Яны лішні раз даводзяць няпісьменнасьць укладальнікаў.

№ 43. *Жніво.* Мэлёдыя з зборніку Дзбаноўскага. Словы (пачатак)— „Расло жыта, расло ў полі. Прышлі жнейкі жыта жаць“ і г. д. А словы мэлёдыі, больш пэўна, вальса такія: „Ты мое сердце и душа, ты так добра и хороша“... Што-ж можа быць агульнага між тым і другім, між жнівом і вальсам-романсам, пры тым вальсам надзвычайна „дешевенького“ характару? Падобныя запазычаньні нам нічога, апрача шкоды, не дадуць, па зьместу яны не патрэбны. Гэта хваравітыя перажыткі мінулага, і запаскуджваць нашы школы такім барахлом ня варта, некарысна, больш таго—шкодна. Я не магу дупусьціць нават на адну хвіліну тую думку, каб нашы братнія па Саюзу ССР народы—расійцы, або украінцы, або грузіны—у сваіх сучасных школьных зборніках маглі што-небудзь падобнае дапусьціць.

Таварышы, таварышы! Якая гіронія лёсу! Беларускі народ мае прыгажэйшыя ў сьвеце жніўныя песьні. Ні адна штучная мелёдыя ні сваёю якасьцю, ні багацьцем рытму ня можа перавысіць нашых жніўных песень, а ў нас... для *дашкольнага* зборніку запазычаюць і *якраз* для *жніўнай* песьні... расійскі трактырны, каб не сказаць больш, вальс...

Словы—да песьні... Гэтыя словы выдаюцца нейкім зьдзекам, асабліва ў рэфрэне, дзе нітуюцца два разы словы *усе разам*, ды якраз на высокай ноце.

Гэтая штука паўтараецца ў песьні дзесяць разоў. Бедныя дзеці! Уношу прапазыцыю, каб гэту песьню ў дашкольных установах не сьпявалі, а каб абавязалі ўкладальнікаў зборніку сьпяваць яе хорам „на сон грядущий“.

№ 46. *Зайчык-грайчык.* Муз. М. Т. М. Дзівоснае падабенства! Аўтар гаворыць, што музыка належыць яму, а Украіна кажа, што гэта яе

народная песьня, на словы „Чэрэз рэчэньку, чэрэз быструю, подай ручэньку, подай другую!“ Хто-ж, урэшце, аўтар музыкі?!

№ 57. *Калыханка*. Муз. М. Т. М. Вельмі магчыма што і калыханка: расійскі верш нявысокае якасьці ўсё-ж сьведчыць, што некага калышуць. Што-ж датычыць самай музыкі—згадзіцца цяжка. Гэта ўсяго маркотная песенька, у якой спляліся мотывы і польскай песьні „А хто хоча Анцю знаць“ і „Гайда тройка, сьнег пушысты“ і нямаведама што. Яна, гэта комбінацыя, і замыкае ўвесь зборнік.

4.

Бясспрэчна, што колькасьць разгледжаных песень дазваляе зрабіць вывады наконт якасьці самога зборніку.

У працэсе крытычнага аналізу я кіраваўся тымі вымогамі, якія павінны прад'яўляцца да песень для дашкольнікаў. Найбольшая ўвага вылучалася на пабудову мэлёдый, на яе сьвежасьць, мастацкасьць. Што-ж выявілася ў агуле?

1. Мотывы, мэлёдыі і г. д. запазычаны, бяз жаднага густу і выбару. Дзякуючы гэтаму, ў зборнік увайшла значная колькасьць мэлёдый надзвычайна нізкае якасьці, якія зусім не пасуюць да мэты зборніку.

2. Беларускія народныя мэлёдыі не скарыстаны ў належным памеры, як не скарыстаны і творы беларускай літаратуры. Замест гэтага дадзены або сурогаты, накшталт № 43, або пераклады дрэньненькіх расійскііх і польскіх „сьцішков“(у агуле бадай 40 проц.).

3. Фортэпіянны акомпанімэнт ня вельмі лепшы ад мэлёдыі. Гармоніі дадзены заблытаныя, не адпавядаюць мэлёдыям. Часта гэтыя гармоніі вызначаюцца адсутнасьцю густу ў іх ужываньні а злучэньні.

Віну ўкладальнікаў зьмяншае тое, што яны самі прызнаюцца авансам у сваёй нястольнасьці да такой работы. У прадмове яны кажуць, што ім даводзілася *„часта насьпех саматужна перарабляць на беларускі лад песьні іншых моў, не заўсёды ўдала з мастацкага боку і з боку чыстаты мовы“*. Так, менавіта *саматужна*. Што да чыстаты мовы—прыходзіцца жадаць лепшага (нават у прадмове ня ўсё гладка—фігуруе слова *„акаляючага“* (жыцьця), якое мае іншы, чым яму хацелі надаць аўтары, сэнс).

Вывады?

Бязумоўна, што аўтары ці ўкладальнікі зборніку заняліся непасільнай для іх працай. Задавальняючай прызнаць гэту працу нельга.

Нам трэба ўстанавіць нейкі крытычна-мастацкі фільтр для тых музычных твораў, якія пачынаюць друкаваць нашы выдавецтвы. Рабочыя і сяляне маюць права запрасіць справаздачу ад адпаведных організацый аб тым, што даюць іх дзецям. Чым можна апраўдаць такія факты, як выдрукаваньне гэтага шкоднага, хаўтурнага зборніку? Нядбальствам? Няўмецтвам? Кумаўством?

Тыя элемэнты музыкі, якія зьяўляюцца тормазам нашага руху наперад, мы павінны выкідаць з ужытку. Наадварот, у агульны ўжытак мы павінны ўводзіць усё здаровае, маладое. Выбар наш павінен спыняцца толькі на тым, што мае высокую для нас каштоўнасьць, на тым, ад чаго мы можам чакаць пэўную карысьць для грамады. Пры такіх толькі ўмовах мы здолеем упэўнена сказаць, што мы ідзём правільнай дарогай, і хоць павольна, але наперад, будуючы нашу музычную культуру.

15 верасьня 1928 г
г. Масква.

**Юры Бярозка**

# Пытаньні сучаснага марксыцкага вывучэньня літаратуры*)

## VI

З усяго сказанага раней аб эстэтычнай сугэстыўнасьці поэтычнага факту непасрэдна выцякаюць асаблівасьці марксыцкага вывучэньня гэтага факту. Пры азначэньні клясавай афарбоўкі мастацкага твору нельга абмяжоўвацца толькі аналізам яго соцыяльнага гэнэзісу, але трэба ўлічваць таксама момант яго соцыяльнага спажываньня. У некаторых выпадках момант спажываньня рэчы можа даць болей для яе соцыяльнай характарыстыкі, чым аналіз прычын, якія абумовілі зьяўленьне гэтай рэчы. Дакладней, самі гэтыя прычыны часта могуць быць зразуметы толькі з аналізу спажываньня—эстэтычнага факту. У сьцісла тэорэтычным сэнсе момант пахаджэньня (вытворчасьці) і спажываньня павінны супроцьстаўляцца ўсяго ўмоўна. Мы ўжо ведаем, што спажываньне зьяўляецца завяршальным актам у процэсе соцыяльнага станаўленьня эстэтычнай рэчы, а пахаджэньне мастацкага твору намі разглядалася, як першае зьвяно ў яго грамадзкай рэалізацыі, у яго спажываньні. Вытворчасьць і спажываньне—гэта пачатак і канец аднаго й таго-ж процэсу, соцыяльнага быцьця рэчы. І паколькі марксыцкае вывучэньне не абмяжоўваецца аналізам усяго некаторых этапаў у грамадзкім жыцьці мастацкага твору, а разглядвае гэтае жыцьцё ва ўсім яго абхопе, на працягу ўсяго яго гістарычнага бытаваньня, у кола дасьледваньня павінна ўваходзіць і вытворчасьць эстэтычнай рэчы і яго вышэйшае зьдзейсьненьне яго спажываньня.

Перад вывучэньнем гістарычнага мастацкага факту трэба зрабіць рэстаўрацыю грамадзкіх умоў, якія спадарожнічалі гэтаму факту ў часе яго ўтварэньня і на ўсім абсягу яго соцыяльнага існаваньня. Спачатку з магчымай дакладнасьцю павінен быць дадзен экономіка-соцыяльны портрэт асяродзьдзя, у якім зьявілася поэтычная зьява, якую мы вывучаем. Агульны малюнак экономікі і псыхолёгіі гэтага часу дазволіць пабудаваць ужо спэцыяльны малюнак эстэтычнага попыту, характэрнага дзеля гэтага часу. Павінна быць заўгадзя паказана патрэба ўтварэньня якраз такіх, а ня іншых поэтычных форм. Але гэтым задача далёка ня вычэрпваецца. Зьявіўшыся ў пэўным соцыяльным асяродзьдзі, маючы функцыяй задаваленьне пэўных патрэб,

*) Пачатак глядзі ў „Узвышшы № 5 (II) за 1928 г.

мастацкі твор у самым процэсе задаваленьня гэтых патрэб, працягвае сваё станаўленьне; свае зьмены, і паходзіць. І якраз у тых выпадках, калі мы пачынаем разглядваць літаратурны факт у яго бязупынным пахаджэньні, паказчыкам яго клясавай значнасьці зьяўляецца толькі яго спажываньне. Але гэту думку можна сформуляваць і інакш. Спа*жываньне літаратурнага факту, якое ў той-жа час зьяўляецца яго* бязупынным аднаўленьнем, якое выклікае яго бязупыннае пахаджэньне, можна зразумець з аналізу характару і асаблівасьцяй гэтага бязупыннага пахаджэньня яго на новай соцыяльна-клясавай аснове. Зьмяняцца, паходзіць эстэтычная рэч усяго можа да таго часу, пакуль яна спажываецца. Такім чынам, моманты пахаджэньня (вытворчасьці) і спажываньня эстэтычнага продукту знаходзяць сваё дыялектычнае адзінства ў яго соцыяльным станаўленьні. Марксыцкае вывучэньне, пачынаючы з аналізу прычын, якія абумовілі зьяўленьне мастацкага твору, у далейшым павінна апірацца ўсяго на аналіз яго спажываньня.

Растлумачу сказанае на прыкладах. „Война и Мир" была ажыцьцяўленьнем заказу, які быў дадзен расійскай літаратуры буйна-памесным дваранствам. Роман Талстога быў падрыхтован спэцыфічным попытам на яго, які зьявіўся і ўзмацаваўся ў пэўным соцыяльным пласьце Расіі другой паловы XIX сталецьця. Спаткана была эпопэя Талстога якраз, як дваранская эпопэя. Аднак, сусьветнае слова роману была створана ня толькі тым чытачом, да якога роман адрэсаваўся. Вельмі хутка „Война и мир" стала найлепшай кнігай у грамадзтве, што супроцьставіла сябе грамадзтву, якое выхавала творчасьць Талстога. Нават у рэволюцыйна-актыўных колах роман Талстога быў адным з тых, які найбольш чыталіся, нават там ня было адмоўлена ў прызнаньні яго высокіх эстэтычных якасьцяй. У чым-жа тут справа, і ці не стаім мы перад супярэчаньнем, грозным для ўсёй навуковай самастойнасьці мэтоду. Роман Талстога дваранскі па пахаджэньню выходзіць буржуазным, інтэлігэнцка-разначынскім, і нават рэволюцыйна-пролетарскім, як толькі мы пачынаем зьвяртаць увагу на соцыяльную стракатасьць яго вялізарнай аўдыторыі. Супярэчнасьць гэту сапраўды нельга вырашыць па-за разуменьнем эстэтычнай сугэстыўнасьці мастацкага твору, як зьменнай велічыні. Але яна перастане існаваць, як толькі мы прызнаем за мастацкім творам магчымасьць да далейшых зьмен, у залежнасьці ад зьмен асяродзьдзя, якое яго ўспрымае. У бязупыннай суадносьнай сувязі з зьменай чытацкай грамады, эстэтычная дзеістасьць „Войны и Мира" перабудоўвалася і прымала новы характар. Неразлучна з ёй зьмяняў кірунак і соцыяльна-клясавы прыцэл роману „Война и Мир", які чытаўся дваранінам-памешчыкам і „Войны и Мира", якая чыталася ўголас у якім-небудзь рабочым самаадукацыйным гуртку, гэта ўжо два розных романы, глыбока адменных па соцыяльна-эстэтычных эфэктах. Спажываньне роману, такім чынам, ня толькі спрыяла яго зьмене, але зьяўлялася ўсяго другім бокам яго бязупыннага пахаджэньня. Відавочна, што асаблівасьці гэтае зьявы вызначаюць і спосабы яе вывучэньня.

Возьмем цяпер романы Купэра. У „Разделении поэзии на роды и виды". Бялінскі так пісаў аб романе Купэра „Путеводитель в пустыне": „...весь роман есть апофеоз самоотречения, великая мистерия страдания, разоблачение глубочайших и благороднейших таинств человеческого сердца. Купер является здесь глубоким сердцеведом, великим живописцем мира души, подобно Шекспиру. Определенно и ясно выговорил он невыразимое, примирил и слил воедино внешнее и внутреннее,—и его „Путеводитель в пустыне" есть шекспировская драма в форме романа, единственное создание в этом роде, неимеющее ничего равного с собою, творчество новейшего искусства в сфере эпической поэзии" [1]). Як бачым, для Бялінскага вялікасьць амэрыканскага пісьменьніка была ў тым, што Купэр быў мастакомпсыхолёгам—„разоблачителем таинств человеческого сердца", „великим живописцем мира души". Але ўжо зусім па другому ўспрыняла Купэра і за другое ацаніла Жорж Санд. „У сваіх марскіх романах, пісала Жорж Санд, ён (Купэр Ю. Б.) добра паказаў адважны дух вынаходцаў новых зямель, іх мужную энэргію ў страшных небясьпеках доўгога падарожжа і аселішча ў дзікай самотнасьці паасобных высп... нязвычайную прамысловую здольнасьць тых вандроўных колёністых, якія, ці імем свайго народу, ці з мэтай нажыць сабе ўласную маёмасьць асяляюцца на ўсіх выспах плянэты, на сьнягох і вульканах. усюды зьяўляюцца пераможцамі дзікага жыцьця і самой прыроды, у самых страшных яе сьвяцілішчах... Нельга адмаўляць, што гэта перадавыя вястуны, місыонэры цывілізацыі вялікага народу сярод барбарскага сьвету і Амэрыка абавязана Купэру гэтулькі сама, як Франкліну і Вашынгтону, таму, што, калі гэтыя вялікія людзі ўтварылі грамадзтва злучаных штатаў заканадаўчаю навукаю і славаю зброі, дык ён, скромны апавядальнік, распаўсюдзіў бляскі славу яго за марамі пры дапамозе цікавага апавяданьня і праўдзівасьці патрыятычнага пачуцьця" [2]). Аб Купэры, як аб псыхолёгу ў Жорж Санд сказана мала. Для францускай пісьменьніцы Купэр быў, галоўным чынам, поэтам амэрыканскай колёнізацыі. Паміж „апофеозой самоотречения", якую ўбачыў Бялінскі ў Купэра, і „нязвычайнымі прамысловымі здольнасьцямі" купэраўскіх гэрояў, якія так высока цаніла Жорж Санд, ляжыць быццам-бы прадоньне. Па сутнасьці, калі браць Купэра такім, якім ён уяўляўся сваім сучасьнікам і зямлякам, разуменьне Жорж Санд бліжэй, чым разуменьне Бялінскага, стаіць да сутнасьці. З пункту погляду амэрыканцаў першай паловы XIX сталецьця, ды й нават і з свайго ўласнага пункту погляду, Купэр перш за ўсё патрыот, пясьняр сваёй радзімы і пясьняр яе белых заваёўнікаў. У прадмове да роману „Шпік" Купэр абвясьціў патрыотызм найвялікшым добраўчынкам. Быт і прырода романаў Купэра, якія здаюцца цяпер нам

[1]) В. Г. Белинский. Собрание сочинений, т. II, стр. 27. Литер.-издат. отдел Наркомпроса. V. 1919 г.

[2]) „Сын отечества". 1856 г. № 38.

аднэй экзотыкай, для самога раманістага былі сапраўднай і звычнай рэальнасьцю. Купэр радзіўся ў 1789 годзе ў Бэрлінгтоне, Нью Джэрсі, у штаце Нью-Іорк. Бацька яго родам з квакэрскай сям'і заснаваў уласны пасёлак Купэрстоун каля возера Отсэча, у якім прайшло маленства будучага раманістага. Чырвонаскурыя, якія спатыкаліся пісьменьніку, яшчэ мала былі падобны на этнографічных, што выраджаюцца, экспонатаў з сучасных рэзэрвацый. Па словах вандроўнікаў, індзейцы яшчэ ў шасьцідзесятых гадох мінулага сталецьця рабілі дзе-ні-дзе ўпартае праціўленьне „місыонэрам цывілізацыі". Яны доўга трымаліся на захадзе па дарозе ў Каліфорнію, забіваючы амэрыканцаў і ў сваю чаргу старанна зьнішчаліся імі[1]). І тым ня менш, ацэнку Бялінскага, міма якога зусім прайшла цэнтральная тэма купэраўскіх раманаў, тэма асабістай адвагі і прамысловай здольнасьці, нельга назваць проста памылковай. Раманы Купэра ў расійскім грамадзтве былі ўжо далёка ня тым, чым яны былі ў сябе на радзіме. Яны ўспрымаліся другімі людзьмі, проэктаваліся ў іншым соцыяльным асяродзьдзі і самі праз гэта сталі другімі. Іх эстэтычны цэнтр перамясьціўся, іх соцыяльная дзеістасьць набыла новую ахварбоўку. Купэр у сябе на радзіме і Купэр у вумовах мікалаеўскай Расіі, гэта ўжо два розных пісьменьнікі, і задача гісторыка зараз ня ў тым, каб паказаць наколькі памыляўся Бялінскі адносна Купэра, а якім чынам у Бялінскага, як прадстаўніка пэўнай соцыяльнай групы, зьявілася якраз гэта, а ня другое разуменьне амэрыканскага пісьменьніка. Або, гаворачы больш агульна, гісторык павінен паказаць, як бязупынна спажываючыся, пераходзячы з краіны ў краіну, з клясы ў клясу, з пакаленьня ў пакаленьне, раманы Купэра эволюцыянавалі, зьменьваліся, паходзілі ізноў і ізноў. Прычыны і характар гэтага далейшага пахаджэньня гісторык і можа вывесьці ўжо толькі з аналізу спажываньня купэраўскіх раманаў.

## VII

З увядзеньнем у кола асноўных літаратуразнаўчых паняцьцяў паняцьця стасунку, мы можам, нарэшце, дыялектычна правільна паставіць проблему формы і зьместу ў літаратуры. Некалькі год таму назад гэта проблема была асабліва моднай. Расійскія формалістыя (опоязовцы), абвясьціўшы літаратурныя творы чыстай формай, а літаратурны процэс—процэсам, які разьвіваецца па сваіх іманэнтных законах, зьявіліся застрэльшчыкамі гарачай полемікі. Зараз формалістыя рашуча адмовіліся ад гэтых сьцьвярджэньняў, прызнаўшы залежнасьць літаратурнага раду ад роўналежных яму радоў экономікі (Шкловский) або быту (Эйхенбаум). Але мэтодолёгічная барацьба, якая ўзьнялася вакол проблемы формы і зьместу, аказалася нарэшце не бескарыснай. Яна прымусіла пераглядзець традыцыйны погляд на форму і зьмест, мэтодолёгічны па сутнасьці, які зьявіўся на грунце

[1]) Гл. Самуэля Боульса „Поперек материка".

ізоляванага і статычнага вывучэньня літаратурных фактаў. Форма і зьмест у поэтычным творы па традыцыі прызнаваліся об'ектыўна адна ад другое існуючымі рэальнасьцямі. Можна было паасобна гаварыць пра зьмест і пасьля пераходзіць да формы, можна было гаварыць аб добрым зьмесьце і кепскай форме і наадварот. Другімі словамі, форма і зьмест разумеліся тут па прымітыўнай аналёгіі з збанам і вадой. Збан гэта форма, вада—зьмест. Адну і тую-ж форму—збан можа было, як быццам, напаўняць розным зьместам—вадой, бо-ж тое й другое жыве самастойным жыцьцём. Агульным ацэначным крытэрыем для літаратурных твораў было ўстаноўлена—„адпаведнасьць формы зьместу"—формула, якая набыла вялікую популярнасьць, якая мае права грамадзянства і па сягоньнешні дзень, але па сутнасьці вельмі невыстарчальная. Урэшце, яна прымаецца ўсё на тым-жа навукова няўгрунтованым прызнаньні формы і зьместу паасобнымі незалежнымі компонэнтамі літаратурнага факту.

Мэтафізычнаму падзелу на форму і зьмест частка формалістых (Жырмунскі) супраць-паставіла падзел на матэрыял і прыём. „Всякое искусство пользуется каким-небудь материалом, заимствованным из мира природы,—пісаў В. Жырмунскі.—Этот материал оно подвергает особой обработке с помощью приемов, свойственных данному искусству; в результате обработки природный факт (материал) возводится в достоинство эстетического факта, становится художественным произведением. Сравнивая сырой материал природы и обработанный материал искусства, мы устанавливаем приемы его художественной обработки. Задачи изучения искусства заключаются в описании художественных приемов данного произведения, поэта или целой эпохи, в историческом плане или в порядке сравнительном и систематическом" [1]). Левае крыло формалістых, так званыя формалістыя соцыолёгі, захоўваючы падзел на матар'ял і прыём, зазначалі на тое, што прыём ёсьць зьява ідэолёгіі і што эволюцыя формы ёсьць усяго адлюстраваньне экономічнай эволюцыі. Выходзячы з гэтага літаратураведу, у якасьці цэнтральнай задачы, прадпісвалася соцыолёгічнае азмысьленьне прыёму. Але падзел літаратурнага твору на матэрыял і прыём, высунуты на больш удасканаленых тэорэтычных падставах, у гэтым пытаньні прывяло ўсяго да абнаўленьня тэрмінолёгіі. За тэрмінамі матар'ял і прыём пачалі, урэшце, праглядваць усё тыя-ж знаёмы паняцьці зьместу і формы. Прычым форма заставалася формай, а матар'ялу адпавядаў зьмест. Як пры першым падзеле, так і пры другім зьмест або матэрыял мысьляцца чымсьці эстэтычна нэйтральнымі, чымсьці, што яшчэ павінна атрымаць спэцыфічную „мастацкую" апрацоўку: гэта значыць матэрыял і прыём мысьляцца ў Жырмунскага таксама ізолявана і незалежна адзін ад другога існуючымі, як і ў традыцыйным падзеле на форму і зьмест. Розьніца паміж першым і другімі падзеламі ўсяго ў тым, што, калі першае ўкладвала ў паняцьце

[1]) „Задачи поэтики", т. „Начала" 1921 г. № 11, стар. 53.

зьмест такія элемэнты, як „ідэя“, „агульны сэнс“ і г. д.; дык другое пад тэрмінам матар'ял падразумявала „слова і шчапленьне слоў“. Аднак лёгка бачыць, што паколькі слова не зьяўляецца толькі гукавым комплексам, а мае ў сябе пэўны сэнс, паколькі яно заўсёды сэмантычна значыма, патолькі ў паняцьце матар'ялу магло поўнасьцю ўвайсьці традыцыйнае паняцьце зьместу. На практыцы, падзелу на матэрыял і прыём вельмі хутка давялося спаткацца з новымі труднасьцямі. Лепш за ўсё паказаць на прыкладзе. Возьмем такі літаратурны твор, як запісныя кніжкі Чэхава. З пункту погляду фармалістага перад намі толькі матар'ял, які яшчэ чакае сваёй эстэтычнай апрацоўкі. Таксама, бязумоўна, думаў сам Чэхаў. Шмат чаго з таго, што там запісана ў дзьвёх-трох фразах у далейшым разьвілося-б у закончанае апавяданьне. Відавочна, што параўнаньне урывачных нататак Чэхава з новэляй, якая вырасла з іх, можа даць вельмі шмат для ўясьненьня прынцыпаў і спосабаў організацыі гэтай чэхаўскай новэлі. Але запісныя кніжкі Чэхава маюць нечаканы і дзіўны лёс. Цяпер і гэты хаотычны збор накідаў, нататак, анэкдотаў, сьмешных прозьвішч і г. д. і г. д. сам успрымаецца эстэтычна, дзейнічае, як мастацкі твор, заваяваў вялікі посьпех у чытача неспэцыялістага. Разарванасьць, ляконічнасьць, нязьвязанасьць, г. з. усё тое, што зьяўляецца натуральнай адзнакай падобных запісаў, адчуваецца цяпер чытачом, як прыём, як своеасаблівая форма эстэтычнай організацыі. Пакуль, такім чынам, мы можам сказаць, што чыстая ізоляцыя матар'ялу ад прыёму бывае немагчымай, што ў самым матар'яле, як-бы мы яго ні адлучалі ад формы, ужо заложаны формальныя элемэнты, што чыстага матар'ялу ў прыродзе няма, як няма ў прыродзе і чыстага прыёму. Падзел на матар'ял і прыём, не навуковы па сутнасьці, адыграў станоўчую ролю ў тым сэнсе, што завастрыў увагу літаратуразнаўцаў да пытаньня поэтычнай тэхнолёгіі і зьвёў навуку аб літаратуры з ідэялістычных вяршынь „творчай душы поэты“ на зямлю вывучэньня поэтычнага майстэрства. Якраз ў галіне вывучэньня поэтычнай тэхнолёгі падзел на матар'ял і прыём захоўвае сваю вартасьць і да гэтага часу. Заслуга формалістых соцыолёгаў у тым, што яны прыўчылі разглядваць, як зьявы ідэолёгічныя, такія часткі поэтычнага твору, якія бытуюць у нас пад умоўным найменьнем формальных.

І тым ня менш проблема формы і зьместу да гэтага часу амаль ня зрушана з месца. Асабліва гэта будзе відавочна, калі мы зьвернемся да літаратурна-крытычнай практыкі. Возьмем усё тую-ж нешчасьлівую першую кніжку „Полымя“ 1928 г. У разьдзеле „Кнігапіс“ зьмешчана некулькі рэцэнзій. Бяром наўдачу рэцэнзію В. Вераса на зборнік вершаў В. Маракова „На залатым пакосе“. Першая вялікая палова рэцэнзій пераказвае, сваймі словамі, лірыку Маракова, пераказ з ідэялёгічнымі комэнтарыямі; другая—пачынаецца фразай: „Што-ж да мастацкага аформленьня і мастацкай праўдзівасьці, то тут трэба заўважыць, што зборнік вызначаецца надзвычайнай трапнасьцю вобразаў...“ і г. д. Прычым цікава адзначыць, што ў гэтай другой палове рэцэнзіі,

даволі прымітыўнай і дзівацкай, аб ідэялёгіі не гаворыцца ні слова. Гэтая рэцэнзія надзвычайна тыповая. Яна пабудована па звычайнаму рэцэнзэнцкаму стандарту і нясе на сабе ўсе грахі гэтага стандарту. Справа, бязумоўна, ня ў тым, што рэцэнзія дзеліцца на дзьве паловы, адна з якіх прысьвечана аднэй групе элемэнтаў поэтычнага факту, а другая—другой. Такі падзел можа быць зусім магчымым, і, як убачым ніжэй, з некаторай агаворкай, амаль патрэбным. Шмат горш, што апісаны рэцэнзэнцкі стандарт мог зьявіцца ўсяго цераз маўклівае прызнаньне „формы“ чымсьці вонкавым, якойсьці аздабляючай бразготкай, ідэолёгічна нэйтральным. Куды горш, што ён ґрунтуецца на поўным ігнараваньні формы і, што для нас цяпер вельмі важна, на традыцыйным дуалістычным уяўленьні формы і зьместу адасобненых адзін ад другога рэальнасьцямі, усё па тэй-жа аналёгіі збана з вадой.

Да чаго ў сучасны момант даходзіць блытаніна ў пастаноўцы проблемы формы і зьместу, гаворыць хоць-бы кніжка Келтуялы „Метод истории литературы“. Не абмяжоўваючыся падзелам літаратуры на форму і зьмест, Келтуяла дэкрэтуе: „Во всяком словесном произведении теория словесности находит органическое сочетание трех основных элементов: 1) содержания, 2) формы и 3) словесно-звукового выражения“ [1]. Пад зьместам Келтуяла разумее „комплекс переживаний автора-творца“, пад формай—„организацию содержания“, а пад „словесно-звуковым выражением“—такія рэчы, як фонэтыку, мэтр, рытм і г. д. У схэме Келтуялы мы бачым, папершае, пераблытаньне літаратурнага твору, як гатовага продукту пэўнай дзейнасьці, з процэсамі, якія суправаджаюць утварэньне гэтага продукту і якія належаць да псыхолёгіі творчасьці і асобы і біографіі поэта (и переживания автора-творца); падругое, зусім немотываваны падзел адзінага паняцьця формы на ўласна форму і на „словесно-звуковое выражение“. Няўжо-ж фонэтыка, мэтр, рытм не зьяўляюцца элемэнтамі формы і што-ж у такім выпадку застаецца для формы, калі пералічаныя элемэнты вылучаны ў асобную групу. Апошняе тым больш незразумела, што сюжэт Келтуяла лічыць элемэнтам зьместу.

Проблема формы і зьместу толькі тады можа быць правільна вырашана, калі ставіцца яна дыялектычна. З аднолькавым правам мы можам разглядаць поэтычны твор і як чыстую форму, і як чысты зьмест. „Маісей“ Мікель Анджэло, разглядаючы яго з аднаго пункту погляду, як нейкую вельмі высокую ступень конструкцыйнай эстэтычнай організацыі пэўнага матэрыялу (мармуру), павінен быць названы чыстай формай, з другога боку, гэту статую можам зразумець, як чысты зьмест, бо-ж зьместам яе зьяўляецца толькі яна сама, г.-зн. форма статуі і зьяўляецца яе зьместам. Разважаньне гэта праўдзіва і ў адносінах да літаратурнага твору. Поэма Коласа „Сымон Музыка“, разглядваючы ў адным

[1]) Метод истории литературы Л. 1928 г., ст. 20.

аспэкце, будзе чыстай формай, бо-ж перад намі ізноў такі высокая ступень поэтычнай організацыі слоўнага матэрыялу, ва ўсіх яго умоўнадыфэрэнцуючых момантах: сэмантычным, фонэтычным, рытмічным і г. д., а разглядваючы ў іншым разрэзе, поэма Коласа зьяўляецца чыстым зьместам, бо усё гэта знаходзіцца ў гэтым мастацкім творы і складае яго зьмест. Форма і зьмест звычайна разглядаюцца, як лёгічныя антытэзы, па сутнасьці ў тым-жа лёгічным пляне дыялектычна адзіны. У выніку натуральна адпадаюць пытаньні, наводля: „што важней форма ці зьмест?“ і г. д.

Гістарычны разгляд гэтага пытаньня павінен, у сваю чаргу, паказаць, што форма і зьмест сапраўды зьяўляюцца толькі лёгічнымі катэгорыямі, якія дапамагаюць нам пазнаваць рэальнасьць, але самі ёй адпавядаюць усяго вельмі ўмоўна.

Падзел літаратурнага твору на форму і зьмест быў у свой час гістарычна падрыхтованы і гістарычна законамерны. Ён натуральна выцякаў з агульнай ідэялістычнай концэпцыі сьвету, па якой кожная матар'яльная зьява разумелася ўсяго як выражэньне, як знак, як „форма“ закладзенай у-ёй надматар'яльнай „боскай“ сутнасьці—„зьместу“. Так, чалавечае цела мысьлілася ўсяго „формай“ душы, з якой душа і вызваляецца пасьля сьмерці цела. У мастацкім творы для ідэялістага таксама захавана сваеасаблівая душа. Форма мастацкага твору разглядваецца ім толькі, як выражэньне гэтай душы—„зьмест“, толькі, як сродак, якім душа паведамляе аб сабе нашым органам пачуцьцяў.

Такім чынам, формай зьяўляецца для ідэялістага мастацкі твор ва ўсім яго матэрыяльна-слоўным абыйме. З цягам часу абыймо паняцьцяў зьместу і формы зьмянілася. У зьмест былі ўключаны элемэнты, якія паступовым ідэялістымі поўнасьцю адносіліся да формы, напр.: сэмантыка, тэма, сюжэт і г. д. Паняцьце формы, наадварот, звузілася і ахапляе ўсяго зьявы, якія ня маюць дакладнага сэнсавага значэньня—композыцыю, рытм і г. д. Мы бачым пэўную эволюцыю, перасоўку паняцьцяў, з якіх адно разглядвалася за лік другога.

Надзвычай цікава прасачыць эволюцыю паняцьцяў форма і зьмест на якім-небудзь гістарычным прыкладзе. Возьмем романтычную поэму ў тым відзе, у якім яна была створана Байронам. Характэрная для байронаўскіх поэм разьвязка, у якой трагічны далейшы лес гэроя даецца толькі ў нявыразных намёках, ва ўрывачных паведамленьнях, якія дазваляюць дапушчаць самае жахлівае і самае таемнае, выцякала з агульнага створанага ангельскім поэтам вобразу романтычнага гэроя. Для сучасьнікаў Байрона такая разьвязка была, бязумоўна, элемэнтам зьместу. Яна засталася такою і для расійскіх поэтаў, на якіх уплываў Байрон, для Пушкіна і Лермантава. Нічым другім романтычная разьвязка і не магла быць для апошніх, бо-ж сам романтычны гэрой быў для іх повен жывой соцыяльнай сэмантыкі, быў актуальным „зьместам“. Цераз некульکі дзесяцёхгодзьдзяў становішча зьмянілася. Разьвязка

байронаўскіх поэм канонізавалася і стала неадлучнай адзнакай жанру. Для пазьнейшых пакаленьняў таемны лёс байронаўскага гэроя стаў ужо абавязковым элемэнтам формы романтычнай поэмы. Гэтым элемэнтам ён застаецца і па сягоньняшні дзень. Можна бачыць, такім чынам, што ў межах самога мастацкага твору элемэнты формы і зьместу, у залежнасьці ад зьмен асяродзьдзя, мясцамі мяняюцца, звужаюцца ці пашыраюцца. Пра гэта гаворыць і прыведзены вышэй прыклад з запіснымі кніжкамі Чэхава. Для самога Чэхава і для блізкіх яго людзей гэтыя кніжкі былі ўсяго зьместам, для нас якасьці частка гэтага зьместу стала формай і формай, якая дзейнічае эстэтычна. І так, мы можам зрабіць наступныя высновы.

Паняцьці зьмест і форма—паняцьці гістарычныя. Яны не зьяўляюцца об'ектыўнымі элемэнтамі твораў мастацтва, а ўяўляюць сабой толькі мэтод нашага мысьленьня аб мастацтве. Яны ўзьнікі на пэўнай ступені чалавечых ведаў, калі ў выніку экономіка-псыхолёгічных зрухаў увесь сусьвет стаў разглядацца дуалістычна. Яны становяцца памылковымі з часу перамогі матар'ялістычнага монізму над ідэялістычным дуалізмам. Паколькі гэтыя паняцьці адносяцца да катэгорыі нашага мысьленьня, патолькі яны ўключаюць у сябе то адну, го другую групу элемэнтаў мастацкіх твораў, у залежнасьці ад стасунку, у які гэты твор уступае з чытачамі. З зьменай аднаго члену ўжо вядомы нам стасунак (чытача) зьменьваў і ўяўленьне аб форме і зьмесьце другога члену стасунку (мастацкага твору). Тое, што для аднаго соцыяльнага кола было формай, тое ў другую эпоху для другога соцыяльнага пласту зьяўлялася ўжо зьместам. Але калі, як мы бачылі вышэй, мастацкі твор можа з аднолькавым правам разглядацца і як чыстая форма і як чысты зьмест, то зусім дарэчы павінна быць пастаўлена пытаньне аб самай мэтазгоднасьці далейшага навуковага бытаваньня гэтых тэрмінаў.

У процэсе навуковага дасьледваньня літаратурных фактаў некаторая ўмоўная дыфэрэнцыяцыя матар'ялу зьяўляецца мэтодолёгічнай неабходнасьцю. Сыстэматычнае адцягненьне адных элемэнтаў факту, які дасьледваецца, ад другіх, іх групоўка па пэўных адзнаках, вымушаецца агульнымі законамі навуковай працы. Мы можам паасобна па чарзе вывучаць сэмантыку твору, яго фонэтыка-рытмічнае вырашэньне, яго композыцыю і г. д., памятаючы, вядома, аб тым, што гэты падзел існуе адно ў нашай галаве, і зусім не зьяўляецца эмпірычнай асаблівасьцю твору, які вывучаецца. Часам, у мэтах вывучэньня бывае, магчыма, патрэбнай больш агульная клясыфікацыя компонэнтаў твору. Так, можа зьявіцца патрэба аб'яднаньня ў адну групу ўсіх компонэнтаў, якія маюць сэнсавае значэньне, побач з групай элемэнтаў, якія гэтага значэньня ня маюць. Дапушчальна ў такіх выпадках, з адпаведнай заўвагай, ужываць і старую прывычную тэрмінолёгію, назваўшы адну групу зьместам, а другую—формай; іншымі словамі, для гэтых двух тэрмінаў патрэбна, нарэшце, устанавіць іх сапраўднае значэньне. Яны толькі спосаб нашага пазнаньня эстэтычнай рэчы і ні ў якім выпадку не яе асноўныя часткі.

VIII

Літаратурная эволюцыя ніколі ня йдзе па простай лініі, ніколі не зьяўляецца паступовым разьвіцьцём нейкіх адных, у самым пачатку літаратурнага процэсу закладзеных элемэнтаў, а зьяўляецца змаганьнем некалькіх стылявых ліній, змаганьнем, у выніку якога адна з іх займае на пэўны час месца стылявай магістралі дзеля таго, каб праз нейкі час уступіць гэта месца новым стылявым утварэньням. Адбываецца пастаянная зьмена элемэнтаў, выпадзеньне з эстэтычнага раду адных і ўключэньне новых. Барацьба стылявых ліній зьяўляецца адлюстраваньнем і вынікам барацьбы экономіка-псыхолёгічнай. Як гісторыя чалавечага грамадзтва не зьяўляецца просталінейным разьвіцьцём, а складаецца з барацьбы кляс, узросту адных і распаду другіх, так і гісторыя стылю ёсьць гісторыя барацьбы розных стылявых кірункаў. У папярэдніх разьдзелах мне ўжо даводзілася адзначаць законамернасьць выпадзеньня з эстэтычнага раду мастацкіх твораў, як вынік сацыяльна-псыхолёгічнай эволюцыі чытача. З выпадзеньнем поэтычнага твору з сьвету эстэтычных рэчаў, ён губляе свае непасрэдныя функцыі і становіцца проста рэчай фізычнага сьвету, якая яшчэ можа быць выкарыстана ў новых значэньнях, якія нічога агульнага з эстэтычнымі ня маюць. Цяпер нам трэба ўважліва прыглядзецца да адваротнага процэсу, да таго, як, зноў такі, у выніку агульных сацыяльна-псыхолёгічных зьмен адбываецца ўключэньне ў эстэтычны рад новых элемэнтаў, новых рэчаў, якія да гэтага моманту ня мелі нічога эстэтычнага. Так, напрыклад, тое, што раней адчувалася, як факт быту, пачынае нечакана ўспрыймацца, як факт поэтычны; тое, што раней адносілася да кола асабістага жыцьця, атрымоўвае нечакана сацыяльна-эстэтычную вартасьць.

Ю. Тынянаў у вельмі цікавым артыкуле „О литературном факте“ [1]) прыводзіць такі гістарычны прыклад уключэньня ў эстэтычны рад зьяў быту. У першай палове XVIII-га сталецьця перапіска была прыблізна тым, чым яна зьяўляецца для нас. Яна выконвала толькі бытавыя функцыі. Ліст быў дакумантам, прашэньнем, „сяброўскім паведамленьнем“, і толькі. Хоць ён і знаходзіўся пад уплывам пануючага ў той час сьвяточнага стылю, усё-ж быў вельмі далёк ад літаратуры. Але ўжо ў канцы XVIII-га сталецьця і ў пачатку XIX-га ліст становіцца жанрам, набывае ўласьцівасьць поэтычнае пабудовы. Лісты ўваходзяць у мастацкую літаратуру і калі романы ў лістох прадстаўляюць у большасьці ўсё-ж некаторы компроміс з прозаічным стылем XVIII-га сталецьця, то дарожныя лісты зьяўляюцца ўжо рэзкім дыялектычным адмаўленьнем поэтычных прынцыпаў XVIII-га сталецьця. У Расіі карамзінскія „Письма русского путешественника“ стварылі вялікую эпістолярную літаратуру; ад іх вядзе пачатак вялікая колькасьць асабліва популярных у першыя два дзесяцігодзьдзі XIX-га сталецьця падарожжаў у лістох. Прывёўшы гэты прыклад, Ю. Тынянаў дае яму нязда-

[1]) „Леф“ 1924 г. № 2(6).

вальняючае нас тлумачэньне, абмяжоўваючыся, па сутнасьці, адно апісаньнем узьнікненьня новага жанру на фоне ламаносаўскай і дзяржавінскай поэзіі од. Культываваньне „малых форм" і лістоў Тынянаў імкнецца растлумачыць, як культываваньне зьяў антыэстэтычных панаючаму у XVIII сталецьці стылю. Гэтага, бязумоўна, мала. Да канца азмысьліць пералом у літаратурных густах можна толькі, калі мы зьвернемся да вывучэньня носьбітаў гэтых густаў (чытачоў), толькі перавёўшы літаратурную зьяву на мову зьяў соцыяльных; другімі словамі, яго трэба паставіць у прычынна-вынікавую сувязь з соцыяльнымі зрухамі, якія вызначыліся к канцу XVIII сталецьця. Справа ў тым, што літаратурны спажывец карамзінскай эпохі вельмі не падобны на літаратурнага спажыўца, характэрнага для кацярынінскай пары. Сапраўдным і па сутнасьці адзіным спажыўцом вершаў Ламаносава, Дзяржавіна быў двор; сапраўднымі заканадаўцамі густаў была група вышэйшай прыдворнай арыстократыі на чале з Кацярынай ІІ-й. Вось гэтыя соцыяльна-бытавыя ўмовы і вызначылі конструкцыйныя асаблівасьці, як оратарскай і вялічавай літаратуры Ламаносава, так і хвалебнай дзяржавінскай оды. Становішча зьмянілася ўжо к самаму пачатку новага веку. Зьяўляецца новы спажывец, які апынуўся на вышыні тагачаснай соцыяльнасьці, але ўжо менш зьвязаны з дваром, літаратура становіцца здабыткам больш шырокага кола грамадзкасьці, зьяўляюцца першыя чытачы з буржуазіі і з дробнага чыноўніцтва, узьнікаюць „салёны". Зразумела, што новы чытач стаў вымагаць ад літаратуры ўвагі да яго патрабаваньняў, пажадаў у літаратуры ўбачыць сябе. Ода, якая чыталася ў „салёне", у інтымным сяброўскім коле, рабіла ўжо комічнае ўражаньне. Стваралася спрыяючая атмасфэра для ўтварэньня новых жанраў, якія маглі-б задавольваць новыя эстэтычныя запатрабаваньні. І ліст увайшоў у літаратуру. Малая эмоцыя прыйшла на зьмену грандыёзнай эмоцыі оды. У лістох лёгка было адшукаць усе тыя элемэнты, якіх патрабаваў новы спажывец: інтымнасьць, бытавыя дробязі, намёкі, фрагмэнтнасьць і г. д. У лістох чытач мог убачыць сябе ў сваіх хатніх абставінах. Будучы ўведзеным у мастацкую прозу, ліст уступіў у такі стасунак да новага спажыўца, калі між імі натуральна павінен быў узьнікнуць эстэтычны контакт. Ліст атрымаў эстэтычную дзеістасьць, бо быў слоўнай конструкцыяй, якая найбольш поўна задавольвала новым запатрабаваньням. Але гэтым кола пытаньняў, якія нас цікавяць, не абмяжоўваецца. Лісты сьвядома культываваліся, як літаратурны жанр, як факт поэтычны. Вядома, што „Письма русского путешественника" пісаліся з разьлікам на апублікаваньне і на эстэтычную рэакцыю у чытачоў. Зараз мы ўбачылі, як эстэтычную сугэстыўнасьць набываюць рэчы, якія ня маюць эстэтычнага значэньня, рэчы, якія сформаваліся ў галінах вельмі далёкіх ад мастацтва слова.

Мне ўжо даводзілася адзначаць вялікі чытацкі посьпех у нашы дні, якім карыстаецца літаратура ўспамінаў, мэмуараў, дзеньнікаў і інш. Тое, што раней мела значэньне ці як чалавечы дакумант, ці як даку-

мант гістарычны, паступова набыло характар літаратурна-мастацкай канструкцыі. Рэчы, якія ствараліся без разьліку на эстэтычную вартасьць, нечакана атрымоўваюць гэту вартасьць. Сюжэт, як канструкцыйны прынцып, калі ня зусім выцясьняецца біографіяй, то павінен уступіць ёй значнае месца ў чытацкай увазе. Адбываюцца нават такія паказальныя зьявы, як стварэньне літаратурнага твору профэсыяналам-мастаком на матар'яле выдатных біографій. „Кюхля" і „Смерть Вазирмухтара" Ю. Тынянавым адносяцца да гэтай катэгорыі твораў. Зношанасьць прывычных сюжэтных мотывіровак заменена ў названых романах перакананальнасьцю гістарычнага здарэньня. Усевалад Іванаў піша аповесьць „Гибель Железной" на аснове апублікаваных матар'ялаў аб гісторыі гэтай дывізіі, пры чым чытач не задаволен ёй і аддае перавагу гістарычным матар'ялам. Нікалай Асееў адну з сваіх апошніх поэм „Семен Проскаков" сам называе „поэтическими комментариями" да запісак сапраўднага партызана Праскакова. Нагадаю, нарэшце, прыклад з запіснымі кніжкамі Чэхава, які прыводзіўся ў папярэднім разьдзеле. Сыры матар'ял, які не атрымаў ніякай спэцыяльнай апрацоўкі, на пэўным годзе свайго існаваньня становіцца эстэтычна дзеістым. Эстэтычныя запатрабаваньні новага чытача, гэнэзісам якіх тут займацца ня месца, пачынаюць задавольвацца зьявамі, якія не перажылі ніякага творчага ўзьдзеяньня. Чытач стаў у такі стасунак да рэчы літаратурна-бытавога характару, калі сам гэты стасунак набывае эстэтычны сэнс. Посьпех мэмуарнай літаратуры гаворыць, што новы чытач стаў у такі-ж стасунак і да зьяў соцыяльна-бытавога ці гісторыка-політычнага парадку. Эстэтычная сугэстыўнасьць знойдзена новым чытачом у галінах, якія, здавалася, менш усяго маглі даць повад для гэтага. Часта эстэтычную сугэстыўнасьць сучасны чалавек знаходзіць у рэчах, якія цалкам адносяцца да сьвету прыроды і на якія ня ўплывала ня толькі эстэтычнае, але нават якое-б то ні было агульна культурнае ўзьдзеяньне. Так, сучасны чалавек можа эстэтычна ўспрыймаць захад, мора, лес, горы і г. д. Сучасны чалавек адрозьнівае прыгожы пэйзаж ад няпрыгожага і, суглядаючы якую-небудзь мясцовасьць, якая яму падабаецца, можа перажываць такое-ж эстэтычнае хваляваньне, якое ён перажывае, гледзючы на малюнкі ўлюблёных пэйзажыстых. Але, зноў такі, былі эпохі, калі чалавецтва не разумела пэйзажу, як эстэтычнага раздражняльніка. Так, антычны грэк, гледзючы на мора, добра ведаў, што ў моры можна купацца і можна плаваць на караблёх, але быў-бы вельмі зьдзіўлен, калі-б яму сказалі, што морам трэба любавацца. Мала ведаў пэйзаж і сярэднявяковы чалавек.

Выпадзеньне рэчаў з эстэтычнага раду і ўключэньне ў эстэтычны рад прадметаў з іншых культурных галін і з сьвету прыроды адбываецца ня толькі ў вышэйадзначаных кірунках, ня толькі па гістарычнай паземнай, але і па соцыяльна-клясавых старчавых. Я ўжо гаварыў, што ў кожную эпоху існуе не адна літаратурная лінія, а некалькі, з якіх адна мае значэньне магістралі і праходзіць у цэнтры літаратурнага жыцьця, а другія ідуць па яго пэрыфэрыі. Мала таго.

Кожная адасобненая социяльная група мае сваю літаратуру, якая часта ўяўляе сабой зусім своеасабліваe зьявішча, якое ніяк ня ўкладваецца ў літаратурна-эстэтычныя нормы пануючай клясы. Я ўжо гаварыў, што літаратура ў клясавым грамадзтве заўсёды разнастайная і што побач з горызантальнымі гістарычнымі сячэньнямі, трэба ўжываць сячэньні па вэртыкалях. Ня гледзючы на тое, што гэтыя існуючыя адна пад другой літаратуры часта зусім чужыя адна другой, між імі час ад часу адбываецца абмен элемэнтамі. Рэчы, якія выпадаюць з эстэтычнага раду пануючай клясы, часта пераходзяць у эстэтычны сьвет прыгнечаных кляс і, наадварот, на паверхню літаратурна-эстэтычнага жыцьця часамі ўсплываюць некаторыя элемэнты літаратуры, якая спажываецца ніжэйшымі соцыяльнымі групамі.

Да ўсіх прыкладаў, якія прыводзіліся мною, такіх пераходаў зьверху-уніз („Утрачаны рай“ Мільтона, „Вайна і мір“ Талстога) можна яшчэ дадаць шмат прыкладаў з другіх літаратурных эпох. Возьмем хоць-бы „Историю Бовы королевича“. Славутая казка, якая ў XIX сталецьці разыйшлася сярод расійскага сялянства ў мільёнах экзэмпляраў, а сярод італьлянскага сялянства популярна і да нашага часу, зьяўляецца рыцарскім романам, які адносіцца к цыклю паданьняў аб Карле Вялікім і занесены ў вядомую хроніку сярэднявечча „Reali di Francia“. Напісаньне роману звычайна адносіцца да першай паловы XIV ст. ці яшчэ к больш ранейшаму часу. Ня гледзючы на тое, што ён належыў фэўдальнай арыстокрытыі, меў і тады вялікае кола чытачоў, даў матар'ял для шэрагу пераапрацовак і пераказаў, прозаічных і вершаваных. Адно з апошніх, якое зьявілася ў 1480 годзе ў Болёньі, атрымала да XVIII стагодзьдзя дваццаць пяць выданьняў. У лубачных расійскіх выданьнях роман пра Баву значна зьмяніўся, але па сутнасьці застаўся тым-жа рыцарскім романам. Мастацкі твор, выкінуты з літаратурнага бытаваньня пануючых кляс, перайшоў у літаратурны фонд клясы прыгнечанай. Вядома, ён успрыймаўся ўжо па-іншаму і ўплываў на свайго чытача ня тым, што было дзеістым для яго першых спажыўцоў. Але аб гэтым мы ўжо шмат гаварылі раней.

Каб не павялічаць артыкулу, я ня буду прыводзіць прыкладаў адваротнага процэсу, г. зн. уключэньня ў эстэтычны рад пануючай клясы літаратурных твораў, якія ўзьніклі ў эстэтычным сьвеце ніжэйшых кляс. Нагадаю адно аб тым посьпеху, які мела ў буржуазных чытацкіх колах вусная народная творчасьць.

## IX

У гэтым артыкуле я імкнуўся даць поўнае марксыцкае асьвятленьне адной з асноўных чарговых проблем літаратуразнаўства — проблеме эстэтычнай сугэстычнасьці. Вырашаючы гэта пытаньне, мне давялося закрануць і шэраг сумежных проблем, як, напрыклад, проблему рознастайнасьці кожнай літаратурнай эпохі, проблему вытворчасьці і спажываньня ў літаратурнай эволюцыі, проблему формы і зьместу і нека-

торыя іншыя. Карл Каўцкі ў прадмове да 1-га тому „Капіталу“ піша: „Рэчаіснасьць прадстаўляе бясконцы колазварот, у якім ня толькі з пачатку разьвіваецца канец, але і з канца пачатак,—праўда, у дыялектычным процэсе ня тое самае, але некульki далей разьвіўшыся пачатак... Але кніга ня можа скласьці колазвароту, у ёй павінны быць пачатак і канец“. Літаратура зьяўляецца вельмі складаным процэсам, усе элемэнты якога знаходзяцца ў цеснай і пастаяннай узаемадзейнасьці. Мы абстрагуем гэтыя элемэнты, аддзяляем іх ад суседніх і разглядаем паасобна. Кожны з іх можа зьявіцца асобнай проблемай, але кожны з іх застаецца так цесна зьвязаным з усей рэштай элемэнтаў літаратурнага факту, што адасобненае дасьледваньне аднэй якой-небудзь проблемы абавязкова прыцягвае да сябе шэраг блізкіх пытаньняў. Літаратурны процэс можна паступова разглядаць з розных пунктаў гледжаньня, падыходзіць да яго з розных бакоў, але межы паміж гэтымі рознымі пунктамі гледжаньня настолькі зьяўляюцца ўмоўнымі і няпэўнымі, што некаторая паступовая зьмена аспэктаў часьцей усяго зьяўляецца зусім натуральнай. Але ўсё-ж, хоць кожны соцыяльны процэс прадстаўляе бясконцы колазварот, артыкул, як і кніга павінны мець пачатак і канец. Я далёка не разгледзеў усіх проблем, якія ўзьнікаюць побач з проблемай эстэтычнай сугэстыўнасьці, але думаю, што сказанага ўсё-ж даволі, каб марксыцкае вырашэньне гэтай проблемы стала больш менш ясным.

Асаблівае значэньне я надаю ўвядзеньню ў кола асноўных паняцьцяў марксыцкага літаратуразнаўства паняцьця „дачыненьня“. З увядзеньнем гэтага паняцьця шмат пытаньняў атрымоўвае, як мы бачылі, нечакана простае вырашэньне. Каб унікнуць няяснасьцей, якія могуць узьнікнуць у чытачоў, я лічу ня лішнім спыніцца зараз некулькі больш падрабязна на высьвятленьні сапраўднай сутнасьці гэтага паняцьця ў дапасаваньні яго да літаратуразнаўства. Перш за ўсё, трэба асьцерагацца зблытваньня гэтага паняцьця з паняцьцем матэматычнага „стасунку“. Тымчасам, як матэматыка ведае толькі рацыянальную сувязь і абодва члены матэматычнага стасунку не знаходзяцца ні ў якой прычыннай залежнасьці паміж сабой, элемэнты соцыяльнага процэсу стаяць у сталай прычыннай сувязі адзін з другім. Тымчасам, як матэматычны стасунак перадумаўляе над сабой шэраг дзеяньняў і ператварэньняў, стасункі, якія выводзяцца намі з соцыяльных процэсаў, зьяўляюцца сапраўднымі толькі ў адных пэўных значэньнях іх членаў і не дапускаюць перастаноўкі апошніх. Як стасунак, быў намі ўсьвядомлены момант эстэтычнай сугэстыўнасьці (дзеістасьці) мастацкага твору. Першым членам стасунку была ўстаноўлена намі нейкая соцыяльная велічыня (спажывец, чытач), другім—матар'яльная аснова мастацкага факту. Было паказана, што ў той час, як першы член стасунку ёсьць велічыня зьменная, другі член (матар'яльная дадзенасьць) ня мае магчымасьці гістарычнай эволюцыі. У залежнасьці ад зьмены першага члену стасунку эстэтычная сугэстыўнасьць або зьнікае зусім, або атрымоўвае новую ахварбоўку. Эстэтычная сугэстыўнасьць мастацкага твору знахо-

дзіцца, такім чынам, у непасрэднай прычыннай залежнасьці ад стану і характару соцыяльнай масы, якая спажывае гэты мастацкі твор. Відавочна, што зьява эстэтычнай сугэстыўнасьці зьяўляецца магчымай толькі пры наяўнасьці пэўна організаванай матар'яльнай дадзенасьці (матар'яльная аснова поэтычнага факту), якая грае ролю эстэтычнага „раздражняльніка", а таму ў пэўнай ступені абумоўлена таксама асаблівасьцямі гэтага „раздражняльніка". Але праходзячы і пераламляючыся праз успрыймальную масу, праз соцыяльную велічыню нашага стасунку, такая абумоўленасьць носіць ужо другі характар. Гэта добра было відаць з праведзеных мною прыкладаў, калі адна і тая-ж матар'яльная аснова, адзін і той-жа эстэтычны „раздражняльнік" выклікаў у розных успрыймаючых груп розную эстэтычную рэакцыю. Трэба, аднак, заўважыць, што непасрэдная прычынная сувязь паміж самімі членамі стасунку, якая намі дасьледваецца, можа і не існаваць. Нельга, напрыклад, гаварыць, што прычынная сувязь існуе паміж асобаю, што любіць пэйзаж і самім пэйзажам, што горы і лес, якія складаюць пэйзаж, зьяўляюцца вынікам іх сузіральніка—чалавека. Такім вынікам будуць не самі горы і лес, а тое дачыненьне, якое ўстанаўліваецца паміж імі і чалавекам; інакш кажучы, тое, што гэтыя горы і лес усьведамляюцца чалавекам, як пэйзаж, зьяўляецца ўжо фактам соцыяльна-абумоўленым. Нельга таксама сказаць, што матар'яльная аснова „Войны и мира", прачытанага ў рабочым гуртку, прычынна абумоўлена соцыяльнай групай, прадстаўнікамі якой сябры гэтага гуртку зьяўляюцца. Але бясспрэчна, што эстэтычны эфэкт, зроблены ў рабочым гуртку романам Талстога, непасрэдна абумоўлен соцыяльным характарам гуртку. Аднак з таго, што матар'яльная аснова мастацкага твору можа не стаяць у прычыннай сувязі з асобамі, што ўспрыймаюць гэты твор, нельга рабіць вываду, што яна (матар'яльная аснова) наогул ня мае ніякай залежнасьці ад эканоміка-соцыяльнага раду. У гэтым артыкуле мне мала давялося гаварыць аб соцыяльнай абумоўленасьці самой матар'яльнай асновы мастацкага факту, але прызнаньне гэтай абумоўленасьці адносіцца да азбукі марксызму. Матар'яльна-слоўная аснова „Войны и мира" ня вызначана рабочым, які чытае роман, але, бязумоўна, падказана той соцыяльнай групай, па заказу якой напісалася гэта „дваранская агітка".

---

Канчаючы артыкул, я зноў паўтараю свой зварот да нашых літаратуразнаўцаў, крытыкаў і пісьменьнікаў. Марксыцкая навука аб літаратуры робіць у нас толькі першыя крокі. Наша літаратуразнаўчая і крытычная практыка сьведчыць аб тым, што цэлы шэраг асноўных проблем марксыцкага вывучэньня літаратурнага процэсу вырашаецца ў нас няправільна, або проста зусім не ставіцца. Мала таго. Прыведзеныя мной у пачатку гэтага артыкулу прыклады некаторых крытычных практыкаваньняў гавораць аб страшным літаратурным і агульным барбарызьме, які зьвіў сабе гняздо на балонах аднэй буйнейшай і паважанай нашай

часопісі. Пара, таварышы, пераключаць энэргію і сублімаваць палемічны задор. Можна ўжо перастаць „крыць“ адзін другога і пара заняцца сапраўднай крытыкай, якая так нам патрэбна. Сваім артыкулам я хацеў зьвярнуць увагу на адно з галоўных пытаньняў марксыцкай навукі аб літаратуры. Я буду вельмі здаволен, калі закранутая мной тэма паслужыць штуршком для далейшай ужо колектыўнай працы па паглыбленьню і замацаваньню марксыцкіх позыцый у вывучэньні літаратуры. Чакаючы такой крытыкі, я палічыў патрэбным пачаць і закончыць свой артыкул некаторай невялікай самакрытыкай.

**Ант. Адамовіч.**

# Максім Гарэцкі.

## XV.

Трэйці кругабег творчасьці Максіма Гарэцкага распачынаецца вядомаю аповесьцю „Дзьве душы“, (1918—1919 г.), якая, уласна кажучы, і зьяўляецца першым узорам дадзенага жанру ў беларускай літаратуры і з гэтага боку даволі ажыўлена абмяркоўвалася ў свой час нашаю крытыкаю [1]). Адылі, нас яна павінна цікавіць цяпер больш збоку выяўленьня тых асноўных тэндэнцый і асаблівасьцяй пісьменьнікавай творчасьці, якія мы вызначылі-былі яшчэ ў пачатку дадзенае монографіі. Гэтак мы і паспрабуем яе разгледзець.

Галоўным гэроем аповесьці аўтар робіць, як відаць з пачатку яе, панскага сына Ігната Абдзіраловіча, і ўжо ў гэтым можна было-б бачыць працяг прыёму адцягненьня ад галоўнага гэроя пісьменьнікавае творчасьці—сялянскага выхадца, прыёму, з якім мы мелі дачыненьне ў папярэднім пэрыядзе гэтае творчасьці. Адылі, з гэтага-ж самага пачатку, праз пэўны намёк на завязку вядомай міжнароднай фабулі аб замене дзяцей розных соцыяльных станаў мамкаю, куды ў якасьці замененага гэроя ўводзіцца Абдзіраловіч, можна ўжо бачыць, што мы будзем мець справу з тым-жа гэроем, толькі адпаведным чынам завэлюмованым, дзякуючы гэтай фабулі замены. Гэтае палажэньне супраўды пацьвярджаецца далейшым ходам аповесьці, калі мы бачым у гэроя спачатку падсьвядомае і неасьвядомленае ім самым праяўленьне тыповых рыс сялянскага выхадца, а пасьля і поўнае раскрыцьцё завязкі для гэроя і чытачоў. Такім чынам, фабуля замены, падаючы нам завэлюмованага гэроя, з аднаго боку, дапамагае аўтару найбольш лёгка перайсьці з адцягненьня ад гэроя да новага станаўленьня яго, а з другога, праз перанясеньне выхадзкіх рыс у падсьвядомую сфэру гэроя,—найбольш іх падкрэсьліць, найбольш поўна выявіць. Паглянем-жа цяпер, як выяўлены гэтыя рысы аўтарам.

Першаю такою выхадзкаю рысаю ў Абдзіраловіча бязумоўна зьяўляецца ягоная рэфлексыйнасьць, якая суправаджае яго на працягу ўсяе аповесьці і конкрэтна выражаецца ў шматлікіх рэфлексіях на тыя ці іншыя тэмы. Адылі, аўтар не абмяжоўваецца толькі кон-

[1]) Я маю тут на ўвазе галоўным чынам два крытычныя артыкулы: пашыраную рэцэнзію на „Дзьве душы“ А. Л. (мабыць, вядомая наша крытыка А. Луцкевіча), надрукаваную ў „Зборніку Нашай Нівы“ за 1920 год (ст. 41—44) і артыкул З. Бядулі ў газэце „Беларусь“ № 112 і 113 за 1920 г.

крэтным выяўленьнем гэтае рэфлексыйнасьці; ён яе, як і іншыя гэроевы рысы выхадзкага характару, адпаведным чынам падкрэсьлівае. Гэтае падкрэсьленьне перш за ўсё адбываецца праз тое, што аўтар ужо проста называе яе сваім імём, калі гаворыць пра свайго гэроя, як пра „хварэўшага... на рэфлексію і індывідуальныя перажываньні...“ [1]. Падругое, гэтае падкрэсьленьне праводзіцца ім яшчэ праз пэўнае ўгрунтаваньне, абумоўленьне гэтае зьявы, якое ен робіць у двух кірунках: у кірунку выяўленьня галоўнай накіраванасьці яе і ў кірунку выяўленьня яе псыхолёгічнае асновы, выходзячы з самых уласцівасьцяй гэроявага характару. Першы кірунак выяўляецца аўтарам у такім выглядзе: „Іншыя натуры, каб жыць далей і мець нейкі спакой, чуюць пільную патрэбу ў яснасьсі і добрай цямнасьці ўва ўсім, што ёсьць навакол, і таксама ў сваім жыцьці за астатні, пасьля такога-ж уразуменьня, час. Гэткіх натур найболей сярод славянаў і народаў Усходу. Яны патрабуюць нейкага здаваленьня і спакою духа ў адносінах да ўсяго, што ёсьць і што дзеецца на сьвеце. Час да часу проста карціць ім упарадкаваць думкі свае—гэта азначае, хоць і не разьвязаць спрадвечнага пытаньня: „Адкуля ўсё і што яно?“—дык хоць супакоіць сябе, падумаўшы, палятуцеўшы і йзноў набраўшыся яснасьці ў поглядах на спрадвечна няяснае“ [2]). Да гэткіх натур, якія, між іншым, разьліва нагадуюць некаторых гэрояў расійскага пісьменьніка Л. М. Талстога (прыкладам, гэроя роману „Воскресение“ Нехлюдавага з ягонаю духоваю „стиркою“), М. Гарэцкі залічае і Абдзіраловіча, зьвязваючы яго такім чынам і з гэроямі-выхадцамі, для якіх дадзеная ўстаноўка, як мы ведаем, зьяўляецца дужа характэрнай (возьмем хоць-бы гэтае характэрнае „Адкуля ўсё і што яно?“, якое тут можна разглядаць, як „нітку“, хоць і неразгорнутую, „праклятых“ пытаньняў). У кірунку-ж выяўленьня псыхолёгічнае асновы рэфлексыйнасьці пісьменьнік падае пра свайго гэроя наступнае: „Меў такі характар, што нічога не адчуваў глыбока адразу. Затое-ж калі міналіся дні, тыдні й месяцы, і калі ў іншых людзей сьлёзы высыхалі, ён патроху, ды болей а болей пераймаўся тым, што некалі фотографічна адбілася ў яго памяці, глыбей а глыбей адчуваў тое, што другіх зьбівала з ног адразу, а потым пераходзіла ў іх і забывалася імі“ [3]). Гэтая рыса, як бачым, паказваючы на глыбокасьць псыхолёгічнай асновы рэфлексыйнасьці ў гэроя, гэтым самым яшчэ лішні раз падкрэсьлівае яе.

Другою выхадзкаю рысаю ў Абдзіраловіча мы маем ужо таксама знаёмую нам раздвоенасьць. І тут мы бачым таксама падкрэсьленьне, перш за ўсё праз называньне гэтай зьявы сваім імём, якое ўваходзіць нават у загаловак аповесьці—„Дзьве душы“. У далейшым гэтае падкрэсьленьне аўтар робіць яшчэ выразьнейшым, надаючы раздвоенасьці соцыяльнага грунту. Праўда, прычына гэтага грунту спачатку

[1]) Гл. „Дзьве душы“, ст. 119.

[2]) Там-жа, ст 57.

[3]) Там-жа.

не называецца, паколькі не раскрываецца і сама завязка аповесьці, і яе чытач можа бачыць пакуль што толькі ў разыходзінах і сварцы гэроя—„народалюбца і апрашчоніка“—з сваім „бацькам“ старым панам Абдзіраловічам. Непасярэднім повадам да першага выяўленьня як гэтае раздвоенасьці, гэтак і яе грунту зьяўляецца незадачлівае каханьне гэроя да дачкі *багатыра-„міліёншчыка“* Алечкі Макасеевай. Само гэтае выяўленьне зьяўляецца вынікам адпаведных рэфлексій на дадзеную тэму, у процэсе якіх гэрой успамінае, як ён аднойчы „распачаў гутарку аб яе паглядах на паходжэньне з роду, багацьце і—як уважае палітычныя пытаньні, але яна, відаць, зразумела так, што каханак бяднейшы за яе, і зажмала яму рот бусямі, прасіла, каб болей не казаў аб палітыцы. Ён пачуў прыкрасьць і боль, адылі супакоіў сябе, што вінават гэта буржуазны лад жыцьця, а яна не вінавата. І зараз на тое забыўшыся, дзівіўся, што гэта ў душы яго з якоюсь прыкрасьцю дваілася?“ [1]). Далей гэтая раздвоенасьць паказваецца аўтарам яшчэ акрэсьленей: „І душа дваіцца. Дзьве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, на што яна мучыць яе падманкамі, цяпер цьвярдзеець, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасьці і навет жорсткасьці. Няхай сабе тая плача па нейкай паненцы. Ёй ня шкода, і яна ня здрыгнецца, калі дзікая людзкая куламеса пашарпае на шматкі і князя, і Макасеева, і разумца-армяніна. Ёй ня шкода... А тая, другая, падумала і здрыгнулася“ [2]) У далейшым ужо гэтая раздвоенасьць адрываецца ад свайго непасярэдняга поваду і набывае выключна соцыяльнае выяўленьне (прыкладам, калі Абдзіраловіч бачыць, як вучань Таўкач „дражніць паноў“. „Адна душа казала: „Мне ўсё роўна... Мне ўсё роўна“. А другая прыкра балела і маўчала“ (ст. 47) і ўрэшце завяршаецца найбольш падкрэсьленым, ужо соцыяльна-палітычным выяўленьнем: „Так, свой ці чужы,—падумаў ён з нейкім сорамам ці каяньнем. Я ня ведаю, хто мне свой і хто чужы. Я дзяржуся дзікага нэйтралітэту і ашуківаю тых і гэтых і самога сябе. Няўжо панская кроў, каторая цячэць у маіх жылах, маець тут нейкае значэньне? Ату, што за дурныя думкі,—гэтага ня можа быць. І адна палова яго, каторая разумела белых, маўчала, зьнямела. І другая палова яго, каторая разумела чырвоных, вымагала, каб ён знайшоў князя і забіў яго і каб ён дагнаў Гарэшку і даў яму высьпятка пад грудзі, як той даў ляжачаму Гаршку“ [3]). Адылі, як бачым далей з раскрыцьця завязкі, справа тут зусім не ў „панскай крыві“, а якраз наадварот—у крыві сялянскай. Самае-ж гэтае раскрыцьцё завязкі, хоць і спыняе непасярэдняе выяўленьне гэроевай раздвоенасьці, але ўсё-ж ня можа спыніць выяўленьня яе праз ягоныя ўчынкі і дзеі, пачынаючы хоць-бы з самага дачыненьня да гэтага раскрыцьця, пра якое аўтар гаворыць у канцы XIV разьдзелу; магчыма, што ў канцы гэтага-ж

[1]) „Гл. Дзьве душы“, ст. 25.
[2]) Там-жа, ст. 42.
[3]) Там-жа, ст. 97.

разьдзелу мы маглі-б мець і больш непасярэднія выказваньні, паколькі самы канец яго быў забраны польскаю ўладаю і не захаваўся (гл. увагу рэдакцыі на ст. 108).

Абедзьве разгледжаныя намі рысы характару Абдзіраловіча маюць сваё натуральнае завяршэньне ў трэцяй рысе—нерашучасьці, якая, таксама, як і першыя дзьве, зьяўляецца тыпова-выхадзкаю рысаю. І тут мы маем таксама простае называньне гэтае асаблівасьці хоць-бы ў тэй характарыстыцы, якой аўтар увесь час суправодзіць свайго гэроя: „Ён... быў толькі пабочным глядзеньнікам і ціхім думаньнікам“ [1], „навет некалькі разоў счырванеў за сваё няведаньне і збочнае сугляданьне крывагага змаганьня“ [2]. Часам гэтыя словы аўтар укладае ў вусны свайго гэроя, калі пакідае яго ў рэфлексіях над тым, што „бурлячая рэвалюцыя праходзіць, вось міма“ [3]. Праўда, часам пад уплывам тых ці іншых знадворных абставін, а галоўнае, голасу сялянскай крыві, гэтае „пабочнае глядзеньне“ гэроя прарываецца і мы бачым рэзка-афэктаваныя і рашучыя ўчынкі, як прыкладам, выступленьне на ўцякацкім сходзе ў разьдзеле IV. Адылі, сам аўтар зазначае на чыста прарыўны характар гэтых учынкаў: „Ён чуў, што кажа зусім ня тое, што меўся казаць, што словы ірвуцца без парадку, без яго поўнай волі, а гаварыў, гаварыў доўга“... [4]) і прымушае свайго гэроя адыходзіць ад іх, што, прыкладам, у дадзеным выпадку мы маем у гаворцы з латышом (разьдзел V). Апрача гэткіх нечаканых прарываў мы заўважаем у гэроя часам і жаданьні так ці інакш парушыць сваю нерашучасьць: „Так, аднак-жа, ён штосьці павінен рабіць. Так, так. Буду рабіць, буду рабіць!“ [5]) Адылі, гэтыя словы так і не атрымоўваюць конкрэтнага зьдзейсьненьня, толькі яшчэ раз, пры дапамозе, так сказаць, доваду ад праціўнага, падкрэсьліваючы гэтую рысу гэроя і набліжаючы ўвесь ягоны характар да тыпу гамлетызму ў популярным сэнсе гэтага слова.

Усе гэтыя рысы гэроевага характару адпаведным чынам уплываюць на ягонае сьветаадчуваньне і сьветагляд. Так, шукаючы ў сваіх рэфлексіях „яснасьці“ сьветаадчуваньня, гэрой прыходзіць да сьвядомасьці нявыразнасьці свайго сьветагляду: „Няма яснасьці, бо няма глаўнага“ [6]. І сапраўды, адсутнасьць гэтага, „галоўнага“, у сьветаглядзе абумоўленая гэроевым характарам, асабліва-ж ягонаю раздвоенасьцю, увесь час дае аб сабе знаць. Так, калі гэрой у сваім кагадзе-згаданым прарыве выступае шчырым абаронцам працоўных і прыгнечаных, ускрываючы ім значэньне клясавага змаганьня, дык у гаворцы з латышом ужо заяўляе: „Мне ня ймецца веры ў існаваньне самастойнай улады радаў нашага пролетарыята і, наогул, комуністычнага ладу жыцьця. Гэта

[1]) Гл. „Дзьве душы“, ст. 101 і інш.
[2]) Там-жа, ст. 16.
[3]) Там-жа, ст. 13 і інш.
[4]) Там-жа, ст. 28.
[5]) Там-жа, ст. 61.
[6]) Там-жа, ст 59.

пакуль утопія" [1]), а пад канец аповесьці, у гаворках з Іраю Сакавічанкаю ўжо абараняе, хоць і нясьмела, гэты „лад жыцьця" (разьдзел XVIII і XXI). Праўда, гэрой імкнецца так ці інакш зрабіць цэльным свой сьветагляд, прабуе „самавызначыцца", паводля ягонай тэрміналёгіі („А вось пакуль-што яшчэ самавызначаюся"—ст. 20), але гэтае „самавызначэньне" адбываецца ў яго, як і зазначаюць некаторыя іншыя гэроі (Гаршчок), увесь час і тая магчымасьць яго, на якую паказваецца ўрэшце гэроем („Я, бачыце, як беларус, патроху знаходжу сябе ў беларускай нацыянальнай і соцыяльнай сьвядомасьці", ст. 162), навет паводля самай сваёй формы выражэньня не зьяўляецца для нас пераканальнай ці канчальнай, больш-менш трывалай.

Такою ў асноўных рысах выглядае асоба Абдзіраловіча. Паглянем-жа цяпер на гэтую асобу, як на дзеяча разгляданае аповесьці, разгледзім яе на фоне гэтага твору. Перш за ўсё, возьмем самую аснову гэтага фону—фабулю аповесьці і прыгледзімся бліжэй, якую ролю адыгрывае ў ёй гэрой. У пачатку гэтага разьдзелу мы ўжо казалі, што маем ў дадзенай рэчы справу з замененым гэроем. Замена гэтая адбываецца з самага маленства гэроя, калі нечакана забіваюць жонку пана Абдзіраловіча і ён бярэць для свайго трохмесячнага сына Ігналіка „мамку з далёкай вёсачкі, а з ёю і яе дзіцёнка-хлопчыка, панічовага блізкашто аднадзёньнічка" [2]). І вось мамка, хочучы свайму сыну лепшай долі, замяняе яго няўпрыцям з панскім. „І дзіўныя чуткі папаўзьлі былі ў далёкай вёсцы але, добра, да пана ніякае дзейканьне адтуль не дахадзіла. І ён гардзіўся Ігнасём, чуў у ім сваю белую костку і сінюю кроў, сваю пароду. Толькі адзін раз, адзін нядобры момант быў, здалося Маланьні, як быццам пан занадта доўга і пільна а пільна ўглядаецца ў Ігналька і на вялікую карціну на сьцяне, дзе быў намалёваны сам і з нябожчыцаю жонкаю..." [3]) у такой намёкавай форме падае гэтую завязку замены сам аўтар у першым разьдзеле аповесьці. Такім чынам, Абдзіраловіч падаецца аўтарам, як „адсьледак чыста-сялянскай крыві з чыста-панскім выхаваньнем" [4]), кажучы словамі рэцэнзэнта аповесьці З. Бядулі, прычым, трэба дадаць, у поўнай сваёй несьвядомасьці наконт першага, прынамсі, у палавіне аповесьці. Пералом надыходзіць толькі ў XIII разьдзеле, калі мамка, канаючы, адкрывае таямніцу Абдзіраловічу: „Мой ты!.. Мой родны сынок... А Васілёк—панскі. Пераmяніла я вас маленькіх, пераклала. Мяркувала: шчасьлівейшы так будзеш... Мой ты Ігналік... Не, ты—Васілька, а ён—Ігналік" [5])... Такім чынам, мы бачым, што Абдзіраловіч зьяўляецца як-бы скрайнім выражэньнем тае-ж цэнтральнае ў пісьменьнікавай творчасьці асобы сялянскага выхадца, прычым сама проблема выхадзтва, проблема „роднага карэньня", паводле тэрміналёгіі аўтара, пераносячыся ў падсьвядомую

[1]) Гл. „Дзьве душы", ст. 30.
[2]) Там-жа, ст. 5.
[3]) Там-жа, ст. 6.
[4]) Гл. газ. „Беларусь", 1920 г. № 113.
[5]) Гл. „Дзьве душы". ст. 100.

сфэру, у сфэру атавізму (што было адзначана тым-жа З. Бядулем), яшчэ больш завойстрываецца, і разам з тым, суздром апраўдаваецца такая цэнтральная рыса гэроевага характару, як раздвоенасьць, паколькі чыста-біялёгічны фактар паходжаньня цягне гэроя на бок сялянства, а ўжо соцыяльны фактар уплыву абстаноўкі жыцьця і выхаваньня—на панскі бок. Значыцца, як мы бачым, фабульная аснова фону аповесьці толькі дапамагае падкрэсьліваньню асноўных уласьцівасьцяй Абдзіраловіча, як таго-ж цэнтральнага гэроя пісьменьнікавай творчасьці.

Апрача гэтай фабульнай асновы, такую-ж функцыю падкрэсьліваньня гэроя выконваюць і некаторыя іншыя элемэнты напаўненьня фабулі ў выглядзе, галоўным чынам, другарадных гэрояў. На першым месцы тут стаяць, бязумоўна, два жаночыя пэрсонажы аповесьці, з якімі Абдзіраловіч стыкаецца ў сфэры *каханьня*—Аля Макасеева і Іра Сакавічанка. Так, у першай палавіне аповесьці гэрой захоплен і пакутуе ад каханьня да дачкі міліёншчыка Алі, у другой ён паступова і выразна зварачаецца да свае ранейшае сымпатыі—дачкі лясьнічага, сьвядомай беларускі Іры. Тут асабліва цікава супастава абедзьвюх дзяўчат, якую робіць сам гэрой: „Седзячы ў сквэры на лавачцы, Абдзіраловіч уздумаў на Іру з мешаным чуцьцём нейкага жалю, крыўды і раздражнёнасьці, а потым уздумаў на свае любошчы з Алечкаю... Не добра, што ў нас нічога ня выйшла, і мы разыйшліся ў розныя бакі. Абое былі-б няшчасныя, бо скрозь усё жыцьцё цягнула-б нас нешта ў гэтыя розныя бакі... І тут-жа ўзноў уздумаў на Іру, на яе шэрыя круглыя вочы, такія разумныя, але ўжо бяз той маладзенькай дзявоцкай сьвежасьці, што ў Алі. Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі бліскучых чорных валасоў стаяў уваччу і ня меў ён на яго ніякага жалю, ніякай крыўды. А голас Іры, мяккі, густы, нутраны, дрыжэў увушшу, ды будзіў жаль і раздражнёнасьць“ [1]). Такім чынам, абедзьве дзяўчыны зьяўляюцца таксама тымі магнэсамі, якія працягваюць справу кагадзе разгледжаных зьяў фабулі, цягнучы гэроя ў розныя бакі—панскі і сялянскі. Яны выяўляюць з сабе сувязі таксама некаторага біялёгічнага характару, паколькі мы маем тут справу з каханьнем, сувязі з вышэйзгаданымі пачаткамі супраўднага, паходжаньня гэроя і яго нібы-паходжаньня ад пана Адзіраловіча. Як такія, яны пакладаюць сабою грунт дзьвюм лініям гэрояў, што працягваюць у далейшым іхныя функцыі.

Так, за Алечкаю сьледам ідзе яе бацька, Мікола Мартынавіч Макасееў, які „пехатою і басаnож у N прыйшоў, бо ў дарозе лапці стаптаў, але пашчасьціла хлапцу: цяпер ён—Мікола Мартынавіч і вялікія міліёны мае“ [2]) і пра якога аўтар кажа, што „мусіць ня меў ён, вясковы выхаджэнец, веры, каб хам мог яго зжорці“ [3]). Такім чынам, мы маем перад сабою адмоўнага вясковага выхадца, якога, аднак, аўтар малюе

[1]) Гл. „Дзьве душы“, ст. 179.
[2]) Там-жа, стар. 63.
[3]) Там-жа, стар. 87.

ў даволі мяккіх танох (гл. разьдзел XI). Нарэшце, дадзеную лінію замыкаюць, як скрайнасьці, Абдзіраловічаў супарат у каханьні князь Гальшанскі і, асабліва, капітан Гарэшка. Апошні выяўляе з сябе скрайні тып актыўнага змагальніка за панскі бок у рэволюцыі, прытым, хітрага змагальніка і змагальніка-зьвера (ягоная дружба і забойства Гаршка), ад якога Абдзіраловіч увесь час адпіхваецца і які імкнецца перацягнуць яго на свой бок, канчаючы хоць тым, што спавядаецца ўва ўсіх сваіх зьверствах, цікава заўважаючы: „Надта-ж, надта вам дзякую, што ўважна слухалі, бо так мне палягчэла, быццам быў запэцканы дый вымыўся ў чысьценькай вадзіцы“ [1]).

За Іраю Сакавічанкаю ідуць сялянскія выхадцы, сьвядомыя беларусы-адраджэнцы, на бок якіх урэшце як-бы й пераходзіць сам Абдзіраловіч. Дзеля таго, што гэтыя гэроі ўжо паводля самога свайго палажэньня належаць да групы галоўных гэрояў пісьменьнікавай творчасьці, мы спынім ля іхнай лініі сваю увагу крышку больш, пачынаючы ад самое радаводніцы гэтае лініі—Іры Сакавічанкі. Знадворную яе характарыстыку мы ўжо падавалі ў словах Абдзіраловіча; унутраную характарыстыку падае нам аўтар у XVII разьдзеле аповесьці. Адтуль мы даведаемся таксама і пра галоўныя абставіны яе жыцьця, пра навуку, былое каханьне да Абдзіраловіча, знаёмства і працу ў беларускім руху. Тут-жа мы заўважаем і некаторую раздвоенасьць у гэтай гэроіні, калі яе апаноўваюць „думкі аб тым, што працуе, працуе бяз концу, а дзе-ж радасьць асабістага жыцьця“ [2]), што цягнуць яе да Абдзіраловіча, з якім яна некалі зазнавала гэтую радасьць, а, з другога боку, чыста-адраджэнцкія палажэньні, што змагаюцца з імі: „І самой сабе сорамна за думкі гэтыя! Тож зрада сьвятой справе. Ці можна шкадаваць сіл, прыгажосьці, маладосьці для адраджэньня бацькаўшчыны?“ [3]). Як вынік гэтага, маем некаторае засмучэньне („Серца сьціскаецца ад засмучэньня“), што часам даходзіць аж да безнадзейнасьці („Пастаяўшы безнадзейна...“, стар. 133). Адылі, самае цікавае ў гэтай гэроіні—гэта яе нацыянальныя погляды, якія выяўляюцца ў самай скрайняй і нязгодавай форме, прыкладам, у яе гаворцы з Абдзіраловічам пра „Інтэрнацыянал“ і „Беларускую марсэльезу“ (разьдзел XXI). У такім выглядзе Іра Сакавічанка панаўняе сабою тую нялічную ў пісьменьнікавай творчасьці групку жаночых пэрсонажаў і, ў прыватнасьці, сялянскіх выхадак, з прадстаўнікамі якое нам даводзілася ужо мець дачыненьне, ды зьяўляецца найбольш разгорнутым вобразам у гэтай групы, і, апрача таго, завойстрывае тую катэгорыю асноўных пытаньняў-тэм пісьменьнікавай творчасьці, якая ўшчэ застаецца ў ёй адчыненай, незавершанай—катэгорыю нацыянальных пытаньняў.

Сьледам за Іраю Сакавічанкаю разгляданую намі лінію гэрояў працягвае „добры, слаўны прыяцель Абдзіраловіча, вучыцель Мікола Кан-

[1]) Гл. „Дзьве душы“, стар. 154.
[2]) Там-жа, стар. 127.
[3]) Там-жа, стар. 128.

цавы" [1]). З унутранога боку гэтага, школьнага яшчэ Абдзіраловічавага таварыша, з ягонай ідэялістычнай наіўнасьцю і лятуценнасьцю дытымі рысамі, якія пададзены самым аўтарам у кагадзе-прыведзеных словах, найлепш можна ахарактарызаваць тэрмінам нямецкай ідэялістычнай філёзофіі Гегеля „прыгожадушша" (Schönseeligkeit), у якім сам філёзоф бачыў першую ступень, ці тэзу, паводля ўжыванага ім дыялектычнага мэтоду, духовага разьвіцьця якая павінна зьмяніцца, як антытэзаю, стадыяю распаду, дызгармоніі. І калі супраўды з гэтага боку падыйсьці да Міколы Канцавога і Абдзіраловіча, якога Мікола заўсёды ставіць вышэй за сябе, хоць сам Абдзіраловіч схілен бачыць у ім асобу аднолькавага з сабою рангу, калі, прыкладам, кажа аб тым, што Міколаў дух таксама „папсаваны цывілізацыяй" (разьдзел VII), дык можна бачыць у іх адзін і той-жа тып, толькі на розных ступенях дыялектычнага разьвіцьця, тып таго-ж галоўнага гэроя пісьменьнікавай творчасьці—сялянскага выхадца. З боку ідэялёгіі ў Міколы цікава інтуіцыйнае прызнаньне правільнасьці соцыяльнай лініі галоўнага павадыра нашае сучаснасьці—пролетарыяту і ягонага авангарду—комуністычнай партыі, якое, праўда, выражаецца ў яго, як у „прыгожадушнага" ідэялістага, пакуль-што яшчэ ў нявыразных формах. Так, з аднаго боку, Мікола „дасканальна пераверыўся, што толькі на шляху нацыянальна-соцыяльным беларускае адраджэньне будзе пэўным" [2]) і „што толькі сучасная форма бальшавіцкай ідэі (гутарка йдзе пра пэрыяд вайсковага комунізму. *А. А.*) спрыклілась мужыкам дзеля розных прычын звонку, як блокада бальшавіцкай тэрыторыі, і прычын знутры, як камісарскае злачынства і няўмельства" [3]) і высоўвае ідэю „нацыянальнага бальшавізму", а з другога боку, хоча, каб беларускі рух абхапіў сабою масы „ня толькі сялянства, адылі й беларускага мяшчанства" (разумеючы апошні тэрмін у першапачатковым сэнсе, як жыхароў места, гораду), думаючы, што „якраз гэтае мяшчанства яшчэ можа згуляць ролю першых байцоў" [4]). Праўда, у абодвух выпадках мы маем нявыразныя формулёўкі, асабліва ў другім, дзе тэрмін „беларускае мяшчанства", побач з работнікамі, пролетарыятам, расчыняе ў сабе і шмат іншых, зусім процілежных соцыяльных элемэнтаў, але гэта толькі зьяўляецца пэўным вынікам асноўнай уласьцівасьці гэроевага характару. Праўда яшчэ й тое, што на гэтым грунце ў Міколы пачынае зьяўляцца і некаторая раздвоенасьць, паколькі ён, побач з кагадзе прыведзенымі поглядамі, часам радуецца „падвышэньню рэакцыі ў сялянстве проці бальшавіцкага ладу жыцьця", бо пры гэтым „падвышаліся рэзультаты беларускай працы", хоць адначасна добра ўсьведамляе, што „радасьць яго ад гэтай рэакцыі прынцыпіяльна ня можа быць абязьвінена і пахвалена, бо яна можа паставіць яго побач

[1]) Гл. „Дзьве душы", стар. 118.
[2]) Там-жа, стар. 121.
[3]) Там-жа, стар. 123.
[4]) Там-жа, стар. 122.

з нянавіднымі ворагамі народа і справядлівасьці"[1]). З гэтага боку Мікола добра тыпізуе сабою беларускага адраджэнца першых часоў устанаўленьня савецкай улады на Беларусі, а, разам з тым, праз сваю тэзу „нацыянальна-соцыяльнага руху" набліжае пастаўленыя ў пісьменьнікавай творчасьці нацыянальныя пытаньні да завяршэньня.

Нарэшце, усю лінію сялянскіх выхадцаў-адраджэнцаў замыкае, як скрайні тып, горацкі вучань Сухавей, з якім аўтар знаёміць нас яшчэ ў VIII разьдзеле аповесьці. Гэта тып нацыяналістага-фанатыка, для якога на сьвеце існуюць толькі ці „сьвядомыя, шчырыя беларусы", ці „рэнэгаты", ці „ворагі—чужынцы", які актыўна, самаахвярна і нясупынна праводзіць беларускую нацыянальную агітацыю. Яго найбольш характарызуюць тыя словы ў гутарцык з Іраю Сакавічанкаю, у якіх ён выносіць рэзкі прысуд Абдзіраловічу;—„Што? ён казаў вам, што мае „дзьве душы"?.. І вы яго бароніце? Дарма! Гэта ня „дзьве душы", а гэта... гэта...—хлапец круціў рукамі,—гэта расхрыстанасьць, разьлезласьць, мяккацеласьць... нешта для мяне гідкае, сьлізкае. Гэтыя вырадкі губяць бацькаўшчыну, як і ўсякія ворагі-чужынцы... Эт, дрэнь..."[2]). У такім выглядзе Сухавей зьяўляецца як-бы новым адменьнікам галоўнага гэроя пісьменьнікавай творчасьці, і сваім фанатызмам найбольш спрыяе падкрэсьленьню і завяршэньню нацыянальных пытаньняў у ёй.

Так у васноўным выглядае другая лінія гэрояў разгляданага твору, якая цягнець Абдзіраловіча ў бок яго супраўднага паходжаньня. Як бачым, у параўнаньні з першаю лініяю, лініяю нібы-паходжаньня, яна зьяўляецца, папершае, найбольш абяцаючай гэрою, паколькі самы пачатак яе—каханьне да Іры—толькі пачынае разьвівацца, а падругое, найбольш прыемлемай, бо ня мае ў сабе гэтулькі тыпаў, ад якіх гэрой адпіхаецца, як першая лінія (князь Гальшанскі, Гарэшка, нават Макасееў), а, наадварот, мае яшчэ аднаго дадатнага, прыцягальнага тыпа—„прыгожадушнага" Міколу Канцавога. Апрача таго, навет скрайні тып гэтай лініі—Сухавей не зьяўляецца гэтак агідным Абдзіраловічу, як такі-ж тып першай лініі Гарэшка. Такім чынам, мы можам нават прадбачыць перамогу гэтай лініі ў гэроі, намёкі на што ў творы мы ўжо прыводзілі ў сваім месцы, хоць пэўнай разьвязкі і ня маем. З другога боку, мы можам бачыць у гэтай лініі як дапаўненьне тае колькасьці паасобных портрэтаў галоўнага гэроя пісьменьнікавай творчасьці, якія былі намножаны яшчэ ў першым кругабезе яе і як-бы прызначаны для монумэнтальнага выяўленьня галоўнага гэроя праз накладаньне гэтых портрэтаў адзін на адзін (Мікола Канцавы), так і папаўненьне новымі адменьнікамі групы гэтых гэрояў (Іра Сакавічанка, Сухавей), як-бы стварэньня іхняй галерэі. І, нарэшце, мы можам разглядаць гэрояў гэтае лініі, як носьбітаў, выканаўцаў функцыі падкрэсьленьня і завяршэньня нацыянальна-беларускіх пытаньняў, пастаўленых

[1]) Гл. „Дзьве душы", стар. 123.
[2]) Там-жа, стар. 186.

яшчэ ў першым пэрыядзе пісьменьнікавай творчасьці, менавіта, у зборніку „Рунь“.

Побач з гэтымі дзьвюма лініямі ў творы існуе яшчэ й трэцяя лінія, якая таксама аказвае ўплыў на Абдзіраловіча ды імкнецца яго пера- цягнуць на свой бок. Гэта—лінія работнікаў і комуністых, якая прад- стаўлена асобамі Васіля і Гаршка—„Карпавіча“. Праўда, як можна бачыць ужо з гэтага пералічэньня яе прадстаўнікоў, дадзеная лінія ня можа ні ў якой меры раўняцца з папярэднімі паводле свайго ўплыву на гэроя. Апрача таго, яна ня мае аніякай сувязі з паходжаньнем гэроя, калі ня лічыць таго, што Васіль зьяўляецца другім гэроем фабулі замены, і зусім ня мае сувязяй з ім праз каханьне. Разам з тым, гэтая лінія падаецца аўтарам, як набліжаная да другой. Так, перш за ўсё як у самога Абдзіраловіча, гэтак і ў некаторых гэрояў (Мікола Канцавы) мы заўважалі пэўны нахіл да асноўнага кірунку гэтай лініі; падругое, самая пабудова гэтай лініі мае некаторую адпаведнасьць з пабудоваю другое лініі, паколькі ў Васілі да некаторай ступені можна бачыць такога-ж „прыгожадушнага“ гэроя, як і ў Міколу Канцавым (пар. асабліва сцэнку з гаспадыняю і яе дзіцёнкам у апошнім разьдзеле аповесьці), а ў Карпавічы—скрайняга гэроя, да якога Абдзіраловіч таксама ня чуе такой агіды, як да Гарэшкі, а часам адчувае нават у ім другі прыцягальны полюс, супроцьлежны Гарэшку (гл. вышэй пра социяльна-палітычнае выяўленьне Абдзіраловічавай раздвоенасьці). Праўда, аўтар падае нам і некаторае зьліжэньне трэйцяй лініі з першаю у васобах іхных скрайных гэрояў—Карпавіча і Гарэшкі, але яно адбываецца на чыста формальным, 'дый, пры тым, адмоўным грунце, пры дапамозе провокацыйных захадаў Гарэшкі і канчаецца катастрофічна для трэйцяе лініі...

Гэткае-ж зьліжэньне можна было-б бачыць і ў тым, што другі гэрой гэтай лініі—Васіль, зьяўляючыся паводля сапраўднага свайго паходжаньня панам, можа, аналёгічна Абдзіраловічу, праявіць атавізм у дадзеным кірунку і, раздвоіўшыся, таксама мець некаторую сувязь з першаю лініяю, але такая магчымасьць аўтарам зусім непададзена, у чым крытыка і бачыла загану аповесьці. Мы ня будзем тлумачыць апошнюю зьяву тым, што, каб паказаная магчымасьць была аўтарам зьдзейсьнена, дык „тут выйшлі-бы два аднародныя тыпы, што было-бы няцікава ў аднэй повесьці“, як рабіў гэта З. Бядуля [1]), бо Васілёвай раздвоенасьці аўтар мог-бы надаць зусім іншага характару. Заўважым толькі, што, як нам здаецца, гэтая раздвоенасьць не магла быць уласьціва Васілю ўжо таму, што ён і паводле свайго паходжаньня, і грамадзкага быцьця належаў да скрайніх клясаў, клясаў-антыподаў—буржуазіі і пролетарыяту, у якіх пераход з першай у другую, як мы ведаем з практыкі шмат якіх рэволюцыйных павадыроў пролетарыяту, у большасьці выпадкаў ня згукаецца раздвоенасьцю, бо паводле свае формы гэтыя клясы зьяўляюцца аднолькавымі, тымчасам, як Абдзі-

[1]) Гл. газ „Беларусь“ 1920 г, № 113.

раловіч належыць да прамежнай клясы—сялянства, у самай соцыяльнай прыродзе якое ўжо закладзена раздвоенасьць.

З разгляданае лініі асабліва цікавым зьяўляецца тып „Карпавіча"—Гаршка, пра якога сам аўтар кажа, што ён „належаў да тэй даўнай і не малой чарады выхаджэнцаў з беларускай вёскі, каторая чакаець яшчэ ў літаратуры свайго пісьменьніка" [1]) І сапраўды, Карпавіч зьяўляецца ня зусім звычайным тыпам выхадца ня толькі паводля гісторыі свайго выхадзтва, якую пісьменьнік падрабязна разгортае нам у X разьдзеле свае аповесьці, але і паводле сваіх характэрных рыс. Так, ён не зьяўляецца адмоўным выхадцам, паколькі ўсё-ж становіцца ўрэшце на цьвёрды соцыяльны і палітычны грунт, найбольш прыгодны для свае клясавае прыналежнасьці паводле походжаньня, хоць і ня робіць таго-ж у нацыянальным кірунку. Адылі, і да дадатнага ці звычайнага ў пісьменьніка тыпа выхадца яго таксама аднесьці нельга дзеля таго характару, які ў яго набывае такая звычайная рыса выхадзкай натуры, як раздвоенасьць, што абарачаецца ў дадзеным выпадку не ў колізію, як звычайна ў выхадцаў, а ў роўнаважнасьць, роўназначнасьць супярэчных бакоў і пры іхнай ужыўнасьці ці стыхійным перамяшчэньні. Гэтая ўласьцівасьць адносіць Гаршка да тэй катэгорыі людзей, якія, як кажа пісьменьнік, „нейкім дзівам сумяшчаюць у душы сваёй найлепшы, здаецца, гуманізм і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію і алхімію, марксізм і хіромантыю і з аднолькавай шчырасьцю вёруюць у тое і другое. Багі іхныя любяць завадзіць сварку, скідаюць адзін аднаго з пасаду і робяць у галаве свайго паклоньніка нязвычайны сумбур. Багоў гэных зазвычай надта многа, але бываюць часіны, што і няма нічога, вось тады людзі такога гатунку і вырабляюць розныя неспадзеўныя штучкі.—„Нікоменьку не прызнаюся, сам сабе думаў інагды Карпавіч,—але чую, што ў абы-якой партыі мог-бы знаходзіцца з поўнай шчырасьцю" [2]). Гэтаю асаблівасьцю можна і вытлумачыць Карпавічава зьбліжэньне з скрайным прадстаўніком першае лініі Гарэшкам, якое, надаючы самому Карпавічу больш скрайнасьці і адмоўнасьці, адпіхае ад ягонай лініі другую лінію. Калі-ж гэтае зьбліжэньне становіцца катастрофічным для Карпавіча, адсякаючы яго зусім, ізноў адкрываецца магчымасьць да зьліцьця другой і трэйцяй лініі, асабліва ўважаючы на тыя тэндэнцыі да гэтага зьліцьця, якія мы бачылі ў паасобных іхных прадстаўнікоў. І хоць аўтар не падае непасярэдня навет намёку на гэткае разьвязаньне магчымасьці, лёгіка пасьлярэволюцыйных падзей на Беларусі цалкам апраўдвае яе.

З поваду асобы Карпавіча аўтар выказавае некалькі агульных меркаваньняў пра выхадзтва, ці як ён кажа, пра „чараду выхаджэнцаў". Аналізуючы гэтую „чараду" яшчэ ад самага яе пачатку—„Чарада гэтая маець свой пачынак у дужа далёкай мінуўшчыне, калі прадзеды нашыя, то той, то гэты, ня прыкутыя да свайго загону, як

[1]) Гл. „Дзьве душы", ст. 61

[2]) Там-жа, ст. 79.

цяпер унукі, абы якой культураю, раптам кідалі грэчкасейства і беглі ўва ўвесь белы божы сьвет шукаць волі, ці тое: гамаваць свае атавістычныя пачуцьці" [1])—аж да цяперашняга часу, калі ўжо „хлопцы з беларускай вёскі пачалі выхадзіць... ня толькі „у сьвет", адылі і „у людзі", аўтар так у васноўным акрэсьлівае палажэньне большасьці з прадстаўнікоў гэтае „чарады": „Дужа псуець сабе кар'еру мужыцкі сын, калі ня скора забываецца на хату бацькіну. Ташнуець тады, няма ведама чаго; у горадзе ходзіць, як непрыкаяны, а дамоў прыедзе—да працы ахвоты ня маець. Так і прамарудзіць задарма жыцьцё сваё: ні богу сьвечка, а ні чорту чапяла, ні пан, ні нашчанец, мужыцкі брат" [2]).

Гэтая характарыстыка, якая, як мы бачым, цалкам справядлівая для ўсіх разгляданых намі гэрояў-выхадцаў, прыкладаецца аўтарам і да Карпавіча, што таксама „папоўніў чараду", і з гэтае прычыны мы можам бачыць у ім, пры ўсёй ягонай сваеасаблівасьці, яшчэ адзін адменьнік тае галерэі гэтых гэрояў, пра наяўнасьць якое ў разгляданым творы мы ўжо казалі, хоць, можа і адменьнік ніжэйшага разбору. З другога боку, у кагадзе прыведзеных выказваньнях можна бачыць і спробу аўтара так ці інакш падагульніць і ўсьвядоміць высоўваную і распрацоўваную ім проблему выхадзтва. У гэтым кірунку некаторае дапаўненьне мы маем і ў непасярэдня аўтаравым лірычным, правільней, лірычна-публіцыстычным адыходзе пра вёску ў XIX разьдзеле, дзе аўтар адразу-ж выказвае, як сваё уласнае, тыповае выхадзкае дачыненьне да вёскі: „Вёска... Дзярэўня... Я-ж яе люблю, але дзіўною любоўю, каторая найляпей азначаецца вядомай прыказкай: нудна ў розьні, цесна разам" [3]) і крышку далей: „Люблю і ненавіджу разам". Паказваючы на сваё „чуцьцё зайздрасьці к месту" (гораду *А А.*) і „мястоваму пролетарыяту", пісьменьнік даець з чыста-выхадзкага пункту гледжаньня культурную і псыхолёгічную характэрыстыку вёскі, адзначае яе асталасьць, інэртнасьць, індывідуалістычна-ўласьніцкія асаблівасьці, гразь, цемнату і г. д., выступаючы, такім чынам, з гэтымі выказваньнямі ізноў у ролі галоўнага гэроя свае творчасьці.

Гэткаю, з большага, можа быць агульная характарыстыка гэрояў і асноўных установак разгляданага твору. Для паўнаты яе трэба сказаць некалькі слоў і аб агульным фоне яго, фоне жыцьця, замалёванага ў ім, асабліва ў сувязі з некаторымі пытаньнямі, якія паўсталі на грунце якраз разгляду гэтага фону ў крытыкаў аповесьці. Гэткім фонам аўтар узяў пару ад пачатку лютаўскай рэволюцыі да першых часоў наснуджваньня савецкае ўлады, зрабіўшы сваіх гэрояў у тэй ці іншай ступені ўдзельнікамі актыўнага жыцьця гэтае пары, ці, прынамсі, выцяняючы іх на гэтым фоне. Самае жыцьцёвае багацьце дадзенага фону, які меў сваймі момантамі такія зьявы, як вайна, рэволюцыя, першыя крокі вайсковага комунізму, пры гэтым, поўна і мастацка пададзенае

[1]) Гл. „Дзьве душы", ст. 61.
[2]) Там-жа, ст. 63.
[3]) Там-жа, ст. 148.

аўтарам, што адзначалася і крытыкаю (прыкладам, у рэцэнзіі А. Л.— „Сільны Гарэцкі, калі дае абразы жыцьця краю ў той час, як валіліся фундамэнты старое Расеі", гл. „Зборнік Нашай Нівы", ст. 43), спрычынілася, аднак, да таго, што ён засьціў сабою асноўны фон пісьменьнікавай творчасьці, той фон, які зьяўляўся звычайным асяродзьдзем жыцьця і дзейнасьці галоўнага гэроя гэтае творчасьці. З гэтае прычыны, гэрой, перанесены ў іншае асяродзьдзе, атрымаў магчымасьць іншага азмысьленьня—не як гэроя-выхадца, а як тыповага гэроя-інтэлігента пары, пададзенай у фоне аповесьці, больш-менш блізкага да гэрояў, прыкладам,—расійскага пісьменьніка Вересаевага, асабліва ў ягонай вядомай аповесьці „В тупике". Уплыву гэтай магчымасьці і паддаўся З. Бядуля, як крытык аповесьці, калі пісаў: „Трэба сказаць, што падвойнасьць пачуцьцяў у гэтай рэволюцыі пераважываець большасьць інтэлігентаў, як вышаўшыя з народу, таксама і частка з прадстаўнікоў болей прывілейных клясаў" [1]) і крышку далей: „Каб не спэцыяльная манера аўтара, дык яму і ня трэба было тут даваць такое дзіўнае здарэньне аб падмене сялянскага хлопчыка на панскага. Рэльефнасьць і яркасьць двоядушыя на мяжы двух эпох добра прыкметны і бяз гэтага". Праўда, той-жа З. Бядуля адзначае і сялянскі атавізм гэроя, і прабуе навет зьвязаць яго, хоць і дужа асьцярожна, з ранейшымі гэроямі пісьменьнікавае творчасьці („Зацікаўленасьць аўтара да падвойнасьці душы, наогул, прыкмячаецца і ў яго іншых апавяданьнях, пісаных яшчэ да рэволюцыі"), але ўсё-ж ткі памылка крытыка відавочна: у Абдзіраловічы мы можам бачыць толькі новы адменьнік галоўнага гэроя творчасьці М. Гарэцкага, а ня звычайны тып „інтэлігента на мяжы дзьвюх эпох", таксама, як і ў завязцы аповесьці не „спэцыяльную манеру аўтара" ці якую-небудзь „фантастычна-романтычную" або „фаталістычную" завязку, паводле іншых выказваньняў таго-ж З. Бядулі, а пэўнае імкненьне да падкрэсьленьня гэтага гэроя, менавіта, як галоўнага гэроя—выхадца. Крыху правільней падышоў да разгляданай зьявы другі крытык аповесьці А. Л., які адзначыў яе, як „слабое месца аповесьці" („псыхолёгічны стан яго гэроя ня вынікае „прышчэпкі" на чужы грунт і мае тысячу і адну прычыну зусім іншага характару"), хоць і яго гэта адцягнула ад правільнага разуменьня аповесьці, якое выцякае з азмысьленьня яе на фоне ўсяе пісьменьнікавае творчасьці, а прымусіла шукаць у ёй пастаноўкі і разьвязаньня проблемы „прышчэпкі мужыцкага дзічка на панскім дрэве" і наадварот, а адсюль і „крыўдзіцца", як выражаецца сам А. Л., за неразгорнутасьць вобразу „пана ў мужыкох" Васіля, пра што ўжо намі гаварылася.

Падагульняючы ўсё вышэйсказанае, можна адзначыць, што ў раз гледжанай аповесьці „Дзьве душы" мы маем, папершае, працяг галоўнай асаблівасьці пісьменьнікавай творчасьці—вывядзеньня сялянскаагвыхадца, якая ў дадзенай рэчы выяўлена праз дэмонстрацыю цэлай

[1]) Гл. газ. „Беларусь" за 1920 г., № 113.

галерэі адменьнікаў гэтага гэроя, галоўная асоба якое—Абдзіраловіч зьяўляецца простым і прытым падкрэсьленым працягам ранейшага галоўнага гэроя творчасьці М. Гарэцкага. Падругое, мы бачым тут імкненьне да разьвязаньня незавершаных яшчэ ў гэтай творчасьці нацыянальных беларускіх пытаньняў; патрэцяе—спробу падагульняючага падыходу да проблем выхадзтва і, нарэшце, пачацьвертае, як адмоўнае, мусім адзначыць некаторую перавагу жыцьцёвага фону аповесьці, што крыху зацямняе ўсе папярэднія асаблівасьці ў ёй.

## XVI

Да трэцяга кругабегу творчасьці Максіма Гарэцкага належыць, апрача разгледжанай аповесьці „Дзьве душы", яшчэ адна вялікая рэч, задуманая спачатку аўтарам як роман пад назовам „Крыж", цэлы шэраг урыўкаў з якое друкаваўся ў розных часопісах, пачынаючы ад 1918 году і да самага апошняга часу [1]. Першы друкаваны ўрывак з яе, пра які ўжо намі ўспаміналася, быў надрукованы ў часопісі „Вольная Беларусь", № 9 за 1918 г. пад загалоўкам „На гаі" і адзначаны 1916 годам. Такім чынам, мы тут маем першую ў часе спробу беларускага роману, праўда, дагэтуль яшчэ не закончаную, і па справядлівасьці менавіта М. Гарэцкага можам назваць пачынальнікам гэтага жанру ў нашай літаратуры; бо той роман, які дагэтуль уважаўся за першы паводле часу зьяўленьня—„Сокі цаліны" Ц. Гартнага, будучы пачатым і напісаньнем і друкаваньнем крыху пазьней за роман М. Гарэцкага, таксама не зьяўляецца дасюль яшчэ скончаным.

Паколькі дадзеная рэч яшчэ не зьяўляецца пакуль што закончанай, мы ня будзем разглядаць яе больш-менш грунтоўна, а сунімемся абегла толькі ля некаторых урыўкаў, якія могуць даць нам некаторы матар'ял згадваць пра агульную ўстаноўку роману і, разам з тым, будуць служыць яскравым пацьвярджэньнем некаторых раней высунутых палажэньняў. Гэткімі ўрыўкамі мы выберам два—згадваны ўжо урывак „На гаі" і надрукаваны асобным выданьнем урывак „У чым яго крыўда?" Пачнём з апошняга, прытрымліваючыся таго парадку, у якім дадзеныя ўрыўкі маюць у ходзе ўсяго твору.

„У чым яго крыўда", як нам ужо даводзілася гаварыць у першых разьдзелах дадзенае монографіі, зьяўляецца фактычна пашырэньнем і перапрацоўкаю апавяданьня таго-ж найменьня, надрукованага яшчэ ў першым зборніку твораў М. Гарэцкага „Рунь", прычым у гэтую пашыраную перапрацоўку ўключана ў якасьці асобнага разьдзелу (IV) перапрацованае таксама апавяданьне з таго-ж зборніку—„У лазьні". Такім чынам, у васобе галоўнага гэроя разгляданага ўрыўку Лявона, які зьяўляецца такім-жа гэроем і для іншых урыўкаў роману, мы бачым сваіх старых знаёмых яшчэ з „Руні"—Касьцянціна Зарэмбу і Кліма Шамаўскага. Гэты факт даводзіць высунутае намі раней палажэньне пра тое, што, папершае, згаданыя гэроі, як і іншыя падоб-

[1] Гл. „Мэлянхолія"—„Узвышша", № 3 (9) за 1928 г, ст. 86.

ныя да іх гэроі ранейшага пэрыяду пісьменьнікавае творчасьці зьяўляліся толькі портрэтамі аднаго і таго-ж тыпу сялянскага выхадца толькі ў розных фазах разьвіцьця і розных жыцьцёвых сытуацыях, і, па другое, што яны выяўляюць з сябе дужа ўдзячны матэрыял для стварэньня, праз накладаньне іх адзін на адзін, монумэнтальнага вобразу галоўнага гэроя творчасьці М. Гарэцкага. Як бачым, такое накладаньне мы й маем выкананым у дадзеным урыўку ў найбольш чыстым выглядзе, а адсюль ужо можам згадваць і пра асноўную ўстаноўку як-урыўку, так і ўсяго роману—выяўленьне гэтага монумэнтальнага вобразу.

Сунімаючыся ля іншых момантаў згаданага ўрыўку, трэба адзначыць яшчэ той факт, што яны служаць найбольш для падкрэсьленьня асобы гэроя, як мы гэта бачылі і ў папярэдня разгледжанай аповесьці „Дзьве душы“, што ў дадзеным выпадку зусім адпавядае кагадзе зазначанай агульнай устаноўцы твору. У некаторых выпадках мы маем тут нават тыя-ж прыёмы падкрэсьленьня, як і ў „Дзьвюх душах“, прыкладам, называньне сваім імём гэроевай рэфлексыйнасьці („Такія рэфлексіі“..., ст. 44). У іншых выпадках мы маем гэтае падкрэсьленьне пры дапамозе ўсьведамленьня гэроем свайго стану, як выхадзкага і асабліва характэрнай рысы раздвоенасьці, як-бы гэроева самападкрэсьленьне, што асабліва выражаецца ў ягоным лісьце да свайго прыяцеля Максіма Г., пад якім, зважаючы на ініцыялы, можна бачыць самога аўтара (разьдзел VII). Цікава адзначыць яшчэ і тую гэроеву спробу зьнішчэньня свае выхадзкае адасобненасьці ад роднага грунту, якую ён праводзіць праз каханьне да вясковай дзяўчыны Лёксы, дужа ідэялізуючы яе. Тут можна бачыць як падобнасьць да некаторых сытуацый з „Дзьвюх душ“, гэтак і падобнасьць да ранейшых, так сказаць, кахальных сытуацый у пісьменьнікавай творчасьці, якія нам у свой час, пры разглядзе іх, даводзілася параўноўваць да сытуацыі Фаўст—Маргарыта ў вядомым Гэтэўскім творы.

Другі ўрывак з дадзенага твору—„На гаі“, разьвіваючы тэму безнадзейнага пэсымізму гэроя, які даходзіць у яго аж да самай скрайнасьці—думкі пра самагубства („Самагубства... часам шаптаў ён“—так заканчаецца гэты ўрывак), што мы бачылі і ў некаторых ранейшых пісьменьнікавых гэрояў (прыкладам, успомнім Уладзімера З. з апавяданьня „Рунь“), таксама служыць для падкрэсьленьня гэроя праз выяўленьне яго ў самым скрайным выглядзе. Пацьвярджэньне гэтага апошняга мы маем у тым моманце выяўленьня гэтага пэсымізму, які разам з тым зьяўляецца і расшыфроўкаю самога назову роману—„І гэта замест барацьбы, змаганьня з няпраўдаю, заміж зваяваньня лепшай долі свайму народу ўгнячонаму, заміж каханьня, жыцьцёвых чар і шчасьця, заміж жыцьця маладога,—Крыж!“ [1]) Тут яскрава відаць тая ўстаноўка пісьменьніка на скрайнае выяўленьне свайго гэроя, якога ён хацеў зрабіць як-бы крыжам сярод жывых людзей, крыжам

[1]) Гл. „Вольную Беларусь“ за 1918 г, ст. 70.

для самога сябе, і можа згадвацца і больш агульная ўстаноўка разгляданага роману—зрабіць вобраз выводжанага ў ім гэроя монумэнтальным, як-бы крыжам-помнікам для ўсяго тыпу сялянскага выхадца, паколькі, дзякуючы навет чыста знадворнай прычыне рэволюцыі, гэты тып у сваім ранейшым выглядзе пачаў выміраць.

З іншых момантаў разгляданага ўрыўку асабліва цікавы яшчэ адзін невялічкі момант успамінаў гэроя пра нейкую „шляхцянку белакволую... у вадаверці мястовай“ (гарадзкой *А. А.*), які нагадуе сытуацыю Абдзіраловіч—Аля з „Дзьвюх душ“: „Далятае грукат вуліцы мястовай... А тут яна за роялем. Цененькая, быць былінка, троху на бок галоўку схіліўшы няўгледна і прыгожа бегае пальчыкамі па пішчыках і, мусіць, забылася і не ўважае, што ён тут, маўчлівы і зачараваны гукамі дзіўнымі, балюча змагаецца з вялікім разладам душы, воч з яе ня зводзіць, шукаючы падмогі ў віханьню сваім, па якому шляху пайсьці: да яе, да роднага гаю, ці да будзёншчыны? Не, ня сыйсьціся ім, ня пара яны“... Як відаць, і ў дадзенай рэчы пісьменьнік так ці накш меўся скарыстаць мотыў адцягненьня гэроя ад роднага грунту праз каханьне для падкрэсьленьня асобы гэтага гэроя. І, нарэшце, яшчэ адну зьяву варта адзначыць у разгляданым урыўку—гэта тыя элемэнты „праклятых“ пытаньняў у гэроя, якія праглядаюць з ягоных выказваньняў пра „містычную боязкасьць“, „той сьвет“, дзе „няма балесьці, смутку і ўздыханьня“, „страшную волю бога ў творчасьці“ і да г. п. і з якіх відаць, што аўтар пры сваім монумэнтальным выяўленьні гэроя не хацеў абмінуць гэтага, параўнальна, раньняга пэрыяду ў разьвіцьці гэроя, ці хоць, прынамсі, тых „нітак“ гэтага пэрыяду, што засталіся ў яго.

Кагадзе разгледжаны ўрывак „На гаі“, ня гледзячы на сваё, як відаць, кульмінацыйнае палажэньне ў романе, быў надрукованы першым, зусім зразумела, як з прычыны гэтага свайго палажэньня, гэтак і дзеля паказванае намі вышэй расшыфроўкі самога назову роману, падаванага ў ім. Адылі, урывак „У чым яго крыўда?“, будучы надрукованым у наш час, падае нам самыя апошнія падыходы аўтара да свайго твору і асабліва да свайго гэроя. І тут асабліва спыняе на сабе ўвагу адна зьява, якую можна адзначыць, як імкненьне аўтара апраўдаць свайго гэроя перад сучаснасьцю, апраўдаць менавіта як гэроя ўжо прамінулай (хоць, трэба сказаць, і нядаўнай) эпохі, патрэбы ў чым зусім ня было пры напісаньні першага ўрыўку. Так, прыкладам, пералічаючы ўсе культурныя пункты, якія знаходзіліся поблізку гэроя, аўтар заўважае: „Пералічэньне знакаў цывілізацыі робіцца тут, галоўным чынам, з мэтаю паказаньня, як далёка жыў Лявон Задума ад культурных асяродкаў і наогул ад розных такіх пунктаў, дзе мог-бы ен пабачыцца з большым лікам і з большай рознастайнасьцю людзей“ [1]), як-бы імкнучыся апраўдаць свайго гэроя за адасобненае і замкнёнае жыцьцё. Гэткае імкненьне да апраўданьня гэроя асабліва праяўляецца

[1]) Гл „У чым яго крыўда?“, ст. 4

ў дачыненьні да тых некаторых „нітак“ праклятых пытаньняў, якіх наогул аўтар унікае ў дадзеным творы: „Праўда, і ў справах веры быў Лявон Задума дзіцяцем свайго часу“—заўважае аўтар, але зараз-жа замест конкрэтнага высьвятленьня гэтага пытаньня ў дачыненьні да Лявона высьвятляе яго толькі ў дачыненьні да сялянства; і ў другім месцы—„На жаль, Лявон жыў у малакультурную эпоху, калі, ня хочучы, многія людзі мелі веру ў шчасьлівы і нешчасьлівы дзень“ [1]. Мы ня будзем тут ацэньваць гэтага імкненьня, паколькі бачым ягонае праяўленьне толькі ў адным урыўку твору, дый то ўкладзеным пераважна ў вусны аўтара, які ў дадзеным выпадку робіцца як-бы крытыкам свайго гэроя, зазначым толькі, што такое імкненьне можа прывесьці да модэрнізацыі гэроя, што, бязумоўна, зусім не пажадана. Праўда, самы апошні паводля часу надрукаваньня ўрывак з твору—„Мэлянхолія“—заспакойвае ў значнай меры наконт такога праяўленьня згадванай магчымасьці.

Роман „Крыж“ з сваёю ўстаноўкаю на монумэнтальнае выяўленьне галоўнага гэроя творчасьці Максіма Гарэцкага і, апрача таго, сваім палажэньнем апошняга слова пісьменьніка ў дадзенай галіне [2] падводзіць нас непасярэдня да пытаньня пра гэтага гэроя. Нам здаецца, што даводзіць цяпер цэнтральнасьць і галоўнасьць гэтага гэроя ў пісьменьнікавай творчасьці, даводзіць ягонае значэньне ў гэтай творчасьці, зьяўляецца лішнім, паколькі яно відаць і выцякае з усяго ранейшага разгляду. Але мы ўважаем за патрэбнае спыніцца цяпер, з аднаго боку, на высьвятленьні тых крыніц, з якіх мог паўстаць вобраз гэтага гэроя, а, з другога боку, на высьвятленьні значэньня гэтага вобразу ў нашай літаратуры, а, значыцца, праз гэта і на высьвятленьні (хоць, праўда, і частковым) значэньня М. Гарэцкага ў гэтай літаратуры, як ягонага выяўляльніка.

Самы просты адказ на першае пытаньне, пытаньне наконт крыніц вобразу галоўнага гэроя, можна было-б бачыць у аўтобіографічнасьці яго, на што ўжо намі ня раз і намякалася ды падаваліся конкрэтныя прыклады сувязяй гэтых зьяў, як у палажэньні аўтара,—што таксама зьяўляўся сялянскім выхадцам, гэтак і ў факце ягонага непасярэдняга ўдзелу ў творах у ролі галоўнага гэроя свае творчасьці. Бязумоўна, такі адказ у значнай ступені мае слушнасьць, але не зьяўляецца зусім вычэрпным ужо хоць-бы таму, што палажэньне сялянскага выхадца

[1]) Гл. „У чым яго крыўда?“, ст. 38.

[2]) Мы сумысьля абмінаем тут некаторыя пісьменьнікавы творы, дзе галоўны гэрой ягонае творчасьці знайшоў сабе выяўленьне пасьля роману „Крыж“, як-то сцэнкі „Вучыцель Мутэрка“ (тып адмоўнага выхадца; рэч надрукована ў часопісі „Вольны Сьцяг“ № 2 і асобным выданьнем у Заходняй Беларусі), апавяданьне „Дзьве сястры“ (тып выхадца ў каханьні і ў будзёншчыне, абыякавасьці „Вольны Сьцяг“ № 3 (5), асабліва сцэнак „Жартаўлівы Пісарэвіч“ (выхадзец у ўцякацтве; друкавалася ў „Полымі“, № 8 за 1925 г. і нядаўна асобным выданьнем) і інш., паколькі некаторыя з іх ня маюць устаноўкі на выяўленьне выхадца і выяўляюць яго, так сказаць, толькі па інэрцыі, а другія не дадаюць бадай-што нічога новага.

ня было выключнай прыналежнасьцю М. Гарэцкага, а было ўласьціва бадай што ўсім пісьменьнікам-адраджэнцам і нават дзеячам беларускім адраджэнцам наагул. Падругое, зусім падобны да пісьменьнікавага галоўнага гэроя тып і таксама ў якасьці галоўнага гэроя, і таксама з аўтобіографічнай асновай мы можам бачыць у вапавесьцях Т. Гушчы—Я. Коласа—„У палескай глушы" і „У глыбі Палесься" у васобе Лабановіча [1]), ня кажучы ўжо пра тое, што ён зьявіўся значна раней у нашай літаратуры—адначасна са зьяўленьнем больш-меньш буйных жанраў у нашай прозе—апавяданьняў зусім забытага цяпер пісьменьніка А. Новіга—„У дому лепей" і „Амэрыканец", праўда, у крышку іншай, больш блізкай да асновы, інтэрпрэтацыі. І, нарэшце, як мы бачылі асабліва з разгляду апошняга пэрыяду пісьменьнікавае творчасьці, ня ўсе вобразы гэтага гэроя можна ўважаць за аўтобіографічныя (Ігнат Абдзіраловіч), на што часам намякаецца пісьменьнікам і праз увядзеньне свае асобы, як пабочнага гэроя аўтара, да якога зварачаецца галоўны гэрой („Максім Г." у „У чым яго крыўда?"; можна прыгадаць яшчэ і апавяданьне „Рунь"). Усе гэтыя факты прымушаюць нас шукаць адказу на пастаўленае пытаньне глыбей.

Нам здаецца, што гэткі адказ як на першае, гэтак і асабліва на другое нашае пытаньне (пра значэньне гэроя ў беларускай літаратуры), мы можам знайсьці ў старога францускага крытыка і гісторыка мастацтва Іполіта Тэна, шмат-якія палажэньні якога, будучы блізкімі да марксыцкіх, ня страцілі свае вартасьці, і цяпер, што прызнаецца шмат якімі марксыцкімі крытыкамі [2]). „Група пачуцьцяў, патрэб і нахілаў,—піша згадваны крытык у сваіх „Лекцыях пра мастацтва",—утварае, калі яна праяўляецца яскрава і поўна ў аднэй і тэй-жа асобе, пануючы тып, гэта значыць, той узор, якому пакланяюцца і сыматызуюць сучасьнікі; у Грэцыі—гэта юнак з голым і пародзістым целам, апрабаваны ўва ўсіх фізычных практыкаваньнях; у сярэднявеччы—экзальтаваны манах і закаханы рыцар; у XVIII сталецьці—вышчыгульнены прыдворны; у нашыя дні—вечны шукальнік і сумотнік Фаўст ці Вэртэр. І, з тае прычыны, што гэты тып зьяўляецца самым цікавым, выдатным і значным, дык мастакі выяўляюць яго перад публікай сусяроджваючы ўсе яговыя характэрныя рысы ў аднэй асобе, калі іхнае мастацтва, як малярства, скульптура, роман, эпопэя і тэатр, зьяўляецца пераймальным; ці раздрабняючы яго на складаныя элемэнты, калі іхнае мастацтва, як архітэктура і музыка, выклікае адчуваньні, не ўцелаішчваючы асоб. Можна сказаць, што ўся іхная работа зводзіцца да таго, што яны то выяўляюць яго, то зварачаюцца да яго; яны зварачаюцца да яго ў Бэтговэнавых сымфоніях і розэтках готычных сабораў; яны выяўляюць яго ў Мэлеагры і антычных Ніобідах, у Агамэм-

[1]) Цікавы матэрыял з гэтага боку падае артыкул проф. А. Н. Вазьнясенскага, з якім нам даводзілася азнаёміцца ў рукапісе.

[2]) У прыватнасьці, з прыведзенай ніжэй выімкай з І. Тэна згаджаецца расійскі марксыцкі крытык А. Воронскі.

ноне і Ахілесе Расіна. Такім чынам, *усё мастацтва залежыць ад яго*, бо ўсё мастацтва імкнецца ці дагаджаць ягоным густам, ці выводзіць яго" [1]) (курсіў аўтараў. *А. А.*).

Я папрашу прабачэньня ў чытачоў за даўгую выімку, але мне здаецца, што яна, як нельга лепш, дае адказ на вышэй пастаўленыя пытаньні. Супраўды, ці ня быў сялянскі выхадзец—гэты супраўдны тварэц беларускага адраджэньня—пануючым тыпам эпохі гэтага адраджэньня? Ці не да яго зварачалася, галоўным чынам, уся нашаніўская поэзія? І, нарэшце, ці не яго выявілі ў сваіх галоўных гэроях М. Гарэцкі і Я. Колас?

Бязумоўна, цалком станоўчага і вычэрпнага адказу на гэтыя запытаньні мы ня можам даць проста дзеля адсутнасьці пакуль што фактычнага матэрыялу, які характарызаваў-бы згадваную эпоху. Але ці ня можам мы проста адчуваць правільнасьць гэтых адказаў, як адчуваем мы яшчэ гэтую зусім блізкую ад нас эпоху?

Усё-ж такі, паспрабуем прыцягнуць і некаторы наяўны фактычны матэрыял для больш пэўнага асьвятленьня гэтага пытаньня. Перш за ўсё, зьвернемся да артыкулу самога М. Гарэцкага—„Развагі і думкі", з якім нам ужо даводзілася мець дачыненьне. „А ладныя маладзенькія беларусы, хлопцы і дзяўчаткі,—гаворыць тут пісьменьнік,—хварэюць у сваім часе на адну больку: „Ня ведаем, куды і як нам іцьці, каб было найлепей"... Цяпер гэткі тып асабліва часта спатыкаем. І варта было-б, каб ён паказаўся ў нашай літаратуры, пакуль ён ёсьць ува ўсёй сваёй цікавасьці: зараз яго і саўсім ня будзець: расьцець беларуская маладзеж, сьведамая ад малых гадоў!" [2])

Вось вам і гатовы адказ-сьведчаньне сучасьніка пра наяўнасьць гэтага тыпу ў жыцьці, які цікавы тым больш, што, зьяўляючыся сьведчаньнем самога пісьменьніка, ён паказвае на сьвядомае дачыненьне пісьменьніка да справы выяўленьня згадванага тыпу (пар. яшчэ выказваньне ў аповесьці: „Дзьве душы" з поваду Карпавіча: „належаў да тэй даўнай і немалой чарады выхаджэнцаў з беларускай вёскі, каторая чакаець яшчэ ў літаратуры свайго пісьменьніка", ст. 61). У далейшым, разьвіваючы гэтае сьведчаньне, пісьменьнік паказвае і на наяўнасьць у прадстаўнікоў гэтага тыпу менавіта тых рыс, якімі і валадаюць ягоныя гэроі: „Пайці ў адзін бок—у старую родную Беларушчыну, куды магнэсам цягне,—мулка, няшчыра-беларускае гадаваньне сварыцца, дый ці-ж варта цяпер, ці-ж выйдзець тут добрае, а ці ня позна... А пайці ў другі бок, па „обшчэ" расейскаму ці польскаму шляху,—уй, тошна, ой, роднае карэньне не дазваляець... А злашча цяпер і гідка і брыдка, і ня хочацца, цяпер, калі ёсьць-жа і гэты, люба-таёмны, свой родны шлях, і па ім людзі ідуць дый ідуць"... Яшчэ далей аўтар

[1]) Гл. И. Тэн.—Лекции об искусстве (философия искусства), ч. I—Природа и возникновение художественного произведения.—Выданьне „Общей библиотеки", Масква, 1919 г., ст. 85—86.

[2]) Гл „Вялікодную пісанку" за 1914 г., ст. 36.

выяўляе гэтыя рысы навет у больш шырокім памеры, як, прыкладам, раздвоенасьць, якую ён ужо тут называе „двудушнасьцю“ (ст. 33—35), або рэфлексыйнасьць („Руху сярод нашай праўдзівай інтэлігенцыі найболей і шкодзіць недахват волі і гэта рэфлексія, гэта самакрытыка, гэты самааналіз лепшых адросткаў карэньня беларускага“, ст. 39). І, нарэшце, навет самае беларускае адраджэньне ён спрабуе вызначыць выходзячы менавіта з асаблівасьцяй згадаванага тыпу: „А можа гэта сякі-такі компроміс, змова і згода інтэлігентнага чалавека беларускай косткі, абросшай польскім ці расейскім мясам, змова з глухімі дамаганьнямі беларускага карэньня, што аніяк-жа ня ўсыхаець у яго душы і троху-патроху ды бязупынна, без перастанку шкодзіць спакою яго сумленьня?“ [1]) і крышку далей больш цьвёрда і ўпэўнена: „Можа гэта ступаньне па роднаму шляху і ёсьць „беларускі рух“! [2])

Апрача гэтых сьведчаньняў, у нас няма больш фактычных дадзеных для тых ці іншых меркаваньняў аб наяўнасьці нашага пануючага тыпу ў жыцьці эпохі, няма больш конкрэтных паказаньняў на тых ці іншых асоб, якія маглі-б быць гістарычнымі прыкладамі яго. Праўда, тут можна было-б паказаць на С. Полуяна, доля якога, між іншым, разьліва нагадуе долю аднаго з гэрояў М. Гарэцкага—Уладзімера З. (з апавяданьня „Рунь“), але недасьледванасьць ягонага жыцьцёпісу не дазваляе зрабіць гэта больш упэўнена. Некаторым больш ускосным пацьвярджэньнем можа тут быць яшчэ адзін факт, перадаваны таксама самым пісьменьнікам, пра тое, як адзін вядомы заходня-беларускі дзеяч, цяпер ужо нябожчык, Ігнат Канчэўскі ўзяў сабе нават псэўдонім Ігната Абдзіраловіча, уважаючы сябе дужа падобным да гэтага гэроя. У гэтым можна бачыць і пацьвярджэньне Тэнаўскай тэзы пра пануючы тып, як „той узор, якому пакланяюцца і сымпатызуюць сучасьнікі“.

Нарэшце, трэба адзначыць яшчэ адну зьяву, якая, хоць і ўскосна, падмацоўвае нашае цьвярджэньне пра галоўнага гэроя творчасьці М. Гарэцкага, як пра пануючага тыпа эпохі беларускага адраджэньня. Гэта—набліжанасьць яго менавіта да тых тыпаў Фаўста і Вэртэра, у якіх І. Тэн бачыць пануючых тыпаў навейшай эпохі, тая набліжанасьць, якая намі ў некаторых выпадках проста адзначалася (прыкладам, у дачыненьні да некаторых гэрояў зборніку „Рунь“, як Архіп Лінкевіч, Уладзімер З. і інш., або ў дачыненьні да некаторых сытуацый іншых твораў) і якую ў іншых выпадках можна бачыць у набліжанасьці характэрных рыс пісьменьнікавых гэрояў да такіх-жа рыс згадаваных гэрояў усясьветнай літаратуры. Такім чынам, мы можам устанавіць яшчэ сувязь беларускага пануючага тыпу эпохі адраджэньня з пануючым тыпам адпаведнай эпохі ўсясьветнай літаратуры, а праз гэта і зьвязанасьць беларускай літаратуры з гэтай апошняй, як часткі, у пэўным сэнсе, агульнага літаратурнага працэсу.

[1]) Гл. „Вялікодную пісанку“, ст. 32.

[2]) Там-жа, ст. 37.

І ўжо само сабою з усяго вышэйсказанага вынікае тое вялізнае значэньне самога пісьменьніка, які першы адгукнуўся на такое важнае запатрабаваньне мастацтва свае эпохі, як стварэньне яе пануючага тыпу і які выконваў гэтае запатрабаваньне бадай-што адзін да апошняга часу. І дзіўным робіцца, як дагэтуль ніхто ня спыніў больш-менш значнай увагі на гэтым выканаўцы, і яшчэ дзіўней, праўда, чыста галаслоўнае і няпрыстойнае, тое адмаўленьне яму ў сваім месцы ў гісторыі літаратуры тае эпохі, якую ён выражаў праз свайго гэроя, якое ідзе за апошні час з вуснаў некаторых літаратурных рыцараў, суправаджаючыся адпаведнымі эпітэтамі, для якіх зусім не дае падставы пісьменьнікава творчасьць.

Мы ўжо ня кажам тут аб значэньні М. Гарэцкага, як першага пісьменьніка выключна прозаіка ў нашай літаратуры, як першага пісьменьніка-псыхолёгістага, як першага стварыцеля вялікіх рэчаў у гэтай літаратуры... Ня кажам і пра ягонае формальна-мастацкае значэньне, бо спадзяёмся ахвяраваць гэтаму пытаньню паасобныя досьледы... Але мы ня можам маўчаць пра значэньне М. Гарэцкага, як выяўляльніка пануючага тыпу эпохі беларускага адраджэньня, якое адно дае права яму на пачэснае месца ў гісторыі літаратуры гэтай эпохі.

*Канец.*

# Культура мовы

## Ці „ваенізуемся“ мы?

У апошнія часы газэты нашы аддаюць шмат увагі інформацыі па пытаньнях вайсковай пропаганды сярод насельніцтва.

Пішуцца і друкуюцца ня толькі інформацыйныя, але і агітацыйныя і пропагандысцкія артыкулы. Калі ў расійскай мове ёсьць тэрмін „военизация“, дык у нас не паклапаціліся адшукаць адпаведны яму, а проста (гэта ў нас ужо занадта часта робіцца) мэханічна перанесьлі „военизацию“ ў беларускую мову—аджа і ў нас ёсьць слова „ваенны“! І атрымалі мы новы тэрмін „ваенізацыя“ (так пішуць у „Савецкай Беларусі“, у „Зьвязьдзе“-ж пішуць „ваянізацыя“). А з газэт слова пераходзіць у гутарку, „узаконьваецца“.

Калі-ж дакапацца да сэнсу, дык выходзіць нейкае непаразуменьне (альбо проста бязглузьдзіца).

Наша мова ў гэтым выпадку трохі багацейшая за расійскую: калі там слова „военный“ азначае і належнае войску і адзнаку стану вайны, дык у беларускай мове разуменьні першага роду маюць слова „вайскові“, а другога—„ваенны“. Тут ёсьць пэўная яскрава абмежаваная розьніца. Вось і падумаць трэба—ці-ж „ваенізуемся“ мы?

Расійскі тэрмін „военизация“ адзначае пропаганду сярод насельнасьці вайсковых ведаў, авалоданьне працоўнымі масамі гэтымі ведамі, каб пры патрэбнасьці кожны працоўны мог зрабіцца вайсковым.

Калі-ж сказаць „ваенізацыя“ беларускаю моваю, дык гэта адзначае—прывядзеньне ў стан вайны. А ці-ж мы пераводзім насельнасьць у стан вайны, прымушаем з кім ваяваць?

Не. Мы толькі даём насельнасьці вайсковыя веды, тыя веды, якімі валодае вайсковы. Значыць мы праводзім „в а й с к о в і з а ц ы ю“ насельнасьці.

Так трэба і казаць, так трэба і пісаць.

Літаральнасьць перакладаў блытае сэнс, засьмечвае мову. Гэта ня шкодзіць раз ад разу ўспамінаць.

Хв. Шынклер

# Кнігапіс

**Т. Кляшторны.—Сьветацені.—** *Вершы.—Беларускае Дзярж. Выд-ва Менск—1928 г. стар. 42, цана 45 кап.*

„Сьветацені“—па агульным ад іх уражаньні—гэта задуменнае дзіваваньне зьменлівасьцю, якая пазнана поэтам у быцьці, як свайго роду абсолютны закон жыцьця. Як ілюстрацыі гэтай зьменлівасьці, адчутай і перажытай поэтам у асобных момантах часу, і выступаюць усе вершы гэтага зборніку. Паводле іх — гэтых слоўна-рытмічных малюнкаў зьменлівасьці—усё ў быцьці вызначаецца часам, ад яго ўсё залежыць і яму падпарадкавана. Час—гэта адзіны ўсемагутны чыньнік, які становіць шматвобразнасьць быцьця і рознакаляровасьць людзкога жыцьця. Ён увображаны поэтам у нейкай даволі туманнай існасьці, праходзіць праз быцьцё зьявамі асобных момантаў. Выходзячы з невядомых абсягаў—сініх даляй—ён робіць у быцьці перамены і зьмены,—ён творыць жыцьцё. Ад характару яго паасобных момантаў—рознастайных у сваіх зьявах—залежыць характар ахварбоўкі самога быцьця і яго адчувальных праяваў. Галоўная ўласьцівасьць часу—гэта яго зьменлівасьць. Ён адбіў яе на ўсіх конкрэтных формах выяўленьня жыцьця, як об'ектыўнага, так і суб'ектыўнага. Усё гэта адчута поэтам і выяўлена вершамі—гэтымі эквівалентамі перажытага. Услаўляючы песьнямі час, як пачатак новага жыцьця, поэта і адкрывае сваё дасьведчаньне наконт таго, што існасьць усяго быцьця ў часе. Як чалавек, ён пазнаў у рэальным жыцьці асобныя моманты гэтага зьменлівага часу, адчуў яго ход, яго адзінства ў рознастайнасьці ягоных праяваў у быцьці, і цяпер ён дзівіцца на перажытае ды цешыцца яго жыцьцёваю красою, як суглядальнік. Вершамі ён ускрывае, што гэтыя моманты вызначаны тым, што яны, прайшоўшы ў быцьці, выклікалі задуму. Вось паасобныя моманты пераходнага часу—пабыўка ў вёсцы, пераезд па чыгунцы, пераходы ў горадзе ды інш. Яны прайшлі, палажыўшы свой адбітак на зьявах жыцьця. Іх ужо няма, і „я“ поэты стаіць перад тварам перажываньня новых, невядомых дасюль момантаў, новых зьмен і зьяў, што нясе з сабою пераходны час. І поэта ў задуменным задзіўленьні захоплен такім станам рэчаў. Яму прыемна перажываць асобныя моманты часу пераходаў, дыхаць імі на ўсе грудзі, упівацца імі ў волю, жыць імі і адчуваць іх такімі, якімі яны ёсьць у рэальнасьці. Гэта-ж і ёсьць само жыцьцё, поўнае трымценьня сьвятла і ценяў. Чаму-ж ня прыняць яго такім, якім яно зьявілася ў асобных момантах пераходнага, зьменлівага часу, як няўхільнае і канечне патрэбнае для паўнаты гарэньня і красаваньня чалавека ў быцьці. І ён прыняў яго. Вось яно, рэалізаванае творамі, праз іх-жа, як праз свае органы, гаворыць: ад часу бяры для жыцьця ўсё, што прыносіць ён з сабою ў быцьцё, і ты будзеш „кветкаю жыцьця“ гэтага часу. Адпаведна гэтаму дасьведчаньню і самі вершы, што яго рэалізуюць, не заўсёды, нават, дасканала з боку поэтычнае тэхнікі, зьяўляюцца слоўнымі эквівалентамі таго, што даў поэту зьменлівы час. Гэта—эквіваленты перажываньня натуральнага стаўленьня новых яснот там, дзе цені таго, што адыходзіць з быцьця, і сьвятло таго, што надыходзіць у яго, сынтэзаваліся ў адзінства пераходнага часу. Але „сьветацені“ усё-ж не пабеларуску.

А. Б.

## Аб зборніку вершаў Н. Чарнушэвіча „Дзіва“

Перад намі невялікі зборнік вершаў Н. Чарнушэвіча, зборнічак, які ахапляе сабой 34 вершы. Аб чым-жа гавораць нам яны, як малюецца ў іх твар поэты.

Тэматыку зборніку нельга назваць зусім аднастайнай, але яна ня блішчыць і багацьцем. Чатыры галоўныя мотывы зьвіліся ў ёй у нейкі адзіны клубок, у якім часам цяжка вызначыць, дзе канчаецца адзін мотыў і пачынаецца другі. Гэтыя мотывы наступныя: мотыў уласных перажываньняў і асабовых настрояў, у які часам укліньваецца мотыў філёзофічны, складаючыся з раскіданых па зборнічку думак аб жыцьці, аб сьмерці і часам аб каханьні; мотыў прыроды і мотыў „адраджэньня жыцьця“. Два апошнія шчыльна сплятаюцца паміж сабой, бо вобразы прыроды зьяўляюцца сымболічнымі; яны ўвасабляюць ідэі грамадзка-політычнага характару. Часам у гэта сьпляценьне ўваходзіць і папярэдні мотыў, мотыў уласных імкненьняў, бо спосаб абмалёўкі іх аднолькавы з абмалёўкай імкненьняў грамадзкага значэньня і мала значна мяжа паміж імі.

У межах мотыву аб новым жыцьці мы бачым пэўнае рэха сучаснасьці. У сымболічным вобразе вясны малюе поэта „жыцьця адраджэньне“ („Вясна“), у вобразе сонца шчасьце гэтага новага жыцьця. Ён гаворыць пра „новую раніцу, якой сярпы й малаты сьпяваюць гімны, пра вёску, якая хоча парваць са старым жыцьцём, і разам з гэтым успамінае аб працягу змаганьня з вора-

гамі, што яшчэ асталіся. Часам адчуваецца ў яго натхненьне перад гэтым змаганьнем, калі ён гаворыць пра бляск перамогі ў вачах...

Гэта—мімавольная дань сучаснасьці, водгук грамадзкіх настрояў. Але незразумелым зьяўляецца тое, што сонца, сымболь новага, сьветлага жыцьця, часам у нашага поэты схавана за „барыкадамі хмар“. Што яны сымболізуюць сабой?—Не павінны яны засланяць сонца, калі галоўная перамога дасягнута. А дзеля яго нярэдка „навакол, бы ўчора чорна“, і „чорнай долі яшчэ жывы кветкі“. Дзеля яго яшчэ „кажанамі палонены лугі“. Сьветлае толькі ў будучым. Ён гаворыць пра адгалосьсі „дальняй музыкі“, якая павінна „наліць спорам надзеі“ яго „любы край“, якая прарочыць, што „закалосіць шчасьцем яго цаліна“. Гэта больш-бы было адпаведна, каб пісалася напярэдані рэволюцыі. Тут ёсьць якбы элемэнт супроцьпастаўленьня сучаснага і будучага, як цёмнага і сьветлага. А ў вершы, прысьвечаным Алесю Гурло, поэта хоча „свой лёс закалыхаць“. Мусіць трэба разумець, што гэта злы лёс... Але чым?.. І ці належыць ён толькі ім, двум поэтам, ці беларусам наогул?—Гэта няясна.

У тым-жа вершы гаворыцца аб „сівой—бядзе-малачаю“, што зьвіла „нашы шляхі“, аб „збур‘янелым папары“, аб „п‘яных зыках вуліцы“, якія „дзіка плёскаюць у твар“. Нешта маркотнае адчуваецца ў гэтым вершы і некаторыя выразы, быццам накіраваныя на перамогу смутку, у сапраўднасьці не парушаюць агульнага смутнага настрою. І наогул бадзёрыя настроі тонуць у смутных, ды й бадзёрасьць гэта толькі знадворная. Нават і ў тую будучыну, аб якой часта гаворыць поэта, ён ня мае сьветлай жыцьцерадаснай веры. Хвілёвае натхненьне перад змаганьнем з ворагамі зьмяняецца сумненьнем у перамозе:

> Мы ня знаем, ці голаву зложым,
> Ці вясну расцалуем—ня знаем...

У яго няма нават упэўнасьці ў сабе самім:

> А ці стане сілы,
> А ці ўберагуся,
> Каб кален ня зьнізіць ды ніжэй травы?

Ён верыць і ня верыць у „заўтра“. Яго ён часам называе „праменным“, але ў той-жа час яно для яго „нязнанае заўтра“, захінутае „заслонай таемнасьці“.

Назіраецца асаблівая чуткая зацікаўленасьць да „заутрага“. Адчуваецца романтычная непакойнасьць за будучыну:

> Заўтра, заўтра, чым усьміхаешся нам і г. д.

Чуецца ў поэты вялікае замілаваньне да роднага краю Беларусі, але яно больш накіравана да родных палёў, ніў, да зямлі ў вузкім сэнсе, і менш да беларускай грамадзкасьці. Гэта затым, што яго значна захапляюць індывідуалістычныя настроі. Ён скардзіцца на тое, што „пахаваў дома пад асіны сьлёзы“, што нікому ня будзе справы да таго, „што жыцьцё поэты з больлю адзьвінела“. І яго творчасьць апавіта смуткам, яго радасьць пераплятаецца з тугою. Ён гаворыць аб хворым сэрцы, аб сэрцы, у якім высахлі сьлёзы, і нічога няма, апроч сьлядоў трывог, гаворыць аб заплаканых палянах, аб крышталях сьлёзаў, аб за смучаных чаротах, аб сівым суме, аб суме моладасьці, аб веснавой болі каханьня, аб нейкіх хаўтурных сьпевах, што нясуць прароцтвы разьвітаньня і г. д. Журботны характар яго поэзіі падкрэсьліваецца замілаваньнем да шэрай або сівой хварбы, якая адыгрывае ролю сымболю чагось сумнага. Самы сум у яго „сівы“, „сівая бяда“, „сівая безьмежнасьць“, „шэракрылая шыр“ і г. д.

Пэсымістычныя настроі бясспрэчна закраліся ў творчасьць Чарнушэвіча. Ён пагрузіўся ў сваёй душы і хоць увесь час імкнецца вынырнуць з уласных перажываньняў, кінуць вокам наўкола, усё-ж ніці скаргі, якая запала ў яго душу, цягнуцца за ім усюды. Гукі бадзёрасьці на агульным сумным фоне гучаць фальшыва. Але адкуль узяўся пэсымізм?—Яго крыніца ў тым, што поэта „пахаваў долю, як сьляпую суку“—(гл. верш „Ой, юнацтва годы“). У гэтым вершы мотыў есеніншчыны.

Філёзофія поэты т. с. пэсымістычна. Жыцьцё дзеля яго нейкі вір: вобраз сьмерці не дае яму супакою. Нават чароты нудзяцца аб тым, што „ўмірае ўсё, што было дарага“. Над усім, што пяе й радуецца занесена рука сьмерці („скацілася сінічка, скацілася“). Звон касы на сенажаці нагадвае поэце сьмяртэльныя пацалункі і таксама выклікае думкі аб сьмерці.

Перавага такіх настрояў зьяўляецца да некаторай ступені адмоўным бокам зборніку паколькі наша маладая поэзія ў першую чаргу павінна кінуць кліч да новага будаўніцтва, узьняць у чытача бадзёрую веру ў рэволюцыйную справу. Але нельга прымусіць поэту наўмысьля пісаць так, як патрабуецца бягучым момантам, бо наўмысная поэзія ня ёсьць поэзія. Поэзія павінна гаварыць так, як адчувае яе творца.

Аднак вершы Чарнушэвіча маюць і свой дадатны бок. Поэта выказвае мастацкія здольнасьці ў галіне вобразнасьці. Багатая вобразнасьць адразу кідаецца ў вочы. Ёсьць вобразы ўдалыя й прывабныя: „Глянь—і месяц уцёк сарамліва за намітку пужлівай асіны... Чаму клён апушчае галіны, нібы траціць у роспачы сілы“... „Вецер заснуў у бяздоньні, скрыдлы разьвесіла ноч“... „Ты забудзеш, хто будзе галасіць пад вярбою, *над разьбітай калыскай неданошаных мар*“... Такія вобразы могуць рабіць уражаньне..

Як удалы прыём можна адзначыць такія вобразы, якія падмацованы гукапаўтарэньнем: „у сівай сьвітцы сьвітаньне адчыняе дню вароты, падол закарузлага ўбраньня ноч наўцёк за сабою валочыць“. Тут відаць мешаніна народнага вобразу з імажыніскім. Наогул у стылі Чарнушэвіча дзьве плыні: плынь фольклёрызму і плынь літаратурная. Апошняя складаецца з імажынізму. Аб романтычным ухіле сьведчаць такія вобразы, як: „ну-ж дазволь, дарагая, утапіцца ў тайне казкі, нязьведанай сёньня“. Тое-ж самае гаворыць нахіл да такіх вобразаў, як „бязьмежнасьць“, „безабшарнасьць“ і г. д., якія нярэдка можна спаткаць у зборніку.

### Б. Музыка

**Ю. Дрэйзін**—Кастрычнік і беларуская музыка (№ 5—27 г.).
**Ул. Дубоўка**—Да пытаньня аб беларускіх мэлёдыях у творчасьці Шопэна (№ 1—27 г.) Беларускі композытар Мікола Равенскі (№ 3—28 г.).
**Проф М. М. Іпалітаў-Іванаў**—Бэхтовэн (№ 3—27 г.).
**М. Равенскі**—Гармонізаваньне беларускіх народных песьняў маскоўскімі композытарамі (№ 4—28 г.), „Пра зборнік песень для дзяцей-дашкольнікаў“ (№ 6—28 г).

### В. Балет

**Яр**—Праз „учора“ ў „заўтра“ (№ 1—27 г.).

### 6. КУЛЬТУРА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЬЦЯЙ БССР

**Віт. Вольскі**—Накоп нацыянальнай літаратуры беларускіх татар (№ 4—27 г.). Асноўныя прынцыпы арабскай транскрыпцыі беларуск. тэксту ў „кітабах“ (№ 6—27 г.).

### 7. ІНШАКРАЁВЫЯ ПРАЛЕТАРСКІЯ ЛІТАРАТУРЫ

**Ю. Бярозка**—Расійская мастацкая проза за 1926 г. (№ 3—27 г.).
**Ул. Дубоўка**—Ladnstrykere К. Гамсуна (№ 4—28 г.).
**Проф. І. І. Замоцін**—Расійская мастацкая літаратура ў пэрыод 1917—1928 г. г., (№ 6—27 г.). Эволюцыя тэмы ў М. Горкага (№ 2—28 г.).
**Ц. Сааруні**—Кароткі нарыс армянскай літаратуры (№ 3—27 г.).
**І. Скрыблюкас**—Юліус Яноніс (№ 2—27 г.).
**З. Сьнежка**—Літаратурная Японія (№ 3—27 г.). Кастрычнік і замежная літарат. (№ 5—27 г.). Баўгарская пролетарская літарат. (№ 6—27 г.). Бэльгійская літарат. (№ 1—28 г.).
**З Сьнежка і Пэрго**—Фінская літаратура (№ 4—28 г.).
**Г. Таўзаршвілі**—Асноўныя віткі разьвіцьця грузінскае літаратуры (№ 4—27 г.).

---

## Умовы падпіскі
## НА КОМПЛЕКТЫ за 1927 і 1928 г. г.

1. Комплект часопісі (6 нум.) за 1927 г. каштуе пры падпісцы 2 р. 50 к.
„ „ „ „ „ 1928 г. „ „ „ 5 р. 50 к.
2. Пры аднячасной падпісцы на 1928 і 1929 гады—1 компл. каштуе 8 р.
3. Пры аднячасной падпісцы на 1927, 1928 і 1929 г. г.—1 компл. каштуе 10 р.

*Увага.* Пры аднячасной падпісцы на 1928 і 1929 гады даецца такая рассрочка: 5 руб. пры падпісцы і 3 рублі пры атрыманьні 1-га нумару за 1929 г.

Пры падпісцы на тры гады—рассрочка такая: 5 руб. пры падпісцы, 3 руб, пры атрыманьні 1-га нумару за 1929 год і 2 руб. пры атрыманьні 3-га нумару за 1929 г.

**У паасобным продажы нумар часопісі за 1927 г.—1 руб. 25 кап., за 1928 г.—1 руб. 50 кап.**